# Андрэй Макаёнак



ЗБОР
ТВОРАЎ
У ПЯЦІ
ТАМАХ

# Андрэй Макаёнак



ТОМ
ПЯТЫ



ГУМАРЭСКІ,
ФЕЛЬЕТОНЫ,
АРТЫКУЛЫ,
ІНТЭРВ'Ю,
ДЗЁННІКІ,
НАТАТКІ,
ПІСЬМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84Бел7
М15

Укладанне і каментарыі
С. С. Лаўшука

Пятый заключительный том Собрания сочинений народного писателя Белоруссии Андрея Макаенка составили юморески и фельетоны, статьи и интервью, дневники и заметки, письма и автобиография.

М $\frac{4702120203-140}{М302(03)-90}$ 103—90

ISBN 5-340-00507-0

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Борхаў Рагачоўскага раёна 12 лістапада 1920 года. У 1927 годзе ў нашай вёсцы адкрылася пачатковая школа — падзея больш значная для вёскі, чым адкрыццё ў Гомелі універсітэта.

Дружбакі пайшлі ў школу, а мяне не прынялі: не хапала месяцаў — замалады. Сядзеў пад вокнамі ўсю восень.

А калі пачаліся замаразкі, настаўніца зжалілася — пусціла ў клас. І я прыжыўся там. Так і вучыўся, стараўся, каб не прагналі ад дружбакоў.

У пяты клас хадзіць было далекавата — за 8 кіламетраў. І, калі праз год адкрылася сямігодка ў вёсцы Шапчыцы — бліжэй на 5 кіламетраў, бацькі рашылі: лепей 2 гады пахадзіць у 5 клас, але бліжэй, чым бегаць за навукай далёка. На лапцях эканомія.

У 1938 годзе скончыў 10 класаў Журавіцкай СШ. У камсамол прынялі ў 1937 годзе. У 1938 годзе паступаў у ваеннае вучылішча. Вельмі ж не па мне была там дысцыпліна. Рос анархістам — пастухом. Прывык да волі, а там... Набузіў. Паколькі прысягі яшчэ не даваў — мяне падобраму адправілі дамоў. І я быў удзячны таму памкамузвода, якому я нахаміў, а ён «як і паложана» далажыў па камандзе.

Год пралайдачыў у раённым Доме сацкультуры. У 1939 годзе паступаў у Інстытут кінематаграфіі ў Маскве.

Не прынялі, але, вяртаючы дакументы, параілі паспрабаваць паступіць праз год. Але якраз выйшаў новы ўказ — з сярэдняй адукацыяй браць у армію раней. Так я трапіў у войска.

У кастрычніку 1939 года прывезлі мяне на Каўказ, у

Грузію, чаму я быў вельмі рады. Пасля борхаўскіх палёў і лугоў Каўказ з яго гарамі, цяснінамі, скаламі — здаваўся казачнай краінай. Напачатку. А вось паходы з поўнай баявой выкладкай хутка вытруцілі гэтае захапленне гарамі.

Дамашняя раўніна снілася не раз і здавалася далёкім раем. І нават маё пастухоўства ўсплывала такой мілай і прыемнай вольніцай, хоць пасвіць свіней ды яшчэ галодных (1933—1934 гады!!!) не вельмі лёгкая справа, асабліва калі прыгадаць, пасля якога сняданка выганяў на пашу свіней: галадуха вымушала маці на такія кулінарныя хітрыкі, як прыгатаванне страў з лебяды, маладога лісця ліпы, а потым бацвіння. Цяпер запозмена магу прызнацца, што даводзілася, азірнуўшыся па баках, спешна выгортваць з баразнаў толькі ўчора пасеяную бульбу. Было. Цяпер ужо за даўнасцю можна прызнацца. А тады — крый бог, даведаўся б мой бацька — пісягоў на спіне панасіў бы. Ён быў прававерны актывіст.

Свіней з калгаснай фермы пасвіць пасылаў ён нас, бо ніхто не хацеў за так ганяць у поле іх: яны ж не свінні былі, а злыя ганчакі. Такія рухавыя і прадпрымальныя, што нават доўгая пуга была толькі сімвалам улады. А ўладай быў — голад. Ён і гнаў іх у шкоду. За дзень, бывала, так выбегаешся, што засынаў, не даходзячы да пасцелі. А прачынаўся, здаецца, тут жа, так хутка пралятала ноч. Маці хоць і шкадавала будзіць, але абавязак прымушаў яе шкадаваць да пары. У школу хадзілі з братам праз дзень. Дзень я пасу — ён у школе, а назаўтра мяняліся. Я ў школе, а ён пасе.

Перад вайной у арміі ўмовы былі суровымі. Муштравалі не на жарт — а максімальна прыбліжана да баявой абстаноўкі. Частыя начныя «баявыя трывогі», пераходы. Капаць акопы ў той камяністай зямлі было нялёгка. Ох, як помніцца гэта работа. А харчы? Канцэнтраты гарохавага супу і пшоннай кашы так прыядаліся, што і цяпер як прыгадаеш, дык ікотка пачынаецца.

І хоць не радавым быў, а намеснікам палітрука роты, але лягчэй мне ад таго не было: баявая выкладка тая ж, а, апроч таго, я павінен быў паказваць узоры бадзёрасці і аптымізму, выпускаць паходныя баявыя лісткі, чытаць свежыя газеты і падымаць дух у чырвонаармейцаў. І што вы думаеце? Напачатку было труднавата, але потым спраўляўся з усімі гэтымі абавязкамі ды яшчэ і гумарам для гэтай справы карыстаўся. Вядомая рэч — гумарам салдац-

кім. Я ім часам і цяпер не грэбую, калі-нікалі ў п'есах можна вычытаць гэтыя недалікатнасці. Часам мяне папракалі за гэта, але я на гэтыя папрокі таксама з гумарам рэагую.

Вайна звалілася ўсё-ткі нечакана для нас — кадравых вайскоўцаў. Напачатку настрой быў — шапкамі закідаем. Верылі ў свае сілы, свой дух і вельмі спадзяваліся на класавую салідарнасць нямецкіх рабочых і сялян. Але самае вартае было —надзея на саміх сябе, а салідарнасць, аказалася, хутка рассеялася, «как дым, как утренний туман». Ах, як горка ж было з кожным днём усё больш і больш усведамляць, што пакутуем мы ад галаўнога болю.

Крыўдна было і за тое, што генералы, якія састаўлялі праграмы для навучання войск, былі даволі тупыя. Нас вучылі атакоўваць доты і дзоты, пераадольваць штурмавыя палосы. А Гітлер ваяваў Еўропу танкамі, аўтаматамі, акружэннем. І нашы генералы-праграмісты вучылі нас: «Танки справа, укрытие слева! Взвод, в укрытие!» Альбо: «Кавалерия слева! Укрытие справа! Взвод! В укрытие. Залпом — пли!»

А дзе ж тая кавалерыя? Пераселі кавалерысты на «месершміты». Голай рукой не дастаць. Карацей кажучы — вельмі туманнае ўяўленне было ў нашых «камандзёраў» аб танкавых атаках. А ўжо аб акружэнні і думак не дапускалі. «Каб нас ды яшчэ акружылі?! — нас нельга акружыць! Ніводнай пядзі сваёй зямлі. Разгромім ворага на яго зямлі»... Дорага нам каштавала гэтае званарства. Зразумелі мы ўсё гэта потым, непасрэдна сутыкнуўшыся з ворагам.

У жніўні 1941 года пайшлі да іранскай граніцы, каб апярэдзіць пранікненне туды немцаў. Казалі, што там яны вілі гняздо. Каля двухсот кіламетраў пехатою — ды ў такую жару, ды з такім ранцам. А, ліха з гэтым паходам! Нам здавалася, што вядуць нас не туды. Вайна ж ішла ў іншым месцы. Там нашы здавалі горад за горадам... Там былі патрэбны мы і наша злосць. Але гаварыць аб гэтым трэба было шэптам і толькі вернаму сябру. Час быў такі, што...

Так, час быў надзвычай суровы, нават жорсткі. Яшчэ і сёння спакойна не магу ўспамінаць трагедыю Крымскага дэсанта. Цяжка і крыўдна... І не таму, што сам атрымаў там цяжкія раненні, ледзь не загінуў. Не магу ўцяміць, навошта там намарна паклалі столькі выдатных хлопцаў. Сустрэў нядаўна аднаго «камандзёра», які апраўдваў гэту аперацыю. Ды што ты апраўдаеш? Бязглуздзіцу? Няўменне ваяваць? Ды ну іх... Пасля крымскіх «курортаў» яшчэ

пяць месяцаў «адпачываў» у шпіталях Баку і Краснадара. Яшчэ год папрацаваў у Акаурцкай школе ваенруком. Там, на Каўказе. І яшчэ адзін месяц ужо дома — у Журавіцкай СШ. Паспытаў і камсамольскай, і партыйнай работы, пакуль не трапіў у Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ. Стаў журналістам. Хочаш не хочаш — пачаў пісаць. Фельетоны, гумарэскі... Потым п'есы. Хоць і горкі хлеб камедыёграфа-сатырыка, але... Трэба ж некаму і сатырай займацца.

Апошнія гады часта бываў за мяжой. Нагледзеўся ўсякага. У іх свае праблемы, у нас — свае. Ёсць, праўда, шмат праблем агульных, але ўсвядоміць іх не дапамагае нават ААН, у рабоце якой давялося мне аднойчы ўдзельнічаць.

Усё яшчэ сяджу на дзяржаўнай пасадзе — галоўны рэдактар літаратурнага часопіса «Неман». Маю ўзнагароды. Некалькі. Належу да партыі камуністаў. Па перакананні. Жыць хочацца. Працаваць хочацца. Буду працаваць. Што ж мне яшчэ застаецца? Вунь колькі гарцуе на сытых конях руціннасці сатырычных персанажаў. Гэта ж кепска — што на конях. Не там іх месца. А яшчэ хочацца напісаць раман. Лірычны.

## ВЯСЁЛАЯ ПРЫТЧА

Ну што там такога? Ну, сцебануў чалавек пугай кабылку. Ну і што? Недалікатна, канечне, абышоўся. Але ж — невялікая пані. А можа, тая кабылка заслужыла, можа, залянілася. А пуга — на тое і пуга, каб пужнуць, падагнаць лянівага. А вось жа бывае і так, што сцебанеш па кабылцы, а потым усё жыццё каяцца будзеш. Мала таго: уся вёска век памінаць цябе будзе. І старыя і малыя павучаць будуць тваім учынкам: «Глядзі, а то будзе і табе, як таму Арсену». Ды са смешачкамі. Ды замест кабылкі падстаўляць каго хочаш. «Не крыўдзі безабароннага, і ўсё. А то будзе, як таму Арсену!» А той Арсен нікога ў жыцці не пакрыўдзіў, нікога не аблаяў і характарам мяккі, і словам ласкавы, і да чужога болю спагадлівы, а вот жа ўліп у пагаворку.

Уявіце самы жаркі жнівеньскі дзень, які звычайна бывае ў разгар жніва. Ад спёкі паруе, разбаўлены сівой дымкай, блакіт неба, паруе падсмажаная зямля, вялая зелень лугоў, а калі прыглeдзішся, то ўдалі заўважыш, як над зямлёю пераліваецца, хвалюецца празрыстае паветра. Стаіць такая цішыня і духмень, што ўсё млее, усё робіцца кволым, мяккім, нетрывалым. Нават думкі. Млее трава, млеюць лісты на дрэвах, млее зерне ў недаспелых каласах, млее чалавек, калі ён нічым не заняты...

Вось у такі дзень на палявой дарозе, паабапал якой прасціраліся высокія сцены жыта васковай спеласці, абшары ржэўніку з недабранымі абабкамі, ехаў з раёна дадому Арсен Несцеравіч Бердпікаў — старшыня калгаса «Бярозавы гай».

У раёне, на пасяджэнні выканкома райсавета, слухалі яго справаздачу аб ходзе ўборкі хлябоў.

Задаволены тым, што справы прызналі не дрэннымі, ён не спяшаўся. Спраўная гнядая кабылка цяўплася марудна, хвастом ваюючы з мухамі, якімі камандаваў вялізны авадзень. Недзе ў небе свідраваў паветра жаваранак, а потым, як падпечаны, падаў паблізу ў жыта. Касматае сонца някшчадна прыпякала лысіну, плечы; узмокшая тонкая белая сарочка прыліпала да потнага, круглых форм цела, дрыжачага ад язды: Арсен Несцеравіч быў спраўны дзядзька — поўненькі, кругленькі, як мячык. Лагодныя вочкі яго заўсёды блішчалі, як блішчалі і поўныя шчокі з румянцам, і свежыя, чырвоныя намасленыя губы. На твары, на карку ад духаты выступаў пот буйнымі кроплямі. Спачатку Арсен Несцеравіч змахваў кроплі, а калі насавічок зусім змок, перастаў сціраць, і пот, выступаючы, скатваўся па твары, трапляў у рот, у вочы, за каўнер.

Яно б, можа, і не так было б душна, каб не піва, да якога Арсен Несцеравіч быў скванны. Перад ад'ездам дадому выпіў на дарогу бакалы тры, і вось зараз яно сапраўды вылазіла бокам.

Ад піва зусім размарыла.

«Хутчэй бы даехаць пад цянёк»,— думаў Арсен Несцеравіч. Ён шморгнуў лейцы, даючы знаць кабыле, што трэба такі крыху хутчэй шавяліцца. Некалькі крокаў яна дрыпанула, нібы бягом, але, як відаць, і яе размарыла духата, хоць кабылка піва не каштавала; яна махнула хвастом, як бы кажучы: «Ат, пойдзем лепей паціху», і папляпася па-ранейшаму.

Крыху перачакаўшы, Арсен Несцеравіч сцебануў кабылку пугай, а яна, нібы не разумеючы, у чым справа, зусім спынілася, выгнуўшы кверху хвост пытальнікам. Недружалюбна азірнулася, нібы спытала: «За што?»

— Ат, яй-богу!— незадаволена буркнуў Арсен Несцеравіч, мацней тузануў лейцамі і сцебануў яшчэ раз.

Кабыла нібы пакрыўдзілася. Апусціла кнізу хвост, як бы ставячы кропку, і зноў пайшла нетаропкім крокам. Кабылка была наравістая, упартая.

— Вот воўчае мяса! Пакрыўдзілася,— пасміхнуўся Арсен Несцеравіч.

Нарытнікі ездзілі па блішчастых клубах, зграбаючы белую пену. Гледзячы на пену, на дрыжачыя тлустыя клубы спраўнай кабылы, на яе лянівую хаду, Арсен Несцеравіч падумаў: «Дрэнна-ткі тлустым у такую жару».

Лёгкая на рэсорах каляска плаўна кацілася па мяккай дарозе, дзе-нідзе пружынячы на выбоінах...

Нарэшце кончылася бясконцае поле даспяваючых аўсоў і паказаўся хмызнячок і ручай, за якім пачыналася поле свайго калгаса — высакарослая пшаніца. Яна прасіла ўжо сярпа.

Арсен Несцеравіч паехаў не на масток, а крыху правей, на брод, каб на хаду напаіць кабылу ў ручаі.

Кабылка ўвайшла ў ваду, спынілася, апусціўшы пысу ў празрысты ручай. Панюхала, разы са два смактанула нехаця, праз зубы, і зноў падняла галаву. Піць ёй не хацелася.

Гледзячы на дробныя хвалькі ручайка, на зялёненькія травінкі, што купаліся каля берага ў гэтай празрыстай прахалодзе, Арсен Несцеравіч падумаў, што кабылцы не хочацца выходзіць з вады. Ён уявіў прыемнасць адчування прахалоды ручая ўласнымі нагамі, прыжмурыўся, уздыхнуў і, цяжка дыхаючы, рашыў папаласкацца ў вадзе, каб хоць пот змыць.

Агледзеўшыся на пустынную дарогу, ён хуценька распрануўся, склаў адзенне на калёсы. Злез у ваду і, прысеўшы, пачаў прыгаршчамі паліваць сваё белае і ліпкае ад поту цела.

Было так прыемна, што ён аж вочы зажмурыў ад задавальнення.

Кабылка стаяла на беразе, бойка адмахваючыся хвастом ад сляпнёў і аваднёў. «Скуль іх чорт нанёс стольвкі?» — злавала кабылка.

Нарэшце на кабылку навалілася новая ватага галодных і пражорлівых аваднёў, і яна, не стрываўшы, трэпнула нагой па аглоблі і кранула з месца праворным шагам.

Арсен Несцеравіч выскачыў з вады і кінуўся даганяць кабылку, але тая, азірнуўшыся і ўпершыню ўбачыўшы голага чалавека, не толькі не пазнала гаспадара, а так перапудзілася, што, вертануўшы хвастом на трыста шэсцьдзесят градусаў, панеслася як ашалелая. Азірнуўшыся яшчэ раз і ўбачыўшы, што гэтае белае, тоўстае, бліскучае не адстае, а гоніцца за ёй, кабылка рванула з усіх сіл, уносячы за сабой лёгкую каляску і... адзенне Арсена Несцеравіча.

Дагнаць кабылку Арсен Несцеравіч не змог. Задыхаўся, адстаў. Дзе там яму справіцца з кабылкай! Будучы такім грузным, ён не мог далёка бегчы: і дых займала, і сэрца здавала. Ён паглядзеў услед кабылцы, спадзеючыся, што ўрэшце тая спыніцца, а яна, падганяемая аваднямі, уцякала, не збаўляючы спрыту.

Надзея рухнула. Арсен Несцеравіч разгублена спыніўся, не ведаючы, што ж рабіць.

— Вот, гадаўка, пакрыўдзілася. Адилаціла,— уздыхнуў галыш.

Кабылка ўжо зусім знікла за паваротам дарогі...

І раптам Арсен Несцеравіч зразумеў, у якім дурацкім становішчы ён апынуўся: голы, як маці нарадзіла, сярод поля, дзе, ён ведаў гэта, жанчыны жалі жыта.

— Вось дык становішча! — прамовіў Арсен Несцеравіч услых і спалохаўся, бо яму падалося, што побач хтосьці стаіць. Ён палахліва азірнуўся, закрыў далонямі свой сорам. Усміхнуўся,іранічна падумаў: «Вось і Адам — богава стварэнне. Голенькім спусцілі з неба на зямлю».

Вясёлы настрой і ўхмылка зніклі. Не да смеху, калі — уявіў, што яго, сур'ёзнага чалавека, старшыню калгаса, у такім выглядзе могуць убачыць людзі. Гэта ж сораму на ўвесь век і смеху да смерці!

А падумаўшы так, збочыў з дарогі і, палахліва азіраючыся па баках, пакрочыў шпарчэй, амаль пабег.

Пот зноў каціўся градам. Пяткі падкідвалі на спіну пыл, а ён прыліпаў да цела і разам з потам бруднымі ручайкамі сцякаў уніз.

На павароце дарогі ён раптам спыніўся і, прыгнуўшыся, адступіў назад. За паваротам, недалёка ад дарогі, жанчыны жалі жыта. Кабылкі на дарозе не відно было, яна, відаць, шкрабанула дадому...

Арсен Несцеравіч, прыгінаючыся, увайшоў у жыта і рашыў напраскі дабірацца дадому, разлічваючы па жыце дабрацца да агародаў, а там, паўзком ці яшчэ як,— да хаты. І, разважаючы так, ён, прыгінаючыся, асцярожна ступаючы, каб не клычыць жыта, прабіраўся па мяжы. Раптам збоку, зусім блізка, ён пачуў ускрык страшэнна перапалоханай жанчыны:

— А-а-а-а!..

Арсен Несцеравіч інстынктыўна азірнуўся і на імгненне ўбачыў збянтэжаны ад страху дзявочы твар, з шырока разяўленым ротам і вылупленымі вачыма.

Убачыўшы голага чалавека, дзяўчына з сярпом вертанулася і, падмінаючы пад сябе жыта, пабегла наўцёкі. Перапалоханы не менш дзяўчыны, Арсен Несцеравіч таксама пусціўся бегчы.

«Ну,— думаў ён на хаду,— пусцяць цяпер легенду пра дзіва — голага чалавека сярод жытнёвага поля».

А гэта дзіва тым часам, баючыся сораму, ганьбы, па-

збівала ногі аб камлыгі, пакалола галені, з душою ў пятках драпала ад дзяўчыны...

Да гародаў Арсен Несцеравіч дабраўся без прыгод, а там, перапоўзшы па рослай бульбе гарод, ледзь пераводзячы дыханне, увесь замызганы, ад стомы дрыжучы каленямі, спыніўся каля хлява.

Крыху перадыхнуўшы, ён пералез у двор і толькі там уздыхнуў лягчэй. Але, як назло, хата аказалася замкнутай, а вокны знутры зашчэпленымі. Арсен Несцеравіч не вытрымаў і вылаяўся са злосці.

Ведаючы, што жонка працуе недзе ў садзе, непадалёку, ён рашыў паслаць якога-небудзь хлапчука да яе па ключ ад хаты.

На шчасце, каля хаты на вуліцы чуўся дзіцячы гоман.

Прыадчыніўшы калітку, Арсен Несцеравіч паглядзеў туды, каб выбраць, каго паслаць.

Трое хлапчукоў, гадоў па восем, адпіхваючы адзін другога, наперабой стараліся штосьці даказаць дзяўчынцы, якая пачувала там сябе суддзёй. Крыху далей, чакаючы канца спрэчкі, стаяла яшчэ адна група хлапчукоў і дзяўчынак. У баку ад іх, бліжэй да калiткі, стаяў загарэлы, бронзава-чорны хлапчук у кароценькіх трусіках і пальцам калупаў у носе. Пазнаўшы яго, Арсен Несцеравіч паклікаў:

— Васёк!

Хлопчык, што калупаў у носе, азірнуўся, падбег да каліткі.

Хаваючыся за шулу, Арсен Несцеравіч, праз прыадчыненую калітку, расказаў яму, куды і па што збегаць. Хоць і стараўся Арсен Несцеравіч не паказаць свайго віду, але хлапчук запрыкмеціў, што быццам бы старшыня зусім голы.

Махнуўшы галавой, даючы гэтым знаць, што яму ўсё зразумела, Васёк шмыгануў ад каліткі. Але не ў сад ён пабег, а завярнуў за вугал і паглядзеў у шчыліну, каб пераканацца, што ён не памыліўся, а сапраўды ўбачыў дзядзьку Арсена голым.

Пераканаўшыся ў гэтым, ён зноў-такі не пабег, куды яго пасылалі, а пабег да гурту хлапчукоў, адным сваім збянтэжаным і ўзрушаным выглядам прымусіў усіх змоўкнуць. Трымаючы палец каля носа, перадаў вялікую тайну:

— Хлопцы! Дзядзька Арсен на двары ходзіць зусім голы! Паглядзіце!..

І ўсе адразу шуганулі, нібы стайка вераб'ёў, да шчэлак,

каб паглядзець, як гэта дзядзька Арсен голы і ходзіць па двары.

Не знаходзячы сабе месца (сапраўды незвычайнае становішча!), Арсен Несцеравіч хадзіў па двары, як загнаны звер, адбіваючыся ад агрэсіўных сляпнёў і назойлівых мух, што павылятали з хлява. Нарэшце прысеў на шурпатую і колкую калоду, на якой колюць дровы, і, раз-пораз пазіраючы на калітку, думаў: «І падагнаў мяне чорт у такую гарачую пару жніва боўтацца ў раўчуку! Ну, ці не дурань я стары?» — лаяў сябе Арсен Несцеравіч.

Ледзь дачакаўся ён Ваську. А пакуль той бегаў па ключ, за дзядзькам Арсенам, за кожным яго рухам, праз розныя шчэлкі з вялікім здзіўленнем і недаўменнем пільна сачыла каля дзесятка пар цікаўных дзіцячых вачэй. І запомніўся ім гэты факт на доўгія гады.

Вось і ўся гісторыя. Здавалася б: ну што тут такога? Падумаеш — факт.

Той жа дзень славу дзеці разнясли па ўсёй вёсцы. Ад хаты да хаты, хорам. А дарослыя гэты факт надзялілі сельскай філасофіяй: не сцёбай, калі няма за што! Не крыўдзі таго, хто цябе вязе! А то будзе табе, як таму...

А вам — проста смешачкі...

## СКАРГА Ў ЗАЧАРАВАНЫМ КОЛЕ

На вуліцы імя Даўмана ідуць Еўсцігней Фядосавіч і Захар Рыгоравіч. Пад вокнамі дома № 4 яны спыніліся. Еўсцігней Фядосавіч адчыніў сярэдняе акно, і між імі пачалася мілейшая гутарка.

— Будзьце настолькі ласкавы, не клапаціцеся так для мяне, я ўлезу пасля,— гаварыў Захар Рыгоравіч.

— Не, не, вы госць,— засупярэчыў Еўсцігней Фядосавіч, паказваючы на акно.— Я гаспадар гэтага раёна...

— Не турбуйцеся, калі ласка, не турбуйцеся, залазьце першы,— запрашаў у сваю чаргу Захар Рыгоравіч.

— Прабачце, але я не дазволю, каб госць лез пасля мяне...

Нарэшце сябры палезлі разам. Але, паколькі акно не было разлічана на іх здвоеныя камплекцыі, яны, у адрозненне ад Чычыкава і Манілава, зашчаміліся.

Каб задаволіць цікаўнасць чытача, паведамім, што Еўсцігней Фядосавіч мае прозвішча — Пастарнак, а Захар Рыгоравіч — Шапіра. Першы працуе старшынёй выканкома Варашылаўскага райсавета горада Мінска, другі — выконвае абавязкі пракурора гэтага ж раёна.

«Як?! — здзівіцеся вы.— Старшыня і пракурор лазяць праз вокны? Ці ж для іх гэта адно і тое?»

Сапраўды, курачка бычка не родзіць, а парася яечка не знясе. Прызнаёмся і просім прабачэння, што дапусцілі некаторую недакладнасць. Сцэнка падарожжа ў акно тт. Пастарнака і Шапіры падана для таго, каб паказаць, як цяжка абыходзіцца без дзвярэй нават адзін раз, не тое што на працягу некалькіх месяцаў... Старшыня райсавета і пракурор карыстаюцца, вядома, дзвярыма, лазяць жа ў вокны, дзякуючы іхнім «клопатам», іншыя грамадзяне, і не адзін дзень, а пачынаючы з 18 мая гэтага года.

Пра падарожжы жыхароў дома № 4 па вуліцы Даўмана ў вокны сваіх кватэр і ў дзверы кабінетаў тт. Пастарнака і Шапіры і будзе гутарка.

Дом № 4 па вуліцы Даўмана належаў Варашылаўскаму камунгасу. Аднак 30 чэрвеня 1947 года нарсуд 2-га ўчастка г. Мінска адсудзіў гэты дом наследнікам Ангяловічу Яўсею і яго брату Ангяловічу Майсею. Не будзем уваходзіць у падрабязнасці, на падставе чаго быў адсуджан гэты дом, а спынімся на справах наследнікаў.

Яўсей і Майсей падзялілі дом напалам. Як ні дзіўна, Майсей, маючы свой дом, адначасна мае і жактаўскую кватэру. Адну кватэру з сваёй палавіны дома ён прадаў, у двух жа другіх кватэрах жывуць сем'і грамадзян Навіцкага і Манькоўскага. Майсей прапанаваў ім купіць у яго гэтыя кватэры. Навіцкі і Манькоўскі адказалі яму:

— Навошта тая купля-продаж? Мы будзем, як і раней, плаціць вам за кватэру. А калі не падабаецца, дык вы, Майсей Ангяловіч, займіце свой дом, а мы, з дазволу райсавета,— вашу камунгасаўскую кватэру.

— Ах, так!..— абурыўся Майсей і замкнуў адзіныя дзверы ў кватэры гэтых сем'яў.— Я гаспадар! Хоць праз комін лазьце!

У комін сем'і Навіцкага і Манькоўскага не палезлі. Што ні кажы, а старым і дзецям такі «спорт» не пад сілу. Яны выбралі сабе карацейшы і больш даступны маршрут — праз вокны.

...Вылезшы праз акно, тав. Навіцкі з цяжкасцю прайшоў у дзверы кабінета тав. Пастарнака.

— Сапраўды не лёгкае становішча ў вас,— паспачуваў Еўсцігней Фядосавіч Навіцкаму.— Нічога, я дапамагу, я вырашу...

І Еўсцігней Фядосавіч «вырашаў» справу роўна... 25 дзён. Толькі 18 чэрвеня ён напісаў адносіну пракурору Шапіру аб прыняцці мер да Майсея Ангяловіча.

І «пайшла пісаць губернія».

Пракурор выклікаў да сябе Ангяловіча, пагутарыў з ім, тым самым «высветліў абставіны» і «па сутнасці справы» даў пісьмовы адказ тав. Пастарнаку: «...Факты не пацвердзіліся, дзверы ў кватэры не замкнуты...» А сем'і Навіцкага і Манькоўскага па-ранейшаму лазяць праз вокны.

Даведаўшыся пра такі адказ райсавету, Навіцкі звярнуўся з вуснай скаргай да таго ж чулага Шапіры. Седзячы за пракурорскім зялёным сталом, Захар Рыгоравіч сказаў наведвальніку:

— Стары певень, калі ў яго качка запытала дарогу, адказаў: «ку-ка-рэ-ку!..» Што вы прыйшлі да мяне з такой скаргай? Гэта не ўваходзіць у мае функцыі.

Такі адказ, у значэнні «ку-ка-рэ-ку», тав. Шапіра зрабіў хутчэй за ўсё курам на смех, аднак апошнія скромна прамаўчалі, бо нават да іхніх курыных мазгоў дайшло, што смешнага тут няма. Восем чалавек на працягу больш трох месяцаў лазяць праз вокны — гэта не смех, а гора.

Тав. Навіцкі напісаў скаргу ў гарсавет. Намеснік старшыні выканкома гарсавета тав. Шклярык пераадрасаваў скаргу тав. Пастарнаку. У сваю чаргу паважаны Еўсцігней Фядосавіч пераадрасаваў скаргу таму ж самаму Шапіру. Так замкнулася ў другі раз бюракратычнае кола адносна справы пра замкнутыя дзверы.

18 жніўня тав. Навіцкі, больш чым у соты раз вылезшы з кватэры праз акно, зноў папаў на прыём да тав. Пастарнака.

— Няма часу мне займацца вашай асабістай справай,— адказаў Еўсцігней Фядосавіч.— Зразумела?!

Зразумела, што і па сённяшні дзень сем'і Навіцкага і Манькоўскага лазяць праз вокны. Зразумела, што тт. Пастарнак і Шапіра трымаюцца як бюракраты.

## НА ПІКАНТНЫЯ ТЭМЫ

Міхаіл Мікалаевіч займаў не абы-якую пасаду. Ён загадчык раённай нарыхтоўчай канторы «Расткаўчук». Як ні кажы, вядомы чалавек на ўвесь раён!

Па службоваму абавязку справу яму даводзілася мець з кок-сагызам. Раслінка гэта — і ростам невялічкая, і на выгляд так сабе, але з норавам: і на ласку чуллівая, і ўвагу пастаянную любіць, і далікатнага абыходжання патрабуе... Карацей кажучы, каб справа ішла гладка, трэба добра ведаць характар гэтай раслінкі. Вось чаму яшчэ ранняй вясной Міхаіл Мікалаевіч паехаў у Мінск на курсы, каб папоўніць свае старыя веды, запасціся новымі.

Спачатку ўсё ішло як мае быць: вучылі, лекцыі чыталі,— што трапляла ў галаву, а што ў канспект... Адным словам, усё было б добра, каб...

А ўсяму бяда — вясна!.. Каго з жывых людзей яна не спакушала! Не абышла на гэты раз і Міхаіла Мікалаевіча.

І вось захацелася нашаму паважанаму загадчыку звацца Мішай. А чаму б і не так? Узрост — самы падхадзяшчы: яму ледзь пераваліла на чацвёрты дзесятак, хлопец таксама не кепскі, да таго ж сур'ёзны: нават ідучы на спатканне з дзяўчынай, ён не расставаўся з палявой сумкай. І нездарма: у сумцы ж пячатка яго ўстановы ляжала.

Закахаўся Міша. І не на жарты. Ды і сам, відаць, не быў пакрыўджаны ўвагай, бо дзяўчына паверыла яго шчырасці. Але вось здарылася новая бяда: работа курсаў закончылася, і трэба было збірацца дадому. «Не сумуй, любая, да хуткага пабачэння!» — не траціў надзею на новыя сустрэчы Міхаіл Мікалаевіч. «Разлука для кахання, што вецер для полымя. Малое гасне, а вялікае яшчэ больш разгараецца»,— прачытаў хлапец цытату і... паехаў дадому.

...Сяўба — пара гарачая. Адна работа другую так і падсцёбвае, толькі паспявай паварочвацца.

Круціўся сяк-так і Міхаіл Мікалаевіч, хоць і не да таго было яму. Праўда, план сяўбы кок-сагызу раён выканаў. Бедны Міша толькі і ведаў, што пісаў лісты сваёй каханай, хаваючыся пры гэтым ад пільнага вока... жонкі. А тут яшчэ і роднае дзіця не дае спакою: збівае з лірычнага настрою на невясёлы, маркотны тон... Ён пісаў:

«Ох, любая мая, ты і не ўяўляеш, як я пакутую без цябе. Нават работа ў галаву не ідзе»...

А работа сапраўды «ў галаву не ішла». Перастаў наш Міхаіл Мікалаевіч бываць у калгасах, цікавіцца кок-сагы-

зам. Хіба можна ў такі час займацца нейкім кок-сагызам? І ён расчулена пісаў: «Вось да чаго ты мяне даводзіш, а сама, напэўна, ужо даўно забылася пра мяне... Прысядзібны ўчастак засеяў з разлікам і на цябе... Моцна паціскаю ручку і цалую 10 разоў. Міша».

Затым, крыху падумаўшы, рашыў, што гэта не зусім перакананаўча, і ў дадатак да ўсяго паставіў яшчэ акуратны, па апошнім слове бюракратычнай тэхнікі, подпіс, як у ведамасці на атрыманне зарплаты. Але і гэтага яму здалося мала. Тады ён распісаўся чырвоным алоўкам і прытуліў да подпісу пячатку. Пасля гэтага любоўнае пасланне набыло выгляд афіцыйнага дакумента з уласнаручным подпісам, засведчаным пячаткай.

Тым часам, калі загадчык канторы «Расткаўчук» употай ад жонкі таміўся ад кахання, кок-сагыз таксама патрабаваў любві і ўвагі да сябе. А Міхаіл Мікалаевіч, бывала, ходзіць па полі ды гадае на рамонку: «любіць... не любіць... плюне... пацалуе... да сэрца прытуліць... да чорта патурыць...» А кок-сагыз падслухаў, значыцца, усё гэта ды і духам паў. Не вытрымала здрады расліна, пачала вянуць, чахнуць. Гэтая чуллівая на ласку расліна, пакінутая і забытая ўсімі — і спецыялістамі, і неспецыялістамі, амаль зусім загінула ў няроўнай барацьбе з пустазеллем.

Міхаіл Мікалаевіч гэта бачыў, але з халодным сэрцам ставіўся да лёсу расліны.

Якраз прыйшоў ад каханкі доўгачаканы ліст, адрасаваны яго жонцы (нейкім цудам даведалася ж пра яе існаванне!). Прыслала яна жонцы і яго, Міхаіла Мікалаевіча, лісты ды са сваімі едкімі каментарыямі. Можна сабе ўявіць, што пасля гэтага было! Зусім асунуўся наш Міхаіл Мікалаевіч, і на памяць прыйшлі нудныя куплецікі:

Галава ты мая ўдалая,
Да чаго ты мяне давяла?..

Пры такім горы яму, вядома, было ўжо не да кок-сагызу.

Перастаў ён цікавіцца і работай, і сваёй пасадай, і нават пячаткай — не дапамагла ж яна ў любоўных справах.

Часцей стаў глядзець у чарку.

Не было ахвоты рыхтаваць ні тару для прыёмкі каштоўных карэнняў кок-сагызу, ні пляцоўкі для іх адгрузкі.

Адным словам, не стала гаспадара, так сказаць, прапаў конік — прападай і хамуток.

## НА ПАРОЗЕ

Ягор Гардзіюк атрымаў ад дачкі Святланы пісьмо, у якім яна паведамляла бацькам аб хуткім прыездзе і, між іншым, папярэдзіла іх, што яе муж, Юрый Карнеевіч, вельмі цікавіцца іхнім жыццём, бо ніколі ў вёсцы не жыў.

Стары сустрэў гэтую вестку радасна: цікава ж было пабачыць, якога мужа выбрала сабе дачка. Прачытаўшы пісьмо, ён задаволена разгладзіў пасівеўшыя вусы і сказаў жонцы:

— Ну дык што, бабка, рыхтуйся сустракаць зяця. Будзе выпадак лішнюю чарку перакуліць...

— Ды табе толькі чарка перад вачыма і стаіць.

— Справа не ў чарцы, бабка. Парадак трэба. А як жа? Ты ж бачыш — жыццём нашым цікавіцца. Дык хай паглядзіць.

...Хоць да станцыі было якіх кіламетраў чатыры, але сустракаць зяця і дачку Ягор ездзіў на калгаснай аўтамашыне.

— Парадак трэба, дыпламатыя.

...Поезд прыйшоў вечарам, і дадому прыехалі прыцемкам. Юрыя Карнеевіча прыемна ўразіла тое, што ярка асветленая электрычнасцю вёска вельмі нагадвала невялікі гарадок ці падмаскоўныя дачы, ахутаныя цішынёй і маладымі дрэўцамі.

Старая Гардзіючыха, чакаючы гасцей, відаць, драмала, але зараз жа заспяшалася, замітусілася і, прывітаўшыся з дачкой і зяцем, войкала:

— А я ж і вочы свае прагледзела, чакаючы вас. Дачушка мая, ты ж распранайся. Зяцёк, і вы ж... Будзьце як дома...— Выпаліўшы залпам першую радасць, старая раптам змоўкла. Першыя хвіліны Юрый таксама адчуваў сябе ніякавата. Толькі стары не бянтэжыўся:

— Парадак трэба, старая! Вячэру на стол.

Старая зноў замітусілася, рыхтуючы вячэру. Ці згарача, ці па старой звычцы яна хацела распаліць на камінку, каб спячы яешню, але Ягор (быццам сачыў за гэтым) гукнуў:

— А плітка? Вот старая, ніяк не прывыкне да культуры!

Толькі тады Ягорыха сцяміла, што ледзь не дала маху, і спякла яешню на электрычнай пліце. На стол паставіла столькі ежы, што хапіла б на добрую брыгаду касцоў.

Пасля вячэры ў Гардзіюкоў амаль увесь вечар дзверы

не зачыняліся. Прыходзілі суседзі, сваякі, знаёмыя,— больш мужчыны, чынна віталіся з гасцямі, прысаджваліся, выкурвалі па папяросцы, што гасцінна прапаноўваў Юрый Карнеевіч, засыпалі пытаннямі на розныя тэмы, але больш за ўсё цікавіліся міжнароднай палітыкай. Юрый Карнеевіч здзіўляўся асвядомленасці гэтых простых людзей у складаных пытаннях міжнародных адносін і таму адказваў падрабязна і проста, што вельмі падабалася калгаснікам. Яны былі задаволены зяцем Гардзіюка, сам Ягор і яго старая адчувалі сябе імяніннікамі.

Гутарка зайшла пра ўрадавы крызіс у Францыі. Юрый Карнеевіч сам сабе зазначыў, што калгаснікі вельмі ўважліва сочаць за палітычнай барацьбой у гэтай краіне.

— Чым скончыцца чахарда з іхнімі прэм'ер-міністрамі?

— Кажуць, што беспрацоўе там расце...

Калі Юрый Карнеевіч расказаў, што віною гэтаму «план Маршала», стары Гардзіюк не стрываў і вылаяўся:

— Усюды яны, машэннікі!.. За каўнер іх ды ў каршэнь! Чаго з імі цацкацца!

Усе засмяяліся ад такой запальчывасці старога.

— А як жа? Парадак трэба. У саміх і з таварамі, і з прадуктамі туга, а беспрацоўных хоць адбаўляй, ды яшчэ заводы закрываюць, бо Трумэну гэта наруку. Які ж тут парадак?

У гутарку ўмяшалася Святлана.

— Вы лепш раскажыце пра сябе, што ў вас новага. Я ж два гады дома не была.

— Пра нас што гаварыць, самі ўбачыце, калі пацікавіцеся. Вы вось скажыце мне такую рэч,— зноў звярнуўся Ягор да зяця,— адстаім мір ці прыйдзецца яшчэ раз ваяваць?

— Трэба спадзявацца, што народы не дапусцяць новай вайны,— сказаў Юрый Карнеевіч і пачаў апавядаць аб тым, як змагаюцца савецкія дыпламаты на сесіях Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншых міжнародных канферэнцыях за справу міру, аб актыўнасці народаў Францыі, Італіі і іншых краін у барацьбе за мір, што з гэтай мэтай створаны арганізацыі прыхільнікаў міру.

Гэты адказ, як відаць, не зусім задаволіў старога Гардзіюка, ён сабраў у жменю кароценькую бародку і сказаў толькі: «Та-ак»...

Назаўтра, пасля снедання, Святлана прапанавала агледзець вёску. Яна хацела ісці ўдваіх з Юрыем, але бацька, накінуўшы на плечы фуфайку, пайшоў суправаджаць.

— Вы не тое будзеце глядзець, што трэба,— не то ўсур'ёз, не то жартам кінуў ён.

Стары Гардзіюк, паказваючы зяцю калгасную гаспадарку, на электрастанцыю, што пабудавалі ў мінулым годзе, не павёў, а здалёку ткнуў пальцам — вунь яна — і прайшоў міма, на цагельны завод таксама. Ён вадзіў толькі на новабудоўлі.

— Планы ў нас вялікія, работы не мала будзе,— гаварыў ён.— Вунь там, каля рэчкі, сёлета заклалі фундамент для сваёй жывёлагадоўчай фабрыкі. Цагляную думаем будаваць для парадку. Старыя нашы хлеўчукі толькі на паліва і прыгодны. Вось тут свіран і крупадзёрка свая будзе...

Падышоўшы да новай будыніны, на якой калгаснікі заканчвалі дах, стары тлумачыў:

— Гэта наш рамонтны цэх, механічная майстэрня. Машын жа ў нас бач колькі, як на заводзе,— ён паказаў на даўжэзную павець, пад якой стаялі жняяркі, касілкі, веялкі.— У нас цяпер што ні чалавек, то машыніст. Так што майстэрня патрэбна. Старшыня наш паехаў у вобласць даставаць станкі розныя — слясарныя, такарныя. Без тэхнікі цяпер сам ведаеш... Здараецца так, што ў самую гарачую пару сапсуецца якая-небудзь дэталька, і машына стоп. Чакае, пакуль гэта з'ездзіш у горад, каб адрамантаваць, а час цяпер дораг. Нам няма калі стаяць.

— Значыць, наша вёска стане прамысловым цэнтрам,— паспрабавала жартаваць Святлана.

— Ты вось смяешся, дзяўчына, а таго не разумееш, што пры камунізме ўсюды прамысловы цэнтр будзе — што вёска, што горад. Праўда, трактароў выпускаць не будзем, а рамантаваць... Няма сэнсу па ўсякую дробязь за сто вёрст ездзіць.

Юрый Карнеевіч падтрымаў цесця.

Стары накіраваўся на ўскраіну вёскі, туды, дзе бліжэй падступаў малады сасоннік.

— А цяпер пойдзем, пакажу вам, які ўрачэбны ўчастак мы канчаем будаваць. Таксама, каб у горад не ездзіць,— апошнія словы ён чамусьці адрасаваў Святлане.

— А чаму гэта вы паказваеце толькі тое, што не закончылі будаваць ці што думаеце распачаць, і абходзіце ўсё, што пабудавана? — запытаў, нарэшце, Юрый.

Стары спыніўся і, прыжмурыўшы вочы, паглядзеў на зяця так, нібы не зразумеў яго пытання.

— Э-э, галубок, я працягваю нашу ўчарашнюю гутарку.

Цесць палез у кішэню па самасад, але Юрый выцягнуў каробку «Казбека». Стары спачатку працягнуў руку за папяроскай, але не ўзяў яе, а, махнуўшы рукой, пачаў круціць сваю цыгарку.

— Што пабудавана, тое пабудавана... А вось што не закончана, тое трэба канчаць. Ды і планы нашы трэба мець на ўвазе. Я гэта для чаго? Мір нам трэба. Мір, і надоўга.— Стары зрабіў пару крокаў, зноў спыніўся і дадаў: — Пры камунізме хачу пажыць, а ён не за гарамі,— на парозе.

Юрый Карнеевіч падумаў і ўпэўнена сказаў:

— Можаце спакойна будаваць па плану, мір будзе забяспечан. Самая моцная гарантыя міру — наша будоўля.

## НЯЧЫСТАЯ СІЛА

Прахор Зык за сваю кабылу і калёсы закалупіў такую цану, што ў Рамана сэрца ёкнула. Раман, як і належыць пакупцу, спачатку прабаваў ганіць «тавар».

Прахор на гэта, не без крыўды, зазначыў: «Тады не купляй! Сам бачыш, што бярэш!»

Раман пачаў заходзіць з другога боку — даводзіць, што цана занадта вялікая. Тым больш што рубель цяпер падаражаў.

Прахор на гэта ўсміхнуўся і падумаў: «Тым больш сарваць з цябе трэба!..»

Таргаваліся доўга і ўпарта. Аж лысіны ўзмакрэлі. Па ўсім было відаць, што наскочыла каса на камень: чым настойлівей Раман дамагаўся збіць цану, тым меней уступаў Прахор, зразумеўшы, што пакупніку кабыла вельмі патрэбна. «А калі патрэбна, дык набавіць!» — рашыў ён і цану зніжаў вельмі неахвотна.

Пад канец Раман пусціўся на хітрыкі: купіў паўлітэрку і, спадзеючыся, што ад гарэлкі Прахор стане больш падатлівы, таргаваўся, падносячы яму раз за разам чарку. Прахор ахвотна выпіваў і апетытна закусваў салам, таму і не хмялеў, і — галоўнае — не збаўляў цаны.

Нарэшце, калі ў вачах Рамана сам Прахор раздвоіўся і ў яго кабылы стала нібыта дзве галавы і чатыры вухі,

Раман зажмурыўся, а потым расплюшчыў шырока вочы на тое дзіва і махнуў рукой: «Была не была! Купляю!»

Ударылі па руках і, як гэта водзіцца, распілі яшчэ адну пляшку. Заставалася аднаму з рук у рукі перадаць кабылу з вупражжу і калёсы, а другому — грошы.

Прахор падышоў да калёс, пераварухнуў без патрэбы сена, апрануў ватоўку, што дагэтуль ляжала на возе, узяў пугу, пакруціў ёю, засмучана паглядзеў на кабылу — абвёў яе ласкавым позіркам ад вушэй да хваста і падумаў: «Шкада ўсё-такі...» Паляпаў далоняю гнядую па клубах, зайшоў наперад, расправіў ёй грыву, зазірнуў у вочы, а кабыла падняла галаву і, плаксіва мыляючы губамі, пацягнулася да рукі...

— Ну вот!..— Прахор паморшчыўся, нібы ў яго заказытала ў носе: яму такі нялёгка было расставацца са сваёй гнядой.

Адзінаццаць гадоў яна служыла яму верай і праўдай, памагала корпацца на палосцы... «А колькі разоў,— думае Прахор,— яна выручала яго, калі ён краў дровы ў панскім лесе, каб завезці ў Баранавічы, прадаць і ў гміне разлічыцца з падаткамі!»

Яму шкада было расставацца з гнядой і таму, што не так лёгка ён узбіўся на гэту каняку. Колькі год калаціўся над кожным злотым, збіраючы грошы, колькі мазалёў нацёр, зарабляючы на панскіх палетках! Даводзілася нават і махляваць... Вельмі ж ужо хацелася набыць каня. І набыў.

Цяжка было, ды, на шчасце, прыйшла на дапамогу Савецкая ўлада. Паноў выгнала, прыбавіла зямелькі...

Гады два назад у вёсцы арганізаваўся калгас. Ды Прахор і тут не здрадзіў сваёй жыццёвай звычцы — насцярожана аглядацца, жыць на вошчуп. І здарылася так, што па-за калгасам засталіся толькі ён, яго сваяк Піліп ды яшчэ двое. А калгас рос, багацеў, абзаводзіўся машынамі, збіраў добрыя ўраджаі... Здавалася б, чаго тут мыкацца? Уступай у калгас і жыві, як людзі, дык не! Захацелася і тут нешта вымахляваць. Вось і надумаў тое-сёе прадаць. «Навошта ім? — думаў.— У іх і без таго хапае!..»

Цяпер, калі прадаў кабылу, запякло на сэрцы, зашчымела...

З задумення яго вывеў Раман, у руках якога хрупацелі новенькія дваццаціпяцірублёўкі.

— Ну, ты не тужы! Яна пападае не ў благія рукі! Коней там шануюць.

— Дзе гэта?..

Толькі цяпер Прахор пацікавіўся, куды ж прадае сваю кабылу.

— Ды яно як бы... сабе яе купляю! Разумееш, быў у мяне конь, ды, грэшнай справай, прадаў. Прызнацца, хацеў абдурыць іншых, ды ўрэшце сам у дурнях застаўся...

— Гм! Як гэта?

— І ў нас арганізаваўся калгас. Ды я не спяшаўся. Прыглядаўся, прынюхваўся, хадзіў вакол, як кот каля гарачай кашы, год-другі... Мала-памалу — бачу — парадак у іх!

А ў мяне нявыкрутка: кепска аднаму на ўсё сяло аднаасобнікам заставацца. Падумаў, падумаў і парашыў: ёсць выгада запісацца. Асазнаў... Ды вось трэба ж так! Падвярнулася нячыстая сіла і збіла з панталыку...

— Якая-такая «нячыстая сіла»? — зацікавіўся Прахор.

— Ксёндз наш! Нараіў, халера... Я і прадаў каня, калёсы і яшчэ тое-сёе. Думалася: «грошы пакладу ў кішэню, а сам падамся ў калгас...»

Прахор ажывіўся:

— Ну, ну, ну! І што ж выйшла?

— Што выйшла? Пытаеш. А вось што! Абгаварылі там ды і... Адным словам, не прынялі мяне ў калгас...

— Не прынялі? — Прахора вельмі зацікавіла гэта.— Не прынялі, кажаш?

— Ага. Вось і рашыў я купіць каня дый з ім падацца ў калгас... Яно, канешне, і дрэнна зрабілі б, каб прынялі мяне,— прызнаўся Раман,— каб прынялі без каня. На чужы каравай, як кажуць...

— Та-а-а-ак...

— Ну што ж, бліжэй да справы. Кабылка, здаецца, нішто сабе. А як яна на бягу ці ў возе? Можа, праедзем, а?

— Праедзем,— раптам згадзіўся Прахор.— Праедзем!..— Прахор падцягнуў церассядзельнік і ўскочыў на калёсы.— Проша!..

Кабылка рванула шустрай рыссю, выказваючы зухаватасць, спрыт і сілу. Пакупніка гэта задаволіла, а прадаўца — яшчэ больш заклапоціла. Як у сне чуў словы Рамана:

— Што ні кажы, брат, а без каня ў гаспадарцы нельга! А мяне нячысцік спакусіў, я і прадаў... Выходзіць, што я душу-та сваю чорту лысаму прадаў! Разумееш, душу прадаў, а сам у рай прасіўся... Не, там разважылі па-боску!.. Я, брат, доўга думаў над гэтым. Доўга! Па-боску вырашылі... А як жа! Кашу не варыў, не саліў і крупы не тоўк,

а прыйшоў — хлеб-соль ды за стол. І нават лыжкі сваёй не прынёс...— Раман гаварыў з такой язвінкай, нібы дапякаў некага другога, а не сябе.

Прахор маўчаў, быццам вінаваты.

— І не прынялі. Яно канечне... Столькі сораму набраўся. Я і не ў крыўдзе на іх... А калі б усе так зрабілі? А?.. Калі б усе сваё распрадалі і з пустымі рукамі прыйшлі... Які калгас атрымаўся б? Не-е-е, браток...

— Тпру-у-у-у! — Прахор нечакана спыніў кабылу і да Рамана: — Колькі мы там з табой на магарычах прапілі?

— Дробязь! Ды ты не турбуйся, як водзіцца,— магарыч мой! Нейкую сотню патраціў... Дык жа па ўгавору.

— Сотню? Ну што ж, сотню дык сотню! — Прахор палез у кішэнь, дастаў бумажнік, адлічыў паўсотні рублёў, падаў іх Раману.— Атрымлівай. Гэта магарыч. А гэта — тое, што за кабылу ты даў. Забірай назад! — Прахор гаварыў сярдзіта, цвёрда.

— Што-о-о?!

— А вось што: забірай гэта і злазь!

— Як гэта?

— А вось так! Злазь, і ўсё тут! Не прадаю!

— Як гэта «не прадаю»? А магарыч за што пілі? А таргаваліся?.. Ты, браце, п'яны, ці што?!

— Не, не п'яны! Палавіну сам высмактаў, а палавіну... Адным словам, вось табе за магарыч, і валяй сабе!

— Ды ты што-о-о-о?! — Раман разгубіўся, нічога не разумеючы.— Ты што? Звар...

— Злазь, табе кажуць!

Прахор сунуў грошы ў руку Раману і спіхнуў яго з калёс.

— Не крыўдуй — сам такі! — са злосцю на сябе буркнуў Прахор.— А табе дзякую. Дзякую, што надавуміў. А то... Таксама хацеў схітрыць. Сам падаюся ў калгас. Во набраўся б сораму. Бывай! — Прахор цмокнуў на кабылку, разы са тры лёгка сцёбнуў яе пугай.— Хацеў зрабіць такое ж глупства, як і ён. Во дурань! Потым прыйшлося б шукаць дурня, выкручвацца, як сам, і купляць якую-небудзь клячу. Но-о-о-о!.. Нячыстая сіла!

Прахор азірнуўся, нібыта паглядзеў на небяспечнае месца, якое толькі што абмінуў.

А Раман усё стаяў з разяўленым ад здзіўлення ротам і камячыў у руцэ грошы.

# ПРА ЦУКЕРКІ І ГАРБУЗЫ

*Казка не столькі для маленькіх дзяцей, колькі для дарослых дзядзькоў*

Дык вось што, дзеткі, перш чым расказаць казку, давайце дамовімся. Маленькія павінны ўважліва слухаць і не перашкаджаць, а тыя, каторыя дарослыя,— па вус матаць. А пасля ўсім па цукерцы дам. Нікога не пакрыўджу. Ну, дык вось...

А было гэта не даўным-даўно, а ў тысяча дзевяцьсот сорак нейкім годзе.

Жыў-быў добры чалавек. А працаваў ён у сельскагаспадарчай акадэміі БССР. Задумаў ён вырасціць новую цудоўную раслінку. Доўга біўся над гэтым, даследаваў, працаваў... Нарэшце вырас у яго цудоўны гарбуз. Цудоўны таму, што зярняткі ў ім былі голыя, без лупіны. Вось чаму і назву яму далі — голасемянны гарбуз.

Паколькі гэта быў не звычайны гарбуз,— зацікавіўся ім нават Савет Міністраў рэспублікі. Разглядзелі яго там на зялёным сукне з усіх бакоў і ўхвалілі, як каштоўную і карысную культуру.

Вядома, дабрадзей-селекцыянер быў і так вельмі рады сваёй удачы, а тут яму яшчэ большая радасць — далі прэмію аж 10 тысяч рублёў і, канешне, параілі далей працаваць, каб гарбузы былі больш ураджайныя. Міністру ж, які распараджаецца ўсімі грашыма, загадалі неадкладна адпусціць 25 тысяч рублёў на даследчыя работы па паляпшэнні гэтага гатунку і вывядзенні новых гарбузоў. А пасля гэтага выдалі пастанову, што, паколькі голасемянны гарбуз з'яўляецца каштоўнай маслічнай культурай,— пасеяць яго ў калгасах і саўгасах. І кожны год плошчу павялічваць так, каб праз два-тры гады гарбуз заняў аж 1000 гектараў.

Усім далі заданне: і міністру сельскай гаспадаркі, і міністру саўгасаў, і міністру харчовай прамысловасці.

А навукова-даследчаму інстытуту строга наказалі, каб ён па-навуковаму даследаваў усё да нітачкі і распрацаваў тэхналогію перапрацоўкі і ўжывання мякаці гарбуза і насення для масавага вырабу харчовых прадуктаў: масла, павідла, халвы, кансерваў, цукерак і г. д. і т. п.

І заварушыліся ўсе, узяліся за работу кожны са свайго канца.

У навукова-даследчым інстытуце харчовай прамысловасці працавала вельмі добрая цёця. І ўзялася яна дасле-

даваць гэты голасемянны гарбуз. Днямі працавала, начамі не спала, усё думала, аналізавала, прабавала, даследавала. Вельмі ўпартая і настойлівая цёця. Яна і на зуб брала, і на язык, і ў мензуркі, і прабіркі клала, і смажыла, і падпякала,— чаго толькі не рабіла з гэтымі зярняткамі! І гэта каб дагадзіць вам, дзеці. Больш года яна ні ўдзень, ні ўначы спакою не ведала.

Нарэшце-такі дамаглася свайго. Яна зрабіла сапраўднае вынаходства для кандытарскай прамысловасці.

Да апошняга часу халву і начынку для некаторых цукерак выраблялі з арахісу і кунжуту, якія растуць у далёкіх краях за гарамі, за доламі, за вялікімі марамі, а таксама на Каўказе, і то ў недастатковай колькасці. Сыравіна гэтая вельмі дарага каштуе. А цёця вынайшла новы метад вырабу халвы і начынкі для цукерак — з зерпят гарбуза.

Зрабіла яна для пробы некалькі цукерак, крышку халвы. Паспыталі ў інстытуце яе сябры — нічога, смачна.

Тады яна яшчэ больш нагатавала і цукерак розных і халвы і павезла ў самую Маскву на дэгустацыйную камісію.

Паспытала гэта камісія, панюхала і сказала хорам: «О-о! Вельмі смачна! Вельмі соладка!» і напісала: «Пратакол ад 25 мая 1949 года...

Па якасці халва з гарбузовых зярнят вышэй за арахісавую... Рэкамендаваць халву і цукеркі для выпуску прамысловасцю!» А падпісалі гэты пратакол дактары, прафесары, інжынеры, навуковыя работнікі, якія лепей за ўсіх на свеце разбіраюцца ў цукерках і халве.

І выдалі той цёці, як і належыць, патэнт на вынаходства, бо першая ў свеце зрабіла халву з гарбузовых зярнят.

Гэтай бы казцы ды шчаслівы канец! Але не так яно на самой справе. Не пашанцавала цудоўнаму гарбузу.

Калі дайшла справа да вытворчасці, аказалася, што цудоўнага гарбуза няма.

Не пасеялі.

Кажуць, што вінаватыя ў тым нейкія дзядзькі з Міністэрства сельскай гаспадаркі.

Не дагледзелі...

Мала таго, селекцыйныя даследчыя работы над гарбузом у гэтым годзе спынены, бо на гэта не адпусцілі сродкаў.

Перагледзелі...

На гэтым і казцы канец, дзеткі.

Па цукерцы? А-а-а!.. Я і забыўся. Па адной вось атрымайце. Я хацеў бы пачаставаць вас цукеркамі, зробленымі з гарбузовых зярнят, ды, як бачыце, іх яшчэ не зрабілі, трэба пачакаць. Не дачакаецеся? А вы гумарысты.

Але паколькі гэта не казка, а праўда, то будзем спадзявацца, што канец будзе шчаслівы і чакаць давядзецца не так доўга.

Вунь Архімед калі прасіў, каб далі яму пункт апоры, і стары перавярнуў бы свет.

А свет і да гэтага часу не перавернуты. Не далі яму пункта. Пачакайце і вы, дзеткі.

## ЦЯПЕР УСЁ ЯСНА

*Гісторыка-дакументальны сцэнарый*

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Цітр: 1949 год...

Зімовы пейзаж. Скаваная лёдам Свіслач. Мост. Вечарэе. Рыпіць пад нагамі снег. Пад мостам з'яўляюцца чатыры цёмныя фігуры. Вельмі па-да-зро-ныя фігуры. Павялічаным планам. На экране цяпер выразна відны гэтыя твары. Мінковіч, Данерштэйн, Глаз і Крэсік. Хоць у руках у іх няма разбойніцкіх прылад, але хмурыя, злыя фізіяноміі і бляск у вачах характарызуюць іх, як прагных хіжакоў.

Мінковіч паказвае на замёрзшую рэчку; чуваць яго скрыпуча-таямнічы голас:

— Вы! Глядзіце сюды! Вось дзе грошы...

— ???!

— Не разумееце? Гэта лёд, які патрэбен рэстаранам, сталоўкам, магазінам, бальніцам і г. д. і г. д.

— Пры такім марозе мы будзем цягаць лёд? — здзіўляюцца астатнія.

— Навошта самім? Эх, вы!.. Мы толькі спецыялісты,— хітра падміргнуў Мінковіч.

...Канцылярыя калгаса «Адраджэнне» Мінскага раёна. За сталом старшыня — Касмылёў, рахункавод — Крэсік і знаёмая нам група. Гутарка задушэўная.

М і н к о в і ч. Мы заключаем з вамі афіцыйную ўмову, а вы даеце нам афіцыйны дакумент, што мы — не абы-хто, а брыгада спецыялістаў калгаса і дзейнічаем ад яго імя. Калгаснікі будуць сячы і вазіць лёд. Банк будзе пераводзіць грошы. Вы атрымліваеце, а мы дзелім.

К а с м ы л ё ў. А... а?

М і н к о в і ч *(здагадаўся)*. Будзе мне, будзе і табе.

Поўная згода. Умова падпісана. Дакумент выпісан.

...Ізноў рака. Траскучы мароз. Шчыра працуюць калгаснікі. Сякуць лёд, цягаюць з вады і возяць у горад. Спецыялістаў тут няма.

...Дзяржбанк. Картатэка. Дзесяткі і сотні тысяч рублёў пераходзяць з рахункаў 16 арганізацый горада, што заключылі ўмову на закупку лёду, збіраюцца на рахунку калгаса. Касмылёў іх падсцерагае і выбірае. Мінковіч дзеліць: 183 437 рублёў чатыром спецыялістам і 29 285 рублёў — калгаснікам.

На ўвесь экран: рука Мінковіча мые руку Касмылёва. Усё «чыста».

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Нячыстая рука Крэсіка старанна выводзіць на паперцы тое, што дыктуюць ёй.

М і н к о в і ч. «Начальніку в/ч № ... Вельмі просім вас адпусціць брыгадзе спецыялістаў калгаса «Адраджэнне» запасныя часткі для капітальнага рамонту аўтамашын...»

К р э с і к. Дык жа ў нас няма аўтамашыны.

М і н к о в і ч. Пішы, пішы: «...Пярэдні мост, матор, задні мост, кабіна, кузаў, перадатачны механізм, каробка хуткасцей»... Вось і машына. Толькі яна не ваша, а наша. Я яе прыдумаў. А таму і карыстацца ёй будзем мы, брыгада спецыялістаў.

Наплывае зацямненне і хутка знікае. На экране гатовенькая аўтамашына. На ёй Мінковіч і сын Крэсіка (шафёр!). «Спецыялісты» імчаць на базу «Главторгмет» і ад імя калгаса заключаюць умову на пастаўку базе 20 тон металічнага лому... за круглую суму. Адтуль машына газуе на цэнтральную базу «Белгалоўзабеспячэння». Мінковіч падае кіраўніку базы паперку. Той чытае: «Просім адпусціць калгасу для рамонту інвентару 20 тон металалому...»

Удача поўная. Лом, абмінуўшы калгас, спраўляе наваселле з базы на базу. Дзяржаўныя грошыкі (42 879 руб.)

плачуць — яны спачатку папалі ў калгасную касу, а адтуль у тугую машну «спецыялістаў».

На зямлю спускаецца ноч.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Цітр:

«Пераняўшы вопыт «спецыялістаў», старшыня калгаса Касмылёў разгарнуў дзейнасць...»

Успамінамі мільгаюць кадры: лета, дарога, абоз. Гэта калгаснікі вязуць у Мінск гуркі, памідоры, капусту і іншую гародніну.

А зімой... «Мінхарчгандаль» прадае Касмылёву 137 тон квашанай капусты, салёных гуркоў і памідораў для...

...Калгасная ферма. Буйная рагатая жывёла нечым вельмі раз'юшана. Ад каровы да каровы паўзуць нядобрыя чуткі: жывёлу збіраюцца карміць... салёнымі гуркамі і квашанай капустай. Чуваць галасы пратэсту. Стары бугай павярнуўся хвастом да кармушкі і рашуча лёг. Поза выражае: рэж, а есці не стану. Хто псаваў, хай той і жарэ.

Жывёла настаяла на сваім. Гуркі і капуста ў калгас так і не трапілі. Але рахункавод не разгубіўся — 137 тон спісаў на ферму, хоць гародніна і тая рэалізавана...

На экране зноў цёмна.

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

Кабінет старшыні Мінскага райсавета дэпутатаў працоўных т. Лапшы І. В. Ён, з цёмнымі акулярамі на носе, сядзіць за сталом перад настольнай лямпай з ружовым абажурам і неахвотна чытае літаратуру: скаргі і рукапісныя драмы і трагедыі, напісаныя калгаснікамі арцелі «Адраджэнне». Іх некалькі тамоў. Вось загалоўкі: «Дакуль будзе арудаваць шайка жулікаў?», «Праганіце парушальнікаў Статута сельгасарцелі», «Прышліце рэвізора» і іншыя.

І. В. Лапша даў зяўка і паслаў у калгас рэвізора. Але на экране ізноў цёмна. Ледзь прыкметна, як нейчыя рукі зноў мыюць адна другую. Карыстаючыся гэтай цемнатой, з калгаснага свірна валакуць мяшкі з бульбай, гароднінай, яблыкамі і іншымі прадуктамі райупаўмінзаг, жонка старшыні Мядзведжынскага сельсавета Папковец, інструктар РК КП(б)Б Граўман і некаторыя работнікі райвыканкома.

Кабінет сакратара Мінскага сельскага РК КП(б)Б. Ён

таксама чытае «літаратуру», толькі новага выдання. Загалоўкі падобныя да ранейшых. Рашучы тэлефонны званок у райсельгасаддзел. І зноў рэвізія. Зноў на экране цёмна, а ў рэвізорскім акце ўсё «чыста і гладка».

### ЧАСТКА ПЯТАЯ І АПОШНЯЯ

Цітр: Нарэшце...

Старшыню Касмылёва, рахункавода Крэсіка і «брыгаду спецыялістаў» ахапіў жах і паніка. Прыехаў рэвізор з Міністэрства сельскай гаспадаркі. На гэты раз зацямнення няма. Усё ясна. У калгасе арудавала шайка ворагаў калгаснага ладу. Сумленны грамадзянін — рэвізор т. Шыпуноў не можа адбіцца ад жулікаў-хабарнікаў. Ён кліча дапамогу.

Коратка і сурова засвірчэў свісток, і «брыгаду спецыялістаў» на чале з Касмылёвым і Крэсікам арганізаваным парадкам павялі пад канвоем.

### РЭЖЫСЁРСКІЯ КАМЕНТАРЫІ

Некаторыя кадры гэтага сцэнарыя не зусім поўныя, бо ў біяграфіі галоўных дзеючых асоб так багата падобных эпізодаў, што немагчыма ўсё паказаць у адным фільме.

У другіх жа кадрах, трэба адзначыць, што галоўныя бяздзейныя асобы — т. Лапша І. В. і другія выконваюць вельмі непрыглядную ролю з той прычыны, што яны ў сваёй рабоце па-бюракратычнаму ставяцца да скарг калгаснікаў і ў выніку палітычнай блізарукасці страцілі пільнасць і забыліся, што ворагі стараюцца дзейнічаць там, дзе бяздзейнічаюць кіраўнікі.

Таму, хто будзе займацца мантажом гэтага фільма, неабходна звярнуць асабліва сур'ёзную ўвагу на расстаноўку кадраў, каб яны адпавядалі свайму месцу.

## «А ВАСЬКА СЛУХАЕ ДЫ ЕСЦЬ...»

Здарылася так, што грамадзяніна Дзеркача Адама Якаўлевіча, які працаваў бухгалтарам Вальнянскага спіртзавода ў Гарадзішчанскім раёне, напаткала няшчасце — у сакавіку мінулага года ён захварэў на туберкулёз. Дакта-

ры выдалі бюлетэнь. Дырэктар завода Дубаў рашыў пазбавіцца ад Дзеркача і зволіў яго з работы без дай прычыны. У загадзе ён матывіраваў звальненне тым, што т. Дзяркач быццам бы сімуліраваў хваробу, а бюлетэнь купіў у дактароў. Мала таго, ён выселіў сям'ю т. Дзеркача з заводскай кватэры. З таго і пачалося.

Тав. Дзяркач скардзіўся на самавольства дырэктара ў розныя інстанцыі: два разы ў заводскую канфліктную камісію, два разы ў Баранавіцкі спіртатрэст, тры разы ў Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў харчовай прамысловасці, тры разы ў Міністэрства юстыцыі БССР. Усюды згаджаліся, што т. Дубаў незаконна зволіў з работы бухгалтара, і выносілі рашэнні з патрабаваннем да дырэктара аднавіць т. Дзеркача на ранейшай пасадзе. Аднак... як у вядомай байцы: «Кот Васька слухае ды есць...»

У вышэйшых інстанцыях т. Дзеркача ветліва прымалі, ласкава абяцалі дапамагчы, не скупіліся на рэзалюцыі, а за канчатковым рашэннем гэтай справы пасылалі да нарсуддзі Гарадзішчанскага раёна т. Шэлемава.

Сем разоў т. Дзяркач асабіста звяртаўся да нарсуддзі, але той з месяца на месяц разгляд справы адкладаў, не жадаючы псаваць добрасуседскіх узаемаадносін з дырэктарам спіртзавода.

Амаль год ідзе гэтая цяганіна са скаргай т. Дзеркача. Бюракраты з розных устаноў перакідваюцца жывым чалавекам, нібы мячыкам, здзекуюцца над яго годнасцю.

Нарэшце т. Дзяркач цяжка захварэў і напісаў скаргу ў партыйныя органы, дзе і атрымаў дапамогу — трохмесячную пуцёўку на лячэнне ў санаторыі. Адначасова было прапанавана БРК саюза работнікаў харчовай прамысловасці неадкладна вырашыць справу т. Дзеркача і вярнуць яго на ранейшую пасаду.

Ізноў пачалася пісаніна. Ізноў справа ўперлася ў Гарадзішчанскі нарсуд.

І Баранавіцкае абласное ўпраўленне юстыцыі, і Міністэрства юстыцыі БССР двойчы афіцыйнымі цыркулярамі ўгаворвалі нарсуддзю Шэлемава разгледзець справу т. Дзеркача, але той не адступае.

Пакладзістым дзядзям з Міністэрства юстыцыі варта прачытаць мараль байкі Крылова «Кот і кухар»:

Я даў бы кухару параду —
сабе на носе зарубіць:
каб там, дзе трэба ўжыць уладу,
пустых прамоў не гаварыць.

## «РЭВІЗОРЫ»

Было гэта вельмі даўно, калі яшчэ жыў (светлай памяці!) Гогаль. Аднаму чыноўніку прысніўся страшны сон. Быццам бы прыйшлі да яго два вялізныя чорныя пацукі. Панюхалі, панюхалі яны і... пайшлі прэч. «Быць непрыемнасці!» — разгадаў гэты чыноўнік сон.

Так і спраўдзілася.

Можа, і не варта было б успамінаць гэты непрыемны сон, калі б не здарылася нешта падобнае ў наш час. Горш таго, гэткі страшны сон давялося бачыць не даўнейшаму чыноўніку, а жывым людзям: дырэктару рэстарана «Беларусь», дырэктару Віцебскага піўзавода і, можа, яшчэ каму іншаму.

Дзіўна не тое, што сон прысніўся, мала каму што прысніцца за ноч! Дзіўна, што сон спраўдзіўся, ці, як кажуць, сон у руку. А гэта рэч не вясёлая.

Уявіце сабе становішча такога дырэктара. Прысніўся яму такі сон, і выскачыў ён з-пад коўдры макрусенькі ад халоднага поту, закалаціўся, заміргаў вочкамі. Ходзіць сам не свой. Лыжка ў рот не лезе. Дзе там! Мала што можа выявіцца? Паклаў чалавек што-небудзь дзяржаўнае не туды, куды трэба, а там, глядзі, прыйдзе рэвізор і знойдзе. Паспрабуй тады апраўдацца перад пракурорам ці перад судом.

А прысніўся гэты сон невыпадкова. Награшыў дырэктар, а канцы не схаваў. Не ўсё чыста.

Заўважыў тыя грахі следчы, выклікаў да сябе рэвізораў, экспертаў і загадаў:

— Праверце мне такога-гэткага, ды так, каб нічога не ўтаілася.

Паслухалі рэвізоры, паківалі галовамі, патапталіся на месцы і нясмела спыталі:

— А хто ж нам за гэтую работу плаціць будзе?

— Той, каго вы будзеце рэвізаваць.

І, захапіўшы з сабою лічыльнікі, пайшлі рэвізоры і эксперты правяраць.

Ох і нарабілі ж яны перапалоху таму дырэктару! Сустракае ён іх вельмі ветліва, паясніца ўвесь час не разгінаецца, дзвюма ручкамі вітаецца, на ўвесь рот усміхаецца. А калені дрыжаць, дух забівае, сэрца замірае. І вось рэвізоры ды эксперты гэтак аб'ектыўна гавораць:

— А плаціць нам за рэвізію будзеце вы, колькі б мы тут ні сядзелі,— і паказваюць адпаведную паперку...

— Калі ласка, калі ласка. Грошай не пашкадуем, сядзіце, колькі ваша душа пажадае, хоць месяц, хоць год. І заплоцім столькі, колькі запросіце...— толькі... (тут начальнік ці дырэктар падміргнуў) толькі б рэвізія была добрая. Хе-хе...

Разгладзілі рэвізоры вусы (у каго былі) і павесялелі. Нарэшце заселі. Рэвізуюць... У адной канторы «Сельэлектра» доўга сядзелі рэвізоры і эксперты... Чатыры разы сядзелі, бо падабалася там аплата — 10 292 рублі заплаціла кантора, пакуль закончылася расследаванне.

І рэвізоры задаволены, і тыя, каго рэвізавалі.

Як жа гэта? А вось як.

У Віцебскім раёна была выкрыта растрата. Сумна ў фельетоне ўспамінаць лічбы, асабліва такія — 212 057 рублёў 79 капеек. Даведаўся пра гэта райпракурор і паслаў туды экспертаў і рэвізораў. А загадчыку раёна загадаў заплаціць ім за работу. Той не паскупіўся, не з сваёй жа кішэні. Заплаціў рэвізорам 4080 рублёў. І тыя яго не пакрыўдзілі. Растрата зменшылася да 29 920 рублёў 20 капеек. Як кажуць, наперад закінуў, а ззаду знайшоў. Здагадаўся.

А вось ці здагадаюцца работнікі пракуратуры, што такія рэвізоры вельмі нагадваюць гогалеўскіх чорных пацукоў, якія прыйшлі, панюхалі і пайшлі? Відаць, не. Не дагадаліся. А трэба было б здагадацца ці хоць бы прачытаць інструкцыю, дзе чорным па белым напісана, што аплату экспертаў павінны рабіць следчыя органы, якія назначаюць экспертызу ці праверку, за кошт вінаватых, спагаяючы з іх гэтыя выдаткі, як судовыя выдаткі, а не за кошт дзяржавы. Калі ж дапусціць, што парушэнне гэтай інструкцыі — норма, дык некаторыя рэвізоры вымусяць задумацца над такім пытаннем:

Ці не памыляюцца астраномы?..

Сапраўды, ці не ўводзяць яны ў зман усё насельніцтва нашай планеты, карыстаючыся тым, што адукаванае чалавецтва, магчыма, па сваёй лёгкавернасці, паверыла ім на слова, нібы дваццаць чатыры гадзіны складаюць роўна суткі? Можа, яны, дзякуючы бескантрольнасці, на працягу многіх стагоддзяў абмервалі сумленных людзей, адпускаючы ім кожныя суткі самага дарагога — часу — толькі па дваццаць чатыры гадзінкі.

Калі гэта ашуканства, то варта яго вывесці на чыстую ваду.

Можна было б згадзіцца са сцверджаннем гэтых вучо-

ных, каб жыццё не дало нам самыя верагодныя факты, самыя неабвержныя дакументы, якія выклікаюць недавер'е да гэтай старадаўняй навукі.

Дакументы гэтыя з'явіліся на свет дзякуючы неаднаразовым рэвізіям і экспертызам, праведзеным выдатнымі «спецыялістамі» па гэтакіх справах бухгалтарамі-рэвізорамі Няўсіхіным і Левіным, якія карыстаюцца шырокай славай і глыбокай павагай у работнікаў Мінскай пракуратуры.

Паслухайце, як гэта здарылася. Вышэйадзначаны Няўсіхін працаваў у «Галоўмінбудзе» на пасадзе бухгалтара-рэвізора. На выкананне службовых абавязкаў ён штодня траціў па восем гадзін. Яшчэ служыў ён інжынерам і бухгалтарам у Мінскім аблмясцпроме. Вядома, аклады ён атрымліваў поўныя. Але ў Няўсіхіна апетыт незямны — два аклады яго не задавальняюць. Ён шукае пабочных заработкаў. Вельмі каштоўную паслугу ў гэтым аказваюць вынаходліваму рэвізору работнікі Мінскай пракуратуры.

У красавіку і маі 1949 года па прапанове следчых органаў Няўсіхін і Левін зрабілі паўторную рэвізію Мінскай абласной канторы «Сельэлектра», за што кантора заплаціла ім 3946 руб. Паколькі справы ў гэтай канторы былі не зусім чыстыя, кіраўнікі яе набавілі рэвізору за экспертызу і кансультацыю яшчэ 998 рублёў. Трэба ж улагодніць «эксперта», які па 9,6 гадзіны ў суткі рэвізуе кантору. Так у Няўсіхіна, улічыўшы 16 гадзін, затрачаных у «Галоўмінбудзе» і аблмясцпроме, суткі расцягваюцца да 25,6 гадзіны, не лічачы перапынкаў на абед, на сон і на іншыя патрэбы.

У пагоні за доўгім рублём Няўсіхін абнюхаў з рэвізіямі шмат якія ўстановы і прадпрыемствы Мінска. (І на гэта трэба час.) Нарэшце, па прапанове следчага гарпракуратуры т. Кагана, гэты гастралёр з'явіўся рэвізаваць... сваю ўстанову і сарваў за рэвізію 2020 рублёў.

Ішоў час, і няўсіхінскія суткі павялічваліся і павялічваліся.

Нарэшце ў лістападзе мінулага года, якраз у той час, калі ён рэвізаваў рэстаран «Беларусь», суткі ўжо налічвалі 27 гадзін як лёду.

Невядома, як гэта атрымлівалася, ці то зямля марудней паварочвалася вакол сваёй восі, ці то Няўсіхін заўсёды ўставаў раней і за гэты кошт павялічваў суткі, але вядома другое — халтуршчык Няўсіхін не абмяжоўваўся законнай аплатай за работу. Ён браў грошы з рэвізуемых уста-

ноў яшчэ і пад маркай розных кансультацый і авансаў.

Гэты «рэвізор» не толькі суткі расцягнуў да нябачаных памераў,— ён за мінулы год, акрамя дзвюх ставак зарплаты, расцягнуў астранамічную лічбу дзяржаўных сродкаў з розных устаноў і прадпрыемстваў — цэлых 18 754 рублі.

Такія прыклады даюць права меркаваць, што верыць некаторым экспертам і рэвізорам, нібыта суткі налічваюць дваццаць сем гадзін, нельга. Яны заводзяць у зман давёрлівых людзей.

Астраномы тут не памыляюцца. Памыляюцца, відаць, работнікі следчых органаў.

## ВАДЗЯНАЯ СТЫХІЯ

Каму невядома, што вада і плыты носіць, і млыны круціць. Па ёй плаваюць караблі і лодкі, каля вады разводзяць гусей і качак. Але калі тая ж самая вада ўсхвалюецца, тады ратуйся як можаш. Ні з чым яна не лічыцца. Млын, які толькі што любоўна круціла, размалвае ў трэскі, караблі перакульвае і топіць, плыты раскідвае па бервяну... Ого, многа бяды і няшчасцяў прыносіць людзям разлютаваная вада.

Уласна кажучы, пры чым тут Полацк і сістэма маслапрома, аб якіх (паведамляем без сакрэту) будзе ісці гутарка ніжэй? Полацк стаіць далёка ад мораў, дзе бываюць караблекрушэнні ды іншыя здарэнні. Але кіраўнікі Полацкага абласнога трэста маслапрома чулі пра вадзяныя капрызы, і калі ў іх сапсавалася 37 тон макухі (дарэчы, калі макуху даваць каровам, дык удой малака павялічваецца, як паказаў вопыт, у два разы і больш), яны доўга думалі, як знайсці рэзоннае тлумачэнне, і нарэшце прыдумалі... ускласці ўсю бяду на ваду.

Завозіцца макуха ў сістэму маслапрома для стрэчнага продажу яе малаказдатчыкам пад звышпланавую здачу малака. Але захоўваецца яна, як тое дзіцё, што мае сем нянек, і, паводле прыказкі, ходзіць без носа. Уласна кажучы, макуха належыць толькі аднаму гаспадару — абл- і раймаслапромам, але лёс яе не лепшы. Захоўваюць яе ў вельмі дрэнных умовах, не прапагандуюць сярод здатчыкаў малака і г. д., інакш кажучы, нічым іншым, як безгас-

падарчасцю і безадказнасцю, і нельга растлумачыць псаванне макухі. Але калі так праўдзіва пра ўсё напісаць (а з Белгалоўмаслапрома час ад часу патрабуюць звесткі па гэтым пытанні), дык, чаго добрага, потым непрыемнасцей не абярэшся. Як-ніяк макуха па сваёй каштоўнасці прыраўноўваецца да хлебных рэсурсаў. Вось тады на выручку і прыходзіць... вада. Тым больш што Полаччына, як вядома, край багаты азёрамі. Праўда, яны не надта бурныя — і дзевяцібальных штормаў там не бывае, але затое яны вылучаюць у паветра... вільгаць. А гэтая вільгаць яшчэ больш шкодная, чым вада (так выходзіць з полацкіх справаздач). З вадой хоць можна яшчэ так-сяк змагацца. Ну, скажам, калі дах працякае, дык яго можна залатаць, а вось паспрабуйце змагацца з вільгаццю! Проста немагчыма. Калі нават і склад добры і дах не працякае, дык яна (вільгаць) праз замочную дзюрачку пралазіць і робіць сваю чорную справу. Так, напрыклад, у Глыбокаўскім раймаслапроме гэтая самая вільгаць сапсавала 9 тон макухі, на Полацкім малаказаводзе — 6 тон, у Міёрскім раймаслапроме — 5 тон і г. д. А можа, там не вільгаць вінавата, а самая сапраўдная вада? Магчыма. У справаздачах Полацкага аблмаслапрома (кіраўнік т. Пятроў) менавіта падкрэсліваецца, што макуха сапсавалася таму, што яна падмокла, а падмокла яна таму, што захоўвалася ў непрыстасаваных памяшканнях. Цікавае тлумачэнне. А хто, уласна кажучы, павінен клапаціцца аб гэтых самых прыстасаваных памяшканнях? Толькі вы, і ніхто іншы, т. Пятроў, і падначаленыя вам кіраўнікі раймаслапромаў.

Але, як кажуць, «не адзін Гаўрыла ў Полацку», ёсць падобныя майстры і ў сістэме Брэсцкага аблмаслапрамтрэста (кіраўнік т. Ендальцаў). Толькі за 1949 год там сапсавана 64 тоны макухі. Гэта значыць, што дзяржаве недадана 64 тоны малака (за адзін літр малака, здадзенага звыш плана, малаказдатчыку адпускаецца 1 кг макухі), чым нанесена страта каля 150 тыс. рублёў. А між тым у Брэсцкай вобласці і азёр менш і клімат цяплейшы. Там нават паміж кіраўнікамі трэста і малаказавода існуюць цёплыя ўзаемаадносіны. Бо чым іншым можна растлумачыць той факт, што з завезеных на Брэсцкі малаказавод (дырэктар т. Балакраінскі) у I квартале 1949 года 16,5 тоны макухі спісана на страты пры захоўванні 7,5 тоны. А чаго ж, уласна кажучы, той макусе было ісці ў страты? Вядома, што макуха гэта не персікі і не вінаград, а прадукт трывалы, калі не трымаць яе ў вадзе, дык яна можа ля-

жаць хоць дзесяць год. З гэтага вынікае толькі два меркаванні: або макуха сапраўды захоўвалася ў вадзе (за што кіраўнікоў завода па галоўцы ніяк нельга пагладзіць), або яна проста разбазарана, за гэта ж таксама трэба адказваць, а не спісваць.

Не прыняў ніякіх мер т. Ендальцаў і да кіраўніка Ружанскага маслапрома т. Стральцова, які дапусціў псаванне 8 тон макухі, і да кіраўнікоў Маларыцкага раймаслапрома, дзе разбазарана 13 тон макухі.

Віна некаторых кіраўнікоў абл- і раймаслапромаў у псаванні макухі відавочная, і яе не зможа змыць ніякая вада. Ці не пара спыніць гэтую вадзяную стыхію?

## ДАРАГАЯ РЭЧ

Я воўкам бы выгрыз бюракратызм!..
*У. Маякоўскі*

Пашпарт — дарагая рэч і, як усякая дарагая рэч, дастаецца не так лёгка. Асабліва калі ў цябе няма метрыкі, якая б пацвердзіла, што сапраўды некалі нарадзіўся. А метрыку (эх-ха-ха!) акрамя загса нідзе не даюць, а там, дзе даюць, не так лёгка ўзяць.

Возьмем для прыкладу Івана Іванавіча.

Яго ўласная мама нарадзіла ва Уздзе, а лёс доўга насіў па белым свеце (пакуль Іван Іванавіч не згубіў метрыку) і занёс на сталае месца жыхарства ў горад Мінск.

Тым часам Уздзенскі загс згарэў, і запісы пра нараджэнне, зразумела, загінулі без следу, а без метрыкі памяняць пашпарт, якому сышоў тэрмін, нельга.

Пайшоў Іван Іванавіч у загс. Дакладней, не пайшоў, а пачаў хадзіць. У той самы, які каля Заходняга моста стаіць.

Пачаў, значыцца, хадзіць. Колькі разоў туды хадзіў, вядома, бадай, толькі... тым, хто туды ходзіць. І пакуль дабіўся (ды ці дабіўся?) метрыкі, пэўна, прайшоў чаргу даўжынёю ў восем кіламетраў, калі скласці ўсе тыя чэргі, дзе даводзілася стаяць.

Першы раз ён прыйшоў у загс у добрым настроі. Гадзіны праз тры дабраўся да Ганны Міхайлаўны — дзяў-

чыны, якая ледзь-ледзь умяшчалася ў крэсла загадчыка (сам загадчык, Курзакоў, быў у адпачынку).

Не падымаючы галавы, Ганна Міхайлаўна пратараторыла, што для таго, каб Івану Іванавічу даказаць, што ён некалі нарадзіўся, трэба сабраць шэсць даведак з розных месцаў.

— Даруйце, якія даведкі патрэбны?

— Чаго вы стаіце над душой! — адрэзала Ганна Міхайлаўна.— Я вам толькі што сказала якія!..

Ветлівая Ганна Міхайлаўна, на «вы» звяртаецца.

Іван Іванавіч падаўся да ўпраўдома, каб хоць там даведацца, чаго ад яго патрабуюць, а заадно атрымаць даведку, дзе ён жыве...

Бог ведае колькі часу ён чакаў даведак з архіваў, стаяў у чарзе па нумарок да доктара, потым — да самога доктара...

Беглі дні, тыдні, месяцы...

Нарэшце ўсе даведкі сабраны. Іван Іванавіч зноў да Ганны Міхайлаўны. Так і так, маўляў, вось усе паперкі. Ды дзяўчына так глянула на яго, што Іван Іванавіч адразу зразумеў: дарэмна стаяў у чарзе.

— Вы што-о-о, не ведаеце, што сёння мы не прымаем дакументы?! Во людзі!.. У чацвер прыходзьце! — І больш ні слова...

На рабоце пачалі падазрона глядзець на Івана Іванавіча. Чаго гэта ён так часта ходзіць у загс? Ці не здарылася з ім чаго?..

А Іван Іванавіч зноў і зноў адпрошваецца: у панядзелак і сераду, пятніцу і аўторак, чацвер і суботу, зноў у панядзелак... У чацвер нарэшце дакументы прынялі. Сказалі прыйсці тыдні праз два.

Праз два тыдні прыйшоў. Сказалі прыйсці ў суботу.

Прыйшоў.

Ганна Міхайлаўна паставіла загагуліну супраць прозвішча Івана Іванавіча ў тоўстай кнізе і загадала прыйсці ў панядзелак.

— Колькі ж можна хадзіць! — не стрываў заўсёды спакойны і ўраўнаважаны Іван Іванавіч.— Мне працаваць трэба! Вольнага часу не маю. Людзі думаюць, што я проста прагульваю!..

— Вы тут не павышайце голас! — не стрывала і Ганна Міхайлаўна.— Вас многа, а я!.. І наогул, вы што, вы супраць парадку? Супраць графікаў і распарадкаў?.. Ды

ці савецкі вы чалавек?.. І наогул, выйдзіце! Ідзіце адсюль!.. Хуліганіць тут!..

Іван Іванавіч увабраў галаву ў плечы і выйшаў.

У калідоры расказаў першаму сустрэчнаму пра свае пакуты, а потым зноў заняў месца ў чарзе і задумаўся. І думаў над тым, колькі каштуюць дзяржаве вось такія Ганны Міхайлаўны, якія штодня прымушаюць людзей марна губляць час! Дорага яны каштуюць! Дорага! І ніхто не заўважае іх, сапраўдных растратчыкаў!.. Іх не заўважаюць, а вось Івана Іванавіча абавязкова аштрафуюць за пратэрмінаваны пашпарт.

## ЗЯЗЮЛЯ

С цветка на цветок
молодым стрекозлом
порхает,
летает
и мечется.
Одно ему
в мире
кажется злом —
это
алиментщица.

*У. Маякоўскі*

Сярод шматлікага і цудоўнага пярнатага насельніцтва не так часта, але сустракаецца ўсё ж адна птушка, з выгляду даволі сімпатычная. І знешне яна мала чым адрозніваецца ад другіх; ёсць і крылцы, і хвосцік, і пер'і шэрыя, і плодзіцца яна такжа, як і ўсе — з яйка вылупліваецца. Апрача беднага лексічнага багажу, які складаецца толькі з двух складоў: «ку-ку»,— яна мае вельмі адметныя рысы характару, уласцівыя непрыстойнай натуры. Нагуляе дзе-небудзь яйка і шукае цёплае гнездзейка якой-небудзь дабрадушнай сініцы. Пакладзе яго туды і — фыр-р-р-р! Паляцела вольнай птахай. На гэтым яе клопаты аб патомстве і канчаюцца: аліментаў на выхаванне свайго птушаняці не плаціць і жыве па-халасцяцку.

Карацей кажучы, натура ў яе вельмі разбэшчаная, непрыстойная. Называюць птушку зязюляй...

Зусім нядаўна нешта вельмі падобнае на такую птуш-

ку знайшлі ў Маладзечне. Імя яна носіць зусім чалавечае,— Рыгор, па бацьку празываецца Усцінавічам.

Дык вось. У 1924 годзе, калі Рыгор быў яшчэ малады і сімпатычны, пазнаёміўся ён з Соф'яй Максімавай. Пазнаёміўся, а там і ажаніўся.

Неўзабаве нарадзілася дзіця — дзяўчынка. Малады бацька пажадаў назваць яе Людмілай.

Жылі бацькі, пажывалі, дабра нажывалі...

Дачакаліся сына.

І тут Рыгор Усцінавіч рашыў, што місію сваю выканаў (у яго сапраўды — нораў зязюлі). Прыйшоў пэўны час, і ён — фыр-р-р-р!.. Паляцеў з гнязда, забыўшы пра дзяцей...

У 1942 годзе гэтая птаха апынулася ў Волагдзе. Мала куды магло занесці слабанервную птушку! Тым больш што надвор'е было пахмурнае, з навальніцамі, бліскавіцамі, ураганамі. У такую нягоду, як вядома, зязюля шукае парожняе дупло ці чужое гняздо. Рыгор Усцінавіч таксама пачаў шукаць гнездзейка дабрадушнай «сінічкі».

І знайшоў.

Прытуліла і прыласкала Дуняша Агурцова. Вядома, птах Рыгор пакрывіў душой: не прызнаўся, што быў жанаты, мае дзетак і грошай ім не пасылае...

Жылі яны, пажывалі і, як водзіцца, прычакалі: нарадзілася дзіця — дзяўчынка. Татуля-зязюля пажадаў назваць дачку... ізноў Людмілай. (А што ж магла сказаць зязюля акрамя «ку-ку»?)

Прайшоў пэўны час.

І ў другой жонкі нарадзілася другое дзіця — дачка.

Дзеткі шчабечуць, ласкі просяць, а ў зязюлі Рыгора на сэрцы туга. Ляжыць, нібы мядзведзь махнаты.

Ходзіць бацька па хаце, на дзяцей ваўком пазірае, хоць душу мае зязюльчыну. І раптам пачысціў-пачысціў пер'е, пасушыў крылцы і... фыр-р-р-р! Зноў пакінуў гняздо і дзетак.

Нейкі час халасцякаваў, адчуваў сябе вольнай птахай, пархаў па свеце, пакуль скроні не засерабрыла інеем. І вось, напаткаўшы яшчэ адну «сінічку» — Праскоўю Г., саракапяцігадовая зязюля Рыгор прыкінулася цукерачкай: адрэкамендавалася ўпартым халасцяком...

Зноў вяселле, у новым гняздзе.

Зноў нарадзілася дачка. І зноў Рыгор пажадаў назваць яе Людмілай. Відаць, яго забаўляла тое, што ён адзіны ў свеце бацька трох Людміл...

# ПАДАРОЖЖА ПА БЕЗДАРОЖЖЫ

Можа, пасля гэтага і дружбе нашай канец выйдзе, ну, дык што ж, яму горш будзе... Але я раскажу, усё па парадку раскажу, каб людзі добрыя ведалі, што ён за такі...

Запрасіў мяне Павел Васільевіч Габа да сябе ў госці на сваё, так сказаць, сямейнае свята — на наваселле. Падумаў я крыху, падумаў і сказаў сам сабе: «А чаму ж не з'ездзіць, не паглядзець на яго новае гняздзечка?» Праветрыся, думаю, летам праехаць прыемна, і пейзажамі можна налюбавацца лепш, чым у карціннай галерэі, і паветра свежага нанюхацца ўволю, дый Паўлу Васільевічу прыемнасць зраблю. А да Слуцка ж не так ужо далёка,— рукой падаць, асабліва цяпер, калі столькі аўтамабіляў развялося, што іншы раз і хацеў бы пешкі прайсці, дык не дадуць, усё роўна падвязуць.

Выбраўся я за горад і, не спяшаючыся, пхаю сабе нагамі дарогу — іду... А на душы — радасць. Жаўранкі перада мной наперабой так і ўюцца, так і пырхаюць, а пяюць — аж заліваюцца, быццам я для іх журы конкурсу мастацкай самадзейнасці. А збажына паабапал дарогі рослая, каласістая, так і кланяецца мне, так перада мной і выхваляецца, як быццам я падкармліваў яе ўсю вясну. А я іду сабе і пасмейваюся...

Раптам чую — ззаду гудок. Не паспеў я збочыць, а машына тут як тут. Прыпынілася, і шафёр гэтак ласкава:

— Сядайце,— кажа,— падвязу, добры чалавек...

Шафёры — народ назіральны, добрага чалавека здалёк пазнаюць. Я не адмовіўся, інакш, па вачах прыкмеціў — дужа пакрыўдзіцца чалавек. Ці то дарога была добрая, ці наваколле прыгожае, толькі я і не заўважыў нават, як апынуліся мы на граніцы Слуцкага раёна. Тут шафёр спыніў машыну, пачухаў патыліцу, уздыхнуў і сказаў:

— Тпру, прыехалі. Далей — страх. Калі вам у самы Слуцк, то дабірайцеся як-небудзь, толькі на ўсякі выпадак захапіце добры кіёк.

«Які там страх, і пры чым тут добры кіёк? Няўжо ад сабак бараніцца? Дзіўна, нібы ў казцы»,— думаў я пра парады свайго спадарожніка, асцярожна абыходзячы рытвіны і лужы, якія засталіся пасля ўчарашняга дажджу.

Не прайшоў я і паўкіламетра, як напаткаў чалавека

ў бядзе. Фурманка яго загрузла ў такой лужыне, у якой бы пэўна ўвесь турэцкі флот змясціўся (гл. фота).

— Куды едзеш, дзядзька?

— Не еду, а целяпаюся. Бачыш, загруз, а трэба спяшацца. Хацеў, каб наш калгас першую квітанцыю ад дзяржавы атрымаў. Новенькі ячмянёк, як золата. Дарога толькі вось... Эх, дарогі! — і стары так уздыхнуў, што ў мяне на вачах слёзы паказаліся. Дапамог я яму выбрацца з лужы, атрымаў законную падзяку і зноў закрочыў. Але не адышоў і кіламетра, як даганяе мяне яшчэ адна фурманка.

— Да Слуцка? — пытае ў мяне віхрасты хлапец, увесь запырсканы вяснушкамі.— Сядайце.

Паехалі. Скажу па шчырасці, ехаць па слуцкіх дарогах не так ужо прыемна. Кідае цябе, трасе, як тую бульбіну ў парожнім кошыку. Раптам кабылка рэзка затармазіла і спынілася, насцярожана натапырыўшы вушы.

— Ну, што там? — Хлапец саскочыў з калёс.— Яна, брат, разумная ў мяне. Бачыш, які катлаван? Наўрад ці крыкнеш «гоп», бо не пераскочыш.

Сапраўды, дарогу перагарадзіў роў, з якога тырчэлі два спарахнелыя слупкі — помнік невялікаму мосціку.

— Эх, дарогі ў вас!..— паспачуваў я.

— Дарогі тут ні пры чым. А вось дарожны аддзел — пры чым! — запярэчыў юнак.

Я згадзіўся. Пераехалі. Неўзабаве апынуліся каля моста. Правільней, не каля моста, а каля рэчкі, бо па самой справе які тут мост (гл. фота).

— Каторы год наш дараддзел будуе гэты мост... Абібокі! — абурыўся хлапец і вельмі выразна сплюнуў.— Дармаеды! — пагразіў ён некаму пугаўём, а мне сказаў: — Падкасвайцеся, будзем брод шукаць. Вось тут бы мне і прыдаўся кіёк...

Пераходзячы рэчку, я спатыкнуўся і... пырнуў. З неpапалоху ледзь вылез па бераг. Хлопцу смешна, а мне хоць плач: на наваселле ж трэба паспець...

Я застаўся адзін і гадзіны дзве сушыўся, пасылаючы не дужа ветлыя пажаданні ў адрас Слуцкага дараддзела.

Сонца ўжо недзе за стагамі тулілася на спачын і, растапырыўшы свае прамені веерам, павявала ветрыкам. Я наткнуўся яшчэ на адно дарожнае няшчасце. Пасярод дарогі стаіць палутарка, як на прыколе цяля. Каля машыны шафёр, а ў вачах яго такі смутак, такая туга па

добрай дарозе, што мне захацелася сесці побач з ім і паспачуваць. Так я і зрабіў.

— Можа, дапамагу чым-небудзь?

Шафёр агледзеў маю хліпкую фігуру:

— Наўрад,— і нават з месца не скрануўся.

Толькі пасля таго, як я пераканаў яго, што кожную раніцу займаюся фізкультурай, ён згадзіўся прыняць мае паслугі.

Машына напаролася на стырчак. Тут быў масток з двух бярвён, і адно з іх пераламалася пасярэдзіне так, што адзін канец вытыркаўся якраз пасярод дарогі, як супрацьтанкавая надаўба. Вось на гэтым стырчаку і завісла машына. Каб тапор быў ці піла, дык можна было б хутка справіцца, а то ж... Мы правалтузіліся да поўначы, пакуль знялі машыну і павыцягвалі з яе чэрава ўсе скабкі. Шафёр так замарыўся, што ледзь прагаварыў:

— Вязу гаручае для самаходных камбайнаў... Там мяне чакаюць, а ці ж я вінаваты?..

Хутка ён павярнуў налева, а я, асцярожненька мацаючы нагамі дарогу, пакрысе прабіраўся да мэты. На слуцкіх дарогах і днём не разгонішся, не толькі ноччу.

На золаку Урэчча мяне стрэла новым сюрпрызам. Дарогу па Слуцк перагарадзіла рэчка і мост, на якім выразна было напісана: «Мост закрыты». Шукаць брод я ўжо баяўся і таму прыйшоў да думкі, што лепей абысці рэчку аж да самых вытокаў. Але ад гэтага мяне адгаварыла адна цётка. Яна ўзяла мяне за руку і бясстрашна перавяла цераз мост, дзе кожная масніца пагражала нашаму жыццю.

Падыходзячы да Слуцка (нарэшце!), я дагнаў дзве падводы з дошкамі. Даганяць іх было лёгка, бо яны стаялі як укопаныя. У адной з іх вывіхнуліся спіцы ў коле. Я не здзівіўся, бо сама дарога была з вывіхамі. Кіруючыся добрым намерам, я спытаў:

— Куды дошкі вязеце? Ці не на мост?

— Не. Ад моста. Наш загадчык райдараддзела домік сабе пабудаваў, кругом абгарадзіў, а на вароты не хапіла, дык вось яму, на вароты...

Пасля гэтых слоў на мяне напала ікаўка. Я ледзь прагаварыў:

— Ск... ск... скажыце, к... калі ласка, хто ў вас заг... заг... загадчык райдараддзела?

— Павел Васільевіч Габа,— адказалі мне.

Я хацеў нешта сказаць, але не змог: ці то я зусім страціў дар мовы, ці пашкадаваў кідаць словы на вецер.

Я абмінуў падводы і пайшоў. Не, пабег. «Ах ты, такая ты Габа,— нерваваўся я,— я ж табе пакажу наваселле!» Тут я ўспомніў параду шафёра пра кіёк і па хаду выламаў добры дубец. «Я ж табе назагапяю скабак за тваю работу!»

У Слуцк я не прыйшоў, а ўварваўся. Мне адразу ж паказалі дом гэтага Габы (гл. фота).

Стукаю ў вокны. Спіць. Стукаю яшчэ. На парозе з'яўляецца сам Павел Васільевіч, заспаны, відаць, што пасля перапою, пазяхае і лезе абедзвюма рукамі ў патыліцу. Нарэшце ачухаўся і здзівіўся:

— А-а... няўжо гэта ты?.. Чаму ж так спазніўся? Наваселле ж учора...

Я не даў яму дагаварыць і пачаў вывальваць усё, што накіпела на душы за гэтыя суткі. А ён стаяў і толькі лыпаў вачыма. Будзьце ўпэўнены, ён пашкадаваў, што запрасіў мяне ў госці. Мне хацелася паганяць яго тым кіем па дарогах і мастах, дзе я быў і дзе не быў яшчэ...

У хату ён мяне не запрасіў, ды я і не пайшоў бы.

Хацеў было зайсці да старшыні райвыканкома тав. Ральчыка, ды яго не аказалася ў Слуцку. Недзе паехаў па раёне і, відаць, засеў са сваёй легкавушкай у лужыне ці на стырчаку ад паломанага моста.

## АМАТАР «САМАДЗЕЙНАСЦІ»

Калі лічыць, што самым заўзятым прыхільнікам культуры будзе той, хто часцей за ўсіх наведвае культурныя ўстановы, у нашым раёне такім чалавекам будзе ўпраўляючы аддзялення Дзяржбанка тав. Каваленка. Ён бязвылазна штодня (акрамя выхадных) сядзіць у раённым Доме сацкультуры. І не толькі сам, а і яго падначаленыя.

Не думайце, што супрацоўнікі Дзяржбанка на чале з Каваленкам арганізавалі які-небудзь самадзейны балет, вучацца танцаваць гапак або «Лявоніху». Зусім не, хоць упраўляючы такі ўпарты і настойлівы аматар «самадзейнасці», што на яго і ўправы нідзе не знайсці. І засеў ён у гэтым доме зусім не для таго, каб культурай авалодаць. Наадварот, культуру ён і на парог не пускае.

Справа ў тым, што пасля вайны аддзяленне Дзярж-

банка часова размясцілася ў памяшканні раённага Дома сацкультуры. Але «бягуць гады і дні няспыннай чарадою», а Дзяржбанк не вызваляе памяшкання.

Работнікі аддзела культасветустаноў вельмі лагодна прасілі т. Каваленку, але ён нават і вусам не павёў, не саступіў чужога месца. Пасля гэтага райвыканком прапанаваў упраўляючаму выбрацца, а ён толькі галаву ўтуліў у плечы, быццам гэта не яго тычыцца. У справу ўмяшалася 8-я сесія раённага Савета дэпутатаў працоўных і вынесла рашэнне: неадкладна вызваліць памяшканне і перадаць РДК. Тады тав. Каваленка прыняў тактыку эластычнай абароны — ухіляўся ад гэтых атак. Аднак настойлівыя культработнікі не мірыліся — паслалі хадакоў у Віцебск і Мінск.

Не дапамагло.

Нават горш,— бяду нажылі.

Дачуўся пра хадакоў Каваленка і, грозна пакруціўшы ў паднябессі пальцам, паабяцаў:

— Ну ж, я вас!.. Пачакайце! Прыйдзе каза да воза...

І сапраўды прыйшлі культработнікі ў банк па грошы, каб набыць сёе-тое для пашырэння культуры. Каваленка яхідна ўхмыльнуўся і зласліва працадзіў скрозь зубы:

— А навошта ж вам грошы? Скаргі пасылаць? На маркі? — і грошай не выдаў, каб ведалі, з кім маюць справу.

Вось так т. Каваленка аддзякаваў раённаму Дому сацкультуры за гасціннасць, вось так ён б'е культуру рублём, вось як ён самадзейнічае.

## ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА

Кузьма Пракопавіч Камлюк, «адстаўны старшыня», як ён сябе называў, ужо больш паўгадзіны сядзеў у прыёмнай і, пераціраючы пальцамі бараду, падобную на добры сноп ураджайнай пшаніцы, нецярпліва паглядаў на дзверы сакратара райкома. Каторы раз ён выняў з кішэні кісет і згарнуў цыгарку. Дым заклубіўся па пакоі, пераліваючыся блытанымі пасмамі. Сакратар-машыністка, пухленькая дзяўчына з прыгожым тварыкам і вачыма па добрай чарэшні, не перастала тарахцець на машынцы і, не гля-

нуўшы нават на Кузьму Пракопавіча, падышла да акна і пальчыкам выштурхнула фортачку. «Далікатная»,— падумаў Кузьма Пракопавіч і не без іроніі ўхмыльнуўся.

Яму ўжо надакучыла сядзець тут з маўклівай дзяўчынай. Ён чакаў зручнага моманту, каб зайсці да начальства на перагаворы, але момант гэты ўсё не прыходзіў: у сакратара заўсёды хто-небудзь сядзеў: не паспее выйсці адзін, як заходзіць другі, а Кузьме Пракопавічу хацелася пагаварыць з ім абавязкова адзін на адзін. Але, калі ў кабінет сакратара, не раздумваючы, праціснуўся дырэктар чайной — тоўсты, як стары падабабак, мужчына, цярпенне ў Кузьмы Пракопавіча скончылася. Ён падышоў да дзяўчыны і вельмі сур'ёзным тонам параіў:

— Вы б, сакратарка, білецікі якія выдавалі, каб па чарзе заходзіць, ці што...

Важная да гэтага дзяўчына пырснула іскрыстай усмешкай:

— Гэта ж не кіно...

— Факт, што не кіно, а тут мельцяшаць перад вачмі, як у кіно...

За пятнаццаць год работы старшынёй калгаса «Чырвоная Паляна» Кузьме Пракопавічу не раз даводзілася бываць у раённага начальства, і з ім звычайна размаўляў ён запраста, бо ведаў, што сярод іншых старшынь ён лічыўся ў графе «старых ваўкоў», як любіў гаварыць упаўмінзаг; хоць калгасік яго быў невялічкі, гаспадарак трыццаць, але справы там заўсёды ладзіліся, і ўпаўнаважаных, як правіла, да яго не прысылалі. А вось сёння ён адчуваў сябе крыху не па сабе. Што ні кажы, а не старшыня ўжо. Пасля аб'яднання чатырох калгасаў Камлюка не абралі старшынёй. «Дыстанцыя не тая, дый падкоўкі сцёрліся, слізгацца буду»,— апраўдваўся ён перад жонкай пасля сходу. На людзях ён стараўся не выказваць нездавальнення гэтай акалічнасцю, але на душы затаілася крыўда на свой лёс. Праўда, на агульным сходзе аб'яднанага калгаса Камлюк нават пажартаваў. Калі на чысты лісток паперы на стале ўсе старыя старшыні здавалі свае пячаткі новаму, Кузьма Пракопавіч, падышоўшы да стала, выняў з кішэні гімнасцёркі пячатку, разы тры пацалаваў яе, прыгаворваючы: «Ты ж мяне і карміла, ты ж і паіла, саслужыла службу верную: без цябе я не прамінуў ні вяселля, ні хрысцін ніводных, дзякуй табе шчырае і паклон нізкі». Людзі, канешне, парагаталі, як з добрага жарту, бо ведалі, што Кузьма Пракопавіч пячаткай

не злоўжываў. Жарт жартам, аднак пасля сходу сон у яго стаў неспакойны. Не раз ён апоўначы, утаропіўшы вочы на шасток за печчу, дзе вісела цыбуля, доўга раздумваў. Усё перабіраў у памяці: і свае маладыя гады, і калектывізацыю, і партызаншчыну... Многа чаго перажыў ён за свой век, шмат чаго бачыў. Вось дажыў і да сапраўды вялікіх калгасаў, а там вунь ідзе гаворка пра аграгарады. Гэта ўжо камунізм на парозе. Нават прабабаў уяўляць сабе свой новы аб'яднаны калгас у камунізме. Усё знаходзіла сабе пэўнае месца, пэўны парадак: і новая вёска-гарадок, і багатая гаспадарка, і людзі — усё расстаўлялася па сваіх месцах, толькі вось сабе ён ніяк не мог уявіць канкрэтнага прытулку...

Што ж ён сам такое будзе ў камунізме?.. Многа думак пабывала ў гасцях у яго галаве за тыя бяссонныя ночы, ой, як многа. Недарма ён удзень, выходзячы на работу разам з іншымі калгаснікамі, вельмі пільна прыглядаўся да новага кіраўніцтва: старшыні, членаў праўлення, брыгадзіраў, загадчыкаў ферм. Прыглядаўся і нямала заўважыў такога, што яму не зусім падабалася. Асабліва рэзка свайго незадавальнення ён не выказваў, але, глядзіш, другі раз і буркне: «Не дараслі яшчэ!..»

Аднойчы вечарам ён доўга пацеў над лістком паперы — пісаў штосьці. І вось сёння прыйшоў у райком.

Калі з дзвярэй кабінета выслізгнуў распараны дырэктар чайной (відаць, атрымаў нахлабучку), Кузьма Пракопавіч зайшоў да сакратара. Той сустрэў яго ветліва:

— А-а! Камлюк! Ну, здароў, здароў! Не забываеш? Ну, сядай. Ты нечым незадаволены?

Кузьма Пракопавіч прывітаўся.

— Вядома, незадаволены. Парадак бы навёў, а то прыйдзе сумленны чалавек, дык пасядзіць так у калідоры паўдня, пакуль дачакаецца. А нахабныя коўзь ды коўзь за дзверы. Непарадак, факт.

— А-а, гэта я іх выклікаў... Ну, па якой справе? Можа, крыўдзяць цябе ці непарадкі якія ў новага начальства ў вас?

Сакратар заўважыў на вачах Кузьмы Пракопавіча, што ў таго нешта важнае ёсць.

Камлюк не спяшаючыся выцяг з кішэні паперу, разгарнуў яе і, паклаўшы на стол, прыкрыў далонню.

— Вось тут усё сказана. А крыўдзіць мяне няма каму. Самі з вусамі, пара ведаць, Павел Васільевіч...

Сакратар прыткнуў да пераносся пенснэ, і яно (дзіў-

на) нібы прыклеілася, і пачаў чытаць Камлюкову паперу, а той, разваліўшыся ў крэсле і цярэбячы пальцамі бараду, вельмі пільна сачыў, як у Паўла Васільевіча густыя з сівізной бровы павольна сыходзіліся, ствараючы складку поперак ілба. Нарэшце ён устаў, прайшоў па пакоі. Кузьма Пракопавіч, не міргаючы, праводзіў яго вачыма.

— Тут, брат, цэлая тэорыя...

Кузьма Пракопавіч маўчаў.

— Правільна, зусім правільна, таварыш Камлюк,— працягваў сакратар.— На калгас цяпер трэба глядзець, як на буйную фабрыку, складаную і мнагагранную вытворчасць...

— Значыцца, згодзен?

— Цалкам згодзен.

Кузьма Пракопавіч шустра падняўся з крэсла.

— А як жа іначай. Тры тысячы гектараў ворыўнай! Народу колькі! Тысячы! А кіраўнікі? Камандзіры? Невукі?! Факт! На любым заводзе паглядзіш: майстар цэха — інжынер, дзесятнік — тэхнік, дырэктар — само сабой разумеецца — інжынер. Куды ні кінь — усюды з адукацыяй людзі. Факт! А ў нас што? Ну хоць бы я? Мужык! Было, на сваёй гаспадарцы ледзь упраўляўся, потым прыламаўся так-сяк кіраваць трыццаццю... А цяпер? Што я? Куды я? У камунізм, даражэнькі мой сакратар, з маімі падковамі не суйся. Коўзка! Факт! Ды не толькі я. Паглядзі, хто ў нас брыгадзіры, старшыні? А? — Кузьма Пракопавіч ужо наступаў на сакратара, задраўшы ўгору сваю бараду.

— Правільна, правільна, Кузьма Пракопавіч, тут я з табой згодзен, я разумею цябе...

— А чаго не разумееш?

— Які гэта накірунак табе трэба?

— Як які? — здзівіўся Кузьма Пракопавіч.— На курсы, у школу!

— Якую?

— Якую-небудзь. Агранамічную, факт. Гады на два, на тры...

— Дык у нас жа ёсць такія курсы двухгадовыя майстроў сельскай гаспадаркі пры МТС...

— Ат,— Камлюк паморшчыўся, адмахнуўся і сеў.— Ведаю гэтыя курсы. Ты мяне пасадзі за парту ды штодня муштруй. Во!

— З барадой у школу? — усміхнуўся сакратар.

— Я абстрыгу бараду! — У голасе Кузьмы Пракопавіча загучэла задзёрыстая потка.

— Не, брат,— расчаравана пакруціў галавой сакратар.— Колькі табе? Пяцьдзесят тры? Стары ты для студэнта.

— На што не стары, а на што дык стары ўжо?

Камлюк ізноў усхапіўся з крэсла.

— Слухай, Камлюк, не выгадна ж цябе вучыць. Ну, два-тры гады павучышся, потым тры гады папрацуеш і — на спакой, на пенсію...

— Чорта з два! — Камлюк ужо злаваўся.— Ты майго бацьку ведаеш?

— Як не ведаць!

— Бачыў, як ён касой арудуе?

— Бачыў.

— А яму ж восемдзесят тры гады. А дзед мой пражыў сто чатыры. Я з пароды дзябёлай. Факт! Яшчэ сорак гадоў як піць даць пражыву. Дык што, па-твойму, я пры камунізме павінен хадзіць як непрыкаяны? Я яшчэ дакажу сваё!

— Ну, а з жонкай як? Як жа ты яе пакінеш?

— Во-о прычына! З жонкай лягчэй згаварыцца, чым з табой. Ёсць па каго пакінуць. Два сыны жанатых, дачка... Гэта не прычына.— Кузьма Пракопавіч адчуў, што сакратар схіляецца да станоўчага вырашэння пытання, і выкінуў яшчэ адзін козыр: — А скажы, сам ты даўно з партшколы? Год назад. Два гады правучыўся, і жонка жыва-здарова? А?

Сакратар пачухаў патыліцу і нарэшце спытаў не то ў Камлюка, не то ў сябе:

— Дык куды ж цябе, у якую школу?

— Гэта ты сам павінен ведаць. У якую-небудзь агратэхнічную. Не старшынёй, дык брыгадзірам добрым буду. Факт!

...Праз паўгадзіны Кузьма Пракопавіч спора крочыў дадому. У кішэні яго ляжала паперка — пакірунак на вучобу.

— Яшчэ не позна, яшчэ не позна...— мурлыкаў ён на матыў маршу, па-маладому чотка адбіваючы крок.

# ЗАРЭЗАЛІ БЕЗ НАЖА

Яна пражыла вельмі кароткі век — толькі тры гады. А калі пайшоў чацвёрты гадок, яе зарэзалі. Злыя людзі, якія зрабілі гэтае злачынства, не прыйшлі з лесу, яны жылі тут жа, як кажуць, у адной сям'і. І хоць рэзалі яе без нажа, але маску надзявалі, каб іх дачасна не распазналі. Вось як гэта здарылася.

Не так даўно, тры гады назад, у Мінску арганізавалася прамысловая арцель «30 год Кастрычніка». Названым бацькам і апекуном нованароджанай стаў старшыня Мінскага аблрознапрамсаюза тав. Гольдзін. Кожны член арцелі ў дзень яе нараджэння ўнёс пай, каб яна магла дужэць, расці, пашырацца і набірацца сіл.

Спачатку ўсё было добра і гладка. Многія члены арцелі старанна працавалі і спадзяваліся, што яна моцна стане на ногі і хутка заваюе сімпатыі не аднаго спажыўца на мінскіх рынках. Тым больш што прадукцыю яна выпускала даволі прывабную: цукерачкі-пеўнікі, павідла яблычнае, мёд салодзенькі ды шмат чаго іншага. Усё было б добра, каб... у гэтую арцель не пачалі злятацца, як мухі на мёд, людзі, якія нюхам пачулі тут спажыву. Яны спачатку асвоіліся, пакрысе ўцёрліся ў давер'е, а неўзабаве можна было пачуць наватарскія выказванні Слуцкага.

— Вузкавата ў нас! Планаў шырокіх няма! Размаху няма, разгону! Каб на мяне, дык адчыніў бы каўбасны цэх, кандытарскі і...

І Ізраіль Ісакавіч Слуцкі прабраўся да арцельнага руля, каб здзейсніць свае шырокія планы. Спакойнае жыццё арцелі мінулася.

Новае начальства закруціла-завярцела, адным словам, замуціла. Вядомая справа, дзе вузка — там цесна для шырокіх планаў. Вось чаму ва ўсе канцы паехалі ганцы купляць лесаматэрыял для будаўніцтва новых цэхаў. У Стаўбцоўскім раёне купілі хату, хлеў і свіран і тут жа памянялі гэтыя будынкі на... адзін хлеў; гэта было выгадна — 1700 рублёў даплаты трапілі ў шырокія кішэні чалавека з шырокімі планамі. Не скупіліся сродкамі на набыццё падобным спосабам будаўнічых матэрыялаў. Усяго накупілі 464 кубаметры бярвення. Калі ж перавезлі яго ў Мінск, дык на падлік аказалася ўсяго 131 кубаметр, астатні нібы згарэў, без дыму і попелу.

Тым часам арцель пад дбалым кіраўніцтвам Слуцкага

варыла з яблыкаў павідла і на гэтай справе мела страты на 15 тысяч рублёў. На арцельны склад паступаў і штучны мёд, а ў бухгалтэрыю — акты на «ўцечку мёду», хоць на падлозе склада каля бочак не прыкмячалася ні мокрага, ні ліпкага. Загадчык склада Арон Якаўлевіч Лібо ведаў, куды павінен цячы мёд — навошта дабру прападаць па бруднай падлозе.

Няўрымслівы старшыня і ўдзень і ўначы трызніў аб бязмежным пашырэнні харчовай прадукцыі арцелі. На шчасце, трапіўся нейкі «спецыяліст» па вырабе соды. Слуцкі «асвоіў» і гэтую прадукцыю. Але мінчане ні за якія грошы не хацелі купляць так званую соду, а таму камерсанты з арцелі рашылі завезці яе як мага далей — аж у Паставы. Там пад шыльдай арцелі гандлявалі па прынцыпе: хто каго абдурыць. Дарэчы, там і дагэтуль успамінаюць чорным словам і соду, і тых, хто яе вырабляў і прадаваў, бо шмат каму з пакупнікоў давялося звяртацца за дапамогай у бальніцу. І загадчыку склада і старшыні арцелі выгадна было вазіць прадукцыю да перыферыйнага спажыўца: гэта давала магчымасць завысіць прабег аўтамашыны і спісаць лішніх 650 літраў бензіну.

Слава пра камерцыйныя поспехі Слуцкага і кампаніі дайшла да нейкіх М. Батвініка і Л. Чорнага. Ім вельмі захацелася ўступіць у такую арцель. Не паскупіўшыся, яны замест паю здалі гатовы ларок, коштам на 4500 рублёў, толькі з умовай, што яны будуць у гэтым ларку гандляваць, а над ларком павесяць шыльду арцелі. І гандлявалі. Папрацаваўшы паўгода, яны атрымалі каля дзвюх тысяч рублёў зарплаты, але на малы заробак не крыўдзіліся, бо куды большы прыбытак прыносіў бойкі прыватны гандаль пад маркай арцелі...

Арцель набірала тэмпы, разгон. Калі 1949 год закончыўся стратамі ў 49,6 тысячы рублёў, дык затое толькі першы квартал 1950 года прынёс страт на 53,3 тысячы рублёў.

У арцелі ўвачавідкі ўзмацніліся сувязі з прыватніцкімі элементамі, прыкметна расла запазычанасць за Навадворскай, Петрыкавым і Лібо. Яна выражалася чатырохзначнымі лічбамі. За той жа час на асабістым рахунку Слуцкага ў ашчадкасе сабраліся грошыкі, за якія ён купіў на імя жонкі палавіну дома на Лагойскім тракце. Сам Слуцкі жыў у камунальнай кватэры. Каб новы дом не пуставаў, знаходлівая жонка параіла выпусціць яго ў арэнду арцелі «30 год Кастрычніка», а выручку выкарыстаць

на абсталяванне другога доміка, што вырас за кошт арцельных недастач лесаматэрыялу, цэглы і іншай харчовай і нехарчовай прадукцыі.

Як ні стараўся старшы бухгалтар арцелі т. Лазоўскі А. А., але вельмі цяжка было хаваць заназычанасць і страты ў бухгалтарскіх кнігах. А з гэтай прычыны некалькі разоў запрашалі валачашчых «спецыялістаў». Але нават і яны не маглі дапамагчы; атрымаўшы грошы за рэвізію, яны да канца яе не даводзілі, бо вынікі былі б не зусім прыемныя для некаторых камерсантаў. Вось тады цёплая кампанія і задумалася над тым, ці не пара хаваць канцы ў ваду. Пакуль сушылі сухары чорнага хлеба, якія, дарэчы, абыйшліся арцелі ў тры разы даражэй, чым у любым магазіне, прыдумалі і выхад. Рашылі прыкончыць арцель. Звярнуліся за парадай да т. Гольдзіна, і той параіў,— пакуль не позна, зачыніць арцель як нерэнтабельную.

Так і зрабілі, але... адны канцы схавалі, а другія, пакуль не позна, перадаём у надзейныя рукі.

## БЕС УБЛЫТАЎ

Іван Іванавіч добра павячэраў і лёг спаць. Неўзабаве, павярнуўшыся на другі бок, ён смачна пацмякаў пухлымі губамі і захроп.

Ці ад тугой вячэры, ці мо што іншае мучыла яго, але ў гэтую ноч прыснілася Івану Іванавічу кашмарнае відовішча.

Спачатку пачуўся слабы пах ладану, а потым — далятала незвычайная музыка, нібы казачныя пастушкі ігралі на дудачках (гэта сам Іван Іванавіч у сне віртуозна высвістваў носам пастаральныя мелодыі).

Чым бліжэй і мацней чулася музыка, тым святлей рабілася ў хаце. Нарэшце стала так відна, што Іван Іванавіч убачыў: пасярод пакоя ў крэсле сядзіць нейкі госць. Суровае абліччa яго здалося вельмі знаёмым і нагадвала аднаго раённага работніка, а каго — у сне не ўспомніў.

А госць тым часам загаварыў:

— Ты, грамадзянін Карабкоў, вялікі грэшнік! За твае нядобрыя справы — быць табе там!..— і, склаўшы паль-

цы, госць паказаў няхітрую фігуру, якая нагадвала краты.

Іван Іванавіч заміргаў нявіннымі вачыма, а госць працягваў:

— Не міргай! Ты ведаеш, пра што я гавару. Дом сабе будуеш? Будуеш. Як намеснік дырэктара малочна-кансервавага завода злоўжываеш службовым становішчам? Злоўжываеш. Маўчыш? Та-ак... Цягаеш з завода і лес, і шыфер, выкарыстоўваеш рабочую сілу і аўтатранспарт... Прачытай Крымінальны кодэкс і пакайся, пакуль не позна!..

У Івана Іванавіча заняло дух.

Голас! Знаёмы голас!..

Па голасе, нарэшце, пазнаў пракурора і адразу споўз з пасцелі, нешта вінавата замармытаў і... прачнуўся...

Назаўтра раніцой Іван Іванавіч прытрусіў у райком і паклаў на стол сакратара заяву, у якой шчыра каяўся ў грахах, са слязьмі прасіў літасці, абяцаў перадаць дом на дзяржаўны баланс. Толькі б даравалі грахі...

Так і зрабілі. Справу пра дом спынілі, а дом па акту перадалі раённай нарыхтоўчай канторы «Кансервмалако»...

Гэта быў удар.

Дробнаўласніцкая псіхіка Івана Іванавіча, атрымаўшы такі накаўт, пачала прыхворваць: то бяссонніца мучыла, то ў сне трызніў, то...— усё домік не выходзіў з галавы...

І вось аднойчы з крыўдай у душы на свой лёс ён лёг спаць. Пазяхнуў, пацягнуўся і заснуў. Раптам, нібы пярун ударыў у хату, запахла серай, нешта затрашчала, засвістала, завіхрылася ў дыме і з-пад прыпечка выскачыў нячысцік. Круцячы хвосцікам, тупаючы капытцамі, крывячы морду хітраватай усмешкай, ён прысеў на пасцель Івана Іванавіча і пачаў спакушаць яго.

— Шкада мне цябе, Іван Іванавіч! Такі домік збудаваў!.. Як цацку! Ідзі і жыві!.. Стараўся, камбініраваў... і так не пашанцавала,— аддаў без капейкі!..

Іван Іванавіч уздыхнуў, а бес тым часам збіваў чалавека з панталыку:

— Але яшчэ не ўсё прапала. Магу параіць яшчэ адну камбінацыю. Пагавары душэўна з кіраўніком райканторы «Кансервмалако» і папрасі, каб акт на перадачу дома трапіў у твае рукі. Потым заключы з канторай умову на пабудову дома. Быццам бы ты — просты цясляр Карабкоў абавязваешся пабудаваць для канторы дом, а яна, у сваю

чаргу, абавязуецца заплаціць за работу... Вось табе і кампенсацыя!..

— А калі дазнаюцца? Судзіць жа будуць...— не здаваўся Іван Іванавіч.

— А не дазнаюцца — грошыкі будуць! — хітра падміргнуў сатана-дробнаўласнік і, свіснуўшы, як скрозь зямлю праваліўся.

Астатак ночы Іван Іванавіч не спаў. Думаў. А назаўтра выклікаў у кабінет падначаленых: кіраўніка і старшага бухгалтара раённай парыхтоўчай канторы і зрабіў так, як параіў нячысцік.

Акт знішчылі. Заключылі ўмову. І заплацілі «цесляру». Карабкоў хапнуў ні многа ні мала — васемнаццаць тысяч рублёў.

Тое, што грамадзяніну Карабкову сніцца розная чартоўшчына і ў галаву лезе ўсякая брыдота — не выпадковасць. Шкада толькі, што ў раёне ніхто не памог Івану Іванавічу разгадаць тыя сны яго, да чаго яны сняцца і што прадракаюць. А трэба было б разгадаць і растлумачыць, тым больш што тлумачыць іх можна па кодэксе.

## ЧАМУ Ў ЯГО ПЫСА СУХАЯ?

Што і гаварыць, вясна — не зіма. Не дзіва, што каровы і авечкі з вялікай нецярплівасцю чакаюць яе. Асабліва ў калгасе Карла Маркса Рэчыцкага раёна. Яшчэ б ім не чакаць вясны! Якое шырокае поле для асабістай ініцыятывы! На кожным кроку можна паласавацца, скубануць травінку пад плотам, а там глядзіш, не паспееш і муху хвастом адагнаць, як на пашу можна ісці. Да таго ж — кожная лужына гатова прагнаць смагу. Вясной і сонца лагоднейшым становіцца: можна падставіць адзін бок, потым другі — хай прыгравае. Не тое, што ўзімку ў хляве: з кожнай дзірачкі свішча, дзьме ды снегам замятае,— стой і дрыжы, ляскай зубамі пашча, аж сумна робіцца...

Да сапраўднай вясны яшчэ далекавата, толькі сакавік на двары, але і ён прынёс нямала прыемнага.

Прыгрэла сонейка, і снег пачаў раставаць, пад стрэхамі з'явіліся сасулькі. Падыдзе вол і ссе гэтую сасульку. Дарэчы, ён мае практыку ў гэтым, яшчэ будучы ця-

лём навучыўся. Праўда, цяляткам і авечкам хоць плач,— не дараслі яшчэ, і ім піяк, бедным, не дастаць. Зайздросна, але нічога не зробіш.

У гэтым калгасе на ферме няма калодзежа, а каровам і валам піць хочацца, ад смагі аж губы зліпаюцца. Праўда, іх ганяюць на вадапой за два кіламетры да рэчкі, але ці там нап'ешся, калі лёд такі тоўсты і да вады добрага паўметра. Пагоняць даглядчыкі жывёлу паіць, а тая толькі палюбуецца на ваду і, апусціўшы хвасты, пляцецца назад. Літаральна, як жарт у старым буквары.

— Ты вала паіў?

— Паіў.

— А чаму ў яго пыса сухая?

— Вады не дастаў.

Для даглядчыкаў гэта жартачкі, а каровы і валы ад гэтага толькі нудзяцца, і ніхто не спагадае па іх. Нават галоўны заатэхнік Рэчыцкага райсельгасаддзела ні разу не заглянуў сюды, не пацікавіўся, як адчувае сябе грамадская жывёла. Вось каб яму самому ў дзень выплаты зарплаты паказалі грошы ды назад схавалі, ён бы, пэўна, падняў страшэнны гвалт, напісаў бы штук 20 скаргаў і наведаў 40 інстанцый. А затрымліваць заатэхнікаву зарплату не пашкодзіла б — надта ўжо мала карысці ад яго работы. Гэта відаць з пісьма, якое напісаў нам тав. Савіцкі пра догляд жывёлы ў калгасе імя Карла Маркса.

Цёпла жывецца загадчыку жывёлагадоўчых ферм калгаса імя Катоўскага Кармянскага раёна тав. Касцючэнку. На двары мароз трашчыць, завіруха круціць, мяцеліца гуляе, а ён залезе на печ дый задае храпавіцкага. Паспіць на адным баку, пакуль не прыпячэ, а потым пачухае паясніцу і перавернецца на другі. А на ферме тым часам замярзаюць авечкі і ягняты. Хлявы такія, што бедная жывёла жывая к богу просіцца. Пакутуе яна і ад гнілога сена. Асабліва дастаецца ягняткам. У халодным хляве ім бы пойлам цёпленькім пагрэцца, але няма яго. Не цікавяцца жывёлай і работнікі райсельгасаддзела. За зіму яны так прымёрзлі да службовых кабінетаў і тэлефонных апаратаў, што нічым іх не адарвеш.

А здарыцца няшчасце, захварэе ад такога догляду якая-небудзь кароўка-нябога — і пішы прапала. Не дачакаецца дапамогі ад ветэрынараў і — задзярэ капыты раней часу. Здарылася такая бяда ў калгасе «За Радзіму» Гомельскага раёна. Захварэла там Буронка. Паслалі ў ветлячэбніцу па ветэрынара Шведа і пакуль дачакаліся

яго, дык па кароўцы справілі памінкі. Але ўсё ж т. Швед прыйшоў, каб сваім аўтарытэтным словам засведчыць, што Буронка не прытварылася, а сапраўды скапала. Для гэтага ён нават ускрыццё зрабіў і, пашукаўшы ў жываце сэрца, акт напісаў: «Пры ўскрыцці ўскрылася, што карова сапраўды здохла». Хоць гэтым аддаў павагу беднай жывёліне.

Безумоўна, вясна прыйдзе, жывёла павесялее. Але пакуль сонца прыгрэе, трэба добра грэць нядбайных даглядчыкаў, загадчыкаў ферм і заатэхнікаў, каб жывёле было цёпла нават узімку.

## І ЯК ЯНЫ КАНЦЫ З КАНЦАМІ ЗВОДЗЯЦЬ?

З вялікім абурэннем паказаў усё гэта дзядок-стрэлачнік на разгрузачнай пляцоўцы агульнага карыстання, прызначанай для мінскіх будаўнічых арганізацый і прадпрыемстваў, якія не маюць сваіх пад'язных шляхоў. Уся гэтая пляцоўка была завалена без парадку і ладу кучамі вугалю, торфу, камення, фармовачнага пяску ўперамешку з вапнай, грудамі цэглы і шчабёнкі; усюды тырчэлі дошкі, бэлькі, арматурнае жалеза, былі параскіданы дровы і бярвенні. Цяжка было разабрацца, што тут і чыё, але стары-стрэлачнік, як вопытны экскурсавод, дапамог скрозь гэтую куламесу разгледзець нядбайных гаспадарнікаў, па віне якіх гінуць каштоўныя прамысловыя матэрыялы на сотні тысяч рублёў.

— От, глядзі,— стары капянуў нагой пясок і смецце,— здаецца, тут проста насып, а гэта ж каменне для будаўнічага трэста нумар тры. Прывязуць нашы некалькі вагонаў камення, дык палавіну яго будаўнікі не выбіраюць, так і заносіцца пяском. Колькі дабра прападае! А яшчэ лекцыі па эканоміі слухаюць. Ім бы не лекцыю, а прачуханку добрую зрабіць,— стары пагразіў некаму пальцам і перайшоў да кучы залацістага пяску, перамешанага з вапнай.

— А гэта фармовачны пясок завода імя Кірава. Прывезлі яго аж з Украіны, згрузілі, а завод не забірае. А тут новыя матэрыялы прыбываюць. Вось і высыпалі яго на

ванну. А цяпер, скажы, каму гэта месіва патрэбна? Сапсавалі і ванну, і пясок.

У старога стрэлачніка, відаць, кінела злосць на нядбайных гаспадарнікаў. Ён ледзь стрымліваўся, праходзячы міма куч цэглы, зваленай на торф і гравій.

— А хто гэта раскоўзаў так вугаль?

— Спытай дырэктара велазавода! — стары сплюнуў.— Яшчэ ў сакавіку прывезлі для іх восем вагонаў вугалю, дык да гэтага часу не маглі дачыста забраць. Яны лічаць, што ўвесь забралі, а яго тут сама менш вагон рассыпана. Як яны мераюць, як яны прымаюць, як разлічваюцца — хто іх ведае. От,— стрэлачнік паказаў на бліжэйшыя дамы,— некаторыя жыхары бестурботна жывуць, бо круглы год забяспечаны і торфам, і дрывамі, і вугалем дармовым. Нават, глядзі, якія агароджы паставілі з дошак будаўнічых трэстаў. Усе гэтыя жыхары асабліва ўдзячны кіраўніку трэста нумар адзін Галоўмінскбуда.

Памятаю, бісквітнай фабрыцы прывезлі фанеру для тары, дык не менш як чацвёртая частка яе знікла. Я не ведаю, як там дырэктар зводзіць канцы з канцамі, на каго ён спісвае недастачу.

Стрэлачнік прысеў на абліцовачны камень, адпаліраваны стараннай рукой каменшчыка, і, закурыўшы, нахмурыў бровы. Уся яго постаць гаварыла, што ён моцна перажывае, бачачы такі беспарадак.

— Я хоць і не бачыў гэтых нядбайнікаў, а скажу, што некаторыя з іх пераборлівыя, як капрызныя нявесты, у адносінах да сваіх заказаў.

Вось гэты абліцовачны камень прывезлі яшчэ ў мінулым годзе па заказе ўпраўлення «Белтрактарбуда», і ўжо амаль год валяецца ён тут як помнік безгаспадарчасці. А ці мала яго пахавана пад вугалем і торфам! У другім месцы ён, можа, во як трэба, а тут ад гэтага грузу адмовіліся. І наогул, відаць, у кіраўнікоў «Белтрактарбуда» з горла лезе і каменне і бярвенне, а яны яшчэ заказваюць. Вунь бачыце ў лужыне гніе бярвенне з мінулага года. Гэта таксама іх дабро. Адным словам, жывуць па прымаўцы: «і сам не гам і другому не дам». Паглядзіш на гэты беспарадак і мімаволі падумаеш — дорага абыходзяцца дзяржаве нядбайнікі.

У мінулым годзе станцыя ачышчала гэтую пляцоўку. Узялі бульдозер і пассоўвалі адсюль горы смецця і хламу ў вялікую яму. Вунь туды. Дык ведаеце, малады чалавек, машына некалькі разоў спынялася. Відаць, не хаце-

ла такую шкодную работу выконваць. Колькі туды цэглы, ваппы, гравію, арматурнага жалеза сапхнулі! Напэўна, хапіла б на добры дом. Я тады, грэшнай справай, так падумаў: не пляцоўку чысціць трэба, а ўзяць той жа бульдозер і падчысціць нядбайных гаспадарнікаў.

Сказаў так стрэлачнік і пайшоў на пост. Набліжаўся поезд з новымі матэрыяламі, і трэба было неравесці стрэлкі.

Апошнія словы старога мне запомніліся. Можа, бульдозерам і не зусім зручна ачышчацца ад безадказных работнікаў,— для механізмаў ёсць больш карысная работа,— але чысціць трэба.

## У ПАРТФЕЛІ СПРАВА...

Неспакойна на душы ў тав. Гурына. Не дае спаць яму дырэктарскі партфель. А ён так блізка! Здаецца, працягні руку, бяры і насі: ты ж в. а. дырэктара!.. Дык жа не, яму здаецца, што да гэтага партфеля цягнецца яшчэ другая рука, рука галоўнага агранома МТС. Вось таму і неспакойна на душы ў Гурына. Можна было б працаваць і з гэтым няўстойлівым тытулам, тым больш што ўсе дырэктарскія правы ў руках, але ж... працаваць, гэта значыць наведваць трактарныя брыгады, ездзіць у калгасы, бываць каля малацільных агрэгатаў, даваць парады, выпраўляць памылкі, дапамагаць.

Як жа ехаць? А раптам пазвоніць начальства?.. Тады з канторы будзе гаварыць з начальствам не ён, Гурын, а галоўны агроном МТС, і розныя кіруючыя ўказанні да Гурына будуць даходзіць праз другія рукі, а гэта ўжо крыўдна...

І ўсё-такі ехаць трэба. Вунь у калгасе імя Кірава нейкі разява-трактарыст уз'ехаў на пень і разбіў трактар. Цяпер кукуе там каля пня. А ў калгасе «Рэвалюцыя» чатыры дні стаіць малатарня. Кажуць, што і ў калгасе «Перамога» таксама малацьба спынілася: у трактары шкіў паламаўся. І так па ўсёй зоне МТС. А вядома, за такія прастоі ўсе шышкі будуцьваліцца на яго галаву. І цяпер ужо на ўсе лады склапяюць яго МТС па ўсім раёне.

Куды ні кінь — усюды клін. Не агрэх, дык прастой, не паломка, дык на пень уз'едзе.

Ад такіх разважанняў у Гурына вельмі сумны выраз твару. А шчыра кажучы, ёсць ад чаго сумаваць. План уборкі зернавых камбайнамі МТС нават на 30 % не выканала, а план ворыва пад азімыя культуры і таго меней. Пра вывазку гною і торфу на палі калгасаў зоны МТС зусім гаварыць не варта,— не пачыналі нават.

Карацей кажучы, спраў у в. а. дырэктара — непачаты край. Можна было б паслаць у трактарныя брыгады галоўнага агранома МТС, але паміж імі грызня. Тым часам брыгадзір трактарнай брыгады ўмудрыўся пазадзіраць угору перадплужнікі і тупымі лемяхамі так пакалупаць поле, што вароны смяюцца.

Яшчэ з зімы і Гурын і галоўны аграном пільнуюць дырэктарскае крэсла. Змаганне за крэсла часам да патасоўкі даходзіць. Прапільнавалі яны такім чынам і рамонт машын. А калі пачаліся палявыя работы, дык трактары больш стаялі, чым працавалі, а былы старшы механік МТС спекуляваў запаснымі часткамі, устанавіўшы своеасаблівую таксу. Напрыклад, за гусеніцы ён браў ад сваіх трактарыстаў па дзесяць кілаграмаў збожжа.

Не дзіўна, што ў выніку арганізацыйнай неразбярыхі МТС не выконвае сваіх абавязацельстваў перад калгасамі.

Дзіўна другое: чаму т. Гурын, не выконваючы абавязкаў дырэктара МТС, усё ж лічыцца в. а. дырэктара? І яшчэ дзіўна: чаму кіраўнікам Слуцкага раёна не здаецца гэта дзіўным? Анекдот, дый годзе.

## ЗНАЁМАЯ ЛІПА

Гірлянды рознакаляровых лямпачак на срабрыстых слупах паабапал праторнай вуліцы, трапяткія сцяжкі, урачыстая аркестравая музыка рэпрадуктараў і вясёлы, па-хатняму гаваркі паток людзей, высыпаўшых на тратуары — усё гэта стварала ўражанне, што свята ўжо наступіла, што яно ўжо ў поўным разгары. Валодзя спыніўся на абочыне тратуара і, прыглядаючыся да радасных твараў, падумаў:

— Нібы іх усіх прэміравалі...

Ён пастаяў крыху, назіраючы, як адны абганялі другіх, нібы спяшаліся некуды з радаснай навіной, прыслухаўся да бесперапыннага людскога гоману і непрыкметна для сябе рушыў з месца разам з людзьмі. Яму хораша і нават цёпла было сярод гэтага ажыўленага святочнага натоўпу. Аднак Валодзю нечага не хапала, чагосьці хацелася. Расшпіліў паліто, закурыў. Але няяснае жаданне не прапала. Разам з радасцю яно шчымела, непакоіла Валодзю нават тады, калі спыніўся, каб палюбавацца домам, які сёння раніцой яны закончылі атынкоўваць, за што вось зараз на ўрачыстым сходзе яму выдалі прэмію.

Рэпрадуктары заспявалі знаёмую, родную песню «Чатыры бярозачкі», тую, што спяваюць у іхнім калгасе дзяўчаты. І адразу нявыказанае жаданне, тое, чаго не хапала, стала ясным.

«Завітаць бы цяпер дамоў...» Валодзя нават лягчэй уздыхнуў. Цяпер ён не заўважаў ні мнагалікага натоўпу, ні гоману. У думках ён ужо быў там, дома. Каб не натыкацца на людзей і спакайней марыць, Валодзя звярнуў на другую вуліцу, дзе толькі ўчора пачалі пасадку новых ліп.

«От бы зараз, вечарам, нечакана з'явіцца ў хату,— падумаў Валодзя і ўсміхнуўся, уяўляючы радасны перапалох дома.— Маці, напэўна, кінулася б распранаць, а бацька прывітаўся б за руку, як з дарослым, сястрычка ж Каця аж заскакала б ад радасці. Нават Бобік, які цішком прабраўся ў хату і схаваўся пад сталом, выскачыў бы павіляць хвастом. А потым селі б за стол і бацька абавязкова паднёс бы чарку настойкі... Я расказаў бы ім пра сённяшні ўрачысты сход і прэмію... Не, я не адразу зайшоў бы ў хату, а спачатку паглядзеў бы ў акно. Цікава схавацца за ліпку пад акном і назіраць, хто чым займаецца. Бацька, пэўна падмаладзіўшыся і падкруціўшы вусы, прымацоўвае да касцюма ордэны і медалі на заўтрашняе свята, а Каця вучыць на памяць верш к ранішніку».

Валодзя нават спыніўся — так выразна паўстаў перад ім дом, абсаджаны ліпамі, які стаяў непадалёку ад вёскі. Ён успомніў, што бацька збіраецца перанесці хату бліжэй да калгаса. А то ж вельмі ўжо нязручна жыць асобна, наводшыбе. Трэці год, як бацьку абралі брыгадзірам, і цяпер даводзіцца часцей бываць на сходах, на пасяджэннях праўлення ці нарадах. «Трэба паслаць яму пару сотзень, хай хутчэй пераносяць хату»,— падумаў Валодзя.

Раптам Валодзю здалося, што ў яго перад вачыма не-

шта вельмі знаёмае. Ён нават азірнуўся, можа, хто знаёмы прайшоў, але не, прахожых блізка не было. Яшчэ раз азірнуўся.

— Ды што ж гэта?..— ціха прагаварыў ён і спыніў позірк на ліпе. Здалося, што ён недзе бачыў гэтае дрэва. Падышоў бліжэй, прыгледзеўся,— так, знаёмая, але дзе ён мог бачыць? Яе ж толькі сёння пасадзілі ў гняздо. Нават зямлёй яшчэ не засыпалі, так і стаіць у скрынцы. І вось ён пазнаў яе, а калі пазнаў, дык не паверыў вачам, так гэта было непраўдзіва. Гэта была іхняя ліпа, што стаяла пад іхнім акном. Як яна магла тут апынуцца? З'яўленне ліпы тут, у Мінску, здалося Валодзю да таго неверагодным, што ён, не верачы вачам, падышоў да яе і памацаў рукамі. Глянуўшы ўгору, ён прыкмеціў на ствале рубец ад дроту, якім гады чатыры назад прывязаў шпакоўню. Абышоў кругом ліпкі раз, потым другі, паляпаў яе па ствале. Сумненняў не магло быць, гэта яна, свая, родная ліпка, тая самая, што стаяла перад акном бацькавай хаты. Гэта і радавала яго і крыху бянтэжыла. Радавала спатканне з ёю тут, у горадзе, і бянтэжыла тое, як яна магла трапіць сюды.

— Да мяне ў госці прыехала? — ласкава запытаў Валодзя, нібы перад ім была жывая істота.

Ліпка слаба залапатала рэдкімі пажаўцелымі лісткамі.

— Якім жа цудам ты сюды перабралася? — Валодзя ўзяўся за камель.

Міма праходзіў чалавек. Ён усміхнуўся і пажартаваў:

— Што, не адпускае? Ці не ўзяў чарку, хлопча?

— Ды не, гэта ж свая, наша ліпка,— весела адказаў Валодзя.

— Відаць, што свая. Бачу, як падтрымлівае...

Валодзя здагадаўся, што меў на ўвазе прахожы. Ад гэтага стала крыху ніякавата. Ён адышоў ад ліпы, яшчэ раз агледзеў яе з верху да нізу, памахаў на развітанне рукой і шпарка закрочыў наўздагон чалавеку. Хацелася расказаць усё, але засаромеўся і, абагнаўшы яго, накіраваўся да земляка Сцёпкі.

У Сцёпкавым пакоі Валодзя застаў цэлую групу яго таварышаў па рабоце і госця — стрыечнага брата Сцёпкі, Алёшу, які прыехаў паступаць у школу ФЗН — на токара. Прывітаўшыся і пазнаёміўшы Валодзю з сябрамі, Сцёпка спытаў:

— Дзе ж ты прападаў? Мы цябе цэлую гадзіну чакаем.

— На ўрачыстым сходзе затрымаўся,— і, нібы між іншым, дадаў: — Прэмію ўручылі.

— Каму? Табе?

— Не толькі мне, і другім.

— Здарава,— Сцёпка падаў руку,— віншую! Значыць, да свята ўсё-такі закончылі атынкоўку? Малайцы! — пахваліў Сцёпка і звярнуўся да Алёшы: — Матай на вус, зямляк. Першы месяц пасля ФЗН працуе і прэмію атрымаў.

Алёша падсеў да Валодзі, перадаў прывітанне ад хатніх, пісьмо і стаў расказваць пра калгасныя навіны.

— А ты скажы, як там нашы ліпы? — перапытаў Валодзя.

— А-а, бацьку ж твайму новую хату ставяць там, у цэнтры калгаса, дык ён ліпы аддаў... Прыязджалі з Мінска. Пагрузілі на машыны і павезлі.

Пераканаўшыся, што не памыліўся, Валодзя расказаў сябрам пра незвычайнае спатканне з ліпкай на вуліцы сталіцы.

## КАРАСЁВА АДЫСЕЯ

*(На жаль, не эпас)*

Калі паплавок пачаў ныраць, я здагадаўся: клюнула.

Шмаргануўшы за вудзільна, высмыкнуў лёску, і на ёй загойдаўся хударлявы карась. Не паспеў зняць яго з кручка, як пачуў:

— Йэх! А-ашукалі ўсё-такі с-старога ду-дурня! — нервова дрыгаючы плаўнікамі, нібы кантужаны, і заікаючыся, чалавечым голасам загаварыў карась.

Ад здзіўлення я разявіў рот і маўчаў як рыба. А карась тым часам гаварыў:

— Ну-ну! Дык што, п-н-на па-атэльню, значыць? — у рыбіных вачах засвяцілася туга і адчай.

Стары карась-заіка, са шматлікімі шрамінамі па целе, разарванай губой і сям-там выскубленымі плаўнікамі, пэўна, нямала пабачыў на сваім вяку страхоццяў і перажыў шмат жудасных прыгод.

Жаль і спагада агарнулі мяне, і я, каб супакоіць карася і выклікаць яго на шчырую размову, сказаў:

— Няшчасны ты мой карась! Не такі ўжо я драпежнік. Я звычайны аматар-рыбалоў. Таму адпушчу цябе! Толькі раскажы мне, браток, пра сябе, пра сваю долю.

І тут карась пачаў апавядаць сваю сумную гісторыю. Ледзь не на кожным слове заікаючыся і палахліва азіраючыся, нібы яго паблізу падпільноўвалі зубастыя шчупакі ці прагныя акуні.

— З таго часу нямала ва-ады сплыло... Мая бабулька бы-ыла вельмі пла-адавітай, а дзед — найлепшым сем'янінам. Ён выбраў цу-удоўную мясціну ў рацэ Сож па-ад Слаўгарадам, і там уся наша вя-ялі-ікая ра-адня жыла гу-у-уртам, дру-у-ужна. Спа-акойна, сытна і бе-е-есклапотна плёскаліся мы ў ва-адзе, бо шчупакі нават і не заглядвалі ў нашу ціхую завадзь. Але бяда прыйшла з другога боку...

Мудры карась наморшчыў лоб, цяжка ўздыхнуў і пачаў гаварыць далей:

— Аднойчы на беразе Сажа з'явіліся старшыня ДТСААФ са Слаўгарада і сакратар райкома партыі. Дзед-карась, адчуўшы нядобрае, закамандаваў усёй нашай радні хавацца. Мы шуганулі хто куды, толькі пявопытная мелюзга, вылупіўшы вочы, з цікаўнасцю віляла хвастамі каля берага. Раптам нешта шчабоўкнула ў ваду, зашыпела і так ірванула, што ў многіх рыбак вочы павылазілі і палопаліся пузыры... Колькі нашага брата тады загінула — страшна ўспомніць.

Мяне моцна кантузіла, ад чаго я і цяпер заікаюся.

Пасля такога страхоцця карасі рашылі назаўсёды пакінуць Сож і перабрацца ў Дняпро.

Шукаючы ўтульнага і спакойнага закутка, яны спаткалі там карасёў-старажылаў. І тыя расказалі, што на Дняпры браканьеры яшчэ горш разбойнічаюць...

Дзед-карась запытаў, чаму ж яны не перасяляюцца ў якую-небудзь іншую раку? Аказваецца, дняпроўскія карасі чакалі рэагавання пракурора на афіцыйныя заявы старшага інспектара Дзяржрыбнагляду аб глушэнні рыбы толам у Жлобінскім і Уваравіцкім раёнах. Аднак пракуроры маўчаць як рыбы і не чуюць, не бачаць, як ад выбухаў дрыжыць стары Дняпро...

Пакуль перабраліся ў Прыпяць, карасям не раз давялося ратавацца ад шчупакоў і іншых вадзяных драпежнікаў. Але, як кажуць, на тое і шчупак у рацэ, каб карась не драмаў. У Давыд-Гарадоцкім раёне бежанцам-карасям наладзілі арганізаваную сустрэчу. Там яшчэ з мінулага

года існуе дружына глушыцеляў, на чале з сакратаром райвыканкома імярэк. Не адна сотня карасёў, плотак, ліпёў і нават шчупакоў трапіла на стол адказных работнікаў раёна ў якасці закускі. Яшчэ больш загінула ў выніку такога варварскага палявання пры дапамозе ўзрыўчаткі.

Нацярпеліся карасі ў рэках Палесся. Нідзе не маглі знайсці ратунку ад глушыцеляў. Хоць гвалт крычы. Куды ні прыплывуць, усюды рвуць ім шлунні толам, калечаць, кантузяць...

Ніхто не заступіўся за іх.

І рашылі тады рыбы перасяліцца бліжэй да сталіцы. Можа, хоць там, спадзяваліся, будуць мець сілу артыкулы 125 і 145 «а» Крымінальнага кодэкса БССР.

Надоўга застанецца ў памяці карасёў падарожжа па Беразіне, поўнае жахлівых сутычак з аматарамі лоўлі рыбы ўзрыўчаткай. З пакалення ў пакаленне будуць перадаваць нямыя стварэнні легенды пра тое, як у Бабруйску патураюць шкоднікам-браканьерам, марынуючы крымінальныя справы на глушыцеляў рыбы.

Нарэшце мудрыя карасі дагадаліся схавацца ў Дзяржаўным бабровым заказніку. Ды і тут не абышлося без калатні.

Пятага, шостага і сёмага чэрвеня былі днямі чорнай жалобы не толькі для рыб, але і для бброў. Наляцеў сюды катэр «Буравеснік» з камандай падрыўнікоў Прыбалтыйскага ўпраўлення пуці Міністэрства рачнога флоту і, зрабіўшы семнаццаць узрываў, наладзіў хаўтуры не па адным бабры. У выніку бамбардзіроўкі было вынішчана мноства рыбы...

І яшчэ шмат непрыемных здарэнняў прыгадаў карасьзаіка. Але самым неверагодным і абураючым было вось гэта...

— Ні-ікога мы так не-е-е ба-імся, як міністра сельскай гаспадаркі БССР Касцюка — а-а-аўтара новага с-спосабу лоўлі рыбы,— гаворыць карась.— Яго спосаб — апошняе слова тэхнікі ў галіне масавага знішчэння нашага брата.

Не хацелася верыць карасю, што гэта абвінавачанне справядлівае, але ён запэўніў, што ёсць сведкі, што гэта могуць пацвердзіць не толькі рыбы і бабры, але і вартаўнікі моста на рацэ Гайна і наглядчыкі Барысаўскага бабровага заказніка.

Амаль кожны выхадны дзень Касцюка можна бачыць

у Дзяржаўным бабровым заказніку, куды ён наведваецца зусім не для таго, каб падыхаць свежым паветрам ці адпачыць пасля працы, забаўляючыся з вудачкай, а — на промысел.

22 чэрвеня гэтага года на Гайну прыкацілі дзве «Пабеды» і грузавая аўтамашына з дзвюма лодкамі, рухавічком і брыгадай браканьераў. Яны спусцілі лодку на ваду, устанавілі рухавічок, падключылі кантакты, паплылі караванам, электрычным токам знішчаючы ў рацэ ўсё жывое. Больш буйная здабыча выграбаецца ў лодкі, а драбната, выставіўшы к небу пузы, аддае богу душы.

— Дзе-е ж гаспадары, апекуны і нашы заступнікі?! — гнеўна ўсклікнуў карась.

І праўда — на яго баку.

Ну, колькі трэба чалавеку, нават калі ён міністр, каб досыта паласавацца свежай рыбай? Два, тры, ну, хай — чатыры кілаграмы. Навошта прыязджаць на трох машынах у Дзяржаўны заказнік і вынішчаць сотні кілаграмаў рыбы?!

Навошта!

Растлумачыць цяжка.

Вядома, у кожнага карася свая праўда: на патэльню трапіць вялікага жадання няма. Але ў тым, што ён паведаў, ёсць і другая праўда: рыбная гаспадарка пад пагрозай.

І праўда гэта — горкая.

## ТАЙНА ХРАМА

Хоць на мяне сёй-той можа пакрыўдзіцца, але я рашыў, не звяртаючы на гэта ўвагі, усё-такі раскрыць перад простымі смертнымі адну з творчых лабараторый храма навукі. Дарэчы адзначыць, што, на маю думку, крыўдзіцца будзе той вучоны, у чыю лабараторыю мы без дазволу заглянем і абнародуем тайну яго свяцілішча. І не дзіўна, бо такі «вучоны» строга прытрымліваецца прынцыпу, які лаканічна і поўна выказаны ў народнай прымаўцы: «смецця з хаты не выносіць!»

Ну дык вось, пакуль яшчэ рана, у кабінеце нікога няма і ніхто там не выседжвае навейшых навуковых ісцін,

мы разгледзім хоць бы расстаноўку мэблі. Бо вядома, што нават звычайнае крэсла мае не абы-якое значэнне ў навуковай рабоце. Кабінет, як відаць, разлічаны на дзве вучоныя персоны. Насупраць стаяць два вялікія пісьмовыя сталы, паміж імі два крэслы спінка да спінкі. Так іх паставілі невыпадкова. Напэўна, доўгі творчы вопыт падказаў вучоным, што так лепей. Але пачакаем саміх вучоных, каб пераканацца, што гэта іменна так.

Вось адзін з іх, Ніканор Пталамеевіч Тупагузкін, падыходзіць да дзвярэй і, разгладзіўшы далонямі рэдкія валасы на галаве, урачыста паварочвае ключ і паважна заходзіць у кабінет. Нават дубовы паркет не асмельваецца рыпнуць пад вучонымі нагамі. Сеў на крэсла, паклаў перад сабой стопку чыстай паперы і задумаўся. Задумаўся надоўга.

Праз некалькі хвілін заходзіць другі вучоны, таварыш Куцапернік. Каб не спалохаць навуковую думку калегі, ён прывітаўся не як звычайныя людзі, а лёгкім нахілам галавы. Таварыш таксама адказаў асцярожным кіўком, нібы галава яго была да краёў напоўнена каштоўнымі думкамі пакуль яшчэ вадкага стану.

Сеўшы на сваё крэсла, другі вучоны таксама палажыў перад сабой горку чыстай паперы і, палашчыўшы густую з рыжымі кудзеркамі шавялюру, таксама задумаўся.

Сядзелі яны спіной да спіны, утарапіўшыся адзін у адну, а другі ў другую сцяну. Можна было паставіць крэслы каля сцен, сесці тварам да твару, але тады фізіяномія калегі, безумоўна, перашкаджала б безупыннаму і лагічнаму руху думкі.

Так яны сядзелі вельмі доўга: можа, паўгадзіны, а можа, гадзіну. У пакоі ўсталявалася такая цішыня, якая сапраўды магла б апладніць любую самую навейшую навуковую гіпотэзу, нават такую, што сонца за суткі адзін раз узыходзіць і адзін раз заходзіць.

Удосталь падумаўшы, вучоны з кучаравай галавой з упэўненасцю пакуль што для самога сябе ціха зазначыў:

— Так... так...

Вучоны з рэдкімі валасамі на галаве, які думаў крыху болей, гэткім жа тонам сказаў:

— Не... не...

Кучаравая галава павярнулася налева настолькі, каб убачыць патыліцу калегі, і спытала:

— Што значыць «не»?

Рэдкавалосая галава павярнулася направа і ў сваю чаргу пацікавілася:

— А што значыць ваша «так, так»?

— Я сказаў так сабе, мой дарагі калега. А вы?

На ружовым твары рэдкавалосага вучонага паказалася ўсмешка, якая адпачасова і многае азначала і быццам бы нічога, проста так сабе. Пратрымаўшыся на твары якраз столькі, колькі трэба, усмешка знікла, і вучоны адказаў так, што знакаў прыпынку і лагічнага націску не адчувалася:

— І я сказаў не вам...

Такім чынам пытанні былі вычарпаны. Непаразуменняў ці няяснасцей не засталося. Абодва вучоныя ізноў задумаліся, схіліўшыся кожны над сваёй паперай. А думаць было аб чым.

У рэдкавалосага ў якасці каталізатара працэсу мыслення былі папяросы. У густавалосага нічога не было. Таму рэдкавалосы хутчэй скеміў, што яго калега даў вельмі няяснае тлумачэнне свайму «так». Няяснасць заключаецца ў наступным: ён сказаў «так» для сябе ці наогул «так сабе». Пасля доўгага роздуму рэдкавалосы аналітык прыйшоў да вываду, што і першы, і другі варыянт прынцыповага значэння не мае. «Маёй персоны гэта не датычыць»,— заключыў ён.

Для густавалосага была характэрна затарможаная рэфлексія, таму ён з некаторым спазненнем рэагаваў на незначальную ўсмешку свайго калегі і, самае галоўнае, на двухсэнсовасць тлумачэння «не».

Цікава, разважаў вучоны, як жа яго разумець? Ён сказаў «не вам»... Гэта можа значыць, што «не», сказанае ім, адносіцца да мяне. Гэта адмова. Значыцца, ён нешта адмаўляе. Але што ён мог думаць? Я «не» вучоны. Я другі год «не» магу пачаць сваю работу? Я «не» апраўдваю зарплаты? Але ж і сам ён такі!.. Можа, я дарэмна пра чалавека так думаю? Можа, ён сказаў сваё «не» не мне? Ну так! Ён жа і сказаў: «не вам», гэта значыць — не мне... Але...

Паколькі рашыць такую складаную загадку было аднаму не пад сілу, густавалосы звярнуўся з пытаннем да свайго калегі:

— Усё-такі чаму вы сказалі «не»? Вы што-небудзь адмаўляеце ў мяне? Бо «не» — нішто іншае, як адмаўленне.

Калега выпрастаўся і, хітра прыжмурыўшы задуменныя вочкі, запярэчыў:

— Што вы, што вы! «Не» — не заўсёды адмаўленне. Калі вы заўважылі, я сказаў два «не». Калі б паміж імі я паставіў коску, дык у такім выпадку гэта было б катэгарычным адмаўленнем. А я сказаў без коскі. У такім разе атрымалася адмаўленне адмаўлення. А гэта — нішто іншае, як сцвярджэнне.

Прадэманстраваўшы такім чынам віртуознасць свайго аналітычнага мышлення, Ніканор Пталамеевіч Тупагузкін глянуў на ручны гадзіннік: стрэлкі спяшаліся к абедзеннаму перапынку.

Аднак заўсёды насцярожаны таварыш Куцапернік улавіў у тоне калегі крыху яхідства. Іменна гэта і навяло на думку, што сусед нешта замышляе. Дагэтуль драмаўшыя вучоныя мыслі замітусіліся, нібы статак перапалоханых авечак. Уабраўшы галаву ў плечы, Куцапернік пакасіў улева вочы і асцярожненька павярнуў галаву назад, каб паглядзець на каварную патыліцу калегі. І, о жах! Першы раз за пяцьдзесят тры дні сумеснай працы таварыш Куцапернік убачыў, што Тупагузкін нешта піша, дык так хутка, як навуковую работу ён ніколі не здолеў бы пісаць. «Заяву!» — у Куцаперніка ёкнула сэрца, ён ледзь-ледзь стрымаў ікаўку. І тут жа ён рашуча ўзяў ручку, разгладзіў аркуш паперы, пасунуў чарніліцу і, не доўга думаючы, тыркнуў туды пяро — раз, другі, трэці... Але пяро было сухое. Куцапернік педаўменна паглядзеў на чарніліцу, з якой выпаўз пакалечаны павук. Здорава кульгаючы, ён накіраваўся ў шуфляду пісьмовага стала дажываць свае апошнія дні.

Спачатку Куцапернік разгубіўся, але хутка знайшоў выхад.

— Нічога! Я ўсё-такі раней напішу. Дома напішу! — рашыў ён, успомніўшы, што ў сына, які ходзіць у трэці клас, ёсць чарніліца-невыліванка.— Я напішу, выкрыю перад вучоным саветам гэтага ілжэвучонага, які за 563 дні нічога каштоўнага для навукі не прыдумаў. Я выкрыю гэтую тайну! А сабе папрашу навуковую камандзіроўку. У нас жа амаль усе ездзілі і прывозілі навуковыя працы.

А рэдкавалосы нічога падобнага не падазраваў. Ён нічога не пісаў. Ён проста трэніраваўся распісвацца. Заўтра ж дзень выплаты зарплаты.

## НЕЧАКАНАСЦЬ

Цёплай чэрвеньскай раніцай на двор слуцкай мэблевай фабрыкі імя Молатава ўехала аўтамашына 5-й сярэдняй школы гор. Слуцка, нагружаная школьнымі партамі. Гасцінна запрасіўшы дырэктара школы т. Русаковіча ў кантору і пасадзіўшы яго на мяккае крэсла, старшыня арцелі т. Вахмін з захапленнем сказаў:

— І не сумнявайцеся, Іван Сцяпанавіч! Што-што, а парты адрамантуем на славу! Праз тыдзень як новенькія будуць. Гэта ж не для каго чужога, а для нашых дарагіх школьнікаў!

Прайшоў тэрмін, і дырэктар школы наведаўся ў арцель.

— А ведаеце што, Іван Сцяпанавіч,— зноў з захапленнем сказаў Вахмін.— У мяне з'явілася ідэя! Зробім для нашых дарагіх школьнікаў новыя парты! Няхай гэта будзе для іх у новым навучальным годзе нечаканым падарункам.

На развітанне Вахмін запэўніў т. Русаковіча, што новыя парты будуць каштаваць не даражэй, чым рамонт старых. Паверыўшы ў добры намер Вахміна, дырэктар школы з прыўзнятым настроем пайшоў дадому.

Зноў пацяклі дні за днямі, але неадрамантаваныя школьныя парты так і ляжалі на двары арцелі, а новых не было відаць. Пасля кожнага напамінку дырэктара школы Вахмін супакойваў яго і кожны раз горача запэўніў, што ўсё будзе ў парадку і вучням будзе зроблена нечаканасць.

Нарэшце, за некалькі дзён да пачатку заняткаў, ён пазваніў дырэктару школы і паведаміў, што адправіў у школу... неадрамантаваныя парты...

— А дзе ж новыя? — запытаў дырэктар.— Вы ж абяцалі...

— Матэрыялу не было...— вінавата адказаў Вахмін.

— Дык чаму ж вы хоць не адрамантавалі старыя? — не суніма́ўся дырэктар.

— А на рамонт старых партаў часу не хапіла...— адказаў Вахмін і хуценька павесіў трубку.

Калі яму скажуць: т. Вахмін, вам прыйдзецца адказваць за вашу безадказнасць, ён, безумоўна, адкажа:

— Вось гэта нечаканасць!..

## ДАРАГАЯ ДРУЖБА

Дружба гэта аказалася сапраўды дарагой. Асабліва дзяржаве яна стала ў капеечку. Але аб гэтым пасля.

Перад грознымі вачыма Івана Іванавіча Цімiна стаіць, схіліўшы галаву і часта плюскаючы вінаватымі вочкамі, Аляксандр Васільевіч Анісімаў. Ён не асмельваецца не толькі пярэчыць свайму начальніку, а нават прысесці на крэсла.

— Ты што, ізноў апёкся? — грымеў перуном Цімін.

— Апёкся, апёкся...— пакорна паўтараў Анісімаў.

— Колькі страт ты нарабіў дзяржаве. На 271 500 рублёў. Ці ж гэта жартачкі? Ты ж сам таго не варты! — дапякаў Цімін.

— Не варты, не варты...— згаджаўся Анісімаў. І ў голасе і ў вачах Аляксандра Васільевіча было столькі раскаяння, пакорлівасці, гатоўнасці панесці любую кару і разам з тым такая просьба злітавацца, што душа намесніка міністра мяса-малочнай прамысловасці БССР т. Цімiна зусім размякла. Яе агарнуў жаль. Спагада ўзяла верх. Злосці як не было, але засталося жаданне вывернуць душу Анісімава. І ён сказаў:

— Кайся!!

Анісімаў нясмела падняў вочы. У іх бліснуў агаңёк надзеі.

— За развал работы ў Камянец-Падольскім трэсце масласырпрома цябе выгналі з Украіны паганай мятлой,— пачаў споведзь Цімін.— Я табе працягнуў сяброўскую руку і выручыў — пасадзіў кіраўніком Полацкага трэста масласырпрома. Як жа ты апраўдаў такое давер'е? Прызнавайся: незаконна браў надбаўку да зарплаты за выслугу год?

— Каюся, вінаваты,— прызнаўся Анісімаў.— За два гады 5600 рублёў узяў.

— Пад'ёмных 3209 рублёў незаконна сабе выпісаў?

— Каюся. Выпісаў. Але не толькі сабе. І сваяку Дубасову, якога прывёз з сабой з Камянец-Падольска, таксама выпісаў 2404 рублі. Усё-такі свайго чалавека хацелася мець на абласной базе масласырпрома,— не таіўся Анісімаў.

— Дык па якім жа тады прынцыпе ты падбіраў у свой трэст кадры?

— Каюся! Па прынцыпе: «не май сто рублёў, а май сто сяброў». Вінават, памыляўся. Сябры аказаліся непа-

дзейнымі,— чэсна прызнаваўся Анісімаў.— Выпісаў з Украіны свайго саслужыўца Васюцінскага. Ён там доўга без работы бадзяўся, пасля таго, як прагналі з пасады інжынера-тэхнолага Палонскага масласырзавода за вялікі брак галандскага сыру. Нашкодзіў ён і ў Плiскім маслазаводзе. А каб не трапіць на лаву падсудных, былы пятлюравец Васюцінскі знішчыў дакументацыю завода і ўцёк некуды. Гэты нягоднік жыў на другім прынцыпе: «не май сто сяброў, а май сто хадоў, каб можна было своечасова ўцячы».

— А падхалімамі сябе абкружаў? — дапытваўся Іван Іванавіч.

— Каюся! Было і такое. На вакантную пасаду старшага інжынера-механіка прыстроіў бухгалтара-рэвізора Бакуновіча. Хоць ён і ласы на чарку, але і напіша і падпіша акт рэвізіі, як толькі яму загадаеш. Вельмі паслухмяны рэвізор. Не шкада было пераплаціць яму па зарплаце 2797 рублёў.

Іван Іванавіч аж паморшчыўся ад такіх прызнанняў. Яму, як відаць, вельмі не падабалася такая несумленнасць Анісімава. Таму ён больш сурова запытаў:

— А чаму ж ты набіраў у сістэму масласырпрома людзей з цёмным мінулым і плямамі на сумленні?

Анісімаў пераступіў з нагі на нагу і неахвотна буркнуў:

— Хітрасць... вінават... Спадзяваўся, што людзі з падмочанай рэпутацыяй будуць мяне, як бога, баяцца і для мяне старацца.

— А ведаеш, якую шкоду яны прыносілі дзяржаве?

— Чуў, чуў краем вуха. Напрыклад, Ігнатовіч працаваў галоўным бухгалтарам Шаркоўшчынскага раймаслапрома. Махляр першакласны. Сам краў у дзяржавы і другім дапамагаў. Не горш за яго аб'ядае дзяржаву і майстар Казлоўшчынскага маслазавода Канчэўскі, які сцягнуў масла і сала на 7276 рублёў.

Пасля такіх прызнанняў Анісімава намеснік міністра загаварыў афіцыйным тонам:

— Дык скажыце вы, парэшце, таварыш Анісімаў, а што рабіў начальнік аддзела кадраў вашага трэста?

— Таварыш Генаў? Ён прасіў павысіць яму зарплату. Заяву мне пісаў такую: «Паколькі я чалавек дарослы і сямейны... прашу павялічыць мне зарплату»...

— І ўсё?

— Не, ён дапамог мне выжыць з трэста 46 работнікаў.

Добры мяняла. За паўтара года мы толькі ў Шаркоўшчынскім раймаслапромс памянялі пяць упраўляючых. Мы цацкацца не любім...

— Дык няўжо вы думаеце, таварыш Анісімаў, што пасля гэтага мы з вамі будзем цацкацца? Не, хопіць!! — і намеснік міністра катэгарычна тыцнуў у стол указальным пальцам, нібы ставячы апошнюю кропку.— Такога марнатраўства дзяржаўных сродкаў нельга дараваць!

Няхай даруюць нам чытачы, а заадно і тав. Цімін, што мы апісалі яго шчырую гутарку з Анісімавым, хоць на самай справе яе не было.

Калі б Іван Іванавіч Цімін сапраўды выклікаў на споведзь Анісімава, дык, напэўна, ён выкрыў бы ўсе гэтыя факты і зрабіў бы вывад, што сямейнасць і падбор кадраў па прынцыпе «май сто сяброў» сапраўды прыносіць дзяржаве вялікую шкоду.

## СЦЯПАН СЦЯПАНАВІЧ

Ужо вечарэла, калі Сцяпан Сцяпанавіч вяртаўся з «барахолкі». А каб праўду сказаць, дык ужо не з базару, а з трэцяга ці нават чацвёртага ларка.

Вядома, пасля такога прычасця па яго слядах да хаты можна было накрэсліць вельмі няправільную крывую.

Часам ён спыняўся каля слупа і гразіў:

— Ну, хуліган! Я табе паштурхаюся! Што, аплявуху захацеў?..— Ацаніўшы пакорлівасць слупа, Сцяпан Сцяпанавіч лагодна дадаваў: — То-та ж! Глядзі! — І ішоў далей.

Ён доўга ніяк не мог адчыніць сваю калітку, на якой была прыбіта выразаная з фанеры галава сабакі з ашчэранай пашчай. Нарэшце, пераступіўшы ў двор, ён пахіснуўся і падпёр плячыма калітку, нібы з вуліцы нехта дамагаўся яе адчыніць.

Здаравенны сабака даўно пачуў гаспадара і ветліва віляў кашлатым хвастом, нацягваючы даўжэзны ланцуг.

— Вось табе што! — Сцяпан Сцяпанавіч выставіў кукіш. Жулік быццам зразумеў, што гаспадар не ў гуморы, пакрыўдзіўся, панура апусціў хвост і сумна паплёўся ў будку.

Ад каліткі да калідорчыка была пракладзена вузенькая, з масніцу, цэментная дарожка, і Сцяпану Сцяпанавічу захацелася чамусьці прайсці якраз па ёй.

Сцяпан Сцяпанавіч адпіхнуўся ад каліткі і... ступіў міма. Зрабіў некалькі крокаў,— сцежка быццам была заміма. Зрабіў некалькі крокаў,— сцежка быццам была зачараванай. Хацеў вярнуцца назад, але толькі азірнуўся, плюнуў і зайшоў у хату.

Жонка, поўная і чырвоная, як пераспелы памідор, сустрэла не так ужо і ветліва:

— Што, справіўся ўжо нацадзіцца? Набраўся, п'янчуга!

— Ты чаго зморшчылася, як стары чаравік? — не вельмі сярдзіта спытаў Сцяпан Сцяпанавіч.

— Дурань ты, вось што! Скаціна ты п'яная! — успыхнула жонка.

Каб даказаць, што ён яшчэ такую-сякую логіку мае, Сцяпан Сцяпанавіч запярэчыў:

— Скаціна? Скаціна гарэлку не п'е і п'янай не бывае!.. А я — хто? Ну, хто я? Ка-а-зак! — І, набраўшы поўныя грудзі паветра, гаркнуў: — «Казак лихой, орел степной!..»

— Балван, чаго ты крычыш? Там за сцяной людзі!..— затыкаючы мужу рот рукой, зашыпела гаспадыня.

— Дзе? Якія і-і людзі? — і, успомніўшы, пагардліва махнуў рукой: — Гэта ж кватаранты, а не людзі... А я — гаспадар! Што хачу, тое і раблю!.. І-і-і-і... у сваім доме...

— Свіння ты, вось хто ты! Напіўся, дык ляж і спі! — параіла жонка.

— Не-е-е! Я яшчэ пайду сто грамаў...

— Па свеце б ты не хадзіў, цадзілка ты старая! Давай сюды грошы!

Гаспадыня коршунам кінулася на мужа, абедзве рукі запускаючы ў кішэні Сцяпана Сцяпанавіча. А той, не маючы сілы адчапіцца ад яе, крычаў:

— Не чапай! Не чапай грошы, амерыканец ты! Ведзьма! А то... будзе табе дудка, будзе і свісток! — Усвядоміўшы сваю абсалютную немач, заспяваў, прытопваючы: — Мая Мар'я дробна скача!..

Кватарантам за сцяной яшчэ доўга была чуваць валтузня гаспадыні і гаспадара. Ніякай асалоды ад гэтага не было, але ж вушы не заткнеш...

Сцяпан Сцяпанавіч то «драў казла» — спяваў, то на поўную моц уключаў радыёпрыёмнік, танцаваў, абшчапіўшы дубовае крэсла. Нарэшце, успомніўшы, што за ха-

лявай бота схаваны чырвонец, выйшаў з хаты, каб у бліжэйшым ларку перакуліць, як ён казаў, «службовых» сто пяцьдзесят грамаў гарэлкі...

Далёка за поўнач не мог угаманіцца «казак лихой, орел степной».

Нельга сказаць, што Сцяпан Сцяпанавіч штодня выступаў з такім рэпертуарам. На гэта ў яго, відаць, не хапала таленту. Але кожную нядзелю ён праводзіў такой чарай, якой і каня можна было б напаіць.

У буднія дні працаваў. Праўда, нічога карыснага для людзей не рабіў. Купіўшы за паўцаны тры-чатыры пары ботаў з дзюркай ці разрэзам, ён старанна скабліў наждаком, заліваў расплаўленым воскам, замазваў шавецкім грыфам, наводзіў глянец і ў базарны дзень выносіў прадаваць, выгадваючы на кожнай пары па сто — сто пяцьдзесят рублёў.

Часам ён падбіваў падмёткі меднымі цвікамі, адкусіўшы ад іх шляпкі, каб было падобна, што падмёткі — «на вінтах».

Падмёткі яму прыносіў нейкі чалавек. Адразу па дзесяць — дваццаць пар, аддаючы за даволі нізкую цану.

Іншы раз здаралася, што Сцяпан Сцяпанавіч не прадаваў свайго «тавару». Пэўна, міліцыя перашкаджала. Але такое здаралася рэдка. І ў такіх выпадках ён не вельмі бянтэжыўся: у яго заўсёды быў пастаянны заробак — кватаранты.

Уласны дамок ён раздзяліў на дзве кватэры: у адной сам жыў, другую, разгарадзіўшы шалёўкай на тры пакойчыкі, здаваў кватарантам і за такую ласку браў з іх па 250 рублёў за кожную «шпакоўню»...

Пасля вайны горад рос як на дражджах: выраслі новыя заводы, фабрыкі, адкрываліся навучальныя ўстановы, паабапал вуліц узводзіліся рыштаванні новабудоўляў. Усё гэта рабілі людзі, якія штодня, амаль з кожным цягнікам прыязджалі на работу і сталае жыхарства ў горад. І, вядома, усім патрэбна было жыллё. Прэтэндэнтаў на кватэры было значна больш, чым кватэр, вось і вымушаны былі людзі прасіць ласкі ў сцяпанаў сцяпанавічаў.

Сцяпан Сцяпанавіч сустракаў такіх людзей ласкава, з радасцю, як дарагіх гасцей. Перш чым назваць цану сваёй «шпакоўні», ён вадзіў новага кватаранта па гародзе, хваліўся кустамі руж, геаргіняў, агрэсту, уласным садком, лавачкай пад вішняй.

— О-о-о, летам тут у нас такое хараство! Бэз, жасмін, ружы!.. жыві і дыхай!..

Наслухаўшы Сцяпана Сцяпанавіча, кватаранту здавалася, што перад ім паэт, а пачуўшы цану за пакой, у яго вушы вялі, як зялёны ліст ад кіпятку. Заўважыўшы гэта, Сцяпан Сцяпанавіч дабіваў наймальніка цынічным довадам:

— Вы, канешне, можаце пахадзіць, пашукаць лепшую кватэру, толькі чэсна скажу, усе, хто здае кватэры, такія жывадзёры, як і я. Усе яны сцяпаны сцяпанычы. Ад нас, брат, пакуль што не ўцячэш!.. Не мне, дык другому будзеш плаціць! І нічога не зробіш. Я, у параўнанні з другімі, яшчэ душу маю. І, улічыце, дровы мае, асвятленне за мой кошт...

Як правіла, кватарант заставаўся.

Апроч апісаных сродкаў існавання, перад Сцяпанам Сцяпанавічам адкрылася новая крыніца лёгкага заробку. Гонар адкрыцця не яму належыць, а Стасіку, сыну, хлапчыне, які пражыў дваццаць сем зім. За гэты час чатыры зімы правучыўся ў школе, тры — адслужыў у войсках сувязі ў якасці тэлеграфнага слупа, як казаў Сцяпан Сцяпанавіч, зімы тры недзе працаваў: ці то на заводзе, ці то ў майстэрні. Аднак працоўная дысцыпліна, частыя папрокі таварышаў на рабоце так надакучылі, што Стасік плюнуў на ўсё і заняўся спекуляцыяй.

Абзавёўся знаёмствам у адным вялікім магазіне, даставаў рэдкія тавары і выносіў на «барахолку». І хоць заробак даводзілася дзяліць з машэннікамі за прылаўкам магазіна, зарабляў добра...

Пра «сакрэты» сваёй новай прафесіі Стасік мог расказаць падпіўшы...

Набыўшы ў хаўруспіка з-пад прылаўка адрэз дэфіцытнай тканіны альбо імпартныя боцікі ці чаравікі, ён або тут жа рэалізоўваў іх, або, ляпуючыся ісці на «барахолку», перапрадаваў чэк, маючы пэўны «навар» на добрым знаёмстве.

Так і жыла сям'я Сцяпана Сцяпаныча, не ведаючы ні ў чым нястачы.

Партрэт Сцяпана Сцяпаныча будзе не зусім закончаным, калі не расказаць, што ён хоць зрэдку, але чытае газету, амаль сістэматычна слухае радыё: таму любіць іншы раз пагаварыць і аб Люксембургскай каралеве, чыю армію ён змясціў бы ў сваім чобаце, і аб міжнароднай па-

літыцы, і аб Амерыцы, каменціруючы ўсё з сваіх чыста абывацельскіх пазіцый.

Кватаранты Сцяпана Сцяпаныча пад пільным яго наглядам. Выйдзе часам ноччу і праверыць праз вокны — ці позна сядзяць. А яны такі позна не кладуцца спаць. І Сцяпан Сцяпаныч хмурыцца.

— Ну хай сабе студэнты чытаюць, яны вучацца. А гэтым што трэба? Адпрацаваў сваё, пад'еў і спі. Дык жа не, паліць святло, а лічыльнік не дрэмле, шчоўкае.— І Сцяпан Сцяпаныч заходзіць да кватарантаў.— Позненька, позненька сядзіце...

— Нічога не зробіш, нельга адставаць ад людзей, трэба вучыцца,— тлумачыў кватарант,— адсталых цяпер крытыкуюць, б'юць...

— Правільна, правільна,— згаджаўся Сцяпан Сцяпаныч.— Але вам за святло трэба накінуць чацвяртную.

— Сцяпан Сцяпаныч, мы ж дамаўляліся,— пярэчыў кватарант...

— Але ж я не ведаў, што вы адсталы і вам трэба будзе вучыцца.

Калі кватарант не набаўляў чацвяртную, Сцяпан Сцяпаныч выходзіў на двор і, пачухаўшы патыліцу, рабіў вывад:

— Несвядомыя! З такімі камунізм не пабудуеш...— Ён заходзіў у сваю кватэру і выключаў святло ва ўсім доме.

Нагласць Сцяпана Сцяпаныча не ведае межаў. І сапраўды, хто яе абмяжоўвае? Дырэктара над ім няма, вымоў яму не абвяшчаюць, на сходах не крытыкуюць, фельетонаў аб ім не пішуць. Ён жыве сам сабой.

## КАРАЛЕЎСКІ СУД ЛІТАСЦІВЫ...

Яна доўга стаяла каля прылаўка ювелірнага магазіна, разглядаючы цудоўныя і казачна дарагія рэчы. І хоць не верылася, што гэтая хударлявая старэнькая міс, так бедна апранутая, можа што-небудзь купіць тут, аднак ювелір, вельмі рухавы для сваёй паўнаты кругленькі чалавечак з заплыўшымі вочкамі, як спрактыкаваны гандляр,

здагадаўся — старая нешта купіць. Ён нават даверліва шапнуў свайму прадаўцу:

— Перад смерцю хоча зрабіць некаму падарунак.

I сапраўды, яна папрасіла хрустальную вазу. Трымаючы ў сухенькіх дрыжачых руках дарагую рэч, старэнькая міс доўга разглядала яе з усіх бакоў. I чым больш яна разглядала вазу, тым больш сумнымі рабіліся яе матавыя вочы, а васковы твар, густа спаласаваны маршчынамі, хмурнеў. Нарэшце, нібы баючыся разбіць вазу, міс таропка вярнула яе прадаўцу і выйшла з магазіна.

Ювелір, правёўшы яе пагардлівым позіркам, буркнуў:

— Старая скнара... Пашкадавала ўсё-такі грошай...

Аднак ювелір памыляўся. Міс пашкадавала прыгожую вазу.

Пераходзячы вуліцу, старэнькая міс ні разу не азірнулася па баках. Яна ледзь перасоўвала кволыя ногі, нібы на іх былі не стаптаныя чаравікі, а свінцовыя калодкі. На прахожых яна не звяртала ўвагі; у памутнеўшых вачах было столькі абыякавасці і самоты, што не маглі яе крануць ні зайздрасць да маладосці, ні раскоша багатых. На другім баку вуліцы старая спынілася, не ведаючы, куды павярнуць — направа ці налева.

У мэблевым магазіне, дзе пахла лакам і сталярным клеем, яна таксама доўга стаяла ў задуменні. Нарэшце адважылася і папрасіла люстра.

Прадавец, высокі сухапары мужчына з архаічнымі бакенбардамі, назваў цану.

— Усё роўна,— ледзь чутна адказала старэнькая міс.

Загарнуўшы ў паперу люстра, прадавец уручыў яго старой, і яна накіравалася да дзвярэй.

— Выбачайце, міс, але ж вы не заплацілі, спыніў яе прадавец.

— Я не магу заплаціць,— прашаптала яна і зноў павярнулася да выхаду.

— Як не магу? А чаму ж вы ўзялі? Тады аддайце назад люстра!

— Не магу,— ізноў прашаптала яна.

I не паспеў прадавец што-небудзь уцяміць, як старэнькая міс з усёй сілы ўдарыла шклом аб вугал стала. Гэта было так нечакана, што прадавец спачатку зусім збянтэжыўся; ён пачаў разяваць рот так, як гэта робіць рыба, калі яе выцягнуць з вады.

Вакол старэнькай міс, паводзіны якой паказаліся вельмі дзіўнымі і занадта незвычайнымі, зараз жа сабраў-

ся натоўп зявак — пакупнікі, возчыкі і грузчыкі, якія заўсёды тырчэлі ў магазіне, каб прапанаваць свае паслугі таму, хто набываў сабе шафу ці стол.

Старая міс, нібы спалохаўшыся свайго ўчынку, прыпадняла галаву і спадылба разгублена паглядзела на прысутных, аднак і не заікнулася, каб папрасіць прабачэння за тое, што зрабіла.

Прадавец некалькі разоў прапанаваў старой заплаціць за разбітае люстра, але міс упарта маўчала і адмоўна ківала галавой, ціха, але цвёрда сказаўшы:

— Што хочаце рабіце, а плаціць не буду.

Нарэшце прадавец, страціўшы цярплівасць, паклікаў з вуліцы палісмена.

Праз паўгадзіны старэнькая міс сядзела перад следчым — сэрам Весанам, які дваццаць год свайго жыцця прысвяціў служэнню каралеўскаму правасуддзю. Лысы, з чырвонымі ад натугі, блізарукімі выпуклымі вачыма сэр Весан пры допыце, як звычайна, закусіў ніжнюю губу, заплюшчыў адно вока, а другім утаропіўся на вінаватую міс, ад чаго ён сам сабе здаваўся вельмі хітрым і праніклівым. Да канца рабочага дня было дакладна ўстаноўлена імя міс — Элізабет Пірсан, падрабязна апісаны высокім юрыдычным стылем злачынства, паказанні сведак і прызнанні старой міс.

Гэта было ўчора. А сёння сэр Весан са свежай галавой пасля ранішняга кофе ўзяўся перачытваць пратакол допыту злачыннай старой. Доўгая служба юрыста навучыла сэра Весана параўноўваць учынкі людзей з адпаведнымі артыкуламі каралеўскага кодэкса і лёгка высветліць ступень злачыннасці таго ці іншага чалавека.

Аднак учарашні ўчынак Элізабет Пірсан здаваўся вопытнаму следчаму вельмі загадкавым і нават таямнічым. Спачатку сэр Весан западозрыў, што старая Элізабет проста вар'ятка, але медыцынская экспертыза ўстанавіла, што псіхіка старой не парушана. Гэта акалічнасць яшчэ больш зацікавіла следчага. Дзіўным было тое, што старая Элізабет Пірсан ахвотна і шчыра прызналася ў наўмыснасці свайго злачынства і катэгарычна адмовілася заплаціць пацярпеўшаму мэбельшчыку за разбітае люстра, адмовілася яна і растлумачыць прычыну свайго ўчынку. Больш таго, яна выказала гатоўнасць панесці заслужанае пакаранне.

Такія абставіны навялі сэра Весана на думку, што старая Элізабет Пірсан не звычайны злачынца. Вопыт пад-

казваў, што яна, напэўна, зрабіла больш цяжкае злачынства — можа, забіла каго, а каб пазбегнуць цяжкай кары і схавацца ад росшуку, яна наўмысля разбіла люстра ў мэблевым магазіне і дала сябе арыштаваць.

Пасля такога лагічнага вываду сэр Весан палічыў сваім гопарам разблытаць гэтую таямнічую справу і з юрыдычнай бездакорнасцю даказаць справядлівасць сваіх падазрэнняў.

Аднак вопытны юрыст сэр Весан памыліўся.

Выклікаўшы старэнькую міс, следчы пачаў паўторны допыт з хітрасцю. Яго твар свяціўся ветлівасцю, лагоднасцю і шчырай адданасцю, якраз так, як ён свяціўся тады, калі сэр Весан збіраўся зайсці ў кабінет каралеўскага пракурора.

Сэр Весан сустрэў старую міс каля дзвярэй і, падтрымліваючы яе за плечы, ласкава прапанаваў ёй крэсла. Прыкінуўшыся добразычлівым чалавекам, ён пачаў ласкава распытваць аб усіх падрабязнасцях жыцця аж з самога маленства. Старая спачатку гаварыла неахвотна, часта ўздыхала, часам нават выцірала слязу, але ўкрадлівы і спагадлівы тон следчага падкупіў старую і выклікаў яе на шчырасць.

Яна расказала ўсё.

Больш трыццаці год яна працавала на ткацкай фабрыцы, і хоць у яе быў сын, у якога яна жыла, але не хацела быць абузай, утрыманкай і таму працавала на фабрыцы да таго часу, пакуль дазвалялі сілы і галоўнае — вочы. І ўсё ж дрэнны зрок пачаў часта падводзіць яе,— з-пад умелых некалі рук выходзіў брак,— таму прыйшоў час, калі яе з фабрыкі звольнілі.

Апошнія пяць год яна сядзела дома, дапамагаючы па меры сіл весці хатнюю гаспадарку. Але восенню мінулага года старая занядужала, і яе надоўга завезлі ў бальніцу. За той час, пакуль яна ляжала ў бальніцы, здарылася вялікае няшчасце. Аднойчы ўначы мора хлынула на ўзбярэжжа і бязлітасна знішчыла ўсю ўсходнюю частку горада. Сын і ўся сям'я загінулі ў час паводкі. Старая засталася без прытулку, без апекі...

Страшэннае гора надламала апошнія яе сілы. Месяц яна хадзіла, выпрошваючы ў людзей міласціну, але няшчасных было настолькі многа, што на старую не звярталі ўвагі, і яна рашыла знайсці прытулак... у турме. Усё-такі — не на вуліцы начаваць, усё-такі — там нейкі кавалак

хлеба дадуць. Для гэтага яна пайшла на злачынства — разбіла ў мэблевым магазіне люстра.

Выслухаўшы да канца расказ старой, сэр Весан ад расчаравання крыху спахмурнеў. Аднак не верыць ён ёй не мог. Кожнае слова было напоўнена пачуццём асуджанасці, безвыходным горам і надзеяй на чалавечую спагаду.

— Ну, што ж,— нарэшце суха сказаў ён,— каралеўскі суд літасцівы. Улічыўшы вашы абставіны, вас, напэўна, апраўдаюць.

Ад такіх слоў старая збянтэжылася, на вачах паказаліся слёзы, і яна пачала прасіць следчага:

— Злітуйцеся, сэр! Пашкадуйце маю старасць, дайце мне прытулак. Не выганяйце на вуліцу. Мне ўжо не доўга засталося жыць.

Калі сэр Весан застаўся ў кабінеце адзін, ён прагнаў ад сябе жаласць: юрыст не павінен паддавацца пачуццям. Сэр Весан разважаў цяпер, як служка каралеўскага закону.

— Яна зрабіла замах на прыватную ўласнасць. А прыватная ўласнасць — эканамічная аснова Брытанскай імперыі. І той, хто падымае руку на гэтую аснову, павінен панесці пакаранне.

Невядома, як сфармуліраваў сэр Весан абвінаваўчае заключэнне, але назаўтра суд прыгаварыў Элізабет Пірсан да шасці месяцаў турэмнага зняволення.

Так, старая Элізабет Пірсан была задаволена — каралеўскі суд аказаўся літасцівым.

Не менш задаволеным застаўся і сэр Весан — ён выканаў свой абавязак.

## ВЯСНОВЫМ РАНКАМ

Прыйшла вясна, ветлівая, ласкавая, ясная, шчодрая: абнаўляецца зямля, абнаўляецца жыццё...

Хораша пабыць у полі вясновым ранкам, паслухаць, як у блакіце шчабеча, заліваецца жаваранак. Паглядзіш на шырокія прасторы, ахутаныя лёгкай смугой пад ясным сонейкам, і душа напаўняецца пачуццём таямнічага чакання нечага светлага, радаснага...

З дзядзькам Сяргеем мы спаткаліся на полі. Ён агля-

даў на сваім участку пасевы пасля баранавання і, як відаць, быў вельмі задаволены. Як я заўважыў, і ў яго душа была настроена на паэтычны лад.

— Шуміць,— сказаў ён,— набіраецца сілы. Добрае жыта будзе. Як думаеш, га? То-та ж... Яно, брат, як і чалавек, ласку любіць, увагу...

Мы збочылі, каб прапусціць фурманку, на якой сядзеў інвалід Ціхон. На калёсах гарой былі накладзены фанерныя скрынкі, мяшкі, вялікія пакункі, загорнутыя ў рудую паперу.

— Што вязеш, Ціхон? Шаўкі-бастоны ці цукеркі?

— Усяго патрохі. Заходзьце ў магазін, добрае зелле прывёз — грузінскае васемнаццаты нумар,— пахваліўся Ціхон.

— Ат, гэта для забаўкі. Мне б больш сярдзітае,— усміхнуўся стары.

Фурманка праехала. Дзядзька Сяргей закурыў і, узяўшы мяне пад руку, павёў па полі.

— Не спраўляецца вазіць,— кіўнуў у бок фурманкі дзядзька Сяргей.— Трэці раз на тыдні ездзіў у райсаюз. Купляць болей сталі. Штогод цэны зніжаюцца. Як думаеш, чаму?

Мой адказ яго не зусім задаволіў. Ён хітравата падміргнуў і пачаў тлумачыць па-свойму:

— Вядома, багацейшымі сталі, і прадуктаў болей, і тавараў. Але, брат, не ў тым сакрэт. Чалавек цяпер другую цану мае, чалавек даражэйшым становіцца. Вось чаму. Калі чалавека лічыць нізашто, тады рэчы бяруць над ім уладу. А ў нас, як бачыш, чалавек узяў уладу над рэчамі.— Дзядзька Сяргей доўга ішоў моўчкі, аб нечым успамінаючы, і потым дадаў:— Ты малады, не помніш таго... А я помню... Помню, якую ўладу мела над чалавекам зямля. З іконамі, з малітвамі да яе хадзілі, прасілі, каб урадзіла. Бог і зямля роўнымі былі для чалавека. А цяпер...— дзядзька Сяргей усміхнуўся і жартаўліва дадаў: — Цяпер я сам бог. Што закажу ёй, тое і дасць.— Хоць сказаў ён гэта жартаўлівым тонам, але ў адказе адчувалася яго сіла і ўлада над зямлёй. Прыемна было слухаць яго спакойны голас, яго ўпэўненыя разважанні.

Зрабіўшы яшчэ адну доўгую паўзу, дзядзька Сяргей нечакана загаварыў зусім аб іншым:

— А там і цяпер чалавека нізашто ставяць. Вазьмі хоць бы тых жа французаў ці англічан. Што год, то тужэй і тужэй зацягваецца пятля на простым чалавеку. Чытаў у

газеце? За пасляваенныя гады ўсё падаражэла амаль удвая. Шкада людзей.— У голасе дзядзькі Сяргея чуліся спагада і нават прыкрасць.— Вядома, гэта іх справа ладзіць сваё жыццё. Ад імперыялістаў літасці чакаць няма чаго, самім трэба... Ды яны, відаць, і самі зразумелі, што правіцелі іхнія нічога не варты, калі ўсё даражэе. Грош цана іхняму ўраду.

Такое параўнанне вартасці ўрада і цэн на тавары мне падабалася. Дзядзька Сяргей заўважыў гэта.

— Часам успамінаеш простых французаў, італьянцаў, думаеш пра іх... Хутчэй бы яны ўжо навялі парадак. Што там цацкацца... Уздыхнулі б лягчэй. Прагналі б з свае зямлі бізнесменаў, дый ладзілі б сабе жыццё. Глядзіш — і Амерыка ўціхамірылася б.

У небе пачуўся рокат самалёта. Дзядзька Сяргей задраў галаву, прыжмурыўшыся, паглядзеў і сказаў:

— Наш. Зараз пачнём падкормку пасеваў. Вунь бачыш дзяўчат са сцяжкамі? Гэта рэгуліроўшчыкі нашы, сігнальшчыкі. Вось як... Запраглі мы і самалёт. Вялікая палёгка чалавеку.

А жаваранак звініць, свідруе блакіт. Дзядзька Сяргей задзірае бародку, каб угледзець яго пад сонцам. Але дзе ты яго ўбачыш! Жартаўлівае сонца казыча ў носе залацістымі пасмамі праменняў. Дзядзька набірае поўныя ноздры свежага паветра і чхае раз, другі, трэці...

— Будзь здароў!

Дзядзька Сяргей кіўнуў галавой.

— От, чарцяка, куды забраўся. Весялун!

Стары прысеў, ласкава правёў рукой па кусціку руні.

— Скажы ты, вясна... Ану, прыгледзься... Бачыш, як выпростваюцца кволыя сцяблінкі, як цягнуцца яны да сонца, набіраюцца сілы, зелянеюць. А прыкладзі вуха да зямлі — пачуеш, як варушацца маладыя карэньчыкі, як п'юць яны сокі шчодрай зямелькі...

Слухаючы дзядзьку Сяргея, здавалася, што і ён глыбока пусціў карэнні ў зямлю і не адарвеш яго, не зрушыш з месца гэтага дужага, каржакаватага чалавека. Лёгкі ветрык пяшчотна варушыць яго валасы, крапутыя сівізной.

Недзе за ўзгоркам спакойна і роўна грукоча трактар. Яго не відаць, але ён тут зусім блізка; вунь стайкі шпакоў і гракоў адстаюць ад яго, узлятаюць, садзяцца на раллю і зноў узлятаюць.

— Колькі дабра будзе! — стары ледзь прыкметна кіў-

нуў галавой і павольна абвёў вачыма шырокае зялёнае поле.

— Усё, што расце, усё, што цвіце,— усё для чалавека, для яго шчасця.

## ПЕРАД СВІСТКОМ СУДДЗІ

Не так даўно Мінск віншаваў сваіх лепшых майстроў спорту. Старшыня Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР Канаплін выдаў загад, у якім гаварылася:

«У сувязі з выдатным выступленнем на фізкультурным парадзе прэміраваць намесніка старшыні камітэта Някрасава В. А. 2800 рублямі...» І далей былі пералічаны прозвішчы яшчэ дваццаці сямі ўзнагароджаных.

Трэба думаць, усе ўзнагароджаныя паказалі ўзоры спрытнасці, сілы і вынослівасці?.. Напэўна, гэтыя трыумфатары — новыя рэкардсмены, увенчаныя лаўровымі вянкамі? Вось яны: галоўбух А. П. Петрасяк, бухгалтар І. С. Басінкевіч, загадчык склада Д. І. Верабейчык, а затым касір, работнікі забеспячэння, кладаўшчыкі, шафёры і многія іншыя работнікі апарату камітэта.

Можа, у Беларускім камітэце так расквітнела фізічная культура, што нават бухгалтары і загадчыкі складаў яго апарату ставяць усесаюзныя рэкорды? Не зусім так. Гэтыя таварышы не засвоілі нават ранішняй фізкультурнай зарадкі.

І ўсё-такі адзін рэкорд пастаўлен тым, хто лічыцца ў спісе. Рэкардсмен — лідзіруючы ў спісе Васілій Афанасьевіч Някрасаў. За ўсю сваю нялёгкую кіруючую фізкультурную дзейнасць ён дасягнуў немалых вынікаў у асобым, ім жа вынайдзеным відзе грабнога спорту. Гэты новы від дае магчымасць грабці пры ўсякім надвор'і, ва ўсякую пару года — і ўзімку, і ўлетку. І прытым не патрэбна лодак, байдарак, водных баз, басейнаў... Былі б толькі матэрыяльныя базы: склады і дзяржаўная каса.

У спорце Някрасаў засвоіў толькі адно: ён ведае — спорт карыстаецца любоўю і падтрымкай савецкага народа і савецкіх арганізацый. І вось Някрасаў энергічна спе-

кулюе па любові да спорту. Някрасаў не толькі заграбае сам, ён і надграбае для патрэбных людзей.

Адразу пасля таго, як Някрасава прэміраваў старшыня Камітэта Канаплін, Някрасаў выдаў загад аб узнагароджанні Канапліна сумай у 2000 рублёў. Як гавораць спартсмены, намеснік старшыні сквітаў лік.

Грабцы, падобныя да Някрасава, любяць размах. Шырокая натура Някрасава ніяк не ўкладваецца ў рамкі дзяржаўных законаў. І вось заключаюцца дагаворы з прыватнікамі. Нейкім Паповай О. М., Касцецкай Г. З. даручаецца расфарбоўка пад трафарэт парадных сукенак, сарочак і іншых відаў вопраткі. Толькі па адным з заказаў і прытым адной толькі Касцецкай, паводле самых скромных разлікаў, заплочана 70 450 рублёў, а ўсяго яна атрымала каля 245 тысяч рублёў. Ну як жа пасля гэтага не адзначыць прэміяй паслужлівых грабцоў з каманды Някрасава — галоўбуха, бухгалтара і касіра?

У 1954 годзе за поспехі ў развіцці футбольнага спорту было прэміравана некалькі чалавек. Урачыстая цырымонія прэміравання выглядала вельмі своеасабліва. У кожнага, хто атрымліваў грашовую ўзнагароду, бралі 10 працэнтаў у «фонд дзядзі Васі», г. зн. у карысць Някрасава. Так, рэкардсмен-грабец незаконна «зарабіў» каля 10 000 рублёў.

Карысць новага віду грабнога спорту яго вынаходца ацаніў дасканала. Някрасаў даўно забыўся, як купляць рэчы за свае грошы. Ён прыходзіць на склад і абменьвае баш на баш пашарпаную старызну на шаўковыя вышытыя сарочкі, новенькія бастонавыя белыя касцюмы...

Шчодрасць і шырыня натуры намесніка старшыні набыла зайздросную вядомасць. Заходзіць патрэбны чалавек у гасцінны яго кабінет і гаворыць:

— Фізкультпрывітанне!

— Таго і Вам жадаю. Чым магу служыць?

— У дарозе растраціўся. Грошай бы...

— Цяжка аформіць,— уздыхае Някрасаў.

— Але сабе ж вы, Васілій Афанасьевіч, афармляеце.

— Дам, дам! — перапыняе яго Васілій Афанасьевіч.— Не вы першы, не вы апошні. Дзесяткі тысяч за дэбіторамі.

— Дзякуй! Даруйце ўжо...

— Даруем.

І, сапраўды, даруюць.

Усім удзельнікам фізкультурнага параду захоўвалася зарплата па месцы асноўнай працы. Але вось шчодры Някрасаў наперакор урадавым пастановам выплаціў да-

даткова каля 85 000 рублёў за кошт камітэта. І таксама невыпадкова. Лік выйграных ачкоў прыпісваўся не стольki спартсменам, колькі фізкультурнікам. Камандны ж склад беларускай спартыўнай дэлегацыі быў укамплектаваны з работнікаў камітэта.

Някрасаў і іншыя праяўляюць выключную выдумку і вынаходлівасць па заграбанні дзяржаўных грошай. Многія спартсмены па розных прычынах не змаглі прыняць удзелу ў фізкультурным парадзе. Усе яны ў свой час атрымалі поўнасцю спартыўную форму, за што і распісаліся ў ведамасці. Пасля гэтую форму яны здалі. Аднак ведамасць на выдачу захавана ў справаздачнасці. Так, некалькі ўзмахаў рукамі (не вёсламі) — і заграбаецца салідная сума. Някрасаўскія грабцы перасягнулі нават Чычыкава. Таму давозілася таргавацца і плаціць за мёртвыя душы, а фізкультдзядзькі ўпісваюць у раздатачныя ведамасці неіснуючых асоб і грэюць на гэтым рукі.

Па ўсім Савецкім Саюзе разгарнуўся шырокі ўсенародны рух за эканомію, а дзялкі з Беларускага камітэта па фізічнай культуры і спорту транжыраць грошы, не лічачыся ні з чым. Дрэнны прыклад заразлівы. Ад рэспубліканскага камітэта не адстаюць і абласныя. Раскраданні і незаконнае выдаткаванне дзяржаўных сродкаў толькі ў абласных камітэтах па фізкультуры і спорту Беларусі аднялі ў дзяржавы велізарныя сродкі.

У спартыўных спаборніцтвах ёсць добрае правіла: суддзя строга сочыць за выкананнем правілаў і карае парушальнікаў. Але ў Беларускім камітэце па фізічнай культуры і спорту не спяшаюцца заклікаць гэтых парушальнікаў да парадку. А свісток суддзі быў бы тут вельмі да месца.

## ШАСЦЯРОНКА

*З запісной кніжкі пісьменніка*

На тарфяніках Любаншчыны вырасла цудоўная кукуруза. Старшыня калгаса імя Молатава т. Кнышэвіч вадзіў па полі і паказваў участак за ўчасткам. Сакратар райкома, старшыня райвыканкома і дырэктар МТС задаволена ўсміхаліся, але не вельмі выказвалі сваё захапленне. Рухавы

старшыня калгаса не скрываў сваёй радасці. Ён то выламваў здаравенны пачатак, вылушчваў яго і паказваў начальству, то, схаваўшыся ў кукурузным гушчары, крычаў:

— О, як у лесе! Глянеш угару — шапка валіцца! — і ён задзіраў галаву, і шапка сапраўды валілася.

— Цэнтнераў дваццаць пяць пачаткаў будзе і тон пяцьдзесят сіласнай масы з гектара. Як вы думаеце, будзе? — цікавіўся старшыня.

— Так, кукуруза вырасла добрая,— спакойна згаджаўся сакратар райкома.— Толькі парадак ёй трэба даць. А як у вас з сіласаваннем?

— Сіласуюць ужо. Думаю, управімся,— сказаў дырэктар МТС.

— Ну вось, дырэктар абяцае ўправіцца,— у быстрых вачах старшыні хаваліся нейкія хітрынкі.— Можа, пойдзем паглядзець, як упраўляюцца механізатары?

За будынкамі фермы навалена цэлая гара кукурузы, падвезенай да сіласарэзкі. Трактарыст сядзеў, прытуліўшыся да задняга кола трактара, і спяваў:

— «Я нікому не скажу пра сваю тугу...»

— Ну, што? Стаім? — прывітаўшыся, запытаў сакратар райкома.

— Трохі стаім, трохі сядзім,— нявесела пажартаваў трактарыст.

— Даўно?

— Ды ўжо трэці дзень. Шасцярэнька паламалася ў сіласарэзцы.

Дырэктара МТС чамусьці зацікавіла сцяблінка кукурузы пад нагамі, ён нахіліўся, падняў і пачаў яе ўважліва разглядаць. З сіласнай траншэі, напалавіну засыпанай рэзанай кукурузай, высунулася галава старога калгасніка.

— Уга, колькі начальства адразу прыехала! — здзівіўся ён.— Дзень добры вам! — і, падміргнуўшы свайму старшыні, сказаў: — Ну, цяпер, напэўна, пусцім сіласарэзку, а? Уся ўлада тут.

— Ну, што маўчыш, дырэктар? Людзі чакаюць,— запытаў сакратар райкома.

— Няма ў нас запасной шасцярэнькі. Што я магу зрабіць? — апраўдваўся дырэктар МТС.

— А такое дабро! — калгаснік разгроб рэзаную кукурузу, засунуў глыбей руку, выцягнуў жменю сіласу, панюхаў і аж крэкнуў ад прыемнасці.— А-ах, якое дабро! Чысты адзікалон! А прападзе! Тут жа нашы тысячы ляжаць. Бітоны малака. А шасцярэнька — што? Капейка.

І праз якую капейку — тысячы пагніюць. Тут нашы жартавалі: кукуруза — неспакойная культура. А я вам скажу — эканамічная яна культура, вельмі рэнтабельная! — Слова «рэнтабельная» стары гаварыў з нейкім асаблівым смакам.— А вось механізатары нашы не рэнтабельныя. Псуюць дабро. Гэта ж кансерва, багацце, а не якая-небудзь капеечная шасцярэнька.

— Ведаю, ведаю, сам бачу,— не стрываў дырэктар МТС.— Я ўжо тэлефон разбіў, звонячы ў абласное ўпраўленне і ў Сельгасснаб. Няма, не даюць шасцярэнек. А я што? З неба дастану?

— Ну і што, прападаць дабру?

— Не прападзе. Зараз прыгоняць сіласарэзку з іншага калгаса. Я ўжо даў распараджэнне.

— То іншая справа,— стары адышоў убок.

— Таварыш сакратар! От я забіраю сіласарэзку ў іншым калгасе. Гэта ведаеце, што выходзіць, як у бога за пазухай. Ім што? План сяўбы кукурузы давялі, план будаўніцтва траншэй вызначылі, а потым начарцілі зводачкі і сядзяць, чакаюць ад нас лічбаў. А колькі ў нас сіласарэзак і клубнярэзак, ці ёсць да іх запчасткі — гэта, відаць, у зводку не трапляе.

## ВЫБАЧАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА!

### ЗАГАДЧЫКУ РАЙСЕЛЬГАСАДДЗЕЛА ДЗ-СКАГА РАЁНА

Добры дзянёк, шаноўны Пётр Кузьміч! Дазвольце Вас павіншаваць з надыходам цудоўнейшай пары года — вясны. Вы ўжо і самі, пэўна, заўважылі, што сонейка паласкавела, падабрэла. Без спазнення прыляцелі з выраю гракі, шпакі, жаўранкі і іншая пярнатая жыўнасць і весела, дзелавіта загаманілі на вясновыя тэмы. Нават вароны і тыя прызналі, што вясна — гэта ўжо факт. Фа-акт! Яны, вядома, у вырай не лятали і сяк-так тут зіму праваронілі, а цяпер заварушыліся.

Праўда, Вы таксама ў вырай не лятали, а зімавалі дома і, пэўна, не столькі ад злога намеру, колькі ад сваёй наіўнасці, думалі, што вясны ў гэтым годзе зусім не будзе.

Таму грымнула яна вельмі нечаканай для Вас. Вы чакалі не вясны, а дырэктывы аб вясне. Затое і вясна Вас, Пётр Кузьміч, крыху падкузьміла,— не чакае, хоць работы ў Вас — непачаты край. Асабліва з планамі веснавой сяўбы.

Вы забыліся пра адну прыказку, якую вельмі любіў паўтараць Ваш дзед: «Рыхтуй сані летам, а калёсы зімой», і таму плана веснавой сяўбы зімой не рыхтавалі.

Толькі 6 сакавіка Вы дагадаліся, што вясна ўсё-такі будзе і ў гэтым годзе. Апрача таго, Вы ўспомнілі яшчэ і пра тое, што план веснавой сяўбы павінен быць даведзены да кожнай гаспадаркі Вашага раёна не пазней 10 сакавіка.

Каму-небудзь другому было б не пад сілу рашыць такую складаную задачу ў такі кароткі тэрмін, але Вы, як кажуць, не лыкам шыты, хутка дадумаліся.

6 сакавіка Вы напісалі цыркуляр усім сельсаветам. Там найстражэйшым чынам патрабавалася, каб «за адзін дзень развярстаць план па вёсках, а ў вёсках па кожнай гаспадарцы»; затым за другі дзень «па спіску пад распіску аб'явіць кожнаму селяніну з тым, каб усе ведалі пра свой план».

І нарэшце за трэці дзень усе тыя «спіскі і распіскі прыслаць у аддзел сельскай гаспадаркі». 8 сакавіка гэтая дырэктыва была на руках у старшынь сельсаветаў.

Хоць тон Вашай дырэктывы быў суровы, але ў сельсаветах яе сустрэлі несур'ёзна. «Ну і жартаўнік наш Пётр Кузьміч!» — сказалі там.

Выбачайце, калі ласка, паважаны Пётр Кузьміч, але нас таксама вельмі цікавіць: Вы пажартавалі з гэтай дырэктывай ці сур'ёзна пісалі? Калі ўсур'ёз, то скажыце, калі ласка, Вы адны думалі ці Вам хто дапамагаў? А калі зусім не думалі, то цікава, што ж Вы рабілі цэлую зіму?

Выбачайце, калі ласка, але мы вельмі непакоіліся, каб Вы следам за зімой і вясну не праваронілі са сваімі дырэктывамі ў стылі «падпісана — і збыта з рук». Бывайце здаровенькі і не забывайцеся, што пасля вясны абавязкова прыйдзе лета. Так ужо здаўна вядзецца, і добрыя людзі да гэтага прызвычаіліся, як прызвычаіліся да своечасовага планавання гаспадарчых работ. Ох, гэта планаванне!..

## СТАРШЫНІ КАЛГАСА «СПАРТАК» КАР-СКАГА РАЁНА

Эх, Аўхім, Аўхім! Да чаго Вы дажылі, да чаго дастукаліся! Ні павагі Вам, ні аўтарытэту. Які ж Вы тады кіраўнік, які ж гаспадар, калі рэпутацыя Ваша падмочана. А падмачылі Вы яе гарэлачкай. Загубіць яна Вас, калі не ачухаецеся. Паслухайце добрую параду ды гляньце хоць раз цвярозым вокам на тыя справы, што Вы творыце, пакуль не позна. З п'яных вачэй Вы нават не разгледзелі, што прысмакталіся да Вас (а хутчэй да калгаснай гаспадаркі) махляры ды абібокі, як ракушкі да днішча баржы. Няўжо Вы не можаце ачысціцца ад прайдзісветаў Мікіты і Анціпа, якія не жадаюць дабра ні Вам, ні калгасу? Адзін з іх палазы і абады гне, ды яшчэ як гне! Толькі не ў той бок, не ў калгас. Другі ж зачасаўся ў ваўначоску і прыбыткі з яе ўсё вычэсвае ў сваю кішэню. Ці не з Вамі ён прапівае тыя прыбыткі, га?

Дарэчы, у Вас улік які-небудзь вядзецца? Хто ім займаецца?.. Два рахункаводы... Так, так.

Калі верыць вашай канцылярыі, дык кожная свіння з калгаснай фермы з'ядала штодня па чатыры, а то і шэсць кілаграмаў мукі і макухі. А колькі бульбы з'ядае, дык і падлічыць нельга, бо ў канцылярыі гэта невядома. І ўсётакі паглядзіш на свіней з вашай фермы, дык дзіву даешся — да чаго ж яны худыя. Невыпадкова пяць штук ціха сканалі, каб не быць повадам для спісання прадуктаў.

Цікава, якія ж такія свінні з'елі ўсё тое дабро?

Дарэчы сказаць, з буйной рагатай жывёлай у Вас таксама не ўсё чыста! Ой, не чыста! Дзвюх кароў і чатырох цялят таксама давялі да магілы, а астатнія захварэлі на лішай, іх заядаюць паразіты.

Няўжо Вы, тав. старшыня, не ведаеце, што ў калгасе з паразітамі трэба весці суровую барацьбу, барацьбу на поўнае знішчэнне іх? А пара б гэта ведаць!

У Вас, як кажуць, куды ні кінь — усюды клін. Сельскагаспадарчы інвентар да веснавой сяўбы не адрамантавалі, хамутоў і пастромкаў не хапае, угнаенні на поле вывезлі не поўнасцю.

На што ж Вы, Аўхіме, спадзяваліся? Ці не на тое, што поле ўгнояць птушкі, якія прыляцелі з выраю, а забарануюць гракі ды вароны?

Адкуль ні паглядзі, відаць — нікудышны Вы кіраўнік, нядбалы гаспадар. У народзе ў такіх выпадках кажуць:

злазь з даху, не псуй гонту. Вы не чулі? Трэба прыслухоўвацца, уважліва прыслухоўвацца да таго, што гаворыць народ.

Бывайце цвярозенькі, паважаны Аўхіме! З нецярплівасцю чакаем ад Вас адказнасці, а ад райсельгасаддзела адказу.

Выбачайце, калі ласка, за шчырае пісьмо. Можа, яно Вам і дапаможа. Хоць кажуць: можа на двое варожа.

## ЗАГАДЧЫКУ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАГА АДДЗЕЛА АС-ЦКАГА РАЙВЫКАНКОМА

Не аглядайцеся па баках, Мікалай Васільевіч, іменна да Вас мы і звяртаемся. Выбачайце, калі ласка, за спазненне, але ж, як кажуць, лепш позна, чым ніколі. Вы, магчыма, і не чакалі нашага пісьма, таму выглядаеце, быццам школьнік, у якога на экзаменах знайшлі шпаргалку. Праўда, Вы з гэтага ўзросту даўно ўжо выйшлі і чарнільніцу на гузіку не носіце, на Вашым загадчыцкім стале манументам стаіць багаты пісьмовы прыбор, але тое-сёе з кепскіх звычак дрэннага школьніка ў Вас захавалася і цяпер.

Каб не гаварыць наогул, пачнём з прыкладаў па арыфметыцы. Невядома, хто Вас вучыў гэтай мудрасці, але сакрэтам звычайнага складання Вы і да гэтага часу не авалодалі і робіце такія памылкі, за якія Вас у старой школе паставілі б у куток на калені, ды яшчэ на грэчку.

Вось прыклады. Вам трэба было рашаць задачу, важную, дзяржаўную: арганізавана правесці веснавую сяўбу і ў самыя сціслыя тэрміны. Быў даведзены і графік.

Трэба сказаць, што задача гэта нялёгкая, экзамен сур'ёзны. А рашылі вы яе не так, як трэба. Распачалася сяўба, пачалі прыходзіць да Вас зводкі з сельсаветаў і калгасаў раёна. Падсумавалі Вы лічбы, азірнуліся па баках і заўважылі, што ў суседніх раёнах справы куды лепшыя, чым у Вашым. Занепакоіла гэта Вас, засмуціла. Вельмі ўжо не хацелася Вам быць сярод адстаючых. Вядомая справа, адстаючага б'юць. Тады Вы заплюшчылі вочы ад сораму і... напісалі ў зводцы для вобласці на 1407 гектараў больш, чым было пасеяна на 15 красавіка.

25 красавіка, складаючы лічбы з калгасных і сельсавецкіх зводак, Вы ізноў «памыліліся» на 2579 гектараў. Аднаго толькі льну на гэты дзень Вы «засеялі ў зводцы» замест пяці аж дваццаць гектараў.

На 1 мая Вы яшчэ раз паўтарылі такую ж намылку.

У школе звычайна настаўнік сочыць за тым, як вучань рашае задачу, правярае яго кемлівасць. Дзяржава таксама, як добры настаўнік, сочыць і правярае выкананне задач. Для гэтага існуе ўлік, справаздачнасць і адпаведная дзяржаўная ўстанова — ЦСУ СССР.

А вось Вы, паважаны Мікалай Васільевіч, чуючы за сабой грашкі, некалькі дзён не дапускалі інспектара ЦСУ да Вашых зводак, пабойваліся, каб не выплыла наверх Ваша «кемлівасць». Пакуль райінспектар дабівалася да Вашых зводак, Вы зводзілі канцы з канцамі — перапраўлялі лічбы ў калгасных зводках, але і гэта не дапамагло.

Карацей кажучы, з першым дзеяннем арыфметыкі ў Вас не ўсё добра. У школе за такое складанне вучню ставілі б двойку ці зусім адзінку і пасадзілі б на месца. А Вы ж не школьнік. Якую ж Вам адзнаку паставіць?

Ах, Вы самі ведаеце? З уласнага вопыту? Цікава, цікава...

Значыцца, у мінулым годзе за такія ж «памылкі» пры сяўбе азімых Вы атрымалі суровую вымову? Вам запісалі такую адзнаку і пасадзілі на тое самае месца, гэта значыць пасаду, на другі год?

Выбачайце, калі ласка, за шчырасць,— на першы раз, магчыма, гэтага было даволі,— трэба ж было навучыць, але дзіўна — чаму і сёлета мірыцца з такім другагодніцтвам Маладзечанскае абласное кіраўніцтва сельскай гаспадаркі?

Мікалай Васільевіч, чаму Вы так неспакойна сябе адчуваеце і азіраецеся па баках, быццам шукаеце спагады? Ага, вось яно што! Не Вы першы, не Вы апошні аматар па штучным завышэнні лічбаў у справаздачнасці. Сапраўды, хоць рэдка, але такія індывідыумы сустракаюцца.

Такое ж пісьмо з нецярплівасцю чакалі кіраўнікі Давыд-Гарадоцкай МТС. Але мы лічым за лепшае надрукаваць вытрымку з пісьма пракурора Пінскай вобласці, які коратка і ясна паведамляе, што «кіраўнікі Давыд-Гарадоцкай МТС дапускалі антыдзяржаўную практыку прыпіскі да дзяржаўнай справаздачнасці, штучна завышалі паказчыкі выканання плана трактарных работ за кошт нібыта праведзенай у калгасах раскарчоўкі, у той час калі ніякай раскарчоўкі не рабілася.

На ўстаноўленых фактах заведзена крымінальная справа, расследаванне якой даручана пракурору Давыд-Гарадоцкага раёна».

Сказаць па праўдзе, Вам весялей не стала ад таго, што знайшоўся «мудрэц», падобны да Вас.

Жадаем Вам, шаноўны Мікалай Васільевіч, сур'ёзна вывучыць не толькі правілы арыфметыкі, але і савецкія законы.

## СТАРШЫНІ Л-СКАГА РАЙСПАЖЫЎСАЮЗА

Добры дзень, Аляксандр Дзмітравіч!

Пішу я Вам і вельмі баюся, каб Вы не падалі на мяне ў суд за мае сардэчныя словы... Хаця які там можа быць суд, калі гутарка ідзе паміж намі сам-насам, без прысутнасці Вашых падначаленых, якія вельмі ўжо лёгкія на нагу прыбегчы ў суд і быць за Вас сведкамі...

Я звяртаюся да Вас, Аляксандр Дзмітравіч, па сутнасці Вашай справы, якую разбіраў нарсуд. Заварылася гэтая каша ў дзень справаздачнага сходу праўлення райспажыўсаюза. Памятаеце, Аляксандр Дзмітравіч, такі малюнак: у фае клуба — буфет, на сценах — дыяграмы і плакаты на гандлёвыя тэмы, на твары ў Вас — самаўпэўненасць і задаволенасць. У наяўнасці быў поўны асартымент Вашых ласкавых слоў і ўсмешак розных адценняў. Амаль у кожнага ўпаўнаважанага на справаздачны сход Вы, Аляксандр Дзмітравіч, прасілі, як у гарачую пару ніць:

— Толькі, калі ласка, паболей крытыкі! Крытыкуйце, не гледзячы на персоны! Не зважаючы на персоны! Не баючыся персон!..

Такія Вашы заклікі да крытыкі ці не былі толькі самарэкламай? Нібыта глядзіце, людцы, які я справядлівы!..

Цэлую гадзіну Вы, Аляксандр Дзмітравіч, чыталі справаздачны даклад. Прамова Ваша цякла плаўна, без напружання, толькі час ад часу на спакойнай гладзі прамовы з'яўляліся адзнакі крытыкі ў адрас нямногіх (тых, якія не прысутнічалі на сходзе) работнікаў гандлёвай сеткі. Адным словам, усё ішло як па масле.

— Мы працавалі на ўсіх сто працэнтаў! Прыбытку ў нас — 100 тысяч...

А ў канцы прамовы была і гарчыца.

— Але страт і растрат у нас таксама 100 тысяч рублёў,— жаласлівым голасам ціхенька прызналіся Вы.

Чаму так многа страт і растрат — Вы, Аляксандр Дзмітравіч, не расказалі. На дапамогу Вам прыйшоў пайшчык тав. Капейкін. Не баючыся Вашай персоны і замест «не гледзячы», паказваючы на яе пальцам, тав. Капейкін рас-

казаў сходу, як Вы, Аляксандр Дзмітравіч, абаранялі растратчыкаў, і выставіў супраць Вас дзесяткі фактаў: і тое, як вы не хацелі бачыць злачынстваў рэвізора-кантралёра нейкага прайдзісвета Шылы, і тое, як Вы, насуперак рашэнню праўлення райспажыўсаюза, узялі зноў на работу рэвізорам хабарніка і п'яніцу Зіноўева, і тое, што Ваша, Аляксандр Дзмітравіч, персона не плоціць па працягу двух гадоў кватэрнай платы і бясплатна карыстаецца матэрыяламі, дровамі райспажыўсаюза і што Ваша вяльможнасць часценька, нібы ідалу, робіць паклоны гарэлачцы...

Вы, Аляксандр Дзмітравіч, прабавалі перапыніць выступленне Капейкіна, аднак гэта Вам не ўдалося. Ну і Капейкін! Ён да канца раскрыў прычыны, чаму такія дрэнныя ў райспажыўсаюзе справы.

А неўзабаве ў раённай газеце «Кліч Радзімы» была змешчана за подпісам Палцпіннікава карэспандэнцыя, у якой зноў жа крытыкавалася работа райспажыўсаюза.

— Палціннікаў? Хто ж такі Палціннікаў? — ламалі Вы галаву і здагадаліся, нарэшце, што гэта ж Капейкін, той самы, што крытыкаваў на сходзе. І Вы, доўга не думаючы, напісалі наступнае:

«У нарсуд Л-скага раёна.

Настаяшчым прашу прыцягнуць да суровай адказнасці Капейкіна Давыда за аскарбленне асобы. Сам ён не з'яўляецца ўпаўнаважаным, а прыйшоў на сход, з мэтай зняважыць і з ярасцю кідаў на мяне розныя несастаяшчыя факты...» Пазнаеце Ваш стыль?

На судзе Вашы сведкі, падначаленыя Вам Іёшка, Мошка, Крошка і Кацнельсон, са скуры лезлі, каб абяліць Вас, даказаць Вашу невіноўнасць, тым самым абвінаваціць тав. Капейкіна. Аднак ні Вам, ні Вашым сведкам не ўдалося засудзіць чалавека за крытыку. Наадварот, на судзе яшчэ шырэй, дзякуючы суддзі і засядацелям, была раскрыта Ваша безгаспадарчасць, былі выяўлены факты злоўжывання Вамі сваім службовым становішчам.

Здавалася б, што на гэтым Вы супакоіцеся. Але дзе там!

— Я?! Мяне крытыкаваць?! Маю персону?! — і падалі справу на перасуд у Бабруйскі абласны суд.

Я, Аляксандр Дзмітравіч, іду да Вас на дапамогу: не толькі ў Бабруйску, а на суд грамадскасці ўсёй рэспублікі перадаю Вашу справу глушыцеля крытыкі.

Выбачайце, калі ласка,— такую заразную хваробу лячыць трэба тэрмінова. Рад Вам дапамагчы ў гэтым.

### КІРАЎНІКУ БЕЛАРУСЭНЕРГА БАТВІННІКУ Я. Я.

З лёгкім парам Вас, Якаў Яфімавіч, з лёгкім парам!.. Вы толькі што з ванны вылезлі, распарыліся там, размякчэлі... Я спецыяльна і час такі выбраў для адведзін, бо Вы зараз у добрым гуморы, а таму і размова ў нас будзе больш лагодная. Вы здзіўляецеся, як гэта я ў такі позні час знайшоў Вашу кватэру. Ды гэта ж прасцей простага. Да чыёй жа кватэры будзе праведзена трохфазная электралінія, як не да вашай. Апрача таго, з Вашых вокнаў льецца такое яркае святло, нібы само сонца зайшло да Вас на чай.

Няўжо Вы, Якаў Яфімавіч, не здагадаецеся, па якой такой справе я зайшоў да Вас? Выбачайце, калі ласка, але ёсць пэўныя весткі, што ў Вашай кватэры і ў кватэрах Вашых падначаленых з Беларусэнерга вялікую пашану маюць «жулікі». Ну, чаго ж Вы так вінавата ўхмыляецеся? Быццам не ведаеце, якія такія жулікі? Гэта такія хітрыя прыстасаванні, камбінаваныя разеткі і электрапатроны, пры дапамозе якіх можна красці электраэнергію.

Ваша кватэра хоць і не прамысловае прадпрыемства, але ж трохфазная падводка — не выпадковасць. Звычайная не вытрымлівала такога напружання, каб Вы маглі купацца ў электраэнергіі, ваду ж у ванне Вы нагрэлі з падмогай «электражулікаў» у выглядзе велізарнай спіралі, і кватэру ацяпляеце электрапечамі, і ўсе стравы Вам гатуюць не на дровах, а на электрапліце. Карацей кажучы, Вы жывяце ў такой электрараскошы, як сапраўдны электрычны бог. Скажыце, калі ласка, шаноўны Якаў Яфімавіч, за чый кошт у Вас такія выгоды? За дзяржаўны? Пярэчыць не буду, бо недарма ж Вы і на парог не пускаеце ўчастковага кантралёра.

Шаноўны Якаў Яфімавіч, Вы, безумоўна, не заходзіце да жыхароў 9-га Чыгуначнага завулка ці Іванаўскай вуліцы. А не пашкодзіла б калі-небудзь наведаць. Вы пачулі б, як там лаюць вашага брата за тое, што электралямпачкі не гараць, а тлеюць. Схадзіце, калі ласка, самі ці парайце Фрэнкелю, ён жа ўсё-такі дырэктар Энергазбыта.

А Вы тым часам можаце па суседстве зайсці ў госці да Лазара Пятровіча Кейліна. Ён, загадчык гаспадаркі Бела-

русэнерга, відаць, раскажа Вам пра сваю электрабяду: як падвялі яго «жулікі». Справіўшы наваселле, Лазар Пятровіч забраў электрычнасць і, выціскаючы з яе апошнія сілы, прымусіў і страву гатаваць, і кватэру ацяпляць, і бялізну прасаваць, і ўсё гэта рабілася не ўпоцемку, а пры яркім электрычным святле. Аднак Кейлін забыўся пра тое, што ў яго хатнім камбінаце бытавога абслугоўвання ёсць і такая фігура, як «рахункавод», які вісеў у кутку і матаў усё на вус. У канцы месяца лічыльнік адлічыў, што з дапамогаю «жулікаў» выдаткавана электраэнергіі амаль на 300 рублёў. Кейлін вельмі пакрыўдзіўся на лічыльнік, абвінаваціў яго ў махлярстве, несумленнасці і, назваўшы яго паклёпнікам, адмовіўся плаціць за кілаваты, а лічыльнік зняў з пасады рахункавода. Дырэктар Энергазбыта Фрэнкель зацвердзіў такое распараджэнне таму, што падобная бяда здарылася з ім самім. Ён жа таксама любіць у ванне пялёскацца. Дарэчы, Якаў Яфімавіч, спытайце ў Фрэнкеля, якія меры ён прымае да растратчыкаў электраэнергіі. Заадно пацікаўцеся, чаму ён не аштрафаваў Вас, сябе і Кейліна за выкарыстанне ў сваіх кватэрах «жулікаў» для крадзяжу электраэнергіі. «Жулікаў» у электрасетцы трэба выяўляць.

З электрапрывітаннем

*Вожык.*

## ПРАКУРОРУ ВАРАШЫЛАЎСКАГА РАЁНА г. МІНСКА т. СЯДОВУ Ф. М.

Добры дзень, паважаны таварыш пракурор!

Калі ў аднаго злодзея запыталі, за што яго судзілі, ён адказаў: «За нядбайнасць. Цялушку ўкраў, а карову пакінуў». Гэта стары анекдот. А вось свежая быль з Вашай практыкі. Нядаўна Вы перадалі ў суд крымінальную справу на аднаго злодзея. І справа гэтая вельмі нагадвае толькі што расказанае здарэнне.

Вы рашылі судзіць злодзея за тое, што ён, вобразна кажучы, сцягнуў вяроўку, калі краў кароўку. Выбачайце, калі ласка, але па-вашаму выходзіць, што зладзюга зрабіў дзяржаве большую шкоду, украўшы вяроўку, а не карову. Вось як гэта здарылася.

На піўзаводзе «Беларусь» вартаваць авечак даручылі ваўку, ці (гэта адно і тое ж) загадчыкам складаў там працаваў Пракопчык. Аднойчы (каб жа аднойчы!) ён украў 725 кілаграмаў ячменю і прадаў яго спецыялісту па

куплі крадзенага — Гушчы, які пастараўся збыць той ячмень як мага далей — аж у Магілёўскую вобласць. Але чэснае вока бачыла далёка і Вам паведаміла пра гэты ўчынак. Разгарнуўшы ўсе кодэксы, Вы падабралі адпаведны артыкул, дапыталі сведак і — цяп-ляп — справа, стук-грук — суд. А перад гэтым Вы нават зрабілі рэвізію і правялі экспертызу. Толькі не зусім удала выбралі экспертам Лямешку Ф. Ф.

Выбачайце, калі ласка, але ж хай будзе Вам вядома, гэтага Ф. Ф. Лямешку судзілі, калі ён, будучы бухгалтарам гэтага ж піўзавода, злоўжываў, і ў выніку гэтага завод меў страт на 561 802 рублі.

Гэтая рэвізія і экспертыза,— а вядома ж — воран ворану вока не выклюе — на тым складзе, дзе краў Пракопчык, выявіла аж 2251 кілаграм лішкаў ячменю. Дзіўная рэвізія,— са склада ячмень крадуць, а яго прыбаўляецца. Вас гэта не здзівіла, шаноўны Фёдар Максімавіч, бо Вы, як відаць, у сваёй пракурорскай практыцы бачылі і не такія цуды.

Аднак, як толькі справа дайшла да суда, дырэкцыя піўзавода падклала Вам свінню. Дырэктар выявіў, што разам з вяроўкай украдзена карова. Ён са слязамі на вачах прасіў вярнуць заводу не сем цэнтнераў украдзенага збожжа, а дзевятнаццаць тон. Суд, перагартаўшы справу, устанавіў, што следчыя органы «слана не прыкмецілі», і рашыў справу перадаць на даследаванне.

Атрымалі Вы такое азначэнне суда і нос паморшчылі: лішні клопат. А каб лягчэй збыць яго, Вы рашылі, што можна паверыць чэснаму слову злодзея Пракопчыка. Вы запыталі ў яго:

— Куды падзеліся 19 тон збожжа?

— Маглі пайсці ў вытворчасць,— адказаў той.

Вы запісалі гэта ў пратакол, як ісціну. Вядомая справа, што збожжа магло пайсці ў вытворчасць, але ж не пайшло. І Вас гэта зусім не ўсхвалявала, таму што Вы не хварэеце душою за дзяржаўнае дабро. Ні Вы, ні вашы следчыя не шукалі слядоў ад дзяржаўных складоў да зладзейскіх схованак. А гэта ж Ваш службовы абавязак! Нядбайна Вы паставіліся да яго.

Дарэчы, у Крымінальным кодэксе БССР ёсць артыкул 196, дзе нешта сказана пра нядбайныя адносіны да сваіх службовых абавязкаў. Выбачайце, калі ласка, паважаны Фёдар Максімавіч, але ж нам здаецца, што Вы не зусім уважліва чыталі яго. Прачытайце, прачытайце яго неад-

кладна, можа, гэта навядзе Вас на думку, што злодзеяў трэба выкрываць да канца, начыста.

З прывітаннем

*Вожык*

## СТАРШЫНІ ВЫКАНКОМА УВАРАВІЦКАГА РАЙСАВЕТА т. СЕЛІХАНОВІЧУ П. Ф.

## СТАРШЫНІ ВЫКАНКОМА КАРМЯНСКАГА РАЙСАВЕТА т. ТРУСНОВУ М. А.

Добры дзень, паважаныя Пётр Фёдаравіч і Мікалай Аляксандравіч! З выпадку першага спаткання прыміце, калі ласка, маё цёплае прывітанне і гарачыя пажаданні добрага Вам здароўя, спорай работы і г. д., і г. д. Не ведаю, як Вы, а я рад, што маю зручны выпадак пагаварыць з Вамі шчыра, ад усяго сэрца. Тэма нашай гутаркі: не плюй у крыніцу, давядзецца напіцца.

Мікалай Аляксандравіч, скажыце, калі ласка, чаму ў Вас душа не ляжыць да прапанаванай тэмы? Вы кажаце, што ў Карме рана ставіць такое пытанне? Дазвольце не згадзіцца, бо, як гаворыцца ў прымаўцы, «ніколі не кайся, што позна лёг спаць і рана ажаніўся».

У падтрымку прымаўкі прыгадайце, калі ласка, Мікалай Аляксандравіч, доктарскія парады: «Хваробу трэба лячыць у самым пачатку».

Кармянскае райбюро загса некалькі год размяшчалася ў кладоўцы мясцовага пасялковага Савета. Як адчувала сябе бюро ў такім «памяшканні»? Якраз так, як адчувае сябе цяля ў катуху: свеціць сонца ў акопца, ды хоць мычы, хоць крычы, а загарадкі не пераскочыш! Нарэшце, жыхары Кармы напісалі летась скаргу ў «Праўду». Гэта дапамагло: заварушыліся ў вобласці, у раёне, і бюро атрымала добрае, з двух пакояў, памяшканне. Добра гэта? Надзвычай! Радаваліся работнікі, але заўчасна: прыйшла зіма, прынесла сцюдзёныя маразы, а дроў не захапіла з сабой ні паленца. Зноў пасыпаліся скаргі ў райвыканком, у вобласць.

Нарэшце Вы, Мікалай Аляксандравіч, вымушаны былі зрабіць, як кажуць, адчэпнае — загадалі завезці для бюро два вазы дроў, абы адчапіцца ад скаргаў работнікаў і наведвальнікаў. Спалілі тыя дровы і... Паслухайце, што робіцца ў Кармянскім бюро загса. Заходзяць туды, напрыклад, маладыя людзі: ён і яна. Ён і яна кахаюць адно другога, ён і яна рашылі зарэгістраваць свой шлюб. Добра

гэта? Безумоўна! Але... хутка песень пяецца, ды паволі сцежка йдзецца. У бюро замёрзла чарніла, трэба адаграваць, бяжы да суседзяў пазычаць гарачых вугалькоў. Маладыя праз якіх паўгадзіны пачынаюць танцаваць ад холаду гапака, а яшчэ праз паўгадзіны, апёкшыся такім халодным прыёмам, зусім уцякаюць. Ён і яна бягуць за некалькі кіламетраў у другое бюро, дзе ёсць чарніла і цёплы прыём.

Вы, Мікалай Аляксандравіч, кажаце, што прыйшла вясна, дроў не трэба, што Вам у загс не трэба, бо Вы даўно жанаты. Гэта ўсё так, ды не зусім, бо: не плюй у крыніцу — давядзецца напіцца,— у загсе рэгіструюць не толькі шлюбы, а і новanароджаных. Вы ж, Мікалай Аляксандравіч, у поўным росквіце сіл,— на радасць сабе і людзям можаце стаць татам яшчэ раз. Не сумняваюся, што, калі Вы зойдзеце ў бюро атрымаць першы дакумент свайго дзіцяці, Вам будзе прыемна ўбачыць там і кветкі, і дываны, і чысціню, і парадачак... Так што, татулечка, трэба па-бацькоўску клапаціцца аб сваім будучым. Прыслухоўвайцеся, калі ласка, і да патрабаванняў насельніцтва.

З Вамі, Пётр Фёдаравіч, будзе гутарка крыху другога парадку. Успомніце, калі ласка, з пачатку да канца такую гісторыю. Загадчыца, яна ж і тэхнічка, уваравіцкай гасцініцы т. Семянікіна паскардзілася ў вобласць, што ёй кожны месяц, згодна Вашага загаду, замест 350 рублёў зарплаты выплачваюць толькі 225 рублёў. Абласны аддзел камунальнай гаспадаркі стаў на бок т. Семянікінай. Аднак гэта не дапамагло. Загадчыца гасцініцы падала новую скаргу. Тады ў Вас, Пётр Фёдаравіч, ад злосці падзьмулася пячонка, і Вы рынуліся па Уваравічах шукаць непакорную. Гэта ж падумаць, на Вас, гэтакую шышку, пасмеў нехта скардзіцца! Семянікіну Вы знайшлі ў канторы райкамунгаса і там, у прысутнасці многіх наведвальнікаў, пачалі плявацца, лаяць пажылую жанчыну апошнімі словамі.

Паслухайце, Пётр Фёдаравіч: навошта Вам карыстацца вярблюджымі сродкамі, пускаць у ход сліну? Непрыгожа, ой як непрыгожа!

Вы кажаце, што не даплачвалі зарплату т. Семянікінай для «эканоміі» дзяржаўных сродкаў. Тады навошта ж Вы, незаконна звoліўшы з работы т. Семянікіну, на яе месца ўзялі дзвюх работніц і выплачваеце ім 576 рублёў? І яшчэ. Калі Вы «эканоміце» дзяржаўныя сродкі, дык чаму ў Вас у штаце лічыцца нейкая Асмалоўская, якая ні-

колі не працавала ў райвыканкоме, а атрымлівае зарплату. Скажыце, Пётр Фёдаравіч, хто атрымлівае зарплату замест міфічнай Асмалоўскай? Не ведаеце?.. Адным словам, цёплыя, чулыя адносіны ў Вас да сваёй асобы. Не менш чулыя адносіны ў Вас і да ўласнай кароўкі: усю зіму «косіце» недзе паблізу для яе сена. Ці не ў тым саўгасе, дзе Вы раней былі дырэктарам, распачалася «касьба» ўзімку? Таксама не ведаеце?

На гэтым я канчаю сваю размову.

Ад усяго сэрца, шчыра кажу, раю Вам, Мікалай Аляксандравіч, даражыць давер'ем народа, прыслухоўвацца да голасу мас.

Што ж датычыць Вас, Пётр Фёдаравіч, то я сумняваюся, ці можна Вам давяраць. Не жартачкі: паскардзіцца па Вас чалавек, а Вы яго аблаеце апошнімі словамі, ды яшчэ з работы звольніце.

## САКРАТАРУ МІНСКАГА ГАРКОМА КП(б)Б т. САЛАМАХУ С. Л.

Прабачце велікадушна за турботы, Сцяпан Лукіч! Шчыра кажучы, мы нават не ведаем, з якога боку падступіцца да гэтай размовы. З усёй адказнасцю Вы можаце заявіць: «Вы, сябры, трапілі не па адрасе. Для таго ёсць Саюз мастакоў, Упраўленні па справах мастацтва і архітэктуры».

Не пярэчым — ёсць! Іх не так цяжка і знайсці па вядомым адрасе: «Мая хата з краю».

Але каб неяк дабрацца да канца-краю, дазвольце ўсё ж такі звярнуцца да Вас, Сцяпан Лукіч, як да чалавека, якога глыбока цікавяць пытанні ўпарадкавання горада, яго хараство, культурны выгляд... З кожным годам прыгажэе наша сталіца. Хораша выглядаюць ярка-зялёныя шапкі дрэў уздоўж адноўленых вуліц, дывановыя дарожкі жывых кветак перад новымі шматкватэрнымі дамамі, бурная зеляніна паркаў, сквераў і бульвараў...

Аднак «не ўсе дарогі сцелюцца абрусам, бываюць і выбоінкі». Як ні дзіўна, выгляд горада вельмі часта псуе рэкламная прадукцыя.

Факты? Калі ласка! Варта толькі прагуляцца пехатою па горадзе, а потым праехацца ў трамваях па ўсіх сямі маршрутах. Але, пакуль Вы знойдзеце час на гэтае падарожжа, уявіце чалавека, які прыехаў у Мінск. Проста са станцыі, у самым цудоўным настроі, ён ідзе па алеі пры-

вакзальнага сквера і даходзіць да Савецкай вуліцы. І тут з усіх бакоў яго апаноўваюць намалёваныя шэра-бура-малінавымі фарбамі нязграбныя рэкламныя плакаты.

Фанерны плакат, матляючыся на слупе, агітуе за тое, каб пасажыры стаялі на тратуары. Для нагляднасці намалявана чарга нейкіх істот — не то калек, не то недаросткаў. Проста на іх рухаюцца машыны, якія нагадваюць гібрыды карыта з танкаруnным бараном, трамвай, падобны на два піўныя ларкі, счэпленыя разам.

На супрацьлеглай сцяне на парванай мешкавіне красуецца нябачных прапорцый постаць пажарніка з трагічна пустымі вачыма. Побач з ім дзяўчына з вырваным тварам ды яшчэ нейкае стварэнне, якое звоніць па тэлефоне. Іх ахутвае дым, полымя неверагодных колераў.

Ледзь ачуняўшы ад гэтых малярных страшыдлаў, чалавек накіроўваецца далей. Ён любуецца велічным будынкам Дома урада, клумбамі новага сквера, але неўзабаве натыкаецца яшчэ на адну серыю з наступных брак-плакатаў:

1. «Не падвяргай жыццё небяспецы!» Але з гэтай мазні відаць, што нейкая постаць, падобная да пустога меха, ужо сарвалася і цягнецца па зямлі.

2. «Ачышчайце дымаходы ад сажы! Гэтым папярэдзіце пажар!» А на малюнку ўжо шугае агонь.

3. «Не пакідайце дзяцей без догляду!» Наўкол гарыць, а дзіця спакойненька стаіць...

4. «Не пакідайце печы, якія паляцца!» (Зноў чырвоны певень гуляе.)

5. «Не пакідайце акуркаў!» (Гарыць...)

Глянеш на гэтую «вогненную» прадукцыю, і самому хочацца крыкнуць: пажар! Але позна: трошкі ўжо згарэлі. Рукі тут пагрэлі такія плакатапёкі, як Даўгяла і Марозаў. Прагарэлі на гэтай справе Упраўленні пажарнай аховы і Мінтрамвая. А што гаварыць пра абражаныя пачуцці ўсіх тых, каму даводзіцца глядзець на бракаробскія вымудры.

Трамваі таксама густа абраслі халтурнымі плакатамі з бляхі і фанеры. На адной блясе намалявана сям'я з разяўленымі ратамі, што па задуме халтуршчыкаў павінна азначаць вясёлыя ўсмешкі. Чым жа выклікана гэтая радасць? Аказваецца, галава сям'і застрахаваўся на выпадак смерці. Мы, вядома, вітаем страхаванне, але дзе вы ўбачыце сям'ю, якая будзе так бурна выказваць радасць з поваду гэтай падзеі.

На другой блясе крывабокія літары на фоне пяцідзесяцірублёвых асігнацый заклікаюць захоўваць грошы ў ашчаднай касе. Паверце, калі б такімі непраўдападобнымі асігнацыямі пачалі плаціць такім рамеснікам, як аўтары плакатаў Бланштэйн і Сабшын, яны б заказалі сабе і нават сваім нашчадкам да сёмага калена больш не маляваць.

Трэба яшчэ адзначыць, што многія плакаты дзіўна развешаны. Напрыклад, рэкламная дзяўчына заклікае купляць рыбу ў фірменным рыбным магазіне. Побач жа другі плакат папярэджвае: «Застрахуйце ваша жыццё». Ёсць і іншыя кур'ёзы. Але пяёмка камепціраваць іх і нематазгодна, напэўна, пералічваць увесь брак.

Вы можаце задаць нам законнае пытанне: дзе крыніцы гэтай халтуры? Адказ тут можа быць адзін: грошы! Іх лёгка зарабляюць маляры, якія называюць сябе мастакамі, ва ўстановах, дзе працуюць людзі, якія, як кажуць: «Ні тое ні сёе, ні ў горадзе Багдан ні ў сяле Селіфан».

Вы можаце задаць і другое пытанне: а ці ёсць у горадзе добра выкананая рэклама? Безумоўна, ёсць! Але яна тоне ў моры браку.

Вось і хочацца папрасіць Вас: калі ласка, растлумачце каму патрэбна, што рэкламныя плакаты павінны рабіцца жывымі фарбамі, людзі з жывой мастацкай душой, з розумам і талентам.

Ваш *Вожык*

## НАЧАЛЬНІКУ БЕЛКАНТОРЫ «САЮЗАНТЫСЕПТЫК» ШЧАРБАКОВУ А. В.

Маё шанаванне, Аляксей Васільевіч! Вельмі рады з Вамі пазнаёміцца. Ваша работа і мая — падобныя. Вы, антысептыкі, змагаецеся на новабудоўлях супраць гнілі, розных грыбкоў і шашаля, якія псуюць драўляныя канструкцыі дамоў, мастоў і іншых збудаванняў. З мэтай прафілактыкі Вы часам апрацоўваеце драўніну рознымі хімікатамі, каб там не заводзіліся гніласныя бактэрыі, грыбок ці шашаль. І я таксама стараюся вывесці на чыстую ваду своеасаблівага шашаля, які там-сям заводзіцца ў нашым асяроддзі.

Зусім нядаўна падрабязны аналіз выявіў, што ваша арганізацыя знаходзіцца ў небяспечным стане: точыць яе шашаль, завяліся грыбкі-паразіты.

Вось, напрыклад, Ваша правая рука — старшы бух-

галтар Круглоў А. І. Чым ён не шашаль? Ён не толькі вашу кантору, але і Вас хацеў падтачыць пад корань, ды калі,— у дзень Вашага пяцідзесяцігоддзя! Напярэдадні Вашага юбілею ён не турбаваўся аб тым, што кантора мае запазычанасць толькі па зарплаце супрацоўнікам больш за сто тысяч рублёў. Круглоў адшукваў крыніцы сродкаў, каб набыць Вам юбілейны падарунак. І знайшоў. Ён склаў ведамасць, згодна якой з зарплаты 22 супрацоўнікаў былі вылічаны адпаведныя сумы. Нічога не скажаш, падхалім, якіх і ў байках няма. Нездарма ён стараўся задобрыць Вас, спадзеючыся, відаць, на прымаўку: «рука руку мые». А рукі ў яго нячыстыя. Зарплату ён сабе выпісаў не згодна штатнага раскладу, а крыху больш. Акрамя таго, і растратчыкаў не крыўдзіў — утойваў недастачы. Яму гэта, можа, нічога не каштавала, а дзяржаве ў капеечку стала. А ўтойваць яму не так цяжка было: улік так запушчаны і заблытаны, што і рэвізорам цяжка разабрацца.

Невыпадкова ваша кантора заблыталася ў крэдыторскай і дэбіторскай запазычанасці, як муха ў павуціне. Вось вам і правая рука! А з левага боку што ў Вас? І наогул азірніцеся наўкола. Ваша арганізацыя абрасла грыбкамі, як дно старой баржы ракушкамі.

Поле дзейнасці вашай канторы вельмі шырокае: ад Рыгі, Вільнюса і аж да Смаленска, і на гэтым прасторы вашы антысептыкі нарабілі нямала агрэхаў.

Скажыце, калі ласка, Аляксей Васільевіч, ці не нагадвае Вам грыбка-паразіта начальнік Рыжскага ўчастка Ганчарык Г. П.? З канторы ён рэгулярна атрымліваў зарплату, а грошы ад заказчыкаў паступалі не ў кантору, а ў яго кішэню.

У вашай канторы, шаноўны Аляксей Васільевіч, наогул вельмі шчодрыя людзі. Дзяржаўнымі сродкамі раскідаюцца і нічога не робяць. Нейкаму Шыманскаму цэлы год плацілі грошы за ахову дроў у Чэрвені, а там паўгода ніякіх дроў не было і вартаваць яму даводзілася хіба толькі печ у сваёй хаце. Ці вось другі прыклад. Надакучыла прарабу Рыжскага ўчастка Баркоўскаму лынды біць, захацеў ён звольніцца з работы, дык яму не толькі далі разлік, а нават выплацілі больш за дзве тысячы пад'ёмных.

Многія работнікі вашай канторы заразіліся яшчэ адной вельмі шкоднай хваробай — складаць фіктыўныя акты аб выкананні плана работ. Пры кантрольнай пра-

верцы выявілася, што толькі ў чатырох дамах аўтазавода 26 працэнтаў драўляных канструкцый не апрацаваны хімікатамі, ці, як у вас кажуць, не праантысептыраваны, а ў акце запісана, што план выкананы поўнасцю. Вы, Аляксей Васільевіч, напэўна, яшчэ помніце былога начальніка ўчастка Пярова В. І. і не забылі, відаць, як ён вымусіў Вашага работніка Германовіча напісаць фіктыўны акт на 10 тысяч рублёў за нібыта праведзеныя антысептычныя работы. А што Вы яму за гэта зрабілі? Па галоўцы пагладзілі?

Вось тыя адзінкі, якія даюць права сцвярджаць, што Вам самому трэба антысептычная апрацоўка.

Заказалі Вы цыстэрну хімікатаў, і чыгуначнікі даставілі яе своечасова. Але Вы на працягу 40 сутак не змаглі яе разгрузіць. Соўгалі тую цыстэрну чыгуначнікі з месца на месца 965 гадзін, і за гэту работу Вашай канторы давялося заплаціць 17 540 рублёў штрафу. Плацілі Вы штраф чыгунцы і за дом, прывезены Вам, які праляжаў восем месяцаў пад адкрытым небам. Акрамя штрафу Вы страцілі 16 кубаметраў будаўнічых матэрыялаў з гэтага дома.

Калі будавалі гэты дом, дык, відаць, не які-небудзь шашаль ці грыбок, а вялікі грыб-паразіт прысмактаўся там, бо, каб пераглытаць звыш каштарысу такую колькасць будматэрыялаў, трэба здаровая ляпа. Не Вам гэта расказваць, Вы самі ведаеце, уласнаручна спісалі 25 000 штук цэглы, 14 кубаметраў круглага лесу, 145 квадратных метраў шкла, 4,9 тоны цэменту і 41 кілаграм цвікоў. Можа, за кошт гэтага дома вырас недзе яшчэ адзін, персанальны? Вам гэта відней.

Аляксей Васільевіч, скажыце, калі ласка, чаму Вы так паблажліва ставіцеся да растратчыкаў і нядбайнікаў? Нехта сапсаваў дзве тоны сульфат-амонія на 4800 рублёў, а Вы не спагналі з вінаватага, а спісалі на вытворчасць.

Не разумею, навошта Вы запасаліся так матэрыяламі? Планавы нарматыў сыравіны і асноўных матэрыялаў для Вашай канторы складае 226 тысяч рублёў, а Вы назапасілі аж на 593,8 тысячы рублёў.

Вы не ведаеце, як можна назваць такую прагнасць? Гэта — парушэнне дзяржаўнай планавай эканомікі.

Вось і ўсё пакуль што. Выбачайце, калі ласка, можа, Вам не зусім да густу мая антысептычная апрацоўка Вашай канторы, але думаю, што ад гэтага будзе карысць.

Ваш *Вожык*

## ПРЭЗІДЫУМУ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛКААПСАЮЗА

Добры вечар, дарагія таварышы! Віншую вас з залатой і багатай восенню. Цудоўная пара! Усе паэты адзначалі яе прыгажосць. Можа б, вы хацелі перачытаць некаторыя радкі? Ну што ж, пацісніце кнопку, да вас зойдзе сакратарша, і вы загадаеце: «Схадзіце ў магазін, адшукайце Поўны збор твораў А. С. Пушкіна і прынясіце сюды». І ваш загад бясспрэчна будзе выкананы. Таму што ў Мінску з літаратурай яшчэ туды-сюды, дастаць можна. А вось паспрабавалі б вы, будучы, ну, хоць сабе ў Давыд-Гарадку, націснуць кнопку і папрасіць, каб вам прынеслі тую ці іншую кнігу. Баюся, што вам прыйшлося б доўга чакаць.

— Ну, ну, ну...— магчыма, запярэчыць хто-небудзь з вас,— доўга чакаць прыйшлося б раней, да выступлення «Вожыка» (№ 6 за сакавік г. г.) на пытаннях кнігагандлю. Цяпер жа зусім іншая справа. Праўленне Белкаапсаюза вынесла разгорнутае рашэнне аб тым, як палепшыць гандаль кнігай. Сярод многіх пунктаў там ёсць і такі: «Патрабаваць ад старшынь райспажыўсаюзаў асабіста кіраваць кнігагандлем, рэзка палепшыць гэты важнейшы ўчастак работы».

Дык дазвольце далажыць, што ў Давыд-Гарадоцкім райспажыўсаюзе сапраўды «рэзка палепшылі» гандаль кнігай. Па плане ў 1951 годзе туды неабходна было завезці літаратуры на 50 000 рублёў, фактычна ж завезена на 1300 рублёў! Як вам падабаецца, дарагія таварышы, такое «рэзкае паляпшэнне»? Вось чаму я і сказаў, што нават вам давялося б чакаць, пакуль будзе выкананы кніжны заказ. А вечары цяпер доўгія, толькі б і чытаць! Але як жа Давыд-Гарадоцкі райспажыўсаюз можа задаволіць попыт насельніцтва на кнігі, калі ён наогул іх не завозіць?

У другім пункце вашай разгорнутай пастановы ад 11 красавіка 1951 г. запісана: «Праводзіць штодзённую работу па выхаванні і павышэнні палітычнага і практычнага ўзроўню работнікаў кнігагандлю і даводзіць да свядомасці гэтых работнікаў важнасць і значэнне развіцця кнігагандлю і прасоўвання кніг у масы».

Супраць гэтага нічога не скажаш, правільны пункт! Вядома, калі чалавек разумее ўсю важнасць даручанай яму справы, ён інакш і выконвае яе. А цяпер паглядзім, як гэты пункт праводзіцца ў жыццё. У загадчыка Давыд-

Гарадоцкага культмага т. Машлякевіча спыталі: «Ці ёсць у Вас беларускія кнігі?» На гэта Машлякевіч коротка адказаў: «Няма». Аднак пры праглядзе ў магазіне знайшліся асобныя творы Я. Коласа, К. Крапівы, П. Броўкі, М. Танка і некаторых іншых. Трэба думаць, што не адзін пакупнік замест патрэбнай яму кнігі атрымаў гэтае сухое «няма». Ці зразумеў Машлякевіч «усю важнасць прасоўвання кніг у масы», калі не ведае, што робіцца ў яго пад носам? Значыць, добры пункт, правільны пункт, застаўся нявыкананым!

Такі лёс напаткаў і іншыя пункты, напрыклад: «Забяспечыць, каб у кожным раёне быў добра абсталяваны, узорны культмаг, а ў сельмагах кніжныя паліцы і палепшыць гандаль кнігай».

Вось гэтага «палепшання» якраз і не відаць. А добрыя мары аб узорных магазінах так і засталіся марамі. Хіба ж можна назваць узорным старадарожскі культмаг, калі там няма каталогаў, і для таго, каб знайсці патрэбную кнігу, трэба перарыць увесь запас. У сапраўды ўзорных магазінах ёсць не толькі каталогі, а і рэкламуюцца новыя кнігі. Толькі старадарожскаму магазіну не да рэкламы, там нават «не паспяваюць» распакоўваць даўно прыбыўшыя пачкі кніг, і яны ляжаць, пакрытыя пылам, пад прылаўкам. А часу для распакоўкі, здавалася, было больш чым дастаткова, бо кнігі сюды завозяцца, як кажуць, у год па чайнай лыжцы. У другой палавіне 1950 г. туды прывезлі на 500 руб. кніг і другую партыю таксама на 500 руб. прывезлі ў першай палавіне 1951 г. Вось і ўсё папаўненне. Ці не таму там такое вялікае разыходжанне паміж планавым мінімумам назваў кніг і фактычным. Сельскагаспадарчай літаратуры ў культмагу толькі 15 назваў, а трэба мець 40. Няма кніг Мічурына, Вільямса, Лысенкі,— якраз тых, на якія адчуваецца найбольшы попыт. Навукова-папулярнай літаратуры не знойдзеце зусім. Дзіцячай літаратуры ёсць дзве назвы, а прадугледжана 15.

Амаль такое ж становішча ў Бярозаўскім райспажыўсаюзе і многіх іншых.

У магазіне № 1 Жухавіцкага сельпо Мірскага райспажыўсаюза з продажу кніг робяць таямніцу. Магазін мае 58 назваў кніг, а для азнаямлення выстаўлена толькі 28. Вось і паспрабуй тут выбраць кнігу!

З усяго гэтага відаць, што рашэнне ў вас, дарагія таварышы, сапраўды разгорнутае, а вось гандаль кнігай па-

ранейшаму застаўся неразгорнутым. Ці не трэба памеркаваць аб тым, каб ваша пастанова нарэшце была ажыццёўлена?

Жадаю поспехаў.

*Вожык*

## ДЫРЭКТАРУ МІНСКАГА ТРАКТАРНАГА ЗАВОДА АЛЯКСАНДРУ МІХАЙЛАВІЧУ ТАРАСАВУ

Маё шанаванне, Аляксандр Міхайлавіч! Віншую Вас з перамогай: асваеннем і выпускам новых, магутных і вельмі неабходных нашай лясной прамысловасці тралёвачных трактараў. Адначасова хочацца мне выказаць сваё захапленне пабудовамі трактарнага завода. Усё тут выклікае захапленне: цэхі-гіганты, цудоўнае абсталяванне, мноства разнастайнейшых станкоў самых новых і складаных канструкцый, якія паскараюць працэс вытворчасці, робяць лягчэйшай працу рабочых.

Шырокая дарога раскінулася перад калектывам трактарнага завода для высокапрадукцыйнай працы, да новых перамог. Аднак далёка не ўсё гладка на гэтай дарозе. Ёсць яшчэ многа няроўных мясцін, шурпатасцей, ад якіх даўно пара пазбавіцца. І гэта ў вашых сілах, у вашых магчымасцях.

Пытанні, на якія я сёння хачу звярнуць Вашу ўвагу, можа, і не самыя асноўныя, аднак яны таксама вельмі важныя, і абыходзіць іх ніяк нельга.

Перш за ўсё я хачу перадаць Вам маю гутарку са старшым майстрам 3-га ўчастка тралёвачнага цэха т. Краўцовым В. І. Па ўсім відаць, што гэты малады, энергічны майстар па-сапраўднаму зацікаўлены ў палепшанні работы свайго ўчастка. Яму, безумоўна, трэба дапамагчы. Участак, як Вам вядома, важны — дзесяткі станкоў, але на некаторых з іх працаваць нельга: патрэбен капітальны рамонт. Аднак рамантаваць іх яшчэ і не пачыналі і невядома, калі пачнуць. Зусім адсутнічае вертыкальна-фрэзерны станок для дэталей 33—27. І для таго, каб апрацоўваць гэтыя дэталі, трэба выбіраць момант, калі такі станок вызваліцца на якім-небудзь іншым участку. Усё гэта тармозіць работу 3-га ўчастка. Але самая асноўная скарга т. Краўцова заключаецца ў тым, што загатоўкі для хадавых дэталей трактара, якія робіць яго ўчастак, не адпавядаюць тэхналогіі. Так, напрыклад, дэталь 33—65 паступае для апрацоўкі на станок даўжынёй 170—180 мм

і дыяметрам 30—31 мм, у той час, як яна павінна мець даўжыню не больш 150 мм і дыяметр 28,5 мм. Што ж атрымліваецца, калі дэталь падаецца павялічаных намераў? Спачатку трэба давесці загатоўку да патрэбных памераў, а на гэта трацібца лішні час, электраэнергія, рэжучы інструмент. Зніжаецца і прадукцыйнасць участка. Пры такой сістэме падачы загатовак эканоміяй металу нават і не пахне, наадварот, многа металу ідзе ў брак, у адыходы. А гэта таксама немалаважны факт, і не лічыцца з ім нельга. Тое ж атрымліваецца і з многімі іншымі дэталямі.

Далей т. Краўцоў скардзіцца па тое, што яго ўчастак неяк без толку забяспечваецца загатоўкамі. Участак павінен апрацоўваць 15 відаў дэталей, а яму даюць толькі загатоўкі двух-трох профіляў, астатнія станкі стаяць без працы. Назаўтра даюць ізноў дзве-тры загатоўкі другога профілю; тады прастойваюць тыя станкі, што былі заняты ўчора. Гэта таксама выбівае з графіка, не дае магчымасці працаваць рытмічна.

Мне здаецца, паважаны Аляксандр Міхайлавіч, што гэта больш чым законныя скаргі, і на іх трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Цяжкавата ў Вас і з рэжучым інструментам. Я сам быў сведкам, калі 13 лістапада токар 1-га ўчастка Трафімаў з-за адсутнасці рэжучага інструменту быў вымушаны працаваць не па сваёй спецыяльнасці, а яго станок, вядома, «адпачываў». І Вы ж, Аляксандр Міхайлавіч, на вытворчых нарадах, пэўна, самі не раз падкрэслівалі, як важна прадоўжыць «жыццё» станкоў і інструментаў. А як жа і хто клапоціцца ў тралёвачным цэху аб гэтым? Асаблівых клопатаў не відаць нават з боку намесніка начальніка цэха па тэхнічнай частцы т. Галубчыкава.

Ці не звярнулі Вы ўвагу, Аляксандр Міхайлавіч, і на тое, што больш за ўсё выходзіць са строю інструментаў тады, калі станкі працуюць поўным ходам і раптам выключаецца электраэнергія. А гэта здараецца даволі часта. Ці ж нельга дамовіцца з энергетыкамі, каб яны папярэджвалі аб выключэнні энергіі?

Вострай крытыкі патрабуе і справа вастрэння інструментаў і перш за ўсё работа майстра т. Засімава, які да гэтага часу як належыць не паладзіў работу. Вы, пэўна, памятаеце выступленне стругальшчыка тав. Куляшова ў газеце «Трактар» № 91 за 1954 год.

Часта тэхнічныя аддзелы цэхаў не прыслухоўваюцца

да прапаноў майстроў і рабочых. Так, у тралёвачным цэху даўно прапануюць змяніць індэкс разца, каб кожны разец змог працаваць значна больш. Аднак тэхнічны аддзел застаецца глухім да ўсіх гэтых прапаноў.

Многа яшчэ ў Вас, Аляксандр Міхайлавіч, неналадак і ў жыллёва-бытавых пытаннях, не адусюль яшчэ выціснуты бюракратызм, валакіта. Так, напрыклад, да Вашага намесніка па быту т. Літвінава звярнуўся токар бюро наладкі тралёвачнага цэха т. Канарскі П. В. з просьбай даць яму месца ў інтэрнаце. Тав. Літвінаў піша рэзалюцыю на імя нач. ЖКО т. Цярэнцева. Тав. Цярэнцеў накладвае рэзалюцыю на імя свайго намесніка т. Захарава, а ён кажа: «Інтэрната для вашага цэха няма, чакайце, калі «Белтрактарбуд» пабудуе». Такім чынам, у т. Канарскага ёсць дзве станоўчыя рэзалюцыі, а месца ў інтэрнаце папранейшаму няма.

Цэхі ноччу працуюць, а сталовая і буфет адпачываюць, і перакусіць рабочым няма дзе.

Выбачайце, Аляксандр Міхайлавіч, што ўзняў, можа, толькі адну дзесятую пытанняў, якія патрабуюць тэрміновага вырашэння.

Жадаю Вам поспеху ў вырашэнні ўсіх пытанняў — і вялікіх, і малых.

З прывітаннем *Вожык*

## АРТЫКУЛЫ, ІНТЭРВ'Ю

### АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ БЕЛАРУСКАЙ ДРАМАТУРГІІ

Драматургія, як і ўся літаратура, з'яўляецца важным сродкам камуністычнага выхавання савецкага народа. Вось чаму наша партыя няспынна праяўляе клопаты аб драматургіі і пільна сочыць за працэсам яе развіцця, накіроўваючы гэты працэс па шляху павышэння ідэйнай вартасці і мастацкага майстэрства.

Адзначаючы сапраўдныя творчыя заслугі савецкіх драматургаў перад народам, партыя неаднаразова ўказвала на адставанне гэтага жанру ад узроўню ўсёй савецкай літаратуры. Патрабуючы высокаідэйных і высокамастацкіх твораў, партыя заўсёды ставіла перад драматургамі задачы: адлюстроўваць у яркіх мастацкіх вобразах наша бурлівае, кіпучае сучаснае жыццё, выхоўваць лепшыя якасці ў характары савецкага чалавека, актыўна ўздзейнічаць на жыццёвыя працэсы, выкрываць і знішчаць усё амярцвеўшае, аджыўшае, змагацца з праяўленнем варожай ідэалогіі і тым самым расчышчаць дарогу новаму, здароваму, садзейнічаць паспяховаму будаўніцтву камунізма ў нашай краіне, росту культурнага ўзроўню нашага народа.

Задачы важныя, адказныя і пачэсныя.

Аднак наша савецкая драматургія яшчэ не дасягнула ўзроўню гэтых задач.

Партыя выкрыла і разграміла фальшывую і шкодную тэорыю бесканфліктнасці і ўзброіла савецкіх пісьменнікаў марксісцкім разуменнем тыповага, адкрыўшы тым самым шырокую дарогу для развіцця ўсёй савецкай літаратуры.

Нельга не заўважыць зрухі і ажыўленне ў драматургіі за апошні час, але ўсё ж яшчэ засталося шмат нявырашаных творчых і арганізацыйных праблем драматургіі і

тэатра. З мэтай абмеркавання гэтых праблем у кастрычніку мінулага года збіраўся XIV пленум праўлення ССП СССР з удзелам пісьменніцкага актыву і работнікаў тэатральнага мастацтва.

Вылучэнне гэтага пытання з рада іншых наспела, выклікана, прадыктавана жыццём. Цікавае назіранне зрабіў міністр культуры СССР т. Панамарэнка, які ў сваім выступленні на пленуме паведаміў, што ў тэатрах краіны на спектаклях больш за 40 працэнтаў месц пуставалі. Безумоўна, паніжаны інтарэс савецкага гледача да спектакляў па нашых п'есах не можа не турбаваць аўтараў гэтых п'ес.

Той факт, што многія тэатры, паказаўшы спектаклі па некаторых п'есах усяго 8—12 разоў, спраўляюць хаўтуры па спектаклі, вымушае ўвесь наш цэх задумацца над той прадукцыяй, якая выходзіць з-пад пяра, разгледзець яе з усіх бакоў і знайсці прычыну браку, знайсці вінаватых — ці то канструктара-аўтара, ці то токара-акцёра, а мо і ў аддзеле рэпертуарнага кантролю. Клопатамі аб выдатнай якасці нашага «шырпатрэба», нашай пісьменніцкай прадукцыі былі прасякнуты ўсе выступленні на пленуме, і даклад Сіманава, і садаклад Лаўранёва.

На пленуме было шмат цікавых выступленняў вядучых і вядомых драматургаў, крытыкаў і рэжысёраў. Калі перакласці ўсё тое, што гаварылася там, на мову лозунгаў, заклікаў і тостаў, то гэта прыкладна гучала б так:

Для заспакаення — у драматургаў няма падстаў! Трэба добрыя п'есы і розныя па жанры. Смеласць, смеласць і яшчэ раз смеласць! Далоў халтуру і шэрасць! Дарогу моладзі ў драматургію. Рэж праўду-матку, калі хочаш поспеху. Прэч крытыкаў-перастрахоўшчыкаў і кантралёраў з ружовымі акулярамі. За вучобу ў класікаў! За цесную дружбу драматургаў і тэатраў! За высокае мастацкае майстэрства! За тэорыю драмы! Сатыры — зялёную вуліцу! Прапусціце на сцэну забытыя п'есы...

І многа іншых «за» і добрых пажаданняў.

Аднак, як гэта адзначалася ўжо ў партыйным друку — мала гаварылася на пленуме толькі аб адным, аб самым галоўным сёння. Аб тых задачах, якія паставіла партыя перад народам у рашэннях вераснёўскага Пленума ЦК КПСС.

Можна з поўным правам сказаць, што да ўсіх гарачых заклікаў і добрых пажаданняў, выказаных на пленуме ССП СССР, варта прыслухацца і драматургам нашай рэс-

публікі. Безумоўна, стан беларускай савецкай драматургіі за апошнія гады не дае падстаў для ціхамірнага спакою ў нашых радах. У нас таксама ёсць аб чым пагаварыць, ёсць многа нявырашаных творчых праблем.

За пасляваенныя гады пісьменнікі Беларусі напісалі каля трох дзесяткаў многаактных п'ес, на розныя тэмы, на розным мастацкім узроўні. Некаторыя з гэтых п'ес, у прыватнасці «Пяюць жаваранкі», «Канстанцін Заслонаў», заслужана карыстаюцца папулярнасцю ў народзе, народ іх прызнаў, ацаніў, палюбіў, і яны не сыходзяць са сцэны тэатраў. У гэтых п'есах створаны яркія вобразы нашых сучаснікаў. Глядач з цікавасцю сачыў за іх лёсам, за іх дзейнасцю, запамінаў іх. Адных ён любіў, другіх ненавідзеў, з адных смяяўся шчыра, а другім спачуваў.

Тэматыка беларускіх п'ес даволі разнастайная. Тут ёсць п'есы, прысвечаныя савецкім людзям і іх подзвігам у гады Айчыннай вайны: «Канстанцін Заслонаў», «З народам», «Гэта было ў Мінску», «Заложнікі», «Брэсцкая крэпасць», «Цэнтральны ход». Напісаны п'есы на гісторыка-рэвалюцыйныя тэмы: «Святло з усходу», «Уся ўлада Саветам», хранікальна-біяграфічная п'еса пра Янку Купалу — «Шчасце паэта». Былі п'есы на так званую рабочую і калгасную тэматыку, п'есы пра трактары, кок-сагыз, хлеб, а не толькі пра людзей. І сцэнічная доля гэтых неаднолькавых п'ес вельмі неаднолькавая. Адны з іх, не старэючы, некалькі гадоў ідуць на сцэнах многіх тэатраў, другія, знішчыўшы сваёй сумотай мух у тэатры, выканалі свой пачэсны абавязак і ціха сканалі па прыгавору гледачоў, а не крытыкі, а некаторыя п'есы-неданоскі нават не здолелі падняцца на сцэну, бо героі гэтых п'ес — падслепаватыя, з вялікімі ружовымі акулярамі рахітыкі на саламяных ножках.

Ёсць і такія п'есы, якія не пазбаўлены ідэйнай і мастацкай вартасці, аднак усё ж недапрацаваны аўтарамі і таму не ўбачылі святла рампы. Я маю на ўвазе «Святло з усходу», «Уся ўлада Саветам» і «Машэка».

Ёсць вельмі цікавая п'еса, напісаная сапраўды памайстэрску, да яе ўжо колькі год тэатры праяўляюць цікавасць, аднак крытыка знайшла ў ёй недахопы, і таму п'еса не аднаўляецца на сцэне — гэта ўсім вядомы «Мілы чалавек» Кандрата Крапівы.

Каб не пералічваць усіх п'ес і не аддзяляць аўтараў аднаго ад другога толькі коскамі, як гэта часта ў нас ро-

біцца, варта лепш разгледзець найбольш характэрныя, на мой погляд, недахопы ў нашых п'есах.

Каб меркаваць аб узроўні нашай драматургіі, аб якасці нашых п'ес і спектакляў, аб майстэрстве драматургаў і акцёраў — варта схадзіць у тэатр не ў суботу ці нядзелю, а і ў аўторак, у сераду, чацвер або пятніцу і надзівіцца — колькі ж месц у зале занятых і колькі пустуе. Адно такое назіранне навядзе на пэўныя думкі і, шчыра скажу, думкі не вельмі вясёлыя.

Большасць нашых п'ес не карыстаецца папулярнасцю, прыхільнасцю, любоўю, павагай у гледача. Яны, напэўна, мала кранаюць душу гледача, мала хвалююць яго, бо напісаны без дастатковага майстэрства, без страсці, без глыбокага асэнсавання жыцця, у іх не адчуваецца таго, што аўтар смела падымае вострыя, важныя праблемы жыцця, тыя праблемы, якія штодзённа хвалююць савецкага чалавека. Элементы рацыяналізму пераважаюць над пачуццём. Відаць, гэтыя п'есы не дастаткова, не поўна, не ярка адлюстроўваюць тую барацьбу, якую вядзе савецкі чалавек у сваім імкненні да лепшага жыцця ў шырокім сэнсе слова, не адлюстроўваюць той праўды жыцця, якая з'яўляецца сэрцам і крывёю ўсякага добрага твора.

З гэтага вынікае задача: мы павінны пісаць цікавыя, хвалюючыя творы, у якіх бы кіпела, бурліла кроў і білася гарачае сэрца ва унісон з сэрцам гледача.

У чым жа сакрэт поспеху або няўдачы таго ці іншага твора?

На пленуме СП СССР у Маскве вельмі цікавую і слушную думку выказаў галоўны рэжысёр ЦТСА Аляксей Папоў. Не ўсякі мае права пісаць п'есу. Такое права належыць толькі таму, у каго ёсць за душой што расказаць ці паказаць, ёсць нешта важнае, цікавае, значымае — такое нешта, якое можа ўзрушыць чалавечыя душы, усхваляваць. Для таго каб 600, а то і цэлая тысяча чалавек тры — тры з паловай гадзіны па сваёй ахвоце, без усякага прымусу сядзелі ў зале і ўважліва слухалі, хваляваліся, перажывалі, смяяліся ці нават плакалі, трэба быць вельмі цікавым і вельмі разумным расказчыкам.

Глядач прыходзіць у тэатр не толькі для таго, каб адпачыць і пазбавіцца, але і ўзбагаціцца нечым новым, карысным, пачэрпнуць цікавыя думкі, павучыцца таму, чаго ён яшчэ не ведаў. Але гэта не значыць, што ён прыходзіць выслухаць шкалярскія ісціны, дыдактычныя сентэнцыі альбо сухія навуковыя догмы.

Права распараджацца ўвагай, часам і пачуццямі гледача на працягу некалькіх гадзін атрымлівае той, хто можа цікава і разумна расказаць пра свае назіранні з багатага жыццёвага вопыту. Поспех гэтага расказу ў першую чаргу залежыць ад ідэйнага замыслу аўтара. Ідэйны замысел аўтара з'яўляецца тым нервам, які злучае гледача з падзеямі, што адбываюцца на сцэне. І калі гэты нерв здаровы, дык і ўзаемаадносіны залы і сцэны будуць без паталагічных з'яў. Глядач не будзе моршчыцца і пакутаваць, нібы ад радыкуліту.

Калі аўтарскі замысел нарадзіўся ад жадання напісаць п'есу на «калгасную» ці «вытворчую» тэму па заказу крытыкі, якая скардзіцца на недахоп вытворчых ці калгасных п'ес, дык можна з упэўненасцю сказаць, што твор асуджаны на няўдачу. Калі ж ідэйны замысел аўтара з'яўляецца вынікам унутранай неабходнасці, калі аўтар не можа не напісаць п'есу, расказаць людзям вельмі важнае, ад чаго залежыць іх шчасце, іх лёс, такі замысел будзе садзейнічаць поспеху твора. Ідэйны замысел твора павінен несці ў сабе гарачае, нястрымнае жаданне аўтара нешта змяніць у жыцці, некага ўзнагародзіць, а некага асудзіць, нешта скінуць з п'едэстала, а нешта ўзняць на п'едэстал, нешта разбурыць, а нешта збудаваць. Аўтарскі замысел павінен быць актыўным. П'еса не павінна нагадваць путэвадзіцель, а аўтар экскурсавода. П'еса павінна быць зброяй, магутным інструментам у руках аўтара-воіна, аўтара-будаўніка.

Ідэйны замысел павінен быць вынікам не халоднага, абыякавага ўспрыняцця нашай рэчаіснасці, а вынікам усхваляванага, страснага, ваяўнічага, партыйнага стаўлення да жыцця і людзей.

У ідэйным замысле павінна адчувацца жаданне аўтара здзівіць гледача нечым новым, яшчэ дагэтуль нікім не сказаным, але аб чым павінны ведаць усе. Замысел павінен быць актуальным — г. зн. вельмі важным для народа сёння, але не часовым, малазначным, надзённым, як фельетон ці інфармацыя ў газеце. Замысел павінен быць прадыктаваны самім ходам жыцця, развіццём падзей, якія аўтар назіраў і, зрабіўшы самастойную ацэнку жыццёвых з'яў, прыйшоў к партыйнаму вываду ўмяшацца ў гэтыя падзеі, накіраваць іх у пэўнае рэчышча.

Такім чынам — калі пісьменнік у выніку цеснай сувязі з жыццём апладатварыўся важным, смелым, актыўным, самастойным і актуальным замыслам, ён мае права сесці

за стол і напісаць п'есу, а затым сабраць тысячу чалавек у тэатр і «терзать» іх пачуцці, бударажыць мыслі.

Ідэйны замысел з'яўляецца пафасам твора, г. зн. гранічным выражэннем страсці аўтара.

Для ўсіх нас з'яўляецца ўзорам пафас творчасці вялікага пісьменніка-гуманіста Горкага. Чалавек з вялікай літары — яго пафас. «Усё для чалавека!», «Чалавек — гэта гучыць горда!» Мы ведаем, з якім гневам, з якой страсцю змагаўся Горкі з усім нікчэмным, пошлым, агідным, нізкім, подлым, што зневажала годнасць чалавека, прыніжала яго. Мы помнім яго творы-гімны ўсяму высакароднаму, чыстаму, чэснаму, што ўзвышала чалавека, падпімала яго над усёй прыродай.

Пафас лепшых твораў К. Крапівы — імкненне ачысціць наша грамадства ад буржуазных перажыткаў, ад іх канкрэтных носьбітаў пры дапамозе саркастычнага смеху. У гэтым — характэрная асаблівасць такіх яго п'ес, як «Хто смяецца апошнім», «Мілы чалавек», «Пяюць жаваранкі».

Невыпадкова п'еса «Хто смяецца апошнім», напісаная ў 1939 годзе, не згубіла сваёй актуальнасці. Твор не страціў свайго пафасу і сёння, бо тое зло, над якім смяецца аўтар, а разам з ім і глядач, яшчэ не выкарчавана і сёння, г. зн. што тыпаў, падобных да Гарлахвацкага, Зёлкіна, Тулягі, можна сустрэць і сёння, што ёсць яшчэ аматары пракаціцца на чужы кошт, паставіць сваё прозвішча над дысертацыяй ці кнігай, якую напісаў другі; ёсць яшчэ аматары праехаць у рай на чужым гарбу, пажыць за кошт дзяржавы, аматары наплявузгаць, напісаць паклёп; сустракаецца тое асяроддзе туляг, якія ствараюць умовы, з'яўляюцца дабротнай глебай для гарлахвацкіх і зёлкіных.

Пафас такой выдатнай п'есы, як «Канстанцін Заслонаў» Маўзона, заключаецца ў бязмежнай любві да бацькаўшчыны, самаахвярным служэнні савецкага чалавека сваёй Радзіме. Гэта забяспечыла п'есе поспех.

Не малой папулярнасцю карысталася і п'еса Алеся Кучара «Гэта было ў Мінску». У ёй выяўляецца, як аўтар усёй душой люта ненавідзіць немцаў-акупантаў, якія глуміліся над савецкімі людзьмі, рабавалі, руйнавалі, зневажалі нашу краіну ў часы акупацыі.

А вось што сказаць пра яго другую п'есу «Неспакойныя сэрцы»? Аўтар пісаў яе з такім прыцэлам. У прозе з'явіліся творы аб рабочым класе нашай рэспублікі, а ў драматургіі не. Драматургаў папракаюць за гэта. І ён ра-

шыў адгукнуцца на заклік: пісаць творы на вытворчую тэматыку. Кучар рашыў адлюстраваць жыццё моладзі Мінскага трактарнага завода. Насіўнасць замыслу прывяла аўтара да ілюстрацыйнасці: дыялог інфармацыйны, дзеянне расслабленае, кампазіцыя клачкаватая, вобразы няяркія. Вось прыклады з гэтай п'есы.

Каб праілюстраваць культурны ўзровень нашай рабочай моладзі, аўтар арганізоўвае літаратурную віктарыну ў інтэрнаце, хоць яна арганічна не ўплятаецца ў п'есу.

Часам адна якая-небудзь дэталь вымушае сумнявацца ў праўдзівасці, рэальнасці вобраза. Напрыклад: да парторга Люднікава прыязджае жонка — інжынер, якая доўгі час не бачылася з мужам. Не прывітаўшыся як след, не павячэраўшы, не нагаманіўшы з мужам, яна бяжыць на завод, каб прадставіцца дырэктару. Не хочацца зайздросціць такому мужу, хоць аўтар стараўся паказаць мужа і жонку як вельмі станоўчых людзей.

Каб які-небудзь дасціпны крытык не папракнуў, што ў п'есе нічога не гаворыцца аб барацьбе за мір, аўтар перапыняе асноўнае дзеянне і ўключае рэпрадуктар, з якога чуецца голас Поля Робсана. Гэта дае магчымасць выказацца аднаму-двум персанажам на тэму пра мір.

Калі дзеянне расслабленае, яго лёгка перапыніць голасам з рэпрадуктара.

А калі б яно было напружаным, поўным страсці, агню, дык, напэўна, не перапыніла б яго нават з'яўленне самога Поля Робсана.

Каб другі крытык не папракнуў Кучара, што партарганізацыя не займаецца выхаваннем моладзі, аўтар прыводзіць у інтэрнат парторга Люднікава, які, даведаўшыся аб амаральным учынку аднаго юнака, тут жа пачынае чытаць лекцыю на тэму: «Маральны воблік маладога савецкага рабочага». Літаральна: Л ю д н і к а ў. Так, так... Ну, сядайце, рабяты. *(Усе селі.)* І так, сябры,— тэма нашай сённяшняй гутаркі: «Маральны воблік маладога савецкага рабочага»...

Дапускаецца многа непраўдзівых дэталей. Стварaецца такое ўражанне, што аўтар у гэтай п'есе хацеў задаволіць усе патрабаванні крытыка-артадокса, а не ўзняць цаліну новых людскіх характараў і выявіць іх сутнасць у вострых сутычках, канфліктах, у барацьбе.

Такім чынам, ідэйны замысел твора мае вельмі важнае значэнне, аднак не толькі ён забяспечвае поспех твора. Замысел неабходна па-майстэрску рэалізаваць, увасо-

біць яго ў вобразнай сістэме, ды так, каб персанажы твора, іх справы, іх пачуцці, іх учынкі былі жыццёва праўдзівымі, перакананьымі.

Ніхто не стане аспрэчваць агульнавядомую ісціну, што ўсякую фальш, усякую няпраўду ў жыцці людзі ўспрымаюць непрыязна, з агідай; чэснага чалавека фальш, падман абураюць. Непраўдзівы, няшчыры, фальшывы чалавек не можа карыстацца людской павагай, любоўю, прыхільнасцю.

Прыкладна тое ж самае мы можам сказаць і пра мастацкі твор. Калі ў ім дапушчана хоць малейшая няпраўда, ён не будзе карыстацца нашай павагай, давер'ем.

Толькі праўдзівы твор валодае сілай выхаваўчага ўздзеяння на гледача, садзейнічае таму, каб глядач, наглядзеўшы спектакль, выходзячы з тэатра, на парозе ці каля вешалкі пакідаў свае заганы, якія падвергліся асуджэнню на сцэне, і наадварот, узбагачаўся тымі станоўчымі рысамі характару, якія ён падгледзеў на сцэне.

Партыя заклікае пісьменнікаў пісаць праўду, толькі праўду, але гэта не азначае, што пісьменнік павінен быць фатографам-ілюстратарам ці рэгістратарам-дакументалістам. Пісьменнік — мастак, ён адлюстроўвае не ўсё, што трапляе на вочы, а спыняе ўвагу чытача на тым, што найбольш ярка і поўна выражае сутнасць жыццёвых працэсаў, жыццёвых з'яў, на тым, дзе найбольш ярка выяўляюць сябе тыповыя канфліктуючыя сілы. Рост нашага грамадства азначае барацьбу супроцьлеглых сіл — старога і новага, барацьбу вострую, непрымірымую. Пісьменнік з'яўляецца разведчыкам на гэтым фронце. Разведчык павінен быць праўдзівым, шчырым, дакладным. Фальш ідзе толькі на карысць праціўніку. А фальш бывае двух гатункаў: абразлівы паклёп і падхалімская ліслівасць, але гэта канцы адной і той жа палкі. Паклёп на нашу рэчаіснасць так жа шкодны, як і лакіроўка, замазванне, рэтуш тых недахопаў, з якімі народу трэба змагацца.

У гэтых адносінах вельмі паказальным з'яўляецца недахоп некаторых твораў, прысвечаных людзям калгаснай вёскі. Прачытаўшы некаторыя такія творы, міжволі ўсплывае пытанне: калі там адлюстравана праўда, дык ці трэба было склікаць верасноўскі Пленум ЦК КПСС? На аснове такіх твораў, безумоўна, нельга было распрацаваць аператыўны план генеральнага наступлення на сельскагаспадарчым фронце, такі план, якім з'яўляюцца рашэнні верасноўскага Пленума. У гэтых рашэннях праў-

дзівая, рэальная ацэнка жыццёвых фактаў калгаснага будаўніцтва і раскрыццё шырокіх перспектыў развіцця паказваюць пісьменнікам узор таго, як чэсна і праўдзіва трэба ставіцца да жыцця, яго адлюстравання ў сваіх творах і як змагацца за пераўтварэнне гэтага жыцця.

Нельга сказаць, што нашы пісьменнікі не бачылі тых недахопаў, якія адзначаны ў рашэннях Пленума. Нельга сказаць і таго, што пісьменнікі не разумелі, што ў калгаснай вёсцы ідзе вострая барацьба з гэтымі недахопамі. Яны гэта бачылі, разумелі і па-свойму спрабавалі пісаць аб гэтым творы. Жыццё сапраўды давала безліч канфліктаў, безліч прататыпаў для адмоўных і станоўчых вобразаў, безліч цікавых гатовых сітуацый для п'ес, раманаў, апавяданняў і вершаў.

Аднак пісьменнікі не заўсёды карысталіся гэтымі магчымасцямі, і многія творы былі напісаны так, што ў іх не адчувалася таго пульсу барацьбы, як гэта было і ёсць у жыцці.

Каб не быць галаслоўным, прывяду прыклады з нашай беларускай драматургіі.

На тэмы з жыцця калгаснай вёскі напісаны такія п'есы: «Кветка Цянь-Шаня», «Прамень будучыні», «Хлеб», «Свае людзі», «Калі зацвітаюць сады», «Пяюць жаваранкі», «На парозе», «Выбачайце, калі ласка!».

Разгледзім некаторыя з іх.

Для прыкладу возьмем п'есу «Хлеб» Ільі Гурскага — аднаго са старэйшых нашых пісьменнікаў-драматургаў, на творчым рахунку якога больш за паўдзесятка шматактовых п'ес. Адны з якіх у свой час карысталіся поспехам, а другія не дайшлі да сцэны.

У гэтай п'есе мы можам назіраць узор расплывістасці, неакрэсленасці, невыразнасці, пасіўнасці ідэйнага задуму. З першага погляду здаецца, што аўтар меў намер паказаць, як людзі калгаснай вёскі ў цяжкіх умовах першых год пасля Айчыннай вайны змагаюцца за аднаўленне сваёй гаспадаркі і раскрываюць на гэтым свой характар, свой светапогляд. Аднак у гэтай п'есе мы бачым аўтарскі намер высмеяць нізкапаклонства перад Еўропай, абурыцца амерыканскімі падпальшчыкамі вайны. Апроч таго, аўтар імкнуўся раскрыць характэрнае для савецкіх людзей пачуццё дружбы паміж народамі нашай краіны, аўтар хацеў выявіць, як савецкія людзі шануюць памяць аб загінуўшых воінах. Аўтару хацелася паказаць, як адзін калгас дапамагае другому. Побач з усім гэтым ён меў на-

мер раскрыць высакароднае каханне, якім перапоўнены сэрцы шасцярых дзейных асоб.

Кожны з гэтых намераў у паасобку варты ўвагі. Але калі іх ссыпаць у шапку, пераварушыць, перамяшаць і выкласці ў адну п'есу, дык атрымаецца нешта хаатычнае, сумбурнае, эклектычнае. Бо нельга ж у адным творы ахапіць усе тэмы сучаснасці на плошчы ў 70—80 старонак.

Такая распыленасць і мнагапланавасць ідэйнага замыслу адбілася і на абмалёўцы вобразаў, і на пабудове калізій, і на кампазіцыі п'есы, і асабліва на дыялогу. Ён вельмі часта алагічны і месцамі нагадвае размову двух глухіх. Такі дыялог не вядзе, не развівае дзеяння.

Такія парушэнні звычайнай чалавечай логікі, асабліва калі яны часта сустракаюцца ў п'есе, выклікаюць недавер'е да ўсяго твора. А твор, які страціў давер'е чытача ці гледача, траціць адначасова і выхаваўчае значэнне.

Вельмі цяжка пераказаць нават коратка сюжэт гэтай п'есы, бо ніякіх падзей у п'есе няма, вобразаў няма. Але ўсё-такі аб чым там вядуць размову персанажы?

У першым акце старшыня калгаса з дапамогай МТС збіраецца асвоіць усю пасяўную плошчу (дарэчы, летам, а не вясной). Калгаснікі маюць намер сабраць ураджай не менш як 180—200 пудоў з гектара.

У другім акце старшыня калгаса гаворыць аб намеры пабудаваць электрастанцыю, млын, хату-лабараторыю і зацвярджае пяцігадовы план аднаўлення калгаса.

Але ўсяму гэтаму перашкаджае словамі адзін намеснік старшыні калгаса, які заклікае калгаснікаў адпачыць пасля вайны.

Аднак у трэцім акце мы бачым, што без усякай барацьбы, без цяжкасцей, усё, аб чым марылі ў першых двух актах, ужо ёсць, ужо ўсё гатова. Варта ўлічыць, што паміж першым і апошнім актамі прайшло часу менш года.

Безумоўна, невыпадкова — ніводзін тэатр не асмеліўся паставіць гэту п'есу, бо ў ёй няма пэўнага мэтанакіраванага замыслу, няма драматургічнага сюжэта, няма праўдзівых падзей, няма вобразаў.

Такі твор нельга скарыстаць як ідэалагічную зброю для выканання тых задач, якія пастаўлены партыяй у рашэннях вераснёўскага Пленума. Чым тлумачыцца пепаўнацэннасць гэтай п'есы?

Перш за ўсё тым, што ў ёй няма канфліктных абставін, у якіх можа выявіцца характар персанажа, у якіх чалавек павінен не гаварыць, а дзейнічаць.

У п'есе словы, думкі героя павінны вынікаць з папярэдніх учынкаў і рыхтаваць нейкую новую падзею, г. зн. рухаць дзеянне. Ілюстрацыйныя, інфармацыйныя рэплікі замарожваюць дзеянне і не садзейнічаюць абрысоўцы вобраза.

Для выяўлення пэўнай рысы характару неабходны кантрастныя абставіны. Чорнае на чорным цяжка заўважыць, а на белым відаць здалёк. Напрыклад, каб выявіць — смелы чалавек ці палахлівы, трэба паставіць яго ў пэўныя абставіны, у якіх выявіцца тое ці другое. Мала назваць якую-небудзь рысу характару, глядач хоча ўбачыць яе, а не на словы верыць аўтару. Мала сказаць, што гэты чалавек валодае пачуццём гумару і можа рассмяшыць другіх. Трэба на справе паказаць, як ён можа рассмяшыць, які ў яго гумар, як ён гаворыць, ходзіць і г. д., у чым праяўляецца гумар. Трэба паказаць гумар гэтага чалавека, а не прыпісваць яму. Драматург — не начальнік аддзела кадраў, які запаўняе анкету: чэсны, праўдзівы, палітычна граматны, маральна ўстойлівы і г. д.

Персанаж п'есы павінен выявіць гэтыя якасці сваімі паводзінамі, учынкамі, а не пры дапамозе аўтарскай характарыстыкі, укладзенай у вусны другога персанажа.

Другая прычына, якая абумовіла мастацкую непаўнацэннасць п'есы: матывіроўка паводзін персанажаў — не жыццёвая, не праўдзівая.

У даным выпадку дапушчана маленькая няпраўда — мы не можам паверыць, што сур'ёзны, разумны чалавек мог так вытлумачыць сваё нежаданне павесяліцца разам з хлопцамі ці закахацца ў дзяўчыну. Больш таго, пачуўшы ад чалавека гэтыя словы, мы не можам сказаць, што ён сур'ёзны, разумны, нармальны чалавек, што такі чалавек здольны весці за сабой калектыў. А Бондар — старшыня калгаса.

Могуць сказаць: «Ну вось — выбраў сабе за мішэнь п'есу, якая напісана ў перыяд панавання «тэорыі бесканфліктнасці»!»

Але ж пры чым у даным выпадку «тэорыя бесканфліктнасці»?

Дый ці не хопіць ужо ківаць на «тэорыю бесканфліктнасці», апраўдваючы сваю несамастойнасць у ацэнцы жыццёвых з'яў?

Ці не варта спытаць, а дзе пісьменніцкае сумленне перад праўдай жыцця? Дзе творчая самастойнасць? Дзе аўтарскае супрацьўленне якой бы то ні было тэорыі, калі

яна перашкаджае ствараць праўдзівыя, высокамастацкія творы! І, нарэшце, якая справа народу, гледачу да таго, што нехта выдумаў нейкую тэорыю і пісьменнік паслухмяна следуе патрабаванням гэтай шкоднай, антымарксісцкай тэорыі.

Значыць, справа не толькі ў «тэорыі бесканфліктнасці», а і ў тым, што ў многіх з нас не хапае творчай самастойнасці, мастацкага майстэрства, прафесійнай кваліфікацыі.

Напрыклад, недахопы п'есы В. Віткі «Прамень будучыні» тлумачацца не толькі ўплывам «тэорыі бесканфліктнасці», якая, як вядома, патрабавала лакіроўкі нашай рэчаіснасці. Наадварот. Аўтар даволі смела пачаў п'есу. У ёй мы бачым, што людзі калгаснай вёскі ў першыя пасляваенныя гады жывуць у цяжкіх умовах, што калгасам кіруе чалавек, якога нельга і падпускаць да калгаснага штурвала, што сярод чэсных калгаснікаў арудуюць тыпы, якія супрацоўнічалі з немцамі ў час акупацыі. Як бачыце — да лакіроўкі тут далёка. Аднак у аўтара не хапіла майстэрства разгарнуць канфлікт і выявіць характары ў такіх праўдзівых абставінах. Больш таго, канфлікт, які толькі завязаўся, дзеянне, якое толькі пачалося, аўтар схаваў за занавесам пасля другога акта. А ў трэцім акце мы бачым малаверагодныя вынікі той барацьбы, якая адбылася ў антракце. Гэта вельмі нагадвае такі паядынак на шпагах. У першым акце выйшлі на сцэну двое са шпагамі. Высвятляюцца непрыязныя ўзаемаадносіны. У другім акце гэтыя двое схапіліся за шпагі. А ў трэцім бачым: адзін ляжыць распластаным, а другі, наступіўшы нагой на грудзі праціўніка, вастрыё шпагі прыставіў да яго горла. Як адбываўся паядынак, як адзін наступаў, а другі абараняўся — алах ведае. Самага цікавага мы не ўбачылі.

Відаць, алах ведае і тое, чаму п'есе, якая прысвечана паказу, як калгаснікі пад кіраўніцтвам палітотдзела МТС аднаўляюць сваю гаспадарку, разбураную вайной, чаму гэтай п'есе навязаны такі неарганічны фінал, якім, дарэчы, вельмі захапляецца ў рэцэнзіі крытык Алесь Есакоў: «Фінал п'есы зроблены даволі ўдала і праўдзіва. Адмоўныя адносіны да імперыялістычнай Амерыкі і іронія герояў па адрасе гэтай краіны вельмі выразна характарызуюць адносіны калгаснікаў да буржуазнага свету».

Крытык тут нічога не выдумаў. Ён сказаў праўду.

У п'есе фінал такі. Але гэта вельмі нагадвае адну прымаўку: «У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька».

І яшчэ адна заўвага. Гэты недахоп п'есы «Прамень будучыні» вельмі характэрны і для другіх п'ес. Парушэнне логікі характару, адсутнасць паслядоўнасці ў абмалёўцы вобраза.

Вось якія метамарфозы адбываюцца з людзьмі ў гэтай п'есе. У першай палове п'есы Пацыкалік — малапісьменны памочнік намесніка рахункавода, які выхваляецца сваім почыркам, беспадзейны аболтус, бо лічыць, што пасада пажарніка — найвышэйшая ў раёне, і гэты чалавек у канцы п'есы становіцца раптам, іменна раптам, нечакана ледзь не самым чэсным калгаснікам, нават стаў вучыцца на палявода. Што здарылася з гэтым чалавекам? Калі ён так пераменіўся, ад чаго? — невядома. Аўтар не паказаў і не даказаў. Што ж на яго так падзейнічала, якая чароўная палачка зняла з яго дурман? Ці каханне на яго падзейнічала, ці вясна і салаўіныя песні, а можа, гутарка агітатара ці газетны артыкул? Аб усім гэтым аўтар дае волю фантазіраваць і дагадвацца чытачу.

І гэта называецца развіццё характару. У пачатку п'есы Пацыкалік быў адным, у канцы ж стаў зусім іншым. А калі ён перавыхаваўся, калі ён памяняў свой погляд, дык цяжка сказаць не толькі чытачу, але і самому аўтару.

З гэтага трэба зрабіць вывад — не ўсякая п'еса дае магчымасць і не ад кожнай п'есы трэба патрабаваць, каб абавязкова кожны характар развіваўся. Заслугай драматурга трэба лічыць і тое, калі яму ўдалося поўнасцю раскрыць характар пры дапамозе яркіх мастацкіх дэталей, у тыповых для характару абставінах.

Свядомасць — не галаўны ўбор, яе не так лёгка памяняць, як шапку. Можна напісаць п'есу, у якой дзея будзе адбывацца толькі суткі, а перамяніць светапогляд за суткі чалавек не можа.

Вазьміце п'есу «На дне» Горкага. Там далёка не ўсе вобразы набываюць новыя якасці, але раскрываюцца вобразы ўсе. А п'еса ад гэтага нічога не траціць.

Партыя ад нас патрабуе звярнуць асаблівую ўвагу на творы, прысвечаныя тым працэсам, якія адбываюцца на вёсцы.

Я наўмысля не спыняюся на аналізе п'есы «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, лепшай п'есы на гэту тэматыку. Наша крытыка даволі многа і падрабязна аб ёй гаварыла,

адзначаючы мастацкае майстэрства аўтара ў стварэнні яркіх, цікавых, запамінальных вобразаў.

Але гэта адна п'еса не можа засланіць нашы вялікія промахі ў гэтай галіне творчасці.

Калі мы надалей будзем так пісаць п'есы аб людзях нашай вёскі, дык трэба шчыра сказаць — мы вельмі мала дапаможам партыі і народу ў вырашэнні тых складаных і важных задач, якія пастаўлены перад усімі намі вераснёўскім Пленумам ЦК КПСС. А пісаць п'есы аб гэтых людзях — наша неадкладная задача, наш абавязак.

Каб не стварылася ўражанне, што я заклікаю «трымаць нос па ветры», да кан'юнктуршчыны, варта заўважыць, што кан'юнктуршчына, як правіла, прыводзіць да няўдачы. Гаворачы пра абавязак кожнага пісьменніка адгукнуцца сваёй працай на рашэнні вераснёўскага Пленума ЦК КПСС, маецца на ўвазе глыбокае, дэталёвае вывучэнне жыццёвых працэсаў і ваяўнічае, актыўнае ўмяшанне ў іх развіццё, маецца на ўвазе стварэнне праўдзівых, пераканальных твораў аб сапраўдных энтузіястах камуністычнага будаўніцтва ў вёсцы і іх непрымірымай барацьбе з усім адгніўшым, устарэлым, фальшывым, шкодным, што перашкаджае гэтаму будаўніцтву.

Павярхоўнае азнаямленне з жыццём прыводзіць альбо да лакіроўкі жыцця, альбо да скажэння яго ў змрочных тонах.

Мы маем такія прыклады, калі пісьменнік без глыбокага ведання жыцця, без роздуму аб ім, без асэнсавання, а, як кажуць, «трымаючы нос па ветры», браўся вырашаць тэму ці праблему, якой у жыцці не было. Праблема была выдумана, і п'еса аказалася «мертворожденным плодом». Я маю на ўвазе п'есу «На парозе» Арк. Маўзона аб будаўніцтве аграгарадоў.

Пасля вераснёўскага Пленума п'есы яшчэ не з'явіліся, але ёсць апавяданні, якія прэтэндуюць на кан'юнктуршчыну. Вось прыклад.

Дырэктар МТС падрыхтаваўся да сустрэчы новых спецыялістаў, якія едуць у МТС на заклік партыі. Ён успамінае, што і сам некалі ў ліку 25-тысячнікаў прыехаў у вёску, дзе і па сённяшні дзень працуе. Успамінае, як кулакі забілі яго таварыша ў час калектывізацыі. На станцыі дырэктар сустракае маладых спецыялістаў, сярод якіх і сын забітага 25-тысячніка. Гэта дае повад для разважання аб тым, што партыя праяўляе клопаты аб вёсцы — у трыццатых гадах яна паслала 25-тысячнікаў і

цяпер пасылае ўжо не проста рабочых, а спецыялістаў. I ўсё.

У гэтым апавяданні ёсць усё, апроч галоўнага. Не паказана тое, што жыццё прадыктавала неабходнасць пасылкі спецыялістаў, што без спецыялістаў МТС не справіцца з пэўнымі задачамі, не ліквідуе пэўных недахопаў. У апавяданні няма нават і знаку таго, што прызыў партыі ёсць вынік запатрабаванняў жыцця.

Пісьменнік тут не стварыў і вобразаў тых, хто едзе ў МТС, не выявіў тых рыс характару, якія б далі магчымасць спадзявацца, што гэтыя людзі прынясуць карысць, зробяць вялікую справу ў пераўтварэнні калгаснай вёскі.

Безумоўна, гэта апавяданне можна было напісаць, седзячы ў кабінеце і не выязджаючы ў вёску. Яно не дапамагае партыі мабілізаваць чытача на вырашэнне сур'ёзных праблем калгаснага жыцця. Гэта апавяданне мае ўсе адзнакі кан'юнктуршчыны.

Нельга згадзіцца з такім вырашэннем важнай тэмы. А між іншым, заўважаецца і такая з'ява, калі пісьменніка штурхаюць на падобны метад работы.

Беларуская кінастудыя заказала Івану Шамякіну сцэнарый па яго раману «У добры час». Пісьменнік напісаў сцэнарый па раману, і, па маю думку, сцэнарый атрымаўся неблагі, аднак работнікі студыі, якія, прачытаўшы раман, заказалі сцэнарый, пры абмеркаванні яго выставілі патрабаванне падагнаць сцэнарый пад рашэнні вераснеўскага Пленума. I нават прапанавалі свой штамп: Максім Лескавец прыязджае ў калгас не з арміі, а па закліку партыі. У рамане апісаны падзеі першых год пасля вайны, а ад пісьменніка патрабуюць механічнага перанясення гэтых падзей у 1954 год, г. зн. пасля вераснёўскага Пленума. Такім чынам пісьменніка паставілі перад дылемай — або адмовіцца ад сцэнарыя па раману, або пісаць новы сцэнарый аб тым, чаго Шамякін яшчэ не бачыў, не ўзважыў, не абдумаў.

На маю думку, такая пазіцыя работнікаў кінастудыі няправільная.

Ад пісьменніка трэба патрабаваць партыйнага стаўлення да жыцця пры мастацкім адлюстраванні яго ў творы, а не надгонкі, падвядзення твора пад пэўны тэзіс любога, нават самага надзённага рашэння самай высокай інстанцыі.

Зрабіць грунтоўны агляд усіх нашых п'ес, напісаных пасля вайны, немагчыма ў невялікім артыкуле. Аднак

варта коратка сказаць аб тым, што маюць нашы тэатры ў сваім рэпертуары сёння.

Даволі бойка ідзе і, будзем верыць, што і далей будзе ісці апошняя п'еса К. Губарэвіча «Простая дзяўчына». Мяркуючы па рэакцыі залы, яна ўспрымаецца гледачом з цікавасцю. Невыпадкова тэатр эксплуатуе спектакль па гэтай камедыі вельмі часта: за тры месяцы спектакль прайшоў 50 разоў. Нават сам аўтар не без падстаў выказвае незадавальненне тым, што спектакль «заездзілі», «замусолілі», што ён не ўзбагачаецца акцёрамі, а, наадварот, траціць першапачатковую свежасць.

Аднак трэба, на маю думку, зрабіць заўвагу і самому аўтару. Мне здаецца, што над мовай аўтару варта папрацаваць, каб ачысціць п'есу ад грубаватых выразаў, накшталт «каб цябе разарвала», «трэба табе дом, як мне балячка на адным месцы» і г. д. Такіх перлаў там многа. У гэтай камедыі заўпадта яўна жаданне аўтара пазабавіць, пасмяшыць гледача любым спосабам. Камедыя для таго і пішацца, каб пасмяшыць, аднак смех — не самамэта, а выхаваўчы сродак.

Нельга патураць гледачу, які смяецца з пальца, кукіша ці з таго, што персанаж пашкроб паясніцу ці стукнуўся галавой аб вушак. Гэта пустасмех.

Добрая тая п'еса, пасля прагляду якой хочаш рабіць нешта не так, як раней, хочаш жыць крышачку інакш, не рабіць таго глупства, якое высмеяна са сцэны, публічна.

Гэта ідэал для кожнага драматурга, і мы павінны імкнуцца да яго. У гэтых адносінах і Губарэвічу ёсць куды імкнуцца.

Для папаўнення рэпертуару нашых тэатраў ёсць яшчэ адзін рэзерв. На маю думку, Упраўленню па справах мастацтва Міністэрства культуры і секцыі драматургаў трэба было б перагледзець нашу драматургічную спадчыну. Мы несправядліва забылі многія п'есы Міровіча, Рамановіча і другіх забытых аўтараў, а сярод іх, бясспрэчна, ёсць каштоўныя творы. Прэзідыуму Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, відаць, варта даручыць гэту справу людзям, якія ведаюць нашу спадчыну, і, выбраўшы лепшыя творы, выдаць іх асобным зборнікам, вярнуць іх да жыцця. Многія забытыя зараз п'есы былі этапнымі для беларускага тэатра, на іх выхоўваліся нашы драматургі і акцёры, а мы чамусьці занялі ў адносінах да іх пазіцыю «Иванов непомнящих»...

Нарэшце яшчэ адно пытанне: аб сувязі паміж драма-

тургамі і тэатрамі і ўзаемных прэтэнзіях. Сувязі паміж тэатрам і драматургам дзеляцца па два віды: творчыя і арганізацыйныя. Драматургі пастаўляюць тэатру п'есы, да якіх акцёры і рэжысёры маюць права прад'яўляць прэтэнзіі. Напрыклад, у нашых п'есах шмат другарадных, эпізадычных персанажаў, напісаных шаблонна, нецікава, цьмяна, шэра, што ніводзін акцёр не гарыць жаданнем іграць гэту роль. Як правіла, у такіх персанажаў няма ні свайго характару, ні сваёй мовы, а ёсць толькі адна грамадская функцыя: дырэктар, рахункавод, камсорг, брыгадзір і таму падобнае.

Каб акцёры неківалі пальцамі ў наш адрас, нам трэба вучыцца ў сапраўдных майстроў драматургічнага пісьма. Напрыклад, у Максіма Горкага п'есы невыпадкова названы «Достигаев и другие», «Егор Булычев и другие»... Там «другие» — гэта не проста «и прочие», а іменна і другія актыўныя ўдзельнікі драматургічнага канфлікту, барацьбы.

Кожны акцёр з ахвотай, з радасцю возьмецца сыграць, скажам, эпізадычную ролю трубача ў п'есе «Егор Булычев и другие».

Тут дарэчы можна ўспомніць вобраз паэтэсы Цёткі ў п'есе «Шчасце паэта». Вядома, што гэта была жанчына з моцным характарам. Драматург меў магчымасць стварыць цікавы, арыгінальны вобраз, няхай сабе эпізадычны, але запамінальны, аднак гэтага чамусьці не здарылася. Цётка ў п'есе не мае ўплыву на развіццё дзеі, на галоўнага героя п'есы, яна толькі ілюструе агульнавядомы гістарычны факт, што некалі была такая паэтэса Цётка — сяброўка і аднадум Купалы. Артыстцы тут не было чаго іграць. І наогул, артысткі ў нас пакрыўджаны больш за ўсіх. Нашы драматургі стварылі шэраг цікавых, яркіх вобразаў мужчын. А савецкая жанчына — гераіня, маці, падруга — занядбана ў нашай драматургіі. Ніводзін з нашых драматургаў не можа пахваліцца, што ён стварыў цэнтральны персанаж — вобраз цудоўнай савецкай жанчыны. А нашы артысткі мараць аб такой гераіні і чакаюць ад нас такіх п'ес. Анны Карэніны, Васы Жалязновы, Кацярыны не могуць задаволіць нашых артыстак. Ім хочацца сыграць вобраз і сваіх цудоўных сучасніц.

Аднак паміж драматургамі і тэатрам ёсць яшчэ і арганізацыйныя сувязі, а дакладней — вузлы. Часта можна назіраць такую з'яву, як пагарда, недавер'е да п'ес беларускіх драматургаў з боку тэатраў. Асабліва гэта даты-

сокі пост», абмеркаваць яго ў Саюзе пісьменнікаў БССР. Стварыць сапраўды мастацкі фільм пра калгаснага важака, пра чалавека на «высокім пасту» — пачэсная справа. Савецкі глядач з нецярплівасцю чакае з'яўлення фільма на такую тэму.

Сцэнарый жа А. Гінцбурга не адпавядае нават элементарным патрабаванням для стварэння такога фільма, бо ён не мае ніякага дачынення да літаратурнай творчасці.

## МАСТЕР САТИРЫ

Более тридцати лет служит советскому народу острое, талантливое перо выдающегося белорусского писателя-сатирика Кондрата Кондратьевича Крапивы.

Сын крестьянина, сельский учитель, в годы гражданской войны красноармеец, потом писатель, академик, депутат Верховного Совета Белорусской ССР — таковы вехи жизненного пути Кондрата Крапивы.

Примечательна и его литературная судьба. Первые же выступления К. Крапивы в печати — сатирические стихотворные фельетоны, басни, юмористические новеллы — завоевали широкую популярность среди читателей. Сочный народный язык, яркие образы, богатый юмор, заразительный смех, острота и злободневность тематики — все это полюбилось народу.

Умея быстро откликнуться на самую животрепещущую тему, Кондрат Крапива зорким, пристальным глазом художника всегда подмечает самые характерные, важные явления в жизни. Это придает его произведениям долговечность. Многие басни и стихи К. Крапивы, написанные на актуальнейшие темы, вот уже десятки лет живут на эстраде. Некоторые образы, созданные писателем, стали нарицательными.

В начале своего пути К. Крапива отдал много сил «смыванию дооктябрьской грязи с деревни», как заявил он в своем раннем стихотворении «Кто там чешется?». Под обстрел острой и жгучей сатиры Кондрата Крапивы попадают чиновники и бюрократы, кулаки, буржуазные националисты и нытики-интеллигенты — все те, кто, уподобясь

жабе, пытался залезть в колею, чтобы свернуть наш советский воз («Жаба в колсс»).

В 1934 году поставлена пьеса К. Крапивы «Конец дружбы». С тех пор, год от года совершенствуя свое мастерство, он успешно работает в этом жанре. Появляются пьеса «Партизаны» — о гражданской войне в Белоруссии, сатирическая комедия «Кто смеется последний», обошедшая сотни театров Советского Союза. Эта пьеса с неизменным успехом идет на сцене Первого белорусского государственного драматического театра имени Янки Купалы уже 17 лет. На драматургии К. Крапивы воспиталась и выросла большая группа наших актеров.

В своих пьесах Кондрат Крапива всегда занимает боевую, действенную позицию. Пассивность и созерцательность чужды драматургу. За жизнью он следит пристально и по-хозяйски требовательно.

В годы Великой Отечественной войны редактируемый писателем сатирический журнал-плакат «Раздавим фашистскую гадину», стихи и басни К. Крапивы белорусские партизаны принимали на вооружение вместе с автоматами и взрывчаткой. В послевоенное время Кондрат Крапива пишет ряд пьес: среди них широко известна комедия «Поют жаворонки». Писатель публикует серию интересных теоретических статей о белорусской литературе, помогает творческому росту младшего поколения литераторов.

Отмечая шестидесятилетие К. Крапивы, советские читатели и зрители ждут от него новых талантливых и остроумных произведений.

## АДКАЗ ПАКЛЁПНІКАМ

Не так даўно ў газеце «Бацькаўшчына» надрукавалі поршы і, шчыра кажучы, недасканалы варыянт маёй новай камедыі «Каб людзі не журыліся». Было б яшчэ паўбяды ад таго, што рэдакцыя надрукавала п'есу, над якой аўтар сумесна з тэатрам працягваў працаваць, каб палепшыць твор. Мяне абурылі тыя каментарыі і тлумачэнні п'есы, якія былі выказаны ў некаторых артыкулах газеты. Як у крывым люстэрку, там скажаюць мае ідэйныя твор-

чыя пазіцыі і, несумленна вырываючы рэплікі з п'есы, адвольна, па-свойму, тэндэнцыйна тлумачаць яе, ні слова не сказаўшы пра галоўнае ў камедыі — пра яе партыйную накіраванасць, дэмакратычны характар, ідэйны пафас — душу твора.

Мяне гэты манер не здзівіў, бо я добра ведаю, што рэдакцыя газеты «Бацькаўшчына» стаіць на яўна варожых пазіцыях да нашай Камуністычнай партыі, да маёй Радзімы — Савецкай Беларусі, да майго народа, да беларускай савецкай літаратуры і пісьменнікаў. Дзе ж тут быць сумленнасці, адкуль узяцца аб'ектыўнасці, калі розум супрацоўнікаў рэдакцыі затуманены гневам і нянавісцю да ўсяго савецкага, да ўсяго, чым жыве беларускі народ? Вядома ж, гнеў — дрэнны дарадчык розуму.

Я, бадай, і не стаў бы траціць час, каб аспрэчваць пісаніну ў «Бацькаўшчыне», калі б не адзін клопат. Ці мала якую страву могуць прыгатаваць кухары з «Бацькаўшчыны»? І калі б яны самі спажывалі тое, што згатуюць, справа іншая, але ж яны стараюцца падсунуць сваю ідэйную куламесу маім суайчыннікам, беларусам, якіх цяжкі лёс у розны час адарваў ад родных ніў, ад родных мясцін і загнаў на чужыну. І толькі душэўнае спачуванне маім землякам, сардэчная спагада да іх няўдалай долі абавязваюць мяне звярнуцца да гэтых людзей з лістом, каб папярэдзіць іх аб тым, якой нячыстай і бруднай «стравай» іх труцяць несумленныя нацыяналістычныя «кухары», ставячы мэтай зачмурыць іх галовы, прытушыць іх гарачую любоў да Айчыны, запляміць савецкі лад, а тым самым зганьбіць беларускі народ. Яны не спыняюцца перад ашуканствам, каб давесці, што ў нас, на Беларусі, савецкіх пісьменнікаў пазбавілі свабоды творчасці, што нехта быццам бы заціскае нам рот. Яны, напрыклад, пусцілі хлусню, нібыта мая камедыя «Каб людзі не журыліся» забаронена за тое, што ў ёй праўдзіва адлюстравана жыццё калгаснай вёскі. Няпраўда! Ашуканства! Маняць не міргнуўшы вокам. Камедыя з поспехам ідзе на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У спектаклі заняты найлепшыя беларускія акцёры: народны артыст СССР Глеб Паўлавіч Глебаў, народны артыст СССР Барыс Платонаў, народныя артысты БССР Уладзімір Дзядзюшка і Іван Шаціла, заслужаныя артысты БССР Стома, Бараноўскі, Шынко, Іваноў і іншыя. Адзін пералік выканаўцаў у спектаклі гаворыць аб тым, як адносяцца да маёй камедыі. Мне нават прыемна гэтым пахваліцца. І калі хто з вас вернецца на Радзіму,

ён зможа сваімі вачыма ўбачыць спектакль і пасмяяцца разам з нашымі людзьмі з таго, што адыходзіць з жыцця ў нябыт.

Мая п'еса ў перакладзе на рускую мову прынята маскоўскім часопісам «Театр», дзе яна будзе надрукавана ў бліжэйшы час, аб чым рэдакцыя паведаміла сваім чытачам у майскім нумары за гэты год. Публікацыя п'есы ў гэтым часопісе дапаможа ёй выйсці на ўсесаюзную арэну.

Цяпер аб галоўным. У камедыі «Каб людзі не журыліся» я расказваю пра нядаўняе мінулае ў адным з адсталых калгасаў, дзе гаспадарыў нядбайны старшыня Самасееў, а яго прыяцель — бюракрат раённага маштабу — Гудзееў падтрымліваў яго, пакуль абодва не трапілі ў смешнае становішча. На пасаду старшыні прыйшоў камуніст Кавальчук.

Людзям часта даводзіцца перажываць малыя і вялікія непрыемнасці як у асабістым жыцці, так і ў грамадскім. І хоць чалавеку ўласціва забываць тое з мінулага, што было непрыемным ці нават сумным, аднак праз некаторы час і непрыемнасці, якія ўжо даўно перажыты, і цяжкасці, якія ўжо даўно пераадолены, выклікаюць не сум і журботу, а патрэбу пасмяяцца. «Чалавецтва, смеючыся, расстаецца са сваім мінулым»,— так некалі сказаў Карл Маркс.

Нашым савецкім людзям, перад якімі адкрыты светлыя перспектывы, уласціва пачуццё гумару. Вось чаму, на маю думку, форма камедыі найбольш адпавядае нашаму аптымістычнаму грамадству, калі ідзе расказ аб перажытках мінулага, з якімі нашы людзі расстаюцца назаўсёды.

У разважаннях рэдакцыі «Бацькаўшчыны» аб п'есе перш за ўсё кідаецца ў вочы прафесійная бездапаможнасць, непісьменнасць яе супрацоўнікаў як літаратараў. Мастацкі твор яны чамусьці разглядаюць як фактаграфічны, як дакументальны. Гэта па меншай меры бязглузда, асабліва ў дачыненні да камедыі, дзе проста немагчыма абысціся без гіпербалізацыі, без камедыйнага пераўвелічэння. Яны нават не ведаюць элементарнай ісціны, што тэатр — гэта не проста люстэрка, а павелічальнае шкло. І калі ў камедыі ўскрываюцца нейкія недахопы з жыцця, то аўтар карыстаецца прыёмам даследчыка-медыка. Калі завёўся нейкі шкодны мікроб, яго выяўляюць пры дапамозе мікраскопа, павялічваючы ў сотні разоў, каб заўважыць яго, вывучыць яго, а потым весці з ім барацьбу. Так робіць і камедыёграф-сатырык. Ён наўмысля перабольшвае

адмоўныя з'явы, каб прыцягнуць увагу грамадскасці і мабілізаваць людзей на барацьбу з гэтай з'явай. Гэткім жа прыёмам карыстаўся і я ў рабоце над сваёй камедыяй.

А нацыяналістычныя пісакі, купленыя ў свой час гітлераўскімі фашыстамі і перапраданыя новым, заакіянскім гаспадарам, прымаюць эпізоды з камедыі за чыстую манету. Аслепленыя нянавісцю да савецкага народа, які будуе камунізм, які з дня на дзень паляпшае сваё жыццё, вымятае рэшткі перажыткаў мінулага, гэтыя барзапісцы рады прыняць нават уяўнае за сапраўднае, калі гаворка ідзе пра недахопы.

Я не ведаю, ці варта з імі гаварыць аб маральных катэгорыях. Аднак скажу.

Кожны сумленны беларус, дзе б ён ні жыў, на Радзіме ці чужыне, шчыра радуецца кожнаму поспеху свайго народа ў эканамічным ці культурным жыцці, радуецца ўсякаму дасягненню калгаса ці завода, школы ці тэатра, літаратара ці артыста. І толькі яны, адшчапенцы з «Бацькаўшчыны», ніколі не радаваліся ўдачам беларускага народа. Наадварот, яны зларадніча́юць, калі заўважаць хоць бы маленькія недахопы ў нашым жыцці і зажмурваюць вочы на тое, што гэтыя недахопы паўсядзённа выпраўляюцца воляй народа, воляй нашай партыі.

Як гэта назваць? Як гэта спалучыць з чалавечай годнасцю, з нацыянальнай гордасцю? Чым вытлумачыць тое, што яны гаўкаюць з-пад чужой падваротні на наш дом, які некалі быў і для іх родным кутам?

П р а д а л і с я! — вось тлумачэнне. Прадаліся і пырскаюць злой слінай на наш цудоўны квітнеючы край. Калі б яны мелі хоць кроплю сумлення — сядзелі б як мышы пад венікам. Аднак на сумленне яны народ бедны. Для іх Радзіма — аб'ект для торгу.

Для кожнага савецкага чалавека, для кожнага савецкага пісьменніка Радзіма — дом. Для мяне Беларусь — мой родны дом, мой родны кут, а беларускі народ — мая кроўная сям'я, дзе я і мае дзеці збіраемся жыць давеку. І сям'я ў нас вялікая, дружная, шчаслівая, багатая. І багацце наша расце дзень ў дзень. Кожны член гэтай сям'і дбае пра свой дом, клапоціцца, каб у ім усё было ў ладзе. А калі хто і заўважае недзе нейкі недахоп, нейкую шчыліну, дык не праходзіць міма, а звяртае ўвагу ўсіх, і ўсе выпраўляюць недахоп. Так робяць дбайныя гаспадары, так робяць і савецкія пісьменнікі. Інакш і быць не можа. Мы даражым сваім домам і не даём завесціся ў ім плесені.

Вось чаму ў нас маральнае права не хаваць недахопаў у сваім доме і не хаяць таго, што нам дорага,— у гэтым і заключаецца сумленнае служэнне свайму народу — сваёй сям'і.

Я ганаруся тым, што належу да Камуністычнай партыі. А камуністаў ніхто не можа абвінаваціць, што яны баяцца крытыкі, што яны схільны замазваць ці хаваць недахопы ў рабоце. Перад намі вялікая мэта — усе людзі на зямлі павінны жыць шчасліва. Да гэтага мы ідзём, дзеля гэтага мы і працуем. У гэтым — сэнс жыцця, такое маё глыбокае перакананне. І калі хто выступае супраць камуністаў, супраць іх ідэй, той для мяне — асабісты непрымірымы вораг.

Хай помняць аб гэтым адшчапенцы з «Бацькаўшчыны»!

## «ВЫГНАННЕ БЛУДНІЦЫ»

Жыццё сённяшняй вёскі — сапраўдны скарб для драматурга. Яно дае пісьменніку незлічоную колькасць найцікавейшых канфліктаў для стварэння п'ес разнастайнага жанру — ад камедыі да драмы. Да апошняга часу драматургі, звяртаючыся да калгаснай тэмы, пераважна бралі пад увагу канфлікты гаспадарчага характару, так званыя вытворчыя канфлікты. І гэта было правамерным, бо вытворчыя канфлікты давалі магчымасць для найбольш яркага выяўлення сутнасці новых рыс у характары сучаснага селяніна, для якога яшчэ зусім нядаўна прыватніцкая псіхалогія была асновай яго свядомасці. Працэс вызвалення селяніна-калгасніка ад перажыткаў дробнаўласніцкай псіхалогіі працягваецца і сёння, але жыццё з лагічнай паслядоўнасцю ўжо ставіць на парадак дня наступныя, новыя праблемы.

Кожны мастацкі твор — п'еса гэта ці раман, аповесць ці апавяданне — з'яўляецца не толькі вынікам пільнага назірання за падзеямі жыцця, але і вынікам глыбокага роздуму пісьменніка над жыццёвымі з'явамі. Узбагаціўшы сваю фантазію яркімі характарамі жывых людзей, пісьменнік стараецца паказаць жыццё ў такім ракурсе, які найбольш спрыяе выяўленню пэўнай аўтарскай ідэі,

каб дапамагчы людзям разабрацца ў жыццёвых з'явах, накіраваць нашу думку на тыя з'явы, якія заслугоўваюць грамадскай увагі.

П'есу Івана Шамякіна «Выгнанне блудніцы» якраз і характарызуе выяўленне новых праблем у жыцці калгаснай вёскі: павышэнне культуры працы, культуры быту. У п'есе прапагандуецца ідэя найбольш шырокага выкарыстання ў вёсцы здабыткаў агульначалавечай культуры, адстойваецца чысціня маральна-этычных паводзін людзей. І гэтую тэму пісьменнік вырашае не ізалявана ад тых вытворчых клопатаў, якімі жывуць яго героі, а ў цеснай сувязі, узаемнай залежнасці, у перапляценні.

Прыемна адзначыць, што тэатр імя Якуба Коласа, які нядаўна паказаў у Віцебску прэм'еру па гэтай п'есе, здолеў данесці ідэю твора ў яснай і выразнай форме.

Сярод герояў п'есы цяжка назваць галоўнага, але найбольш ярка выпісаны аўтарам і створаны ў спектаклі народным артыстам БССР Ф. Шмакавым вобраз паэта Гаворкі. Таленавіты малады паэт Гаворка з'яўляецца рупарам аўтарскай ідэі, ён арганізуе і вядзе драматургічнае дзеянне, хоць сам і не трапляе ў драматычную сітуацыю.

Настаўнік, паэт Гаворка ў выкананні Шмакава прывабны, разумны, душэўны чалавек. Гэта не халодны сузіральнік, а актыўны ўдзельнік грамадскага жыцця вёскі. Апрача сваіх службовых і творчых спраў, ён жыве інтарэсамі ўсяго калектыву, шчыра радуецца поспехам людзей, любіць гэтых людзей, дзеля іх шчасця і радасці працуе ў школе, піша вершы і нарысы, чытае лекцыі ў клубе, арганізуе выстаўку жывапісу. Запамінаецца сцэна, дзе Гаворка цалуе агрубелыя ад нялёгкай працы рукі маладой даяркі Галі. І гэта не флірт лавеласа, а глыбокая і шчырая павага да натруджаных рук, душэўная прыхільнасць да людзей працы. Аднак Гаворка не прыхільнік ідэалізацыі цяжкай працы. Ён уступае ў сур'ёзную спрэчку са старшынёй калгаса, кідае яму папрок: «А чаму, чаму, чорт вазьмі, у гэтых залатых дзяўчат павінны быць такія рукі? У наш век! Мне абрыдла гэтая вар'яцкая паэтызацыя крывавага мазаля! Даволі паэтызаваць мазоль! Час паэтызаваць рукі, якія націскаюць кнопкі механізмаў».

Такім і запамінаецца Гаворка: чулым, добрым, усхваляваным. Невыпадкова стары дзед Піліп, які не вельмі прыязна сустрэўся з Гаворкам, перамяніў свой погляд і скупа, але душэўна пахваліў яго: «А ты хлопец — ого! А я думаў, ты — так сабе, шалапут...» Дарэчы, дзед Піліп

у выкананні народнага артыста СССР А. К. Ільінскага вельмі сімпатычны, глыбока народны вобраз, чалавек з тонкім адчуваннем гумару, часам даволі калючага. Нават яго грубаватасць у адносінах да музыкантшы Яўгеніі Любаміраўны прымаецца гледачом з адабрэннем.

Людзі, якія акружаюць Гаворку,— чыстыя, светлыя, з вялікімі творчымі імкненнямі. Яны працуюць не па абавязку, а па патрэбе душы, плённая праца прыносіць ім глыбокае задавальненне. Клопатамі аб росквіце свайго калгаса жывуць і старшыня (народны артыст БССР А. Шэлег), і даяркі, і навучэнцы, і дырэктар школы Яснікаў.

І вось у гэты здаровы і дружны калектыў прыязджае з горада выкладчыца музыкі Яўгенія Любаміраўна. Не па загаду сэрца, не з задачай пазнаёміць працаўнікоў вёскі з музычнай культурай прыехала яна сюды, а з асабістымі карыслівымі мэтамі — зарабіць доўгі рубель, прыстасавацца, знайсці сабе лёгкае і бесклапотнае жыццё за чужы кошт. Калі ёй не ўдалося аблытаць павуціннем сваіх чар паэта Гаворку, яна хутка мяняе цэль і накіроўвае свае стрэлы ў Яснікава, чалавека з няўстойлівымі прынцыпамі.

Перад маладой артысткай Галінай Маркінай стаяла даволі цяжкая задача — стварыць вобраз Яўгеніі вонкава абаяльным, прывабным, каб можна было паверыць, што Яснікаў мог спакусіцца на гэтую прыгажуню, і ў той час выклікаць у гледача пачуццё непрыязнасці, асуджэння, высмеяць носьбіта мяшчанскай ідэалогіі. І трэба сказаць, што Маркіна з поспехам вырашыла гэтую цяжкую задачу. Яна вельмі тонка і пераканаўча праводзіць сцэну спакушэння Яснікава.

У спектаклі выразна праводзіцца думка: бяда не толькі ў тым, што мяшчанка здолела разбурыць сям'ю, галоўная бяда ў тым, што гэтая пошлая і разбэшчаная натура сваёй інтрыгай выбівае з творчай каляіны многіх людзей. Пакутуе маладая жонка Яснікава Галя, душэўны вобраз якой мяккімі, акварэльнымі фарбамі стварыла маладая актрыса Е. Яленская; не ладзіцца з дысертацыяй і ў самога Яснікава. Парушаецца творчы рытм і іншых людзей, якія сардэчна ўзрушаны гэтым амаральным учынкам. Абураныя аднавяскоўцы байкатуюць маўчаннем няўдалую культуртрэгершу. Яўгенія застаецца ў адзіноце: не ходзяць на ўрокі музыкі дзеці, не размаўляюць з ёю дзяўчаты, адхіснуліся ад яе сумленныя людзі. Без скандалаў, без крыку выганяюць блудніцу з сяла людзі са светлай душой, з

чыстым сумленнем. Няма месца пошласці ў гэтым калектыве.

І хоць у выніку гэтай драматычнай калізіі распалася сям'я, аднак уражанне ад спектакля застаецца светлае, бо зло асуджана і пакарана. Гэтаму спрыяе і той іскрысты гумар, якім умела карыстаюцца артысты А. Ільінскі, А. Шэлег, З. Канапелька.

Праўда, не ўсё ў спектаклі гладка і роўна. Не зусім пэўная і ясная пазіцыя аўтараў спектакля да вобраза Яснікава перашкаджае правільнаму разуменню яго жыццёвых прынцыпаў, што адбіліся і на рабоце артыста Казлова, які выконвае гэтую ролю. Неглыбокае пранікненне ў сутнасць характару гэтага вобраза, логіку яго паводзін прывяло да таго, што і пасля спектакля Яснікаў застаецца расплыўчатай фігурай, няяснай, незразумелай.

Тэатру варта не спыняцца на дасягнутым, варта прадоўжыць работу над спектаклем, бо ён заслугоўвае ўвагі гледачоў і можа надоўга захавацца ў рэпертуары.

## БОРИС ПЛАТОНОВ

Если бы вообще не существовало названия художественный руководитель, его пришлось бы выдумать. Специально для Бориса Викторовича Платонова. Иначе как определить ту функцию, которую скромно, без громких фраз и парадного представительства взял на себя народный артист СССР Б. Платонов?

В Белорусском театре имени Янки Купалы есть и главный режиссер и художественный руководитель. В другом месте, наверное, такая структура не обязательна — не в каждом коллективе есть человек, имеющий право художественно руководить.

В Минске художественно руководит коллективом Б. Платонов. Это не значит, что великолепный актер, сочетающий в себе комика и трагика, решил изменить своей профессии. Будучи художественным руководителем, он прежде всего остается актером.

Платонов играет много и часто, он не любитель спокойной, размеренной «жизни в искусстве», к которой потянулись иные мастера старшего поколения,— он отдает себя

целиком театру, и не только своим ролям, но — своему коллективу, товарищам по сцене. Его руководство — это прежде всего личный пример. Для любого актера играть с Платоновым, смотреть, как репетирует Платонов,— отличная школа. Он в театре — как камертон, малейшая фальшь нетерпима рядом с правдой его искусства.

Встречаются вообще талантливые актеры — у них мастерство, обаяние... К Платонову слово «вообще» не применимо, хотя он самый обаятельный актер и большой мастер. Платонов чуток ко времени, к настроению зала, он всегда новый, неожиданный, сегодняшний. Без контакта со зрителем он не мыслит себе театра. Сейчас в театре имени Янки Купалы репетируют «Живой труп». Платонов — Федя Протасов, и главная забота артиста — о современном звучании роли, о наиболее точном с позиций сегодняшнего дня толковании толстовского образа.

Один из основателей театра имени Янки Купалы, он меньше всего похож на «маститого». Попробуйте в глаза похвалить Платонова — и ему и вам станет неловко, он не любит говорить о себе, не умеет выслушивать слова признательности. Его скромность достойна подражания.

В каждом театре найдутся любители поговорить и порассуждать на театральные темы. Как не любит Платонов актерское многословие, актерские разговоры, не подкрепленные делом. Жалуешься, что нет пьес,— будь активнее, помоги их найти. Не ладится роль у товарища — не шепчись в сторонке, подскажите, попытайтесь помочь! Его девиз — «работать надо!». Своим творчеством, своим трудом, а не пустыми фразами доказать любовь к театру.

Интересно беседовать с Платоновым. Когда что-то волнует его, ему надо много усилий, чтобы сдержать темперамент. Взгляд его пронзает собеседника — на себе чувствует, что такое актерская наблюдательность. Платонов любит вставлять в разговор реплики из любимых ролей. Они нужны ему то как аргумент, то как шутка и звучат всегда естественно, будто собственные слова.

В пьесе И. Соболева «Хозяин» Борис Викторович очень хотел сыграть Круглаковского, и мы уже фантазировали, каким будет этот характер. Но Платонов узнал, что об этой же роли мечтает другой актер — и отказался от Круглаковского. Отказался с добрым сердцем, подумав об актерской перспективе товарища. Всем ли так дороги чужие радости?

Платонов любит природу, тишину, вечернее небо, про-

тяжные белорусские песни. Он выращивает цветы, может терпеливо выпиливать лобзиком елочки.

Кому-то может показаться, что этот спокойный, ищущий уединения человек — сторонник размеренного образа жизни. Но этот литературный «штамп» опровергается жизнью и характером Платонова. Отдохнув, повозившись с цветами,— не переставая при этом думать о театре,— Платонов устремляется в самую гущу жизни. И сам он не любит спокойных, безразличных, потухших людей — он не представляет себе художника без творческого беспокойства, без поисков, без интереса к жизни.

Он — актер, играющий чуть ли не каждый вечер, художественный руководитель театра.

Он — депутат Верховного Совета БССР, член Комитета по Ленинским премиям, делегат XXII съезда КПСС.

Актер-гражданин, талантливый человек, отдающий свой труд народу.

Может ли для драматурга быть большая радость: написать пьесу — и знать, что в ней будет играть Платонов?

## К. КРАПИВЕ — 70 ЛЕТ

В сокровищницу нашей многонациональной литературы по праву и навечно вошли положительные герои — образы людей больших дел и высоких устремлений. Но чтобы так называемые отрицательные персонажи получили право войти в золотой фонд советской литературы,— это довольно редкое явление. Двадцать семь лет назад Кондрат Крапива в комедии «Кто смеется последним» «представил» зрителям на сцене Белорусского академического театра имени Янки Купалы оригинальнейших типов — Горлохвацкого, Зелкина и Тулягу. Но и по сей день каждая встреча с ними наводит зрителей на серьезные размышления. Видимо, столь долгая «живучесть» этих типов на сцене объясняется тем, что острый глаз сатирика заметил далеко не сорняков-однолеток!

Проходят годы, наша действительность развивается, совершенствуется. Все труднее скрывать свое истинное лицо горлохвацким, зелкиным. Они приспосабливаются, ме-

няют должности, меняют одежды, но нутро их остается прежним. Трусливые туляги еще кое-где пишут диссертации и доклады за нахрапистых и наглых горлохвацких, угодливые зелкины плетут интриги, мутят воду, сплетничают, подсиживают, клевещут, а это все создает благоприятнейшие условия для бюрократов горлохвацких, которые, прикрывшись громкими и «правильными» фразами, устраивают свое мещанское благополучие.

Драматург-сатирик Кондрат Крапива указывает точный адрес своих персонажей, разоблачает их, уничтожает сарказмом, смехом. А зритель вот уже двадцать семь лет приходит в театр, улыбается, хохочет и... подчас узнает себя или знакомых... Нет, не ушли пока подобные сатирические типы. Не скажешь — здравствуют, но живы курилки.

Не случайное, не мелкое из жизни берет Крапива в свои пьесы и басни. Сатирик глубоко вспахивает почву, внимательно исследует жизненные явления, острым глазом детально рассматривает их, обнажая уродливые корни.

Спектаклю «Кто смеется последним» в театре имени Янки Купалы повезло. В нем встретился комедийный талант Кондрата Крапивы с необычайным, изумительным даром комедийных актеров Глебова, Рахленко, Платонова и Ржецкой.

Эта встреча обусловила многолетний успех спектакля и глубокое уважение зрителя к труду драматурга и театра.

Народному писателю Кондрату Крапиве исполнилось семьдесят лет. Он написал много пьес, много басен, столь же популярных и талантливых. Его емкое творчество охватывает и область филологических наук, и переводческую деятельность — К. Крапива дал жизнь на белорусском языке пьесам Островского и Гоголя, басням Крылова, стихам Маяковского. Мы с надеждой ждем от него новых произведений, самобытных, по-народному мудрых и простых, глубоких по мысли и ярких по форме.

Искренне желаем большому мастеру литературы новых творческих свершений, радостных встреч с читателями и зрителями, доброго здоровья.

# АБ ТЫМ, ШТО ЗРОБЛЕНА І НЕ ЗРОБЛЕНА[1]

Давайце прыгадаем: бадай на кожным пісьменніцкім з'ездзе, пленуме, на кожнай нарадзе, высокай ці невысокай, калі гаворка пачыналася аб драматургіі, дык звычайна мы чулі: «Драматургі ў даўгу перад народам». Нават і тады, калі сякія-такія поспехі былі, усё роўна нам напаміналі, што драматургія адстае ад жыцця. Мы неяк прызвычаіліся да гэтага. Аднак жа трэба прызнаць, і не толькі таму, каб не парушаць традыцый, але і таму, што гэта справядліва было раней і тым больш справядліва сёння. Трэба прызнаць, што драматургія сапраўды адстае ад жыцця, драматургі ў вялікім даўгу перад народам.

А хто перад ім не ў даўгу?

Але кожны драматург усведамляе свой абавязак, свой персанальны доўг. Горш, калі чалавек лічыць, што ён ужо ўсё зрабіў для свайго народа, што ён разлічыўся з народам. У якім бы жанры ён ні працаваў.

Развіццё драматургіі непарыўна звязана з тэатрам, які дае сцэнічнае жыццё п'есам. І ў залежнасці ад таго — доўгае ці кароткае гэта жыццё, як часта мы бачым на афішах назвы сваіх п'ес, можна меркаваць, як аб поспехах і ўдачах, так і аб няўдачах нашых драматургаў, можна меркаваць таксама і аб густах нашага сучаснага гледача.

Што ж нам расказвае прагляд афіш, кароткі аналіз рэпертуару нашых тэатраў? Найбольш жывучымі, найбольш папулярнымі з'яўляюцца п'есы і спектаклі рэалістычныя, праўдзівыя, глыбока народныя, нацыянальныя па сваім каларыце і партыйныя па сваёй накіраванасці. Такія п'есы і спектаклі, дзе выпісаны яркія народныя характары. Як правіла, гэтыя ж п'есы шырока вядомы далёка за межамі нашай рэспублікі, яны з поспехам ішлі і ідуць у сотнях тэатраў Савецкага Саюза.

Вось ужо больш як два дзесяткі гадоў красуецца на афішах слаўная «Паўлінка». Яна лёгка спаборнічае з прывярэдлівай, капрызнай тэатральнай модай. Гэты глыбока народны спектакль з асалодай глядзяць людзі самых розных узростаў і самых розных густаў.

Упрыгожвае рэпертуар Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы выдатная камедыя «Хто смяецца апошнім».

---

[1] У аснове артыкула скарыстаны мой даклад па драматургіі на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР.

Больш дваццаці пяці гадоў глядач з захапленнем прымае гэты суровы рэалістычны твор. Хіба можна пасля гэтага сказаць, што Кандрат Крапіва не працуе ў тэатры?

Чакае яшчэ свайго ўвасаблення на сцэне камедыя Кандрата Крапівы «Мілы чалавек». І мы ўпэўнены, што яна будзе з такой жа ўдзячнасцю прынята сучасным гледачом, як успрымалася ім у часе першай прэм'еры ў 1947 годзе.

У тэатры імя Якуба Коласа з даваенных часоў беспярэпынна карыстаецца любоўю гледачоў «Несцерка» В. Вольскага. Гэта дасціпнае, вясёлае, народнае відовішча зусім дарэчы пастаўленае крыху ва ўмоўным стылі, як прыклад адпаведнасці формы спектакля і зместу п'есы.

Заслужана можа ганарыцца Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола сваім баявым, патрыятычным спектаклем «Брэсцкая крэпасць» Кастуся Губарэвіча. Гэты спектакль паказаны больш як 500 разоў. Значыць, і Кастусь Губарэвіч не парывае цесных сувязей з тэатральным гледачом, і дарэмна, відаць, папракаюць яго, што ён збег у кіно.

Вялікай славай карыстаўся спектакль тэатра імя Янкі Купалы «Канстанцін Заслонаў» па п'есе Маўзона. Можна толькі ўхваліць намер купалаўцаў узнавіць на сваёй сцэне гэты выдатны спектакль пра героя Айчыннай вайны.

Кароткі агляд тэатральных афіш паказвае, што ў нас ёсць нестарэючыя п'есы, якія складаюць залаты фонд рэпертуару нашых беларускіх тэатраў. Гэта лепшы ўзор нашай драматургіі, лепшыя яе здабыткі.

Чым жа ўзбагаціўся гэты фонд за апошнія сем гадоў? З 1960 па 1966 г.

За гэты час напісана і пастаўлена ў тэатры 31 п'еса. У тым ліку оперныя і балетныя лібрэта і п'есы для тэатра лялек.

Хоць звычайны пералік твораў не ўпрыгожваў яшчэ ніводнага артыкула, але чаго не зробіш дзеля славы сваіх сяброў! Пералік цікавы яшчэ і тым, што потым мы зробім даволі непрыемнае назіранне.

У 1960 годзе з'явіліся на свет 4 творы: «Калючая ружа» А. Бачылы, «Лявоніха» П. Данілава, «Другое знаёмства» М. Гарулёва, «Любоў, Надзея, Вера» П. Васілеўскага.

1961 год даў 7 п'ес. Самы ўраджайны год. У гэтым годзе напісаны і пастаўлены: «Твой светлы шлях» А. Маўзона, «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Крыніцы» І. Шамякіна і Ю. Шчарбакова, «Справа яе жыцця»

А. Гутковіча і Казоўскай, «Мара» Я. Рамановіча, «Лесавік і сярэбраная табакерка» — інсцэніроўка М. Алтухова вядомай казкі З. Бядулі, «Лявоніха на арбіце» — п'еса вашага пакорнага слугі.

У 1962 годзе — 6 п'ес: «Пад адным небам» А. Маўзона, «Прызванне» М. Гарулёва, «Чалавек за бортам» Пасава, «Дзіўны дом» Н. Васілеўскага, «Апошні крок» В. Зуба, «Марынка-крапіўніца» А. Вольскага і Макаля (для тэатра лялек).

У 1963 — 5 п'ес: «Яснае світанне» А. Бачылы, «Святло і цені» М. Алтухова, «Вечны агонь» П. Харкова, «Бітва ў космасе» М. Гамолкі, «Вясёлы цырк» А. Ляляўскага (для тэатра лялек).

1964 год таксама не даў прыросту — 5 п'ес: «Марат Казей» В. Зуба, «Сярэбраная табакерка» М. Алтухова (на гэты раз ужо для тэатра юнага гледача), «Гэта было ў Магілёве» Я. Тарасава, «Рабінавыя каралі» М. Алтухова, «Цвёрды арэшак» М. Алтухова.

Як бачыце, за ўсіх аддуваўся М. Алтухаў. Чаму, чаму, а пладавітасці яго можна пазайздросціць.

У 1965 годзе ўсяго 4 п'есы: «Куды ідзеш, Сяргей?» А. Маўзона, «Мая дачка» М. Гарулёва, «Выклік багам» А. Дзяляндзіка, «Я так хачу» Раманава.

І ўсё! Як вы заўважылі, колькасць п'ес год ад году памяншаецца. Такога нават у сельскай гаспадарцы не назіралася ў гэтыя гады.

Відаць, наспела пытанне паставіць у Саюзе пісьменнікаў спецыяльна ў арцель драматургаў трыццацітысячнікаў. А можа, нават падняць закупачныя цэны на драматургічную прадукцыю, тым больш што яна, бадай,— самая працаёмкая і вельмі падатлівая на пагоду. То вецер не туды дзьме, то замаразкі прыхвацяць, то, бывае, скосяць раней часу. Рызыкі многа. Тут трэба вопытны, клапатлівы, ініцыятыўны гаспадар, смелы эксперыментатар. Падумаць аб гэтым варта. Бо ўпаўнаважаны кансультант Саюза пісьменнікаў, хоць і Кучар, але без лейцаў і без пугі — і без улады, і без адказнасці.

Таварышы з Міністэрства культуры цікавіліся, па колькі п'ес у год напісана і пастаўлена ў рэспубліках Прыбалтыкі. Параўнанне будзе, безумоўна, не ў нашу карысць.

Але варта было б пацікавіцца яшчэ і другім бокам медаля: аўтарскімі ганарарамі. І тут, безумоўна, не ў нашу карысць. Беларусь — гэта адзіная рэспубліка ў Савецкім

Саюзе, дзе аўтарскі ганарар за выкананне драматычных твораў — даваенны, самы нізкі ў параўнанні з Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, Грузіяй, Малдавіяй, Арменіяй. А ў Туркменіі, напрыклад, у два разы большы, як у нас.

Праект новага аўтарскага права Саюз пісьменнікаў і Міністэрства культуры падрыхтавалі. Зрабілі так, каб было калі не лепш, як у людзей, то хоць не горш.

Ну, колькасць гэта адзін бок справы. А якая ж якасць п'ес, іх трываласць, жыццястойкасць, папулярнасць. З усіх гэтых п'ес найбольш шчаслівы лёс напаткаў дзве п'есы. Яны прайшлі больш як у сотні тэатраў, амаль у кожнай рэспубліцы Савецкага Саюза. Гэта п'еса А. Маўзона «Пад адным небам» і, даруйце, не палічыце за нясціпласць (я называю толькі факты), «Лявоніха на арбіце». Мала! На сем гадоў вельмі мала!

Іншыя п'есы, адны з большым поспехам, а некаторыя з меншым, прайшлі на сцэнах тэатраў нашай рэспублікі.

Варта ўспомніць п'есу «Галоўная стаўка» К. Губарэвіча, хоць яна і напісана раней разглядаемага перыяду. Але рускі тэатр імя Горкага ў свой час вярнуўся да яе і паставіў спектакль, які прынёс тэатру новыя лаўры і ўдзячнасць гледачоў. Такую практыку, на наш погляд, варта падтрымліваць. Справа ў тым, што пасля першай пастаноўкі, калі праходзіць дзесятак гадоў, то за гэты час вырастае новы глядач — моладзь, якой цікава і карысна паглядзець спектакль, які яны не маглі ўбачыць у дзяцінстве.

«Галоўная стаўка», працягваючы добрыя традыцыі героіка-рэвалюцыйных п'ес і фільмаў, у яркай форме ўваскрашае старонку гераічнай барацьбы нашага народа за станаўленне Савецкай улады на Беларусі. У ёй створаны яркія народныя характары, цікавая інтрыга, дасціпны гумар, героі дзейнічаюць у верагодных абставінах.

П'еса Маўзона «Пад адным небам» невыпадкова выклікала да сябе цікавасць многіх тэатраў краіны. З поспехам яна ішла ў Рускім тэатры імя Горкага ў Мінску. Яна напісана на актуальную тэму, адказвала на вострыя і хвалюючыя пытанні, над якімі ўсур'ёз задумаўся глядач. Удала выпісаны псіхалагічныя, пераканальныя вобразы прыхільніка культу асобы Мякішава, запамінаюцца два антыподы па сваіх светапоглядах — вобразы Аляксея і Віктара. Сутнасць аднаго — сумленнасць і праўдзівасць, другога — фальш, крывадушнасць. Востры канфлікт, ладна скроены сюжэт, праўдзівасць прынеслі і аўтару і спек-

таклю добрую славу. Чаго, на жаль, не скажаш пра яго наступную п'есу «Куды ідзеш, Сяргей?». Хоць аўтар і клянецца, што ў аснову п'есы пакладзены жыццёвы факт, аднак да канца ён не асэнсаваны, псіхалагічна не раскрыты, успрымаецца як надуманы, як кажуць,— аўтар кінуў у суп курыцу з пер'ем.

Ёсць усе падставы спадзявацца, што яшчэ дзве новыя п'есы вырвуцца на ўсесаюзную сцэну. Гэта п'еса І. Шамякіна і Ю. Арынянскага па матывах рамана «Сэрца на далоні» і «Выклік багам» Дзялендзіка.

Раман «Сэрца на далоні» заваяваў сабе шырокую славу, у бібліятэках запісваюцца ў чаргу, каб прачытаць яго. Нягледзячы на такую папулярнасць, кнігі, спектаклі, пастаўленыя ў Гомелі, Брэсце і Віцебску, ідуць пры перапоўненых залах.

У Гомелі паказана ўжо каля 40 разоў і пры аншлагах. Чым жа вабіць да сябе гэты твор? Лейтматывам сваім — справядлівасцю да чалавека, дабратой, прынцыповасцю. Нягледзячы на многакарцінаасць, сюжэт разгортваецца цікава. Праўда характараў, светласць задумы, гуманізм твора — вось тыя адметныя рысы спектакля, якія прыцягваюць увагу тэатраў і гледачоў.

За апошнія гады Шамякін часта звяртаецца да жанру драматургіі. І гэта трэба вітаць. Раз ад разу сталее яго майстэрства і ў п'есах. Не перашкаджае яму праца для тэатра і яго рабоце ў прозе... Наадварот, Шамякін стаў больш лаканічным, аб чым сведчыць яго аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна».

Калі ўжо ідзе гаворка пра інсцэніроўкі, то варта сказаць і пра спектакль «Людзі на балоце». Мележ некалі ўласнаручна пісаў п'есы, і адна з іх, «Пакуль вы маладыя», прайшла ў тэатры імя Янкі Купалы з поспехам. Апошнія гады ён аддаў прозе. Але проза яго (відаць, не без уплыву тэатра) драматургічная. Па яго раману заслужаная артыстка рэспублікі З. Браварская і журналістка Т. Абакумоўская напісалі інсцэніроўку. Хоць яна і са скрыпам прабралася на сцэну тэатра імя Янкі Купалы, бо тут спачатку інсцэніроўку не прынялі, а калі яе ўзяў тэатр імя Якуба Коласа, тады купалаўцы яе адабралі назад, і спектакль атрымаўся цікавы. Каларытныя народныя вобразы перайшлі на сцэну, ідэя рамана захавалася і ў спектаклі. Твор атрымаў новае жыццё. Праўда, спектакль, можа, крыху шумлівы, гамантлівы, перапаселены другараднымі персанажамі. У спектаклі аж чаты-

ры вясковых сходы і часам шум, гоман і мітусня на сцэне заглушаюць, заціраюць галоўных герояў, але ў цэлым спектакль можна лічыць удачай тэатра, інсцэніроўшчыкаў і Мележа як празаіка.

Дарэчы, наша добротная проза можа стаць сапраўдным рэзервам тэатральнага рэпертуару, можа пашырыць кола тэм, узбагаціць тэатр новымі цікавымі ідэямі, вобразамі і нават жанрамі. Чаму ж не падумаць аб інсцэніроўках твораў Я. Брыля або В. Быкава. Дарэчы, у нашым тэатры даўно не бачылі трагедыі. Хоць ніхто яе не забараняў і метад сацыялістычнага рэалізму дае шырокія магчымасці самым разнастайным жанрам — трагедыі, меладрамы, драмы, камедыі і нават сатыры.

Для творчасці Быкава характэрна яго цікавасць да трагедыйных абставін, у якія трапляе чалавек. Ён даследуе характар у гэтых спецыфічных умовах. Сюжэты ён замешвае крутыя, характары стварае скульптурныя, у псіхалогію чалавека пранікае глыбока, дыялог у яго натуральны, жывы, проза яго немнагаслоўная, лаканічная. Усе прызнакі драматурга. Можа, варта было б Васілю Быкаву даць адпачыць «сумнай прозе» і напісаць для тэатра трагедыю? Некалі мы так уцягнулі ў драматургію Шамякіна, і ён не шкадуе. Мала таго — не парывае і цяпер сувязі з добрымі, вясёлымі, таленавітымі людзьмі, якія працуюць у тэатры.

Поспех п'есы Дзялендзіка «Выклік багам» у тэатры імя Янкі Купалы, здаецца, адкрывае ёй дзверы і ў другія тэатры краіны. Практыка вучыць, калі нацыянальная п'еса праваліцца дома, то наўрад ці знойдзе яна прыхільнікаў дзе-небудзь на старане. Вось чаму тэатры павінны быць вельмі ўважлівымі і чулымі, асабліва да аўтараў, якія прыносяць сваю першую п'есу. Можна аўтара падтрымаць, а можна і зганіць.

«Выклік багам» — п'еса аб жыцці сучаснай моладзі, у аснову п'есы пакладзена меладраматычная сітуацыя. Галоўны герой п'есы сваім жыццём, сваім прыкладам нясе глыбока чалавечую ідэю дабраты, вернасці дружбе і каханню, ён паступаецца сваімі ўласнымі выгодамі, але не пакідае чалавека ў бядзе. Гуманізм твора, высакароднасць ідэі, праўдзівасць характараў — героі п'есы сапраўды жывыя людзі — нашы сучаснікі — дасціпны дыялог не пакідае абыякавым гледача, ён хвалюецца, жыве разам з героямі п'есы. Не ўсё ў п'есе і спектаклі бездакорна, ёсць там і шарахаватасці, але ж гэта дэбют, неблагі пачатак.

Калі Дзялендзік і надалей будзе так жа настойліва працаваць, то плён будзе. Вопыт, практыка — найлепшы настаўнік.

Дарэчы, тут можна папракнуць тэатр імя Янкі Купалы, які цяпер не шкадуе, што ўзяў гэтую п'есу. А браўся не з вялікай ахвотай. П'еса праляжала ў партфелі тэатра больш года. Нарэшце рызыкнулі, і рызыка была дарэмнай. Можа, варта было б гэтак жа адважыцца і ўзяць да пастаноўкі п'есу журналіста з Шчучынскай раённай газеты Фядотава аб жыцці сучаснай вёскі. Дарэчы, у рэпертуары тэатра новых п'ес аб нашым сялянстве пакуль што няма. Смялей трэба з маладымі аўтарамі! Хіба мы можам забыць клапатлівыя, уважлівыя, чулыя адносіны да першых п'ес беларускіх драматургаў, такіх цудоўных людзей, як пакойная Любоў Іванаўна Мазалеўская, якая прывяла ў драматургію Івана Козела з п'есамі «Папараць-кветка» і «Над хвалямі Серабранкі».

Хіба можна не ўспомніць добрым, шчырым словам такіх бяссрэбранікаў у беларускім тэатральным мастацтве, як К. М. Саннікаў і М. А. Міцкевіч, якія душэўна, чула, самаадданa вырошчвалі беларускіх драматургаў, памагалі ім на пачатку творчасці.

Хвала ім, слава ім.

Магчыма, таму, што ў нас цяпер няма такіх нацыянальных рэжысёраў, і справы ў драматургіі пагоршыліся.

Калі няма бяссрэбранікаў, то, можа, варта было б Міністэрству культуры падумаць аб матэрыяльным заахвочванні цяперашніх рэжысёраў, якія выводзяць у свет арыгінальную п'есу, якія адкрываюць новае імя, новую п'есу. Прынцып матэрыяльнай зацікаўленасці прыжыўся і апраўдаў сябе ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Можа, не блага было б перанесці яго і ў сферу культуры. Справа ж бясспрэчная, што над новай арыгінальнай п'есай маладога драматурга ў рэжысёра працы куды больш, як над апрабіраванай другімі тэатрамі п'есай.

Апошнія гады даволі актыўна працуе ў драматургічным жанры Мікола Гарулёў. Ён напісаў пяць п'ес. Што характэрна для яго творчасці? Ён у пэўнай ступені авалодаў сакрэтамі (у добрым сэнсе слова) драматургічнага рамясла. Аддае належную ўвагу сюжэту, хітра страіць інтрыгу ў сваіх п'есах, правільна расстаўляе канфліктуючыя сілы, намячае характары. Але не абцяжарвае сябе псіхалагічнай распрацоўкай характараў. Мова ў яго п'есах часам сярэдне літаратурная, а не індывідуальная, жы-

вая, народная. Часам адчуваецца паспешлівасць і асабліва (яшчэ раз падкрэсліваю) у псіхалагічнай абрысоўцы характараў.

Не абышлося ў нашай рабоце і без сур'ёзных няўдач. Я не кажу — памылак. Іменна, няўдач. Да мыслення моднымі зараз тэатральнымі катэгорыямі з яўнай філасафічнасцю імкнуўся Раманаў у сваёй п'есе «Я так хачу». Але, на жаль, нічога добрага не атрымалася. Аморфнасць, невыразнасць п'есы, сляпая дань модзе ў спалучэнні са слабой рэжысурай прывялі да таго, што гэты спектакль у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы не меў поспеху, дакладней, праваліўся — прайшоў усяго тры разы.

А гэта ўжо вялікая няўдача і аўтара, і тэатра. А ў Раманава гэта не першая і нават не другая п'еса. Тым больш крыўдна, што ў яго п'есе, як аднойчы сказала латышская пісьменніца аднаму нашаму драматургу: «Вы извините меня, но в вашей пьесе немножко много недостатков». Але хай не апускаюцца ў яго рукі, хай няўдача толькі загартуе яго і насцярожыць у далейшай працы, каб новая п'еса перакрыла няўдачу.

Беларускае кінамастацтва за гэты перыяд таксама мела пэўныя дасягненні.

У параўнанні з мінулым цяпер на студыі беларускія пісьменнікі займаюць больш моцныя пазіцыі — каля палавіны выпускаемых фільмаў пастаўлены па арыгінальных сцэнарыях, напісаных членамі нашага саюза. Можна спадзявацца, што кіраўніцтва кінастудыі «Беларусьфільм» яшчэ больш актыўна будзе прывабліваць новыя сілы і асабліва маладых празаікаў да работы ў кіно. Яны прынясуць новыя цікавыя задумы, свежасць, задор і пашыраць разнастайнасць тэматыкі фільмаў.

Вось фільмы, выпушчаныя нашай кінастудыяй, якія сталі прыкметнай з'явай у кінамастацтве Савецкага Саюза за апошнія гады: «Дзяўчынка шукае бацьку» (па сцэнарыю К. Губарэвіча), «Першыя выпрабаванні» (сцэнарый А. Куляшова і М. Лужаніна), «Трэцяя ракета» (па аповесці В. Быкава), «Крыніцы» І. Шамякіна, «Альпійская балада» В. Быкава і «Пушчык едзе ў Прагу» К. Губарэвіча.

Некаторыя нашы фільмы на кінафестывалях былі ўдастоены прэмій.

Асабліва трэба адзначыць удалую экранізацыю твораў В. Быкава. Фільм «Альпійская балада» — выдатны твор нашага кінамастацтва. У ім створаны гераічны воб-

раз воіна-беларуса, мужнасць, вытрымка, высакароднасць душы і патрыятызм якога выклікаюць глыбокую пашану і ўдзячнасць людзей, вызваленых з-пад гітлераўскага ярма.

А. Куляшоў расказваў, што выдатны італьянскі кінарэжысёр, камуніст Дэ Санціс так сказаў, прагледзеўшы фільм «Трэцяя ракета»: «Я хоць заўтра гатоў узяць вінтоўку і пайсці ваяваць заадно разам з такімі салдатамі».

Студыяй кіруе Камітэт па справах кінематаграфіі пры Савеце Міністраў БССР, але яшчэ ёю кіруе і адпаведны камітэт пры Савеце Міністраў СССР.

З нетраў рэдакцыйна-сцэнарнай калегіі гэтага камітэта некаторыя важныя асобы стараюцца спіхнуць на нашу студыю пэўную колькасць сцэнарыяў, заказаных там, прынятых, аплочаных там, але не пастаўленых на іншых студыях. Калі быць справядлівым, дык трэба сказаць, не ўсё, што прысылаюць нам са сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі з Масквы, мае прызнакі таленту.

На беларускую студыю былі перададзены такія сур'ёзныя работы, як «Масква — Генуя», «Горад майстроў», па якіх атрымаліся добрыя фільмы. Але шмат і слабых: «Сорак мінут да світання», «Любімая», «Увага, у горадзе чараўнік» і інш.

У той жа час на студыі ляжаць у шафах вартыя ўвагі, лепшыя за ўпамянутыя, сцэнарыі — «Не той гонар» Івана Шамякіна, «Сярэбраныя дарогі» Я. Васілёнка, «Галя» — па апавяданні Янкі Брыля, «Залатыя россыпы» М. Матукоўскага.

Чаму ж не былі пастаўлены названыя сцэнарыі?

На гэта ёсць шмат прычын. Першая — адсутнасць нацыянальных кадраў беларускай кінарэжысуры (старых рэжысёраў на студыі засталося не шмат). Моладзь у большасці не ведае беларускай літаратуры і нацыянальнага беларускага жыцця.

Некаторыя з маладых ігнаруюць гэтыя сцэнарыі па прычыне малавопытнасці, прывярэдлівасці, а часам іх імкненне «тварыць» «пад італьянцаў» перашкаджае асваенню прадукцыі нашых беларускіх кінадраматургаў.

Хачу — стаўлю, хачу — не. І хоць ты вый. Аўтары не ўмеюць знайсці кантакт з такімі. Дый як гэты кантакт знойдзеш? Гэта ж не прыватная справа. А кіраўніцтва студыі часта аказваецца бяссільным перад імі.

Але ж варта прызнаць і тое, што на студыі растуць

і добрыя здольныя маладыя рэжысёры — В. Тураў, Б. Сцяпанаў.

Мы ўсё ж маем беларускую кінематаграфію і можам з упэўненасцю чакаць ад яе яшчэ лепшых поспехаў. Ужо да 50-годдзя Савецкай улады запушчаны ў вытворчасць добрыя сцэнарыі М. Лужаніна і А. Куляшова — «Радыё ўсім», аб устанаўленні Савецкай улады на Беларусі: сцэнарый К. Губарэвіча «К Леніну», у якім расказваецца пра цяжкі лёс дзяцей у першыя гады пасля рэвалюцыі і аб клопаце маладой савецкай дзяржавы аб дзецях.

Рыхтуюцца да запуску ў вытворчасць вельмі цікавыя сцэнарыі А. Адамовіча «Партызаны» і Ул. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Пачалася работа яшчэ над адным фільмам, аб якім варта выказаць некаторыя меркаванні. Я маю на ўвазе сцэнарый А. Кучара і В. Вінаградава «Усходні калідор».

Апошнія гады А. Кучар распрацоўвае ў кіно гераічную тэму з гісторыі беларускага народа. Намер высакародны, пахвальны. Але якія ж вынікі?

У свой час А. Кучар падаў заяўку на напісанне сцэнарыя аб герaіні беларускага народа Веры Харужай. Добры намер кінастудыя з энтузіязмам падхапіла. Умову падпісалі — весяліліся, фільм паглядзелі — праслязіліся. Аўтар, скарыстаўшы некаторыя факты з біяграфіі гераіні, дапоўніў сюжэт пікантнымі сцэнамі, а Вера Харужая, яе подзвіг, яе імя з фільма зніклі.

Прайшоў некаторы час, і А. Кучар, на гэты раз ужо разам з В. Вінаградавым, ізноў падаў заяўку на сцэнарый аб героях-падпольшчыках горада Мінска ў часы фашысцкай акупацыі. Увесь свет ведае аб гераізме нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны! І сябры і ворагі прызналі, што Беларусь была краінай класічнага партызанскага руху.

А хто яны, тыя героі? Як іх завуць? Імёны іх? Сцёрты іх імёны ў сцэнарыі! Не названы. Скарыстаны толькі эпізоды з жыцця герояў, іх гераічныя подзвігі.

Чэснае, праўдзівае мастацтва павінна называць іх імёны, народ хоча іх ведаць, моладзі вельмі важна іх ведаць.

Гэтыя людзі смерцю сваёй, крывёю сваёй, пакутамі страшнымі ў фашысцкіх засценках, мукамі сваімі, бессмяротнымі подзвігамі сваімі, гарачай любоўю да радзімы заваявалі сабе права на славу!

А ў нас жа былі свае Чапаевы, Шчорсы, Катоўскія, Матросавы, Зоі Касмадзям'янскія!

Навошта ж абкрадваць гераічную гісторыю беларускага народа. Гэта надзвычайная, недаравальная несправядлівасць з боку А. Кучара да людзей, якія крывёю сваёю ўпісалі слаўную старонку ў гісторыю Савецкай Беларусі.

Недаравальна на гэты раз таму, што з удзелам А. Кучара гэта ўжо чацвёрты фільм аб нашых героях, і ўсе яны зроблены па такім прынцыпе: сцерці імя.

Мяркуйце самі, таварышы, але я не мог не выказаць сваёй думкі пра гэты фільм.

Пару слоў аб тэатральнай крытыцы.

Добрага слова і ўдзячнасці заслугоўваюць нашы тэатразнаўцы за распрацоўку гісторыі тэатральнага мастацтва Беларусі. І ў першую чаргу такія словы можна адрасаваць Ул. Няфёду, А. Сабалеўскаму і А. Сапнікаву. Хай, магчыма, няпоўна, можа, нават не ва ўсім дасканала, але зроблена вялікая работа па збору матэрыялаў, сістэматызацыі і абагульненню вопыту, асвятленню розных перыядаў жыцця нашага тэатра. Не забыты і людзі, якія стварылі нацыянальны тэатр. Гісторыя мала-памалу ўпарадкоўваецца.

А што можна сказаць пра асвятленне сённяшняга жыцця тэатраў? І тут трэба кінуць сур'ёзны папрок бадай што ўсім нашым газетам і часопісам.

Пра футбол болей пішуць, як пра тэатр і драматургію. Аднаму бамбардзіру Малафееву аддаецца больш увагі, як Маўзону, Губарэвічу, Глебаву разам.

Ці ж гэта нармальна?

У лепшым выпадку газеты друкуюць рэцэнзіі на прэм'еры.

А паўсядзённае жыццё тэатра?

А соты, двухсоты, трохсоты спектакль? Гэта ж сапраўдная перамога тэатральнага калектыву.

Хацелася б, каб газеты адмералі пару квадратных дэцыметраў у кожным нумары для мастацтва, дзе б друкаваліся рэпартажы з тэатраў, невялічкія замалёўкі аб рабоце асобных акцёраў, а ў цэнтральных выданнях не забывалі і абласных тэатраў.

Я не супроць футбола, але ідэалагічная, выхаваўчая работа вядзецца не толькі на футбольным полі, а часам і ў тэатры.

І паўслова аб сатыры. Пра сатыру грэх не гаварыць мовай сатыры.

Апошнім часам пра яе нідзе ні словам не памянуць. Асабліва добрым словам. Няўжо яна нікому не трэба. Ну

няхай не даюць ёй генеральскага чыну, можа, нават занадта высокая для яе пасада санітарнага ўрача. Але ж можна хоць бы прызначыць па важнасці з пасадай пуцявога абходчыка, які пільна сочыць, каб не трапілася на пуцях трэшчына ў рэйках, каб наш поезд ішоў па графіку і без непрыемных здарэнняў. Назавіце сатыру дворнікам — хоць смецце будзе вымятаць. Толькі не ігнаруйце яе маўчаннем. Шутом абзавіце яе. Было ж некалі, што пры двары каралі шутоў трымалі і ім дазвалялася высмеяць любога, хто прыходзіў у палац, нават міністра, а часам і самога караля. Нават пры Іване Грозным былі сатырыкі-юродзівыя.

Чаму так востра ставіцца пытанне?

Нядаўна Рэспубліканскі дом народнай творчасці праводзіў нараду кіраўнікоў народных тэатраў у сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя Савецкай улады.

І вось на гэтай сустрэчы запыталі: а ці можна ставіць у такі час сатырычныя камедыі?

Пытанне невыпадковае, хоць і дзіўнае. Быццам работа сатырыкаў — не работа. Быццам за сатырыкаў сорамна на свяце, іх нельга туды пускаць. Як бы праяўляецца клопат аб тым, каб не сапсаваць святочны настрой нават Гарлахвацкаму, Зёлкіну, Тулягу і іншым сатырычным тыпам, даць ім гады на два-тры перадых.

Апроч сатыры, да якой я заўсёды выказваю асаблівыя прывязанасці, у нас ёсць і іншыя клопаты.

Калі не аспрэчваць тэзіса пра адставанне драматургіі, то трэба ўлічваць і тэмпы нашага жыцця. Яно вельмі зменлівае, бурнае, кіпучае.

Змяняецца аблічча нашых гарадоў і сёл, мяняюцца пейзажы, растуць трубы новых заводаў і фабрык, расце гаспадарка, расце культурны ўзровень нашага гледача, растуць яго магчымасці далучэння да культуры не толькі правінцыяльнай, але і сталічнай — гэтаму памагае тэлевізар і радыё. І самае галоўнае для драматурга, як даследчыка чалавечых характараў і чалавечых узаемадачыненняў — ідзе вельмі важны працэс далейшай дэмакратызацыі нашага жыцця. У выніку клопатаў партыі аб гэтым мы назіраем, як расце пачуццё асабістай адказнасці кожнага савецкага чалавека за справы ў сваёй краіне. Пачуццё асабістай адказнасці за ўсё, што робіцца на ўсёй нашай планеце. Замест беспрынцыповага паслушэнства расце свядомая дысцыплінаванасць. Расце дух калектывізму па прынцыпе: чалавек чалавеку друг, брат і таварыш і

вытручваецца індывідуалісцкае «мая хата з краю». Творчая ініцыятыва цэніцца вышэй за сляпое падначаленне, расце вера ў чалавека і справядлівасць да чалавека і асуджаецца недавер'е і падазронасць. Расце чалавек! Чалавек — як «личность»! Разумны, цікаўны, пільны, узбагачаны вопытам, з пачуццём уласнай годнасці. Ідзе цудоўны працэс. Вядома, як вынік гэтага працэсу, мяняецца прырода драматургічнага канфлікту. Ён становіцца танчэй, вастрэй, глыбей псіхалагічна. Мяняюцца і абставіны, у якіх павінны дзейнічаць героі п'ес, падобныя да сваіх прататыпаў з жыцця.

У выніку гэтага працэсу на плечы драматурга зваліўся цяжар праўды, які вымушае гаварыць з гледачом шчыра, праўдзіва, гаварыць аб важным, а не аб дробязях (яму па дробязі часу не хапае). Перад драматургам стаіць задача нялёгкая — стварыць праўдзівыя і ў той жа час цікавыя сітуацыі-абставіны для сваіх герояў, стварыць праўдзівы, глыбока псіхалагічны партрэт свайго сучасніка. Лягчэй было некалі выдумаць схему, па якой дзейнічаюць так званыя «станоўчыя і адмоўныя» персанажы.

Не зважаць на гэты працэс нельга. А працэс, як вядома, катэгорыя непастаянная, як жывая з'ява. Ён не спыняецца, а развіваецца, паглыбляецца. І нікуды не дзенешся, вельмі тонка падмеціў У. І. Ленін, калі сказаў, што перад тым, хто хоча адлюстраваць жывую з'яву ў яе развіцці, непазбежна і неабходна становіцца дылема — альбо забегчы наперад, альбо адстаць. Сярэдзіны тут няма.

І вось пры адлюстраванні гэтага працэсу, гэтай жывой з'явы ў развіцці мы часам сапраўды адстаём і, бывае, таму, што самі баімся забегчы наперад, а бывае, і таму, што асцярожныя людзі стрымліваюць таго ці іншага пісьменніка, каб ён не забег наперад. І гэтыя асцярожныя людзі дзейнічаюць так не дзеля карысці справы, а па старой-старой звычцы — каб ды чаго не здарылася ці «а што скажа Мар'я Аляксееўна» і толькі дзеля свайго асабістага душэўнага спакою. А вядомы нам афарызм сцвярджае: нішто так не садзейнічае душэўнаму спакою, як поўная адсутнасць уласнага меркавання. А драматургу без уласнага меркавання, без уласнай думкі, без уласнага погляду на жыццё ніяк нельга абысціся, бо, калі клапаціцца аб уласным душэўным спакоі, быць нейтральным, абыякавым, раўнадушным, без асабістай усхваляванасці нельга захапіць, усхваляваць гледача, нельга нават сабраць гледачоў на спектакль.

Сярэдзіны тут няма!

А калі прыпыніцца, адстаць ад быстраплыннага жыцця і паспрабаваць зрабіць глыбокі дасканалы аналіз падзей, фактаў, раскрыць псіхалогію фактаў? Асабліва тых фактаў і падзей, якія маюць непасрэдную сувязь з падзеямі, з жыццём сёння. Ізноў жа трапляюцца людзі, якія пераконваюць: ці варта варушыць мінулае? Праўда, у такім разе маецца на ўвазе пэўнае табу на раскрыццё псіхалогіі фактаў пэўнага часу. А чаму? Мінулае — далёкае яно ці блізкае, самым цесным чынам звязана з нашым сёння.

Ізноў жа сярэдзіны тут няма!

А мы тым часам шукаем залатой, спакойнай сярэдзінкі. П'есы, напісаныя па такім прынцыпе, і спектаклі, пастаўленыя па іх,— сучаснік не прымае. Ён хоча тлумачэнняў, адкрыццяў, глыбокага і чэснага аналізу псіхалогіі фактаў учарашніх, сённяшніх ці нават заўтрашніх,— магчымых, як вынік жыцця ўчарашняга.

А сярэдзінкі няма!

Невыпадкова, відаць, за апошнія гады можна назіраць, што некаторыя драматургі ўхіляюцца ад даследавання сацыяльных тэм, ад разгляду важных грамадскіх з'яў і замыкаюць сваю творчасць у вузкі, цесны свет інтымнай тэматыкі. Нярэдка на сцэнах нашых тэатраў можна пабачыць прыкладна такія сцэны. (Калі ў маім перакладзе і будзе элемент пародыі, дык ён не вельмі скажае сутнасць гэтай сцэны.)

Герой п'есы звяртаецца да дзяўчыны-жанчыны:

Ён. Я хачу цябе! Пойдзем! *(Спрабуе ўзяць яе на рукі.)*

Яна. Я ведаю, Электрон, што ты мой друг. Але не будзь эгаістам. А я хачу Марата. *(Ён яе панёс.)*

І далей у гэтым плане.

Вядома, што пры напісанні такой сцэны цяжар праўды не вельмі гняце драматурга. Тут даволі свайго асабістага вопыту аўтара. А калі сцэнічнае вырашэнне такога эпізода будзе ўзбагачана асабістым вопытам актрысы і акцёра, то поспех спектакля будзе забяспечаны. Безумоўна, у пэўнай катэгорыі гледачоў.

Бясспрэчна, фізіялагічныя патрэбы ў жыцці чалавека займаюць пэўнае і важнае месца. І літаратура міма гэтага прайсці не можа, але ўсяму свая мера.

Тэматыка грамадзянская павінна вызначыць галоўны напрамак рэпертуару тэатраў.

І нарэшце аб вельмі, вельмі важным.

Драматургі, як і ўсе пісьменнікі, маюць вялікі і сур'ёзны сацыяльны заказ, заказ народа, заказ партыі.

Хутка ўвесь савецкі народ, увесь працоўны люд нашай планеты будзе святкаваць 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая адкрыла новую эпоху ў развіцці чалавецтва.

Хто, як не мы, павінны расказаць аб гераічным працоўным подзвігу нашага народа, нашай партыі, аб цудоўных, самаадданых людзях, якія зрабілі цуд на нашай зямлі за гэтыя 50 гадоў.

Колькі падзей! Колькі захапляючых вобразаў, сюжэтаў, канфліктаў! Былі смутак і радасці, былі крыўдныя памылкі і бліскучыя, незабыўныя перамогі, была нястача, але была непахісная воля, цвёрдасць духу, бальшавіцкая настойлівасць і вера ў праўду ленінскіх ідэй. Гэта непаўторны, глыбінны матэрыял для нашых п'ес, фільмаў, кніг.

Мы не павінны забываць і яшчэ пра адзін аспект гэтай справы. Будаўніцтва сацыялізму, камунізму ў нашай краіне, пераўтварэнне нашага грамадства, вялікія сацыяльныя заваёвы нашага народа маюць грандыёзнае значэнне для працоўных і капіталістычных краін, як узор, як прыклад, як мэта, да якой яны імкнуцца.

Нам смялей трэба брацца і за тэматыку замежную, пісаць творы, у якіх выкрывалася б ганебнасць капіталістычнага ладу жыцця, антынародная сутнасць палітыкі імперыялістычных урадаў. Неабавязкова абмяжоўвацца толькі публіцыстыкай. Трэба і мастацкія творы, вострыя, таленавітыя, дзейсныя.

Рыхтуючыся да гэтага ўсенароднага свята, нам варта помніць адну параду вялікага Леніна аб тым, што найлепшы спосаб адзначыць юбілей — гэта звярнуць увагу на тое, што намі не дароблена і што трэба яшчэ зрабіць.

Гэта азначае, што не толькі оды і гімны ў славу нашых дасягненняў, яны бясспрэчна, безумоўна, неабходны. Але патрэбна спакойная работа, цвярозы, удумлівы аналіз нашых спраў, роздум аб лёсе народа ў нашых мастацкіх творах. Мы павінны не пакідаць без увагі ўсе этапы нашай гісторыі, але пільна сачыць за працэсамі, якія адбываюцца сёння, трымаць чулую руку на пульсе сённяшняга жыцця, калі мы не хочам, каб нам ізноў кідалі справядлівыя папрокі аб адставанні драматургіі.

Набліжаецца і яшчэ адна знамянальная дата — 100-

годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, чалавека, які даў магутны штуршок для развіцця чалавецтва, які адкрыў у народных масах грандыёзны зарад энергіі для пераўтварэння жыцця на ўсёй нашай планеце, прывёў у рух гэтыя сілы, вызначыў верны адзіны шлях гэтага руху, стварыў партыю, якая б вяла народы па гэтым шляху, стварыў узор дзяржавы новага тыпу і пакінуў нам у навуку багацце свайго розуму ў сваіх бессмяротных творах, пранікнутых клопатам, гарачай любоўю да чалавека працы і непрымірымасцю да яго класавых ворагаў.

Перад намі стаіць пачэсная, адказная, але святая задача ўславіць яго справы, яго думы, яго жыццё, яго ідэі ў яркіх, як ён сам, мастацкіх вобразах.

Можа, каго-небудзь і здзівіць адно параўнанне, але я выкажу яго.

Калі я быў у Амерыцы, мне давялося паглядзець адзін фільм, на які, дарэчы, не паскупіліся патраціць 60 млн. долараў. Гэта фільм пра Ісуса Хрыста. На гэты фільм былі наняты лепшыя акцёры, першакласныя аператары, знайшлі вопытнага рэжысёра, знялі фільм на лепшую каляровую плёнку.

Прыкладзена максімум намаганняў, каб стварыць мастацка-пераканаўчы фільм, у аснове якога рэакцыйная ідэя — найвялікая дабрачыннасць — цярплівасць, непраціўленне. Дзесяткі вякоў прапаведуецца ў народных масах гэта ідэя, убіваецца ў галовы подкупам, ашуканствам, запалохваннем пеклам, карамі, кастрамі, катаваннямі і нават фільмамі.

Каб прыкрыць бесчалавечную эксплуатацыю чалавека, вякамі ахмураюць працоўнага чалавека негатыўнымі запаведзямі: «не ўбій, не ўкрадзі, не пожелай добра ближнего, ни жены его, ни осла его» і таму падобныя. І ў той жа час забіваюць, грабяць, бамбяць і бліжняга і дальняга.

Але прыйшоў чалавек, сапраўдны месія, Ленін, і для яго запаведзяў, простых, ясных, пазітыўных: «Мір народам, хлеб галодным, зямля сялянам, уся ўлада рабочым» — даволі было і 50 гадоў, каб авалодаць масамі на ўсіх кантынентах нашай планеты.

Яго ідэі сталі непераможнай матэрыяльнай сілай.

Вось аб гэтым месіі мы павінны стварыць фільм, спектакль, аддаць гэтаму лепшыя хвіліны свайго натхнення, сваё сэрца, шчырасць пачуццяў, сілу праўды, свой талент, каб увасобіць гэту велічную фігуру ці то ў вобразе само-

га Ільіча, ці ў вобразе мускулістага, мудрага, справядлівага, усемагутнага пралетарыя, селяніна.

Разуменне абавязку ёсць! Час ёсць! Умовы ёсць! Таленту нам не пазычаць. Можна з упэўненасцю сказаць, што кожны беларускі драматург прынясе свой лепшы твор у падарунак народу, у знак сваёй удзячнасці яму, сваёй партыі, сваёй уладзе, Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

## СЫН БЕЛАРУСІ

Да слёз горка, крыўдна, балюча... Не хочацца верыць, не хочацца мірыцца з тым, што сярод нас ужо няма Барыса Віктаравіча Платонава. Няўмольная, бязлітасная смерць забрала ад нас чалавека з вялікай душой, шчодрым талентам, шчырага, добрага... Мы страцілі вялікага артыста, якім ганарыўся беларускі тэатр. Беларускі народ страціў свайго любімага сына.

Ён аддаў свайму народу ўсё багацце душы, палымянасць сэрца, шчырасць пачуццяў, высакароднасць памыслаў, аддаў шчодра, без астатку. Ён так жыў, так марыў, ён так тварыў, аддаючы ўсяго сябе мастацтву.

Цяжкую страту перажываем мы. Якімі словамі выказаць боль, жаль і смутак, якімі словамі выказаць вялікую ўдзячнасць за ўсё тое, што ён пакінуў у нашай памяці, у нашай свядомасці. Яго яркая творчасць, незабыўныя сцэнічныя вобразы, тонкае разуменне чалавечай душы, незвычайная здольнасць пераўвасаблення, глыбокае пранікненне ў псіхалогію самых разнастайных характараў, вялікая любоў да свайго народа, да свайго краю, сумленнасць і справядлівасць — вось што складала сутнасць яго шырокай і багатай натуры.

Ён пайшоў ад нас чыстым, светлым, прыгожым. І такім я запомню яго навечна.

# ПАЭЗІЯ ГЕРАІЧНАГА НАРОДА

В'етнам! Шматпакутная зямля... Шматпакутны народ... Колькі гора, колькі бядот выпала па яго долю і асабліва за апошнія дзесяцігоддзі. Нахабныя захопнікі, бессаромныя рабаўнікі — японскія імперыялісты, потым французскія каланізатары, а цяпер амерыканскія гангстэры дзесяцігоддзямі таптаў, шкуматалі, нішчылі гэтую зямлю. Яна сапраўды набрыняла крывёю.

Спаленыя паселішчы, зруйнаваныя гарады, знявечаная бомбамі і напалмам зямля, магілы, магілы на рысавых палях. Ахвяры, ахвяры...

Вялікі сардэчны боль і глыбокае спачуванне выклікаюць пакуты в'етнамскага народа ў нашых людзей. Але не толькі пачуцці спагады валодаюць нашымі сэрцамі. Да здзіўлення захапляе ўпартасць і настойлівасць у змаганні за сваю нацыянальную незалежнасць і свабоду, гераізм і самаахвярнасць у свяшчэннай барацьбе за сацыялістычныя ідэалы, цярплівасць да нястач і нязгасная вера ў перамогу. Гэта выклікае глыбокую павагу ўсіх чэсных людзей нашай планеты да в'етнамскага народа.

Іменна таму ў нашай краіне з такой увагай і цікаўнасцю чытаюцца не толькі скупыя аператыўныя зводкі аб ходзе баёў в'етнамскіх патрыётаў з чужаземнымі захопнікамі, паведамленні аб паспяховых рэйдах мужных паўднёвав'етнамскіх партызан і рэгулярных часцей Фронту нацыянальнага вызвалення супроць, здавалася б, непрыступных баз США, аб збітых снайперамі і зенітчыкамі сотнях і тысячах амерыканскіх сцярвятнікаў, але і мастацкі летапіс гераічнай барацьбы народаў В'етнама — проза і паэзія ягоных пісьменнікаў, ствараемыя ў баявых паходах і на пярэднім краі абароны.

Паэзія была і застаецца душой в'етнамскай літаратуры. Буйнейшыя прадстаўнікі класічнай в'етнамскай паэзіі — паэтэса XVIII ст. Даан Тхі Дзьем, а пазней і яе сястра па пяру Хо Суан Хыонг — гэтая «царыца в'етнамскай паэзіі» — не толькі працягвалі ў сваёй творчасці лепшыя традыцыі пейзажнай лірыкі, але распрацавалі і давялі да дасканаласці жанр лірычнай паэмы. Яны, па сутнасці, стварылі ў в'етнамскай літаратуры традыцыю гуманістычнай пашаны і павагі да жанчыны. У аснове яе ляжала адна з супярэчнасцей феадальнага грамадства — жанчына ў тагачасным феадальным Індакітаі была бяспраўнай, хаця становішча яе ў Паўднёва-Усходняй Азіі, у тым лі-

ку і ў самім В'етнаме, было больш незалежным, чым, напрыклад, у Кітаі эпохі дынастыі Ціняў (1644—1911) з яе варварскім звычаем бінтавання ног.

В'етнамскія жанчыны спакон вякоў урабляюць зямлю, саджаюць рыс, разводзяць шаўкавічных вусеняў, размотваюць шаўковыя коканы, ткуць шоўк і за работай заўсёды спяваюць. Праца на ніве ў полі і дробны гандаль на базары ўсім сваім цяжарам традыцыйнага в'етнамскага каромысла з кошыкамі з пакалення ў пакаленне клаліся там на жаночыя плечы. І дзе б ні былі яны — на жніве ці ў дарозе з паклажай на плячах,— яны складалі свае песні і пелі, выказваючы ў песнях усю сваю жальбу на нялёгкую жаночую долю.

Можа, іменна таму жанчына і яе мэта займаюць такое месца ў класічнай і сучаснай в'етнамскай паэзіі. Ва ўсёй в'етнамскай класічнай літаратуры чатыры буйныя паэты, і двое з іх — вышэй названыя — жанчыны. Як у фальклоры, так і ў мастацкай літаратуры В'етнама паэтэсы нічым не ўступалі і пакуль што не ўступаюць паэтам-мужчынам.

Даан Тхі Дзьем па-майстэрску валодала паэтычным стылем, акрамя таго, для свайго часу яна была і жанчынай-вучоным.

Хо Суан Хыонг, якая пісала галоўным чынам вершы-сатыры і мініяцюры ў стылі блізкім да японскіх «танка», іранізуе, высмейвае і рэзка выкрывае ханжаства царкоўнікаў-манахаў, заганы феадальнага грамадства. Вершы яе крыштальна чыстыя па сваёй пабудове, дасканалыя па форме.

Сярод класічных паэтаў-мужчын у в'етнамскай паэзіі першае месца, бясспрэчна, належыць Нгуену Зу — гэтаму «веліκану в'етнамскага верша». Уся творчасць Нгуена Зу здзіўляе нас незвычайнай шчырасцю пачуцця, сілай і глыбінёй думкі і, нарэшце, чалавечнасцю.

Пейзажы яго акварэльна-лаканічныя, ледзь-ледзь акрэсленыя, і разам з тым праўдзівыя да ілюзіі, пластычныя і адчувальныя, як скульптура. Прастата яго лірычных вершаў сведчыць аб дасканалым майстэрстве. Сын свайго часу і прыхільнік тагачаснага светапогляду, Нгуен Зу ўсведамляе жыццё, зыходзячы з буддыйскага тэзіса аб тленнасці і марнасці ўсяго, што акаляе чалавека. Аднак калі чыноўнік-вяльможа, военачальнік і шкаляр выяўляюцца ў яго творах як ахвяры ўласных страсцей — прагнасці гонару і пашаны, улады, багацця,— то просты пад'ярэм-

ны люд, воіны, працаўнікі гарадоў і рамеснікі — гэта ахвяры няўмольна жорсткіх абставін і несправядлівага дзяржаўнага закону.

Працягваючы лепшыя традыцыі класікі, сучасная в'етнамская паэзія ў нашы дні набыла новыя рысы і фарбы, яна чутка адгукаецца на ўсе падзеі, што адбываюцца ва ўсім свеце.

Плённа працуюць паэты старэйшага пакалення на чале з адным з пачынальнікаў сучаснай в'етнамскай рэвалюцыйнай паэзіі То Хыў, імя якога ва ўсім В'етнаме вымаўляюць з нязменнай павагай і любоўю. Вырасла і ўзмужнела за апошняе дваццацігоддзе — і асабліва ў гады барацьбы народа з чужаземнымі захопнікамі — цэлая плеяда таленавітых паэтаў з моладзі.

Сучасная паэзія В'етнама — і ДРВ і Поўдня краіны — кранальна лірычная, глыбока эмацыянальная, яна ўся — у пералівах колераў і гукаў, танчэйшых намёкаў і іншасказаў. У сваіх вершах в'етнамскія паэты заклікаюць да аб'яднання радзімы, да абароны нацыянальнай незалежнасці, да барацьбы за мір ва ўсім свеце. Скразной ніццю праз яе праходзіць любоў і павага да народаў Савецкага Саюза — верных сяброў в'етнамскага народа ў яго гераічнай барацьбе.

Беларусі — краіне класічнай партызанскай барацьбы з чужаземнымі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, яе народу асабліва блізка і зразумела тая непрымірымая баявітасць і гераічная настраёвасць, якія характарызуюць сучасную в'етнамскую паэзію. Гэта яе баявітасць і гераічная настраёвасць па-брацку пераклікаецца з лепшымі традыцыямі нашай беларускай лірыкі ваеннага перыяду. І мы не толькі з пачуццём братняй салідарнасці, а з пачуццём глыбокай удзячнасці да в'етнамскіх паэтаў прымаем сёння на сваёй роднай мове іх лепшыя здабыткі.

## ГАБРОВСКИЕ УЛЫБКИ

Если ты хочешь стать сильнее всех, вооружайся шуткой, смехом, чувством юмора. В трудные минуты жизни шутка, смех, юмор скрашивают неприятности бытия, а в радостные дни — украшают жизнь.

В доме, где слышится смех, живут добрые люди и, наверное, счастливые. Во всяком случае оптимисты. Скучные, угрюмые, мрачные люди редко приносят радость ближним, да и сами, вероятно, не часто испытывают чувство радости.

Как правило, люди, обладающие чувством юмора, способные смеяться над человеческими недостатками и пороками, нравственно здоровее, сильнее духом, интеллектуально богаче. Они оптимисты.

Поэт Максим Танк когда-то хотел написать сатиру на такую тему: «Когда боги раздавали всем людям таланты, последнему достался только смех, на который никто не обращал внимания. Только потом с ужасом опомнились боги, что человек, вооруженный смехом, может оказаться сильнее их...»

Вот как!

Вооружайся, дорогой читатель, этим небольшим сборником «Габровских улыбок». Он поможет тебе стать чуточку сильнее.

## ШТО ВАМ НАЙБОЛЬШ СПАДАБАЛАСЯ Ў ЛЕНІНГРАДЗЕ?

*Адказ на пытанне газеты «Літаратура і мастацтва»*

— Я — драматург. Натуральна, што мяне больш за ўсіх цікавіў тэатр. З вялікім задавальненнем я паглядзеў пастаноўку п'есы М. Горкага «Мяшчане» ў Вялікім драматычным тэатры, альбо, як цяпер прынята гаварыць, у Таўстаногава. Мне запомніліся сустрэчы з А. Пракоф'евым, Д. Граніным, М. Браўнам, у якіх я быў у гасцях дома. Тут я сустрэўся з цікавым ленінградскім драматургам Р. Назаравым. Мы з ім пазнаёміліся нядаўна ў Ялце, на Усесаюзным семінары драматургаў. Цяпер я працую над новай сатырычнай камедыяй. І, натуральна, я прапаную сваю п'есу ленінградскім тэатрам.

Вялікае ўражанне зрабіла на мяне наведанне пакоя Уладзіміра Ільіча ў Смольным.

# НАША ЛЮБОЎ І ПАШАНА

В'етнам...

Гераічны В'етнам.

У каго з нас гэтыя словы не выклікаюць глыбокіх пачуццяў павагі і захаплення? Каго з нас не хвалюе самаахвярная, упартая, мужная барацьба в'етнамскіх патрыётаў за свабоду і нацыянальную незалежнасць сваёй Радзімы.

Амерыканскія імперыялісты, выконваючы ролю міжнароднага жандара, вось ужо колькі гадоў прыкладаюць намаганні, каб задушыць нацыянальна-вызваленчы рух на Індакітайскім паўвостраве. Яны кінулі туды полчышчы сваіх салдат-разбойнікаў, навербавалі ў сваіх сатэлітаў памочнікаў у сваёй бруднай справе, мабілізавалі свой ваенны і прамысловы патэнцыял, тысячы самалётаў, танкаў, верталётаў, выкарыстоўваюць самыя навейшыя віды зброі, нават напалм, газы і бактэрыялагічныя сродкі вайны, але ім не ўдаецца зламаць волю да барацьбы мужнага в'етнамскага народа.

Поспехі патрыётаў В'етнама ў гэтай вайне прыводзяць у шаленства імперыялістаў ЗША, і яны лютуюць — масіраванымі налётамі авіяцыі разбураюць гарады і вёскі, школы, бальніцы, масты, паляць напалмам рысавыя палі, знішчаюць мірнае насельніцтва. Амерыканскія сцярвятнікі скінулі больш за паўтара мільёна тон бомбаў на В'етнам.

Аднак і гэта не зламала веры в'етнамскага народа ў сваю перамогу ў свяшчэннай, справядлівай вайне. У гэтай тытанічнай барацьбе супраць самай магутнай імперыялістычнай дзяржавы в'етнамскі народ не адзінокі. На яго баку маральная падтрымка, спагада і спачуванне працоўных усяго свету. Вялікую дапамогу В'етнаму аказваюць народы Савецкага Саюза і краін сацыялістычнага лагера. Кіруючыся ленінскімі прынцыпамі пралетарскага інтэрнацыяналізму, працоўныя сацыялістычных краін пасылаюць героям В'етнама навейшую зброю, самалёты, ракеты, прадукты харчавання, адзенне, машыны — усё неабходнае для паспяховай барацьбы з агрэсарамі.

Звыш трох тысяч збітых над ДРВ самалётаў ЗША, больш 24 тысяч забітых і паўтараста тысяч параненых з ліку захопніцкіх банд амерыканскага легіёна — вось здабытак імперыялістаў ЗША ў вайне ў В'етнаме. Гэта пос-

пехі в'етнамскіх патрыётаў, у руках якіх надзейная зброя, выкаваная рабочымі сацыялістычнага лагера.

У агульную справу падтрымкі в'етнамскага народа ўносяць свой уклад і працоўныя Беларусі, выконваючы пастаўкі ў ДРВ эканамічных і ваенных заказаў.

24 ліпеня ў Беларусі пачынаюцца Дні дружбы з В'етнамам, на правядзенне якіх прыязджаюць жаданыя госці — прадстаўнікі в'етнамскага народа — надзвычайны паўнамоцны пасол ДРВ у СССР Нгуен Тхо Цян, глава пастаяннага прадстаўніцтва Нацыянальнага фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама ў Савецкім Саюзе Данг Куанг Мінь і дэлегацыя працоўных В'етнама, якую ўзначальвае намеснік міністра цяжкай прамысловасці ДРВ Ву Ань.

У гэтыя дні працоўныя Беларусі прадэманструюць перад сябрамі сваю дружбу, сваю салідарнасць з мужным в'етнамскім народам. Госці наведаюць многія гарады і калгасы нашай рэспублікі. Яны раскажуць аб подзвігах сваіх суайчыннікаў. Гэтыя сустрэчы яшчэ больш умацуюць адзінства нашых народаў, дружбу нашых народаў і вернасць прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Шчыра запрашаючы гасцей, мы выказваем ім нашу любоў і пашану, мы выказваем нашу веру ў канчатковую перамогу змагароў В'етнама за сваю незалежнасць і адзінства краіны.

## ВСЕХ ЗАМЫСЛОВ НЕ ПЕРЕЧЕСТЬ

Мы, журналисты, работаем с опережением времени. На дворе еще октябрь, а в производстве одиннадцатая, ноябрьская книжка «Немана», а также и последняя, двенадцатая, посвященная славному юбилею БССР и Компартии Белоруссии.

Не буду останавливаться па содержании этих двух книжек. Отмечу лишь, что в них мы впервые представляем нашему читателю белорусского прозаика Антона Алешко, посвятившего свое творчество людям военно-воздушного флота. Его новый роман «Дороги без следов» отличает глубокое знание фронтового быта и ратного труда летчиков-истребителей.

Но, повторяю, мы живем уже будущим, 1969 годом.

Уточняются планы, «дотягиваются» рукописи, редакция связывается со своими авторами, договаривается о новых очерках и публицистических статьях... Словом, идет обычная «лихорадка», без которой невозможно себе представить любую редакцию.

Чем же мы порадуем читателя в будущем году?

Из крупных произведений прозы прежде всего хочется назвать новый роман Ивана Шамякина «Снежные зимы».

Иван Шамякин не нуждается в рекомендациях. Его любят и знают как писателя, по-настоящему современного, затрагивающего острые проблемы сегодняшнего дня. Потому-то так велика его популярность не только у нас в республике, но и далеко за ее пределами.

Большой удачей писателя является главный герой романа Антонюк — яркая, незаурядная личность, выписанная автором с большой душевной теплотой.

Для первого знакомства читателя со своим героем автор выбрал незавидное и непривычное положение, в котором оказался Антонюк, — положение начинающего персонального пенсионера. Перебирая в памяти свою жизнь, Антонюк как бы исповедуется перед читателем. А жизнь у него богатая, сложная, трудная. С каждым новым эпизодом растут интерес и привязанность читателя к герою. Сюжет романа острый, захватывающий.

Образ положительного героя, настоящего коммуниста, воина-партизана, а затем активного преобразователя жизни, безусловно, полюбится широкому кругу читателей цельностью характера, принципиальностью, человеческим достоинством, с которым герой выходил из самых сложных житейских ситуаций как в военное, та и в наше бурное время. Очень интересно выписана в романе и молодежь, подчас мудрая, а иногда колючая, но нравственно чистая, духовно богатая, светлая.

Читателям «Немана» знакомо имя русского прозаика Ивана Мяло. В свое время мы опубликовали его повесть «Передний край» и роман «Верность». В портфеле редакции — новая повесть Ивана Мяло о детстве, о деревне тридцатых годов. Автор ставит важные вопросы морально-этического плана, которые, как мы надеемся, не оставят читателя равнодушным.

«Неман» всегда охотно предоставлял свои страницы молодым поэтам, прозаикам, публицистам. Для них широко открыты двери нашей редакции. В будущем году чи-

татели встретятся с новыми именами, и мы надеемся, что эта встреча не разочарует их. Назову лишь Николая Виноградова, который сейчас завершает работу над романом «В борьбе и тревоге» (название условное). Это произведение о бурных годах гражданской войны, о том, как в огне сражений за молодую Советскую республику мужали и закалялись настоящие советские характеры.

Особое место в нашем журнале всегда занимала и занимает документальная проза. И это понятно. Интерес читателя к документалистике огромный. Записки, воспоминания, сборники мемуаров читаются и раскупаются нарасхват. В будущем году редакция «Немана» предоставит слово воинам-фронтовикам, партизанам и подпольщикам. Кроме того, журнал опубликует документальную повесть Бориса Клейна «Доктор Руссель» — о нашем земляке Николае Судзиловском, человеке редкой, почти фантастической судьбы.

Вниманием редакции пользуется и приключенческий жанр. У нас публиковались повести Сбигнева Сафьяна «Ключ следствия», Леонарда Моусли «Операция «Кондор», Жоржа Сименона «Мегре на отдыхе», Боба Альмана «Опасная осведомленность». В будущем году мы предполагаем напечатать увлекательную повесть писателя ГДР П. Аддамса «Ангелочки по десять шиллингов», представляющую собой остроумную сатиру на погрязшее в разврате и лжи буржуазное общество.

Наши читатели, очевидно, заметили, что в каждом номере «Немана» мы ведем откровенный разговор на самые злободневные темы. Положительные отклики вызвали, в частности, статьи «Рубикон юности» В. Жуковской, «Раздумья в пути» М. Ткачук, «Белорусский мед» Л. Леонова и другие.

В будущем году «Неман» заведет разговор о той большой роли, какую играет сельская интеллигенция в жизни деревни, о ее нуждах и заботах; об острых насущных проблемах, стоящих перед строителями республики, о трудностях на пути технического прогресса...

Не будем перечислять все темы, запланированные редакцией. Мы можем только заверить читателей, что и впредь постараемся делать журнал разнообразным и боевым по содержанию, отвечающим духу нашего времени.

## У ПАМЯЦІ НАЗАЎСЁДЫ

Гэта сказала жанчына вельмі чулая да чалавечай дабраты:

— Нядаўна ўключаю я прыёмнік і раптам чую голас, ды такі знаёмы, такі ласкавы, такі свой. Адразу пазнала — Глебаў. І на душы стала радасна, светла, неяк цёпла-цёпла. Ну, нібы спаткала роднага, блізкага, дарагога мне чалавека. Напачатку нават забылася, што яго няма; быццам тое, што ён памёр — гэта недарэчны сон.

Я прыгадаў гэтыя словы не толькі таму, што ў іх выказана глыбокая павага і шчырая любоў да Глеба Паўлавіча, але і таму, што ў іх падмечана асаблівасць таленту вялікага артыста: прывабнасць, абаяльнасць, чароўнасць, душэўнасць.

Людзі любяць гумар і тых, хто мае пачуццё гумару. А Глеб Паўлавіч быў шчодра адораны гумарам і ўмельствам карыстацца ім тонка, мякка, спагадліва, незласліва і бяскрыўдна, калі яму даводзілася высмейваць чалавечыя слабасці ці заганы характару добрага па прыродзе чалавека, але жыццёвымі абставінамі пастаўленага ў смешнае становішча.

Убачыўшы на сцэне хоць бы адзін раз вобразы, створаныя вялікім артыстам, запамінаеш іх на ўсё жыццё, яны становяцца як бы блізкімі знаёмымі.

Бывае ж так, што жывеш па суседстве з чалавекам многа гадоў, здаецца, і ведаеш яго, а расказаць аб ім няма чаго. А тут, на спектаклі, за якія-небудзь дзве ці тры гадзіны вобраз так ўваб'ецца ў памяць не толькі сваёй чалавечай сутнасцю, але і ўсімі сваімі дробязямі ў характары, быццам усё жыццё назіраў за чалавекам.

І ў гэтым яшчэ адна цудоўная рыса вялікага мастака: уважлівасць да чалавека, назіральнасць, зацікаўленасць чалавекам.

Глеб Паўлавіч запомніўся мне не толькі сцэнічнымі вобразамі.

Мы часта сустракаліся. І кожная сустрэча для мяне была прыемнай, бо Глеб Паўлавіч і ў жыцці, у быце быў добры, мяккі, спагадлівы, чулы і ўважлівы. Ён умеў выслухаць і, калі трэба, суцешыць. Шчыра, па-свойску.

Такім жывым, сваім, блізкім ён і застаецца ў мяне ў памяці назаўсёды.

## СПАСИБО, КОНДРАТ КОНДРАТОВИЧ!

К творчеству Кондрата Кондратовича Крапивы у меня особое отношение. Перелистывая его томики, часто ловишь себя на том, что опять с интересом перечитываешь уже известные, неоднократно читанные басни или пьесы. И всякий раз задумываешься: до чего же близок, да нет, не просто близок, а слитен, как бы в одной плоти с народом этот писатель. И язык его произведений — сочный, колоритный, образный, истинно народный, и проблематика произведений — заинтересованно выхваченная из народной жизни. А юмор? То мягкий, добрый, то предупреждающе суровый. А уж если наказать смехом, то едко, беспощадно, хлестко, так, чтобы надолго запомнилось.

Завидна и еще одна черта творчества Кондрата Крапивы — оперативное и активное воздействие на жизненные процессы, умение немедленно, теперь же откликнуться на события и факты жизни, оценить их значимость, обратить на них внимание общественности, не скрывая своей партийной тенденциозности при истолковании отражаемых явлений или фактов.

Писатели, работающие в жанре сатиры, безусловно, благодарны Кондрату Крапиве не только за личный пример, но и за теоретические размышления о значении, роли, возможностях сатиры в нашем обществе.

Отмечая 75-летие Кондрата Кондратовича, хочется сказать ему искреннее спасибо за творческий пример, за принципиальность и мужество в сатире, за смех и гнев, за науку и пожелать доброго здоровья, хорошего настроения и радости творчества.

## С КЕМ СМЕЕМСЯ?

*Інтэрв'ю газеце «Неделя»*

— Мы подружились много лет назад, вскоре после шумного успеха «Камней в печени» («Извините, пожалуйста»). Чем памятна тебе эта пьеса?

— Она помогла мне войти в театр, причем в хороший. В Центральном театре Советской Армии пьесу ставили Алексей Дмитриевич Попов и Давид Владимирович

Тункель. Они приобщили меня к высокому искусству, которому сами служили верно и вдохновенно. Я понял, как много зависит от режиссера-художника, переводящего созданное тобой с языка драматурга на язык сцены. Эта пьеса познакомила меня с такими чудодеями, как Любовь Добржанская и Петр Константинов, Глеб Глебов и Борис Платонов. Через них я навсегда полюбил театр. Я имею в виду и зрителей, без которых актер — в вакууме. И автор. Только так ведь пьеса получает свою подлинную жизнь.

«Камни в печени» поставили около двухсот театров. Успех я объясняю не столько мастерством — откуда ему тогда было взяться,— сколько остротой и злободневностью жизненной проблемы, которую я попытался решить правдиво и весело. Могут сказать: ему-де повезло. Ведь поначалу пьеса многим «не показалась», и судьба комедии поскладывалась невесело. На публикацию, тем более постановку, надежд почти не оставалось. Но я-то знал жизнь деревни, ее послевоенные трудности, был убежден, что так долго продолжаться не может, верил, что обязательно партия внесет перемены. И они, разумеется, наступили.

Главный редактор «Театра» Николай Погодин срочно вызвал меня в Москву. Что-то выдернули из уже сверстанного десятого номера журнала и вставили туда «Камни...».

Столь стремительная популярность меня насторожила. «А что дальше? — спросил я себя.— Дерзнул? А дальше?»

— Но, прежде чем ты на него ответишь, скажи, а что было прежде?

— Средняя школа в Журавичах на Рогачевщине, служба в горно-стрелковой дивизии в Закавказье. Политруком роты участвовал в Феодосийско-Керченском десанте. Бежал с хлопцами в атаку, как вдруг рядом разорвалась мина. Мины всегда разрываются вдруг. Одна, а тут же и вторая. Да по ногам. Дырок насверлили проклятые штук семнадцать. Очнулся в полевом госпитале. Через несколько дней собрался скорый и, как выяснилось, неправый суд-консилиум решать мою судьбу. Приговор был суров: «Гангрена. Ампутировать обе ноги». И тут — век его не забуду! — подошел ко мне пожилой военврач Бугаенко. Ему, наверное, еще и сорока не было, но мне, двадцатилетнему, он казался пожилым. Наклонился и говорит: «Вот что, сынок, я нарушаю врачебную этику, но мол-

чать не могу. Никогда себе этого не простил бы. Никакой гангрены у тебя нет, не давай ампутировать ноги».

Оружие с меня сняли, когда в госпиталь привезли. Но трофейный парабеллум в полевой сумке под головой остался. Словом, я к себе никого не подпустил. Только ослаб вот очень — от потери крови, ну и не ел ничего: боялся, снотворного подмешают. Молод был, наивен.

Лежал в полубредовом состоянии, когда через сутки пришла сестра: «Готовься к эвакуации». Не верю. «Пусть,— говорю,— Бугаенко скажет». Тот подтверждает: «Повезло тебе, комиссар. Эвакуируют из-под Старого Крыма раненого партизана. Остается в У-2 еще одно место».

Вывезли меня на Большую землю. А на другой день фашисты навалились на наш десант и смяли его. Мало кто спасся тогда.

— Как ты стал писать, когда почувствовал в душе «священный огонь»?

— Поначалу было не до «огня», нужда заставила. Работал я сразу после войны,— как снова ходить научился,— секретарем Гродненского горкома комсомола. Чем занять девчат и хлопцев после трудового дня — ума не приложу. Костелы действуют на полный ход, там стройные песнопения, торжественно рокочут органы веками отработанные мистерии. А у нас полная неустойка: ни книг, ни пьес, ни нот, ни песен — ну, ничегошеньки. Как хочешь, так и выкручивайся. Написал слезное письмо в Минск. Ответили, а что толку — и там ничего нет. Разозлился очень. Сел и сам написал одноактную пьесу. А тут объявили республиканский конкурс. Хлопцы и подначили: «Давай в конверт!» Послал и забыл.

Прошло время. Я работал уже в Могилеве, как вдруг телеграмма: «Приезжайте за получением премии».

Я все же удивился. Всякое в жизни бывает. Но люди сведущие в Минске настойчиво советовали: «Пиши!» Послушался. Снова конкурс — и снова премия. Вот тут-то я призадумался, понял — учиться надо. И поехал в партийную школу. Перечитал, сдается мне, всех драматургов от Еврипида до Погодина. Был редактором отдела прозы сатирического журнала «Вожык». Написал пьесу «На рассвете» — о борьбе за мир французских трудящихся. Кстати сказать, с тех пор почти весь мир объехал, а во Франции так и не побывал. Не судьба... Откуда же мне было взять знание деталей быта, нравов далекой страны — вот и получилась она суховатой, дидактичной.

Значит, нужно писать о том, что знаешь. К таким истинам тоже приходишь опытным путем. Лучше всего я знал жизнь послевоенной белорусской деревни. О ней и стал писать.

— А война? Не странно ли, что ты так поздно к ней обратился?

— Видишь ли, тут дело непростое. Я понимал, нутром чувствовал, что не может, не должен такой огромный по весу, значимости кусок жизни, как война, пройти бесследно. Но как, о чем писать? Этого-то я не представлял. Война обернулась ко мне самой трагичной своей стороной. Бередить старые раны не хотелось: вокруг все так радовались победе, так и без того трудна была послевоенная жизнь. Но вот спустя много лет я стал замечать, что при встречах с друзьями, бывалыми людьми, о войне вспоминаются больше веселые эпизоды. И чем дальше события, тем ярче юмор даже в трагических обстоятельствах. А не в этом ли ключ моей военной темы? Ведь то, что мы в самые трудные времена не теряли присутствия духа и даже юмора,— ведь именно в этом и выражалась наша абсолютная убежденность в грядущей победе. Так родилась трагикомедия «Трибунал». Новый для меня, да и вообще не очень утвердившийся у нас жанр.

Дал я почитать рукопись молодому, способному режиссеру. Встретились, а он мне в лоб: «Пьесу вашу ставить не буду, она мне не нравится». Скажу без ложной скромности, что я с ним не мог согласиться. Но и спорить не стал. Предложил прогуляться и разговор завел, нет, не о пьесе, а о войне, как я понимаю жизнь человека на войне. В общем — поговорили. Порассказать было что... Перед тем как проститься, я снова протянул режиссеру рукопись и сказал: «Вы читали не мою пьесу. Теперь я прошу вас прочитать то, что я хотел сказать». Режиссер прочел ее другими глазами. Его спектакль я считаю лучшим.

— «Затюканный апостол» был неожиданностью. Такого сюжета, мне кажется, от тебя не ожидали. Чем вызвано обращение к новому материалу?

— В поездках по свету незаметно накапливаются, наслаиваются впечатления. И однажды наступает час, когда они о себе напоминают, требуют осмысления. Вот и я почувствовал острую потребность поразмышлять над тем, что творится в мире. Мы живем в такое время, когда к событиям в каком-либо до того неведанном захолустье мо-

А. Макаёнак з артысткамі БДТ імя Я. Купалы
Г. Макаравай і Г. Бальчэўскай.
1973 год.



жет вмиг подключиться вся планета. Мне хотелось передать настороженность каждого человека к тому, что происходит, не указывая конкретно где — на Мальте или в Гондурасе. Попытаться добраться до души зрителя: если это взволновало юнца — моего героя, то что же мы, взрослые? Я и вложил ему отчасти свое передуманное, выношенное, отчасти идеи, взгляды молодежного движения на Западе, по-моему, еще не отстоявшегося, в чем-то противоречивого, но бунтарского, непримиримого. Талантливого парня поместил в такую социальную среду, где из него с равным успехом может вырасти и борец за мир, и фашиствующий подонок.

— Легко ли, трудно ли пишется?

— Всякое бывает. Больше всего работал, пожалуй, над «Апостолом», Когда писал на сельские мотивы, то при локальности темы и форма соответствующая легче давалась. А тут для меня все было ново: и материал, и жанр. Сам материал трудоемкий, с налету не сделаешь.

— Когда-то ты обещал написать пьесу, смешную от первой фразы и до последней. Не оставил ли эту мечту? Или она уже осуществлена?

— Молодой был, неопытный — вот и пообещал. Проблема ведь не в том, чтобы смешно было. А над чем смеяться! Точно выбрать адрес: над кем смеяться, с кем смеяться... Самую веселую свою пьесу еще не написал.

— Было бы любопытно узнать твое мнение о Макаенке-драматурге?

— Ничего, со временем научится писать. Старается, не ленится.

— ...редакторе толстого журнала?

— Это увлечение, от которого надо отказываться. Оно мне уже мешает. Была честолюбивая мечта сделать журнал общесоюзным, по значению, весу. Кое в чем мы преуспели. Однако работы впереди воз и замыслов тележка.

— Как складываются отношения с режиссерами?..

— Не могу пожаловаться, хотя сценические решения моих пьес бывали очень разными. Может быть, потому, что всегда терпелив, с пониманием отношусь к манере художника. Игорь Владимиров поставил в Ленинграде «Левониху на орбите» так, что я удивился и шепотом спросил у него: «А так можно ставить?» Спектакль был в высшей степени озорной, веселый. Хорошо работается с В. Н. Плу-

чеком, Е. В. Радомысленским. А любимый театр все-таки свой — имени Янки Купалы.

— ...с критиками?

— Развернутых литературоведческих работ о себе не читал. Видимо, их нет. В коротких рецензиях самое важное для меня: понят я или нет.

— Не раскаиваешься ли, что выбрал путь сатирика?

— Другого теперь уже не представляю. Однако терний достаточно, и порой не знаешь, откуда их ожидать. Хотя нет, вру, теперь уже знаю, где колючки растут. И знаю, с чьей помощью их выдергивать.

— Кто переводит твои пьесы на русский язык?

— Сам перевожу. Когда-то принес Н. Погодину в редакцию журнала «Левониху на орбите» с русским подстрочником. Назавтра он мне и говорит: «Какой же это подстрочник. Это и есть перевод. Брось дурака валять. Коль можешь, то только сам себя и переводи. А если кто придираться станет, скажи: «Это мне Погодин так велел».

— Теперь модно «переключаться». Поэты пишут прозу, прозаики, правда, воздерживаются пока от стихов. А что драматурги?

— Театр требует лошадиного здоровья, буйволиных нервов. Я ему подхожу. Вот когда со здоровьем станет похуже и лет заметно прибавится, возьмусь за прозу. Есть даже заготовки — то, что не ложится в драматургический жанр. Есть и монологи. Их у меня куча, про запас... Пригодятся... Пока кое-что лежит без движения, дозревает, дожидается своего часа. И не обязательно драматургического.

С так называемыми заготовками порой неожиданные вещи случаются. Одного из центральных персонажей «Левонихи на орбите» — Левона я решил сделать бессловесным. Свое отношение к происходящему он должен был выражать междометиями, чаще многозначительными, иногда зловещими: «Эге», «Ну и ну» и тому подобное. Сам понимаешь, для исполнителей этой роли литературный материал отнюдь не блестящий. Чтобы облегчить актерам «проникновение», «вхождение» в образ, я специально для них написал внутренние монологи Левона. А потом так жалко стало «пропадающего зря добра», что не удержался и вставил их в текст пьесы.

— Если не суеверен, то что нам от тебя ожидать в ближайшем будущем?

— Кое-что есть. Дорабатываю, шлифую. Одну пьесу

дал почитать знатокам, высказали дельные советы. Кстати, знаешь обычай испанских крестьян? Когда ребенок болеет, то его торопятся перекрестить, дать новое имя, чтобы вся хвороба осталась со старым.

Конечно, я совсем не суеверен... Но название этой пьесы все-таки заменил.

## ОБЩЕНИЕ БЛАГОТВОРНО

Для каждого советского драматурга, как, впрочем, и любого другого представителя многонационального нашего искусства, высокое понятие — дружба народов неотделимо от повседневных творческих забот.

Когда встречаешься с очень интересными и разными людьми в братских республиках нашей страны, когда работаешь с большими мастерами, все это обогащает собственное творчество. Общение благотворно. И в самом широком смысле слова, и в более узком, конкретном. Оно дарит то идею, то домысел, то художественный прием. Когда видишь, как наши белорусские пьесы интерпретируются на сценах других республик, понимаешь не только традиции театрального искусства этих республик, направление их творческих поисков, но лучше понимаешь себя.

Недавно завершилась работа над моей новой комедией-репортажем «Таблетку под язык» в Московском театре сатиры. Мне было очень интересно работать с такими мастерами, как В. Плучек, А. Папанов, В. Васильева, Г. Менглет, А. Миронов. Что же касается планов дальнейших, то был бы не прочь пока повременить с ответом. Курица вон и то кудахчет лишь после того, как снесет яйцо.

Могу сказать только одно: собираюсь писать пьесу, действие которой происходит в некоей воображаемой зарубежной стране. В общем, неважно где, но где-то там...

## ПРЭМ'ЕРА АДБЫЛАСЯ, ПРЭМ'ЕРА БУДЗЕ

*Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»*

Як мы паведамлялі, у Маскоўскім тэатры сатыры адбылася прэм'ера п'есы Андрэя Макаёнка «Таблетку пад язык». Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра, народны артыст РСФСР Валянцін Плучак. У ім заняты папулярныя артысты Г. Менглет, А. Папанаў, С. Мішулін, В. Бойкаў, А. Міронаў, А. Шырвінт, Н. Селязнёва і іншыя.

Гэта другая п'еса беларускага драматурга, пастаўленая на сцэне Тэатра сатыры. На гэтай жа сцэне маскоўскія гледачы ўбачылі спектакль «Зацюканы апостал» у пастаноўцы Я. Радамысленскага. Па ўсім адчуваецца, што Макаёнак гэтаму тэатру, як гаворыцца, даспадобы, і ўжо можна гаварыць аб трывалай творчай дружбе, якая звязала таленавітага драматурга з таленавітым калектывам.

Наш карэспандэнт сустрэўся з Андрэем Ягоравічам і папрасіў падзяліцца ўражаннямі аб рабоце з рэжысёрамі і акцёрамі тэатра.

— Мне вельмі пашанцавала. Валянцін Плучак — сапраўдны чараўнік сцэны, прафесіянал высокага класа. Працаваць з ім — вялікая асалода. Ён нястомна фантазіруе, дае магчымасць імправізаваць акцёрам. Кожная яго рэпетыцыя — творчы зарад на многа спектакляў. І ніколі не спыняецца, ніколі не лічыць, што ўсё ўжо зроблена.

Мне давялося прысутнічаць на адной з апошніх рэпетыцый (на наступны дзень спектакль павінны былі здаваць мастацкаму савету). У мяне склалася ўражанне, нібыта рэпетыцыі пачынаюцца спачатку: столькі новых задач рэжысёр паставіў перад акцёрамі. Ад выканаўцаў ён патрабаваў шмат, але шмат даваў ім сам. Валянцін Плучак расказваў гісторыі смешныя і сумныя, акцёры нястрымна рагаталі, і, здавалася, усё гэта не мае ніякага дачынення да будучага спектакля. Але гэта толькі здавалася...

Мне вельмі спадабаліся артысты, занятыя ў спектаклі. Добра знаёмыя нам па мностве спектакляў і фільмаў, яны былі непазнавальныя: на сцэне жылі і дзейнічалі беларускія хлебаробы.

Магчыма, сыграла сваю ролю і тое, што мы разам з Валянцінам Плучакам шмат ездзілі па беларускіх калгасах, знаёміліся з людзьмі, назіралі за іх напружанай, нялёгкай працай, сустракаліся ў мінуты адпачынку за сяброўскай гутаркай, а часам і за кілішкам. Рэжысёр спек-

такля разам з артыстамі пабывалі ў падмаскоўных калгасах, і гэтыя сустрэчы пазней таксама шмат што далі акцёрам.

Драматург расказаў пра лёс папярэдніх дзвюх п'ес — «Зацюканы апостал» і «Трыбунал», якія параўнальна нядаўна пачалі сцэнічнае жыццё.

— «Зацюканы апостал» ідзе ў Тэатры сатыры. Мне вельмі прыемна, што да гэтага часу білеты на спектакль дастаць цяжка. У другім маскоўскім тэатры — на Малой Броннай ставяць «Трыбунал». Гэтыя п'есы пастаўлены ў нас у Беларусі і ў многіх тэатрах краіны. Ідуць яны і за мяжой.

У бліжэйшыя дні прэм'ера «Таблетку пад язык» адбудзецца ў тэатры імя Я. Купалы. Я чакаю яе з хваляваннем і нецярпеннем.

## ДРАМАТУРГ — ПЯТИЛЕТКЕ

Разговор на писательском пленуме о писателе и пятилетке, о роли и месте писателя в борьбе за осуществление наших планов очень важен.

На декабрьском Пленуме ЦК КПСС говорилось об интенсификации народного хозяйства. Казалось бы, как это может впрямую касаться писателя? У нас ведь свой предмет исследования — человек, его достоинства, его недостатки. Всматриваясь в героя, мы ищем, чем в нем восхищаться, чем возмущаться, с чем бороться.

Но я воспринимаю документы этого пленума партии как обращенное лично и непосредственно и ко мне: о тебе пишут статьи, тебе вручают дипломы, так верни же эти авансы — помоги!

Ведь это значит интенсификация? Это на тех же полях надо вырастить больше, на тех же станках сделать больше. Надо. И можно! И когда это не делается, то, значит, где-то мы недорабатываем, что-то не так используем, не так строим трудовые взаимоотношения. И в нас, сатириках, тут прямо-таки хозяйственная необходимость. Мы нужны, как нужна техника, как новые открытия наших ученых, как отлично подготовленные кадры. Ведь наш труд может и самым непосредственным образом влиять

на борьбу за выполнение наметок нынешней пятилетки. Мы должны создавать нравственную атмосферу нетерпимости к равнодушию, разгильдяйству, бездумному отношению к своим обязанностям. Должны не развлекать (давайте, дескать, посмеемся, порадуемся), а беспощадно искоренять недостатки, способствовать выкорчевыванию их из нашей действительности. Это долг сатирика, и не в смысле «обязанность», а в смысле отдай, что получил.

Но чтобы выполнить этот долг, надо знать жизнь (и знать не с чужих слов, а через свой непосредственный опыт), надо верно улавливать характер идущих сегодня процессов, их тенденцию. Наше искусство, обращенное к человеку, воздействующее на человека и на изучении его основывающееся, должно и может войти в сегодняшний день как действенная сила.

## ПАЎГАДЗІНЫ З АНДРЭЕМ МАКАЁНКАМ

*Інтэрв'ю газеце «Звязда»*

Лёгка, нават вельмі лёгка прачытаць біяграфію чалавека, напісаную не ім самім. Цяжка, непамерна цяжка, бывае, напісаць яе самому, сваю аўтабіяграфію. Ці не табывае, напісаць яе самому, сваю аўтабіяграфію. Ці не таму і надараецца часам, што чалавек піша яе ўсё сваё жыццё. Біяграфію дум сваіх піша, біяграфію пачуццяў сваіх, свайго гарэння, свайго неспакою, сваіх адносін да жыцця.

У Андрэя Макаёнка, таленавітага беларускага драматурга, гэтыя думы, пачуцці, адносіны спачатку маўкліва кладуцца ў напружаныя радкі яго п'ес. І толькі пасля ўжо, праз акцёрскія сэрцы і таленты, індукуюцца, трансфармуюцца да людзей.

Што прымушае пісьменніка ўзяцца за пяро, якая сіла кіруе ім у хвіліны творчага гарэння, з чаго, нарэшце, пачынаецца тое чарадзейнае слова, тыя радкі яго твораў, якія пасля так хвалююць нас? За гэтым і прыйшлі мы на сустрэчу да Андрэя Ягоравіча, пра гэта і была ў нас гаворка з ім.

— П'еса, як і любы іншы твор,— пачаў пісьменнік,— перш за ўсё, відаць, пачынаецца з неспакою самога аўтара, з яго актыўнага ўспрыняцця жыцця. Раўнадушнаму, сыценькаму стварыць што-небудзь, па-мойму, не пад сілу...

Перад вачыма паўстаюць падзеі, персанажы і ролі «Лявоніхі на арбіце», «Трыбунала», «Зацюканага апостала», «Таблеткі пад язык». І над усім гэтым, як каментарый, як падтэкст, прысутнічае жывы, усхваляваны голас першаадкрывальніка нашых эмоцый, перажыванняў. І сапраўды, не ўбачыў бы пісьменнік, не паднёс бы нам убачанае ў мастацкім слове, штрышку, вобразе, мы прайшлі б міма гэтага, нават не згадаўшы, што такое ёсць, што яно варта нашай увагі, што яно — часцінка нашага жыцця, канфліктнага, з вострымі сур'ёзнымі і камічнымі, драматычнымі, а часам і трагедыйнымі сітуацыямі. І калі ўважлівей прыгледзецца да жыцця, яно прадыктуе праграму дзейнасці чалавека, так сказаць, праграму яго «актыўнага абжывання». І тут, побач з аб'ектыўным, узнікае другі, суб'ектыўны бок справы — ступень асабістага ўспрыняцця, талент, ад якога залежыць, калі можна так сказаць, выкананне прадыктаванай жыццём праграмы.

— У той жа час,— працягвае Андрэй Ягоравіч,— са сказанага не вынікае, што ў жыцці ёсць «гатовыя» сюжэты. Асабліва гэта датычыць сюжэтаў камедыйнага плана. Жыццё падносіць нам безліч асобных сітуацый. І таму ад пісьменніка патрабуецца іх сістэматызацыя, адбор для будучага твора такіх характараў, такой іх расстаноўкі, каб ні ў якім разе не адчувалася надуманасці, штучнасці.

Працэс актыўнага ўспрыняцця жыцця — працэс складаны. Жыццё не толькі нясе нам радасці, яно дае і засмучэнні. І калі адсутнічае вострае пачуццё, уменне чымсьці захапіцца, чымсьці абурыцца, тады не будзе жадання штонебудзь змяніць у лепшы бок, перайначыць, выправіць у тым свеце, дзе жывеш, тады не будзе творчасці, тады і не з'явіцца твор, які б запаліў у сэрцах і душах людзей агонь стваральнага імпэту. І вось менавіта гэта стварэнне другараднага агню — удзячная задача любога пісьменніка, асабліва драматурга, які піша для масавага ўспрыняцця. Рабіць гэта цяжка і ў той жа час ганарова.

Пярвічны агонь — жыццё. Вялікі подзвіг герояў захапляе, запальвае нас сваім полымем. Смерць героя збядняе яго паплечнікаў і, разам з тым, узбагачае новым гарэннем, неадольнай верай у перамогу, у імя якой гіне друг, таварыш, падымае на барацьбу. Данесці гэта пярвічнае да людзей, так, каб яно, стаўшы другарадным, не страціла сваёй першароднасці — вось абавязак пісьменніка.

— Андрэй Ягоравіч, у Вас, відаць, часта пытаюцца, ад-

куль прыходзяць у твор ідэя, факт, характар, сітуацыя?

— Так, вельмі часта. І адказваць на такое пытанне можна і коратка, і доўга. Усё гэта падказвае жыццё. А яно ў апошні час прыкметна развіваецца, паварочваецца да нас адна за другую ярчэйшымі гранямі. Разам з тым адбываецца абнаўленне чалавечых душ, жыццёвага багажу. А гэтыя змены, асабліва сацыяльнага характару, нараджаюць новыя праблемы, ставяць новыя задачы. Вось і паяўляюцца новыя тэмы, раскрыццё якіх немагчыма без паказу таго палатна, таго грунту, што абумовіў такія змены. І ў гэтай сувязі хочацца сказаць крыху пра сатыру, пра свой канёк, як кажуць, пра сваю прафесію.

З боку асобных людзей, на жаль, да гэтага літаратурнага жанру ўсё яшчэ можна часам назіраць даволі няправільныя адносіны, не зусім правільнае разуменне імі значнасці функцый сатыры для грамадства. А між тым сатыра ва ўмовах бурнага развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу — вельмі патрэбны кампанент. Рашэнні партыі і ўрада заклікаюць нас, пісьменнікаў-сатырыкаў, як і кожнага савецкага чалавека, актыўней уключацца ў ганаровую справу выканання намечаных задач па стварэнні перадавога ў свеце грамадства. Нам трэба глыбей пранікаць у самую сутнасць чалавечых адносін, у атмасферу стварэння дзелавых абставін, ускрываць і выкараняць недахопы, агаляць факты недобрасумленнасці, абыякавасці. І мы гэта робім і будзем рабіць з гаспадарскім клопатам дзеля таго, каб палепшыць маральную атмасферу ўсіх бакоў нашага жыцця.

— Ці не з гэтых пазіцый Вы і вызначаеце фактуру сваіх п'ес?

— Так, вядома. Па-ранейшаму цікаўлюся вёскай, яе людзьмі, яе праблемамі. І апошні свой твор «Таблетку пад язык» я прысвяціў ёй. Як пісалася п'еса? Падштурхнуў мой стары друг, старшыня калгаса «Новае Палессе» Лунінецкага раёна Уладзімір Апанасавіч Сцепчанка. Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, ён шырока глядзіць у будучыню, мысліць па-дзяржаўнаму. З ім цікава пагутарыць, памарыць. Пэўны час я правёў у яго гаспадарцы, быў на нарадах, на палявых станах, знаёміўся з людзьмі. Адным словам, у п'есу лёг фактычны жывы матэрыял. Але да стварэння твораў іншага плана гэткім чынам часам і не падступішся. Узяць, напрыклад, «Запюканага апостала». П'еса — вынік роздуму над праблемамі агульначалавечага характару аб не-

справядлівасці, ашуканстве, ханжастве, якія прадвызначаюць часам адносіны паміж сабой цэлых дзяржаў і народаў, становяцца палітыкай. Творы такога напрамку больш церпяць сюжэтныя ўмоўнасці. Галоўнае ў іх — не бытавы, а маральны, філасофскі, палітычны бок. Адгэтуль і незаімёненыя персанажы, проста — Тата, Мама, Дзед і г. д.

— Андрэй Ягоравіч, у любым вашым творы, відаць жа, ёсць элементы ад уражанняў не толькі сённяшніх сустрэч і назіранняў, але і ранейшых?

— Так яно і ёсць. Самым пераканаўчым адказам на гэта пытанне, па-мойму, будзе наступнае. Аднойчы, у сівую даўніну, да вядомага, але беднага мастака звярнуўся багаты купец з просьбай напісаць яго партрэт. Мастак зрабіў партрэт за дзве гадзіны і запрасіў за работу шмат грошай. Купец здзівіўся: за дзве гадзіны такі заробак! Тады мастак адказаў купцу, што ён працаваў над партрэтам усё сваё жыццё... І яшчэ дзве гадзіны.

Вось яна якая — творчасць. Без жыццёвага запасу, без жыццёвага багажу не было б яе, творчасці, і ў тыя дзве гадзіны часу, за якія таленавіты мастак стварыў партрэт купца.

— Творчае гарэнне незгасальнае. Ці не адкрыеце Вы, Андрэй Ягоравіч, свой сакрэт для нашых чытачоў: над чым Вы працуеце зараз?

— Твор яшчэ не закончаны, у працэсе работы можа шмат чаго змяніцца, перайначыцца. А таму свой сакрэт мушу патрымаць яшчэ колькі часу ў сакрэце, каб не завесці ў зман чытачоў. Наперадзе яшчэ шмат дарог, сустрэч і знаёмстваў. Запрашаюць у Польшчу на прагляд «Трыбунала», у Балгарыю — «Зацюканага апостала», ва Узбекістан, у Растоў, у Маскву. Магчыма, зменяцца многія задумы, паявіцца новая фактура для недапісаных твораў...

...Усяго паўгадзіны правялі мы разам з Андрэем Макаёнкам, а колькі перагаворана. Што ж, творчай удачы Вам, дарагі Андрэй Ягоравіч! Чакаем Вашых новых твораў, палымянай сатыры, дабрадушнага смеху.

# СМЕХ — ДЕЛО СЕРЬЕЗНОЕ

*Інтэрв'ю газеце «Известия»*

В трудном жанре работает Андрей Макаенок. Сейчас в театрах страны идут четыре его пьесы: «Левониха на орбите», «Трибунал», «Затюканный апостол» и «Таблетку под язык». И все сатирические комедии!

— Андрей Егорович, ну почему непременно сатира?

— Ведь человечество, смеясь, расстается со своим прошлым... Ну вот и я если не смеясь, то, улыбаясь, расстаюсь со своим прошлым.

И потом уже совсем серьезно, без тени улыбки:

— Смех тоже, можно сказать, один из сильных ускорителей прогресса. Сатира действует без наркоза, но боль, которую она наносит организму,— целительная боль. Сатира — горькое, но полезное, необходимое лекарство. Пожалуй, не всякий жанр искусства может тягаться на равных с сатирой по силе воздействия. Что может быть страшнее и губительнее для зла, чем тот факт, что оно опознано, осмеяно публично?

Социальное назначение нашей сатиры — утверждать коммунистические идеалы, бичуя всякого рода негативные явления. Утверждение через отрицание. Чем ярче светит солнце, тем заметнее становятся тени и разные там пятна и пятнышки. Сатира, если хотите,— показатель нашего оптимизма, общественного здоровья. Если мы позволяем себе смеяться, шутить над собственными недостатками, значит, мы очень сильны, значит, глубоко верим в свои принципы, в свои идеалы, верим в людей.

Где, в каком капиталистическом государстве сатирик чувствует такую поддержку, как у нас?

— Да, это можно подтвердить фактами вашей собственной биографии. Депутат Верховного Совета республики, в день пятидесятилетия орден Трудового Красного Знамени получили...

— А что, верно — ведь это тоже в какой-то мере поддержка и поощрение сатиры... Но сейчас я хочу сказать о другом. На партийном съезде или пленуме, когда заходит речь о литературе, о ее огромной роли в воспитании человека труда, достойном отображении его величайших деяний в строительстве нового общества, одновременно подчеркивается необходимость развития всех форм критики и самокритики. Побывайте где-нибудь на широком засе-

дании бюро райкома или обкома партии, послушайте, какая там развертывается деловая критика, и вы убедитесь, что нам, сатирикам, еще тянуться и тянуться до нее.

— Это верно. Но мы с вами погрешили против истины, сделав вид, что у нас вообще не существует людей, настороженных к сатире.

— Мне думается, эта настороженность происходит от неверного понимания функций искусства, в том числе комедии и сатиры. Эти люди хотят видеть в каждом произведении искусства инструкцию — люби то-то, не делай того-то. А у искусства ведь совсем другое предназначение. Драматург привлекает к решению проблем общественное внимание, апеллируя к нашему сознанию, к нашим чувствам, к сердцу, к совести.

Иногда приходится встречать и зрителей, и критиков, которые, посмотрев сатирическую комедию, безапелляционно заявляют: в жизни так не бывает!

— Наверное, так говорят прототипы ваших героев, которым очень не хочется узнавать себя?

— Не только они, но и люди, не понимающие природы искусства, которое держится на «преувеличении и заострении». «Редкая птица долетит до середины Днепра...» Что это, если не гипербола? Но она же нас не шокирует. Или вот еще: «Я помню чудное мгновенье: передо мной явилась ты, как мимолетное виденье, как гений чистой красоты». Гипербола, от которой звенят все струны в душе.

Гипербола, заострение, гротеск (а порой, может быть, откровенный фарс) — соль комического, соль сатиры. Подчеркивая, заостряя одну из сторон комедийного характера, автор тем самым высказывает свое отношение к герою. Хорошо об этом сказал в своей статье главный режиссер Московского театра сатиры В. Плучек: «Ставить ей (сатире) это в укор — все равно что критиковать микроскоп за то, что он сильно «преувеличивает» размеры микроба, а не показывает его в натуральную величину. Микроб надо увидеть, иначе с ним невозможно бороться».

С точки зрения чисто житейского правдоподобия таких, как главначпупс Победоносиков, в природе не было. А сколько бюрократов узнало в нем себя благодаря гиперболе, гротеску!

— А как вы относитесь к спорам драматургов и критиков о соотношении «положительного» и «отрицательного» в сатирической комедии?

— Думаю, что тут вообще нет предмета для спора, по-

скольку в искусстве нет и не может быть застывших канонов, пропорций и готовых рецептов. Искусство всегда — открытие.

И судить об обществе по одному произведению искусства, тем более сатирическому, нельзя. Любое произведение, будь оно даже очень талантливым, раскрывает одно явление или комплекс близлежащих явлений. Нарисовать цельную и многогранную картину жизни общества под силу лишь всей литературе, всему искусству.

— Не следует ли из сказанного вами, что возможна комедия, где все действующие лица — отрицательные?

— Конечно. Разве не может быть, скажем, сатирической комедии о шайке жуликов в критический момент, когда их жизнь напоминает войну скорпионов в банке? Главное в сатирической комедии — не «арифметика», не «правильное» соотношение «положительных» и «отрицательных» героев, а позиция автора (а потом и позиция режиссера, театра в целом). Во имя чего написана пьеса? Что она отрицает и что защищает? Никто же всерьез не станет утверждать, что «Баня» В. Маяковского пропагандирует бюрократизм лишь потому, что главным действующим лицом является Победоносиков? Главный герой сатирической комедии — это смех, смех, уничтожающий зло, очищающий и возвышающий человека. Сатирик не сторонний наблюдатель, не зубоскал, он боец, гражданин. У него, как и у писателя, пишущего положительные произведения, одна задача: содействовать общественному благу, воспитывать человека, делать его сильнее, мужественнее, духовно богаче, благороднее. Подвергая осмеянию невежество, ханжество, бюрократизм, консерватизм, мещанство (кто скажет, что эти пороки у нас уже изжиты?), сатирик утверждает наши коммунистические идеалы. Его творчество предельно классово по своим позициям. Несколько упрощая, утрируя суть дела, можно сказать: если Афанасий Салынский в своем творчестве воспевает Добро, то я в своих пьесах защищаю его.

— Я согласен с вами, но считаю, что далеко не всякую сатиру должно поощрять и поддерживать.

— Конечно, не всякую! В последнее время у нас появились лжекомедии, комедии-пустышки. К сожалению, они, как правило, сделаны людьми опытными в драматургии, ремесленнически грамотно. Но ведется в них разговор о... гвозде в каблуке обывателя. Нет, я не против юмора и улыбки. Но комедия должна нести большую

мысль, а не щекотать нервы обывателю. Без мысли нет искусства, есть лишь жалкая подделка под него.

Вообще, роль театра и драматурга в наше время исключительно ответственна. Каждый вечер тысячи людей приходят послушать и посмотреть спектакль. А имеем ли мы право отнимать у тысяч людей три часа вечернего времени, три часа их жизни? Что мы им предлагаем? Какие мысли и проблемы? Современный человек необычайно требователен, он стал образованнее, культурнее, умнее, в прописных истинах он не нуждается. Чтобы дать ему максимум того, что должно давать человеку большое искусство, писателю надо много знать, проникнуть в глубины человеческой души, уметь раскрывать ее богатство. А это очень сложно. Всякий раз думаешь об этом перед чистым листом бумаги...

И это было сказано не ради красного словца. Мы заканчивали разговор о комедии и сатире в тот вечер, когда посмотрели телефильм, сценарий которого по мотивам «Павлинки» написал Андрей Егорович. Не существует в природе более ядовитых, обидных, остроумных слов, которые сказал в тот вечер Андрей Макаенок... Андрею Макаенку, казня его как сценариста.

Значит, будут еще яркие, содержательные, острые и смешные комедии.

## РАДЗІМА ЗГУРТАВАЛА

*Інтэрв'ю газеце «Голас Радзімы»*

Наша газета паведамляла ўжо, што ў Злучаныя Штаты Амерыкі на адкрыццё помніка Янку Купалу ездзілі скульптар Анатоль Анікейчык і драматург Андрэй Макаёнак. Я сустрэўся з Андрэем Ягоравічам і папрасіў яго расказаць аб сваіх уражаннях ад сустрэч з землякамі. Ён сказаў:

— Уражанняў надзвычай многа. І ўсе яны прыемныя.

— А самае большае?

— Калі там, у Араў-парку, убачыў бронзавага Янку Купалу. Уявіце сабе: першы помнік савецкаму паэту на чужой, амерыканскай зямлі. Першы помнік нашаму беларускаму паэту! Падзея незвычайная.

— Як вас прымалі землякі?

— З надзвычайнай цеплатой. Такі шчыры прыём надоўга застанецца ў памяці. Нас сустракалі як самых блізкіх, акружылі ўвагай, бясконца распытвалі пра Беларусь. І ўвага такая была не таму, што да іх прыехаў менавіта я, Макаёнак, або Анікейчык — на нас глядзелі як на землякоў, якія завіталі з Радзімы, з Савецкага Саюза, як на сваіх родных людзей. Ім прыемна было пачуць ад нас родную мову, даведацца пра жыццё Беларусі, перадаць прывітанне савецкім людзям. Тут я і зразумеў, як моцна любяць землякі сваю Бацькаўшчыну, радуюцца нашым поспехам...

— Вы першы раз сустракаліся з суайчыннікамі за мяжой?

— Другі. Першы раз адбылася сустрэча, калі ездзіў у Нью-Йорк на сесію Генеральнай Асамблеі. Але тады не давялося бліжэй пазнаёміцца з людзьмі. А цяпер вось ведаю многіх асабіста.

— Раскажыце, калі ласка, пра гэтыя знаёмствы.

— Прыемныя ўражанні засталіся ад усіх кіраўнікоў і актывістаў нашага зямляцтва. Асабліва задаволены я сустрэчамі з рэдактарам «Русского голоса» Яхантавым, супрацоўнікам гэтай газеты Муратавым, з Мінкевічам — старшынёй культурнага камітэта, з рэдактарам украінскай газеты Талопка. Усе яны ўжо немаладыя, але вельмі энергічныя, адданыя Радзіме, патрыятычнай рабоце. Асаблівую павагу выклікае Яхантаў — нягледзячы на свае дзевяноста з лішнім год, ён без стомы працуе, піша выдатныя артыкулы, удзельнічае ў розных мерапрыемствах. За гэта ён карыстаецца заслужанай пашанай у нашых землякоў і ў многіх іншых амерыканцаў.

— Прыемна чуць вашу высокую ацэнку кіраўнікоў прагрэсіўнай рускай грамадскасці. Раскажыце, Андрэй Ягоравіч, аб сустрэчах з беларусамі.

— З беларусамі... Ведаеце, што я прыкмеціў: таксама як у нас, так і там, у Штатах, беларусы не аддзяляюцца ад рускіх і ўкраінцаў, а жывуць з імі, як браты. Калі зямляк гаворыць пра Радзіму, то ён мае на ўвазе не толькі Беларусь, Расію ці Украіну, а Савецкі Саюз. Вы ведаеце, што варожая прапаганда за рубяжом сцвярджае, нібыта рускія прыгнятаюць, асімілююць беларусаў — такой хлусні там шмат. Каб так было, то і ва ўмовах эміграцыі не атрымалася б ніякай дружбы. А што мы бачым на справе? Там, у Амерыцы, рускія і беларусы — нібы

дзеці адной маці, такая між імі згуртаванасць, такое братэрства, іх жа ніхто не прымушае дружыць. Імі ж ніхто не камандуе — яны яднаюцца самі. Наогул гэта вельмі добрая, я сказаў бы, вельмі цікавая з'ява — магутнае імкненне нашых трох народаў-братоў згуртавацца ў любых умовах, нават на чужыне.

— А як вы ўбачылі праяўленне гэтай згуртаванасці падчас паездкі ў ЗША?

— На кожным кроку бачыў. Узяць хоць і Араў-парк. Яго ж купілі за грошы, сабраныя ад беларусаў, рускіх і ўкраінцаў па ўсёй Амерыцы. І ў парку паставілі помнікі Пушкіну, Шаўчэнку, Купалу. А мітынг як праходзіў? Прыехалі суайчыннікі з Нью-Йорка, Чыкага, Кліўленда, Дэтройта — з усёй краіны. Мяне вельмі кранула гэтая дружба, гэткая спайка, гэткая... як бы вам сказаць — адзіная сям'я.

І культурныя традыцыі падтрымліваюцца ў такім адзінстве. Вось скончыўся ў Араў-парку мітынг, пачаўся канцэрт. Якія песні заспявалі? Беларускую «Ручнікі», рускую «Степь да степь кругом», украінскую «Реве та стогне». А танцы? Таксама нашых трох народаў. Дарэчы, выдатна выступаў на канцэрце маладзёжны ансамбль «Юла». Яго кіраўнік Фрэд Клімовіч нарадзіўся ў Амерыцы, а мастацтва любіць і распаўсюджвае наша — рускае, беларускае, украінскае. Сядзеў я на тым канцэрце і радаваўся — песні спявалі, нібы нашы дзяўчаты і хлопцы дзе-небудзь на Магілёўшчыне.

— А вы не сустрэлі часам выхадцаў з вашых родных мясцін — з Гомельшчыны?

— Не, нікога не сустрэў. Але ж там усё зусім інакш, як у нас дома. Там калі ты з Беларусі, то і зямляк, і няважна, з Гомеля ты ці з Гродна.

Як толькі скончыўся канцэрт, мяне я Анікейчыкам землякі літаральна ўзялі ў палон — так цесна з усіх бакоў абступілі. І пасыпаліся пытанні: «А ці быў у Бярозе?» Быў, кажу. «Якая цяпер яна, Бяроза?» Потым жанчына: «Даражэнькі, перадай ты прывітанне майму ўнуку Хамянку, ён у Мінску, у міністэрстве працуе». Пытаю, у якім. «А каб жа я ведала, у якім? Ён вучоны, мой унук, ён ужо ажаніўся, і дзіцятка мае. Няўжо ты не знойдзеш у Мінску Хамянка?» А тады яшчэ адна жанчына: «Таварыш дэпутат, дапамажы мне. Грошай я трохі сабрала, а сама адзінокая, можа, і жыць мала засталося. Як бы тыя грошы на Беларусь паслаць? Хай бы там за іх прыстань

на нашай рэчцы збудавалі ці яшчэ што карыснае. Шкада будзе, калі прападуць грошы на чужыне...»

Разумееце? Чалавек увесь свой век да апошніх дзён аб Радзіме думае. І жадае дапамагчы ёй хоць бы сотняй, тысячай долараў, зароблених уласным мазалём. Слухаеш такое, і сэрца сціскаецца.

А аднаго старога я ніколі не забуду. Падыходзіць ён да Анікейчыка і падае паперку. На ёй адрас: губерня, раён, воласць, сельсавет — па-старому і па-новаму разам. Пытаем. «Што, дзядуля, вы хочаце?» А ў яго, відаць, спазмы сціснулі горла. Ён слова вымавіць не можа. «Што вы хацелі сказаць?» А ў яго слёзы з вачэй. Махнуў ён рукой і пайшоў ад нас. Успомню таго старога — мяне аж скалане. Можа, ён хацеў папрасіць нас яго роднай зямлі пакланіцца? Ці якую вестку перадаць?

— Шчыра дзякую вам, Андрэй Ягоравіч, за гутарку. Што б вы хацелі перадаць землякам у Злучаных Штатах?

— Вялікую падзяку за цёплы прыём. Падзяку за помнік Янку Купалу. І шчырае пажаданне міру, дабра, добрай і вечнай памяці аб роднай краіне.

## «НЁМАН» У 1974 ГОДЗЕ

Гаворку пра тое, з чым ідзе да чытача «Нёман» у наступным годзе, лепш за ўсё пачаць з першай, студзеньскай кніжкі часопіса. Яна адкрываецца вялікай падборкай вершаў народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. У бліжэйшых планах — новыя пераклады твораў Максіма Танка, Еўдакіі Лось, Ніла Гілевіча, нізка вершаў Анатоля Грачанікава «Надпіс на камені». Апрача таго, як звычайна, будуць друкавацца творы рускіх паэтаў рэспублікі і прызнаных майстроў верша з Расійскай Федэрацыі.

Проза ў першым нумары прадстаўлена аповесцю Пятра Мільто «На сопках Маньчжурыі». Аўтар, палкоўнік у адстаўцы, удзельнічаў у якасці начальніка корпуснай разведкі ў разгроме Квантунскай арміі.

Наогул жа, у прозе наступнага года пашанцавала вытворчай тэме. Сур'ёзнай удачай Вячаслава Шацілы мы лічым раман «Ілья Дальнікаў і іншыя». Гаворка ў рамане

ідзе пра вялікі заводскі калектыў, які аўтар ведае як нельга лепш: ён сам у свой час выпісаў сабе шматгадовую творчую камандзіроўку на Мінскі мотавелазавод — працей кажучы, пайшоў працаваць разам з героямі будучага рамана. Галоўны пафас рамана — змаганне за культуру ў шырокім сэнсе слова: гэта і культура вытворчасці, і культура быту, і — самае істотнае! — культура чалавечых узаемаадносін.

Рэдакцыі таксама прапанавалі свае першыя аповесці інжынер-будаўнік Міхаіл Круль і наладчык завода вылічальных машын Хведар Касцюковіч. Яны, натуральна пішуць пра тое, што іх жыва хвалюе, што ім блізка,— зноў жа пра жыццё і клопаты вытворчых калектываў.

Аб працы меліяратараў расказвае ў сваёй новай аповесці «Вячэра ў Лазавасе» Валеры Высоцкі. Праўда, аўтара цікавіць не столькі канфлікт, звязаны з асваеннем вялікага балотнага ўрочышча, колькі маральны аспект справы — асабістая адказнасць яго персанажаў перад роднай зямлёй, перад людзьмі, што вырошчваюць на гэтай зямлі хлеб.

Героі рамана Веніяміна Рудава «Перакуленае неба» адначасова і ўрачы-практыкі, і вучоныя-герантолагі. Спадзяёмся, што гэты вострасюжэтны, свежы па матэрыяле твор прыйдзецца даспадобы нашым чытачам.

У партфелі рэдакцыі — дзве дэтэктыўныя аповесці. Гэта «Рэйс на Брусель — згодна раскладу» Н. Цыпіса і Г. Круглова і «Смерць манекеншчыцы» румынскага пісьменніка Петрэ Селкудзяну.

Рыхтуюцца таксама да друку заключныя навелы з кнігі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Лідзіі Абухавай «Вітбічы» (да 1000-годдзя Віцебска) і працяг «Чарнігаўскіх паданняў» Лідзіі Вакулоўскай.

Будуць, вядома, у часопісе і падборкі апавяданняў як арыгінальных, так і ў перакладзе з беларускай. З больш буйных перакладных твораў можам пакуль што назваць новыя раздзелы з кнігі Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе» і аповесць Алеся Масарэнкі «На бабровых тонях».

Магчыма, ужо ў гэтым годзе пачнём друкаваць раман Эрнеста Ялугіна, прысвечаны дзейнасці савецкіх спецыялістаў у Алжыры. У ім рэдакцыю прываблівае не толькі смелае пашырэнне тэматычнага дыяпазону нашай прозы, не толькі яркі экзатычны фон, але і дакладнасць апісанняў, дакладнасць характараў самых розных людзей.

Вельмі кароткі час прабыў аўтар у гэтай арабскай краіне, а ўражанне такое, нібы ён жыў там доўгія гады.

30-годдзе вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў мы адзначым публікацыяй успамінаў начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі аб баявых справах беларускіх партызан і, у прыватнасці,— аб славутай «рэйкавай вайне».

Непасрэднае дачыненне да памятнай даты мае кніга А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я — з вогненнай вёскі...», жанр якой аўтары вызначаюць як дакументальную трагедыю. У свой час мы друкавалі раздзел з гэтае кнігі пад назвай «Памяць», цяпер — працяг.

Таксама будуць надрукаваны ў наступным годзе раздзелы з дакументальнай аповесці Сяргея Анісава «Аркаша». Так звалі ў заходнебеларускім падполлі Сяргея Восіпавіча Прытыцкага. На матэрыяле асабістых сустрэч, шматлікіх дакументаў стварае аўтар жыццяпіс гэтага выдатнага чалавека, нашага нацыянальнага героя.

І яшчэ назавём адзін твор дакументальнага жанру — «Па воўчым следзе». З першай кнігай запісак чэкіста Д. Смірнова чытачы «Нёмана» пазнаёміліся ў 1972 годзе. У другой кнізе — зноў нявыдуманыя расказы пра тое, як органы дзяржаўнай бяспекі вядуць пошук і абясшкоджанне ваенных злачынцаў, шпіёнаў, здраднікаў, былых фашысцкіх паслугачоў.

Як і раней, «Нёман» у сваіх планах надае шмат увагі нарысу і публіцыстыцы: мы ставім сабе мэтаю трымаць чытача ў курсе ўсіх найважнейшых народнагаспадарчых праблем чацвёртага года пяцігодкі. Каб наблізіцца да канкрэтных умоў жыцця заводаў і фабрык, будоўляў і сяла, быў скліканы «круглы стол» вядучых публіцыстаў часопіса. Іх выступленні адкрываюць публіцыстыку першага нумара.

І яшчэ адзін «круглы стол» — нібы ўрачысты акт: «Нёман» бярэ шэфства над прафесійна-тэхнічнымі вучылішчамі. Гэтая незвычайная нарада праводзілася рэдакцыяй разам з ЦК камсамола рэспублікі, Дзяржкамітэтам па прафтэхадукацыі, прадстаўнікамі прадпрыемстваў і вучылішчаў. Рэдакцыя мае намер павесці сур'ёзную і грунтоўную размову аб падрыхтоўцы маладых рабочых.

У планах аддзела крытыкі і бібліяграфіі асаблівае месца займае жанр творчага партрэта. Маючы на ўвазе, што значная частка 70-тысячнага тыражу «Нёмана» ідзе за

межы Беларусі, мы вырашылі больш сістэматычна знаёміць чытачоў братніх рэспублік з творчасцю беларускіх празаікаў і паэтаў. Пачнём з творчага партрэта Міхася Лынькова, а там пойдуць Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Мікола Лобан, Кастусь Кірэенка, Аляксей Пысін... Вядома, застанецца пры ўсіх сваіх правах і даўнейшая рубрыка «Кніжны агляд».

Захаваюцца таксама публіцыстычныя і інфармацыйныя рубрыкі: «З табою побач», «Па дарогах планеты», «Чалавек і прырода», «Учора, сёння, заўтра».

## «ГАЛОЎНАЕ — ПРАЦАВАЦЬ!»

*Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»*

— Ад імя рэдакцыі газеты і яе шматтысячных чытачоў дазвольце павіншаваць вас, Андрэй Ягоравіч, з наступіўшым Новым годам і пажадаць творчых поспехаў, шчасця, моцнага здароўя.

— Шчырае дзякуй!

— Сёлета навагодняе свята было для вас асаблівым — напярэдадні апублікавана Пастанова ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў БССР аб прысуджэнні вам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа за камедыі «Трыбунал» і «Таблетку пад язык». Як вы ўспрынялі гэтую навіну?

— Успрыняў спакойна. З удзячнасцю. У высокай ацэнцы сваіх твораў бачу абавязак калі не лепш пісаць, як пісаў да гэтага, дык хоць бы не горш. Галоўнае ж — пісаць, працаваць!

— Што да працавітасці, дык яна ў вас зайздросная. І асабліва ў апошні час. Дарэчы, колькі тэатраў краіны паставілі спектаклі па вашых п'есах?

— Калі гаварыць і пра ранейшыя пастаноўкі, дык дакладнай лічбы назваць не магу. Ведаю толькі, што зараз мае п'есы ідуць больш чым у ста пяцідзесяці тэатрах краіны. Ідуць яны і за рубяжом — у Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі...

— Драматургіі належыць вельмі важная роля ў сцэнічным мастацтве. Вядома, што старажытны тэатр ці аматары народных прадстаўленняў не маглі абысціся без п'есы ці сцэнарыя.

— Даруйце, гэтую думку трэба ўдакладніць. Першаасновай і тэатра, і драматургіі з'яўляецца жыццё. Яно падказвае тэмы і сродкі выпрашэння іх. Увогуле ж законы драматургіі застаюцца нязменнымі, але кожная эпоха мае свае адметныя асаблівасці. Пра гэта сведчыць вопыт шматлікіх мастакоў, у каго я вучыўся і вучуся.

— Цікава, а ў каго вы вучыліся?

— Спіс можна скласці вельмі вялікі: Шэкспір, Сервантэс, Гогаль, Катлярэўскі, Астроўскі, Кандрат Крапіва... Як трэба пісаць, мы вучымся ў класікаў, але не толькі. У людзей, якія пішуць дрэнна, можна вучыцца, як не трэба пісаць. Паўтараю, што самым выдатным настаўнікам для кожнага пісьменніка з'яўляецца само жыццё.

— Крытыкі па-рознаму трактуюць вашу творчасць. Адны называюць вас чалавекам, які адрадзіў і першым перанёс у беларускую літаратуру новы від драматургіі — трагікамедыю. Другія, аналізуючы «Трыбунал», наватарствам адзначаюць тое, што тут у адно арганічна цэласнае сплаўлена трагічнае, камедыйнае і гераічнае. Некаторыя нават сцвярджаюць, нібыта вашым любімым героем з'яўляецца характар не столькі камедыйны, колькі гераічны.

— Я адказваю за жыццёвую праўду твора. А як называць гэта крытыкі — іх справа. Гледачам аднолькава спадабаўся і Цярэшка Калабок і Дзед Цыбулька, хаця братамі іх не назавеш. Адно магу сказаць, што прататыпамі маіх герояў з'яўляюцца нашы сучаснікі, людзі, якіх я добра ведаю, з якімі часта сустракаюся.

— Сёлета лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі рэспублікі сталі два драматургі — вы і Кандрат Крапіва. Як вы ацэньваеце гэты факт?

— Станоўча. Ацэньваю, як добрыя адносіны да тэатра з боку нашага народа.

— І самае традыцыйнае пытанне: над чым працуеце зараз, Андрэй Ягоравіч?

— У бліжэйшы час прынясу ў тэатр новую п'есу. Аб чым яна? Гэта антымілітарысцкая п'еса, на сучасным матэрыяле. Галоўны персанаж — калгаснік.

# МАСТАК І ЧАС

*Інтэрв'ю газеце «Магілёўская праўда»*

«Што ж значыць інтэнсіфікацыя? Гэта на тых жа палях трэба вырасціць больш, на тых жа станках зрабіць больш. Трэба. І можна! І калі гэта не робіцца, то значыць, дзесьці мы недапрацоўваем, штосьці не так выкарыстоўваем, не так будуем працоўныя ўзаемаадносіны».

Каму належаць гэтыя словы: партыйнаму работніку, гаспадарніку, лектару-прапагандысту?

Мастаку. Андрэю Макаёнку. Ён — вядучы беларускі драматург, чые п'есы ідуць сёння на сцэнах ста сямідзесяці тэатраў СССР, а таксама і за мяжой — у Балгарыі, Чэхаславакіі і Польшчы. Яго камедыі «Таблетку пад язык» і «Трыбунал» удастоены Дзяржаўнай літаратурнай прэміі БССР імя Якуба Коласа за 1974 год.

«Недапрацоўваем, штосьці не так выкарыстоўваем»,— так ён сказаў і аб сабе, і аб сваіх калегах па мастацтве на адным з пісьменніцкіх пленумаў, дзе вялася размова аб ролі і месцы літаратара ў ажыццяўленні народных планаў. А не так даўно, расказваючы аб сваёй паездцы ў Іспанію і ўспомніўшы Дон Кіхота, Макаёнак ледзь-ледзь яго перафразіраваў: «Па шарсцінцы ж песні пазнаецца аўчынка намераў, бо вусны глаголяць ад паўнаты сэрца».

Усё, што ён робіць і гаворыць, заўсёды ад паўнаты душы. Без заданасці. Можа ж, таму так цяжка браць у Макаёнка інтэрв'ю на «зададзеную» тэму? І ўсё-такі...

Пытанне было сфармулявана: аб ролі пісьменніка ў сацыялістычным грамадстве.

Адказ паследаваў не адразу.

— Аб гэтым можна многа і прыгожа гаварыць. Прыўзнята. Усхвалявана. Аб ідэалах літаратара, сугучных ідэалам твайго народа. За што ён змагаецца. Што абараняе. Але ж адно — гаварыць з трыбуны, і зусім іншае — седзячы сам-насам, гутарыць, як мы цяпер, удвух. Тут трэба больш проста. Памятаеш, ёсць у Леніна такі папрок: у нас мала ўвагі да будзённага,— запомні, што слова «будзённае» падкрэслена,— да таго будзённага боку ўнутрыфабрычнага, унутрывясковага, унутрыпалкавога жыцця, дзе больш за ўсё будуецца новае, дзе трэба больш за ўсё ўвагі, абвяшчэння, грамадскай крытыкі, цкавання непрыгоднага заклiку вучыцца ў добрага. Як проста і па-чалавечы ўсё сказана, па-дзелавому: увага, абвяшчэнне. Нібы

пажаданне табе на дарогу, падказвае, як аднадумцу і саратніку, калегу. Ён жа на пытанне анкеты аб прафесіі піcaў, што — публіцыст. І галоўную задачу прэсы — у час пераходу ад капіталізму да камунізму бачыў у выхаванні мас на жывых, канкрэтных узорах з усіх галін жыцця. Перачытай яго артыкул «Аб характары нашых газет»...

— Але ж мастацтва і літаратура, у адрозненне ад прэсы, маюць і сваю спецыфіку, і значыць, іх роля і прызначэнне, напэўна, некалькі іншыя?

— Не бачу ў гэтым розніцы. Яна — толькі ў спосабе і сродках выражэння. Што ж такое «жывы, канкрэтны ўзор з жыцця»? Проста выпадак? Не! Проста выпадак і ў газеты не гадзіцца,— ці што для інфармацыі, і то — калі факт «самагаворачы». А ў нас бывае іншы раз у спектаклях: бачым выпадкі, якія і дакладныя, і праўдзівыя, але не выклікаюць роздумаў і не ўзбудараждваюць пачуцця.

— Значыць?..

— Значыць, трэба ўходзіць ад выпадку да з'явы. Браць сутнасць выпадку, і гэта — неадкладнейшы закон як у журналістыцы, так і ў літаратуры. Усялякі ж выпадак — як арэх: ён або з зярняткам, або ж з чарвячком. Бываюць, праўда, і пустапарожнія, але ж яшчэ Шэкспір калісьці гаварыў: «З нічога не выйдзе нічога».

— Зноў-такі — інтэнсіфікацыя?

— Вядома! Задума. Сюжэт. Характар. Думка! Інакш атрымліваецца як не вайна, а нібы манеўры: бразгаюць, страляюць, а ворагаў тут няма і нікога не забіваюць.

— Значыць, мастацтву патрэбны варожыя бакі і сілы? Патрэбен вораг?

— А як жа!

— І хто ж ён?

Андрэй Ягоравіч смяецца:

— Пашукаўшы, знойдзеш.

І мы ўспомнілі адну гутарку з нашым госцем з Украіны, перакладчыкам «Трыбунала». Гаварылі аб сатыры і аб навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, аб вострай гнеўнай крытыцы, якой пастаянна падвяргаюцца на нашых пленумах і з'ездах праяўленні інертнасці ў рабоце, безгаспадарчасць, руціна, раўнадушнасць. Потым узнікла паўза. Яе парушыла чыёсьці, звернутае, можа, да ўсіх, а можа, да самога сябе пытанне:

— Дык як жа будзем будаваць камунізм?

І адразу ж наследаваў адказ:

— Без дурняў!

Усе рассмяяліся. І Андрэй Ягоравіч, яшчэ не насмяяўшыся ўдосталь, з ходу ўзяў сур'ёзны тон:

— На гэту тэму вельмі трапна выказаўся наш Кандрат Кандратавіч Крапіва: «Я не такі вялікі аптыміст наконт дурняў: перавядуцца яны калі-небудзь. Па-першае, матуля-прырода не будзе такой ураджайнай на дурняў, калі не будзе па іх попыту. Па-другое, дурань не столькі прыродная з'ява, колькі сацыяльная: кожны «дурань», калі яго паставіць на сваё месца, перастае быць «дурнем». І далей: «Дурань, узяты сам па сабе, як з'ява прыроды, не смешны, як не можа быць смешным дрэва або камень. Дурань бывае смешным толькі ў сувязі з яго сацыяльнай функцыяй». І ведаеце, якую вобразную аналогію прывёў Кандрат Кандратавіч,— на тое ён і сатырык: «Аглоблі, напрыклад, калі ў іх запрэжаны конь, не выклікаюць у нас ніякіх асаблівых эмоцый, але аглобля ў руках крытыка дае ўжо значны эмацыянальны эфект».

— Ну, а калі аглобля — у руках сатырыка?

— Непрыгодная зброя. Тупая. Прымітыўная і нязграбная,— з такім замахам можна ахнуць і па сваіх.

А. Макаёнак успамінае, як аднойчы, за мяжой, у ЗША, яго запыталі: «Ваша прапаганда многа піша аб якімсьці новым тыпе чалавека, выхаванага вашым грамадствам. Ці не міф гэта? Вось вы цяпер сядзіце сярод нас, і ў чым жа паміж намі розніца?»

Адказаў ён пытаннем на пытанне:

— Што вы сказалі б пра чалавека, які дзесьці штосьці танна купіў, потым перапрадаў даражэй?

Паследаваў адказ:

— Удалы бізнес.

— Ён бы дзейнічаў адкрыта?

— Так.

— Вы б адобрылі яго?

— О так, вядома.

— І ў газетах надрукавалі б?

— Так, магчыма.

— А ў нас яго судзілі б. За спекуляцыю. І гандляваць яму давялося б з-пад палы, тайком. А ўжо пахваляцца гэтым «бізнесам» ён нізашто не пачаў бы, таму што ў нашых людзях выхавана пагарда да непрацоўных даходаў. Гэта — сорамна. Вось вам самая элементарная розніца. Не міф, а чалавек — выканаўца, стваральнік. Ён і ёсць герой нашай савецкай літаратуры, нашай прапаганды,—

той, хто не перакупіць, не перапрадасць — ні чыюсьці працу, ні сваю Радзіму, ні свой народ.

Я пытаю, ці не з гэтай заакіянскай сустрэчы вырысаваўся ў сатырычнай камедыі «Зацюканы апостал» вобраз бізнесмена-Дзеда, зарабіўшага на паняццях Свабоды і Справядлівасці немалы капітал.

— Не ведаю. Можа... Не так ужо гэта важна, з якога выпадку канкрэтна.

— А ці верылі там, што вы — сатырык?

— А чаму б ім не верыць? — зноў рассмяяўся Макаёнак.— Ведаюць жа яны, што самымі непераўзыдзенымі ва ўсёй гісторыі·сатырыкамі былі... хто, ты думаеш? Вядома ж, бальшавікі. Сатыра гэта што? Умець бачыць беспарадак! І выставіць яго на від! А хто ўбачыў класавы беспарадак ва ўсёй матулі-Расіі? Хто ўхіліў? Паспрабуй, пасля гэтага, скажы, што бальшавік — не сатырык.

— Ну добра. А аб так называемых «забароненых тэмах» — было?

— Было.

— Ну і як?

— Што — як?

— Ёсць яны, забароненыя?

— Бываюць.

— Напрыклад?

— Напрыклад, вось я — сатырык, і калісьці, ужо даўно, сутыкнуўся менавіта з такой, забароненай тэмай. Хацелася напісаць мне аб вайне. Не змог не напісаць. А прыступіць баяўся. Доўга думаў. У Беларусі загінуў кожны чацвёрты. Было чатырыста восемдзесят тысяч партызан. Сам ваяваў на фронце, многае чуў ад людзей, якія былі ў акупацыі. Бацьку фашысты даканалі. Наогул, сумленна кажучы, баяўся падступіцца, не хапала смеласці пісаць... камедыю, а «некамедый» — не ўмею.

— І як жа паявіўся «Трыбунал»?

— Вось тут ужо — проста выпадак. Не памятаю, ці то ў Рэчыцы, ці то хтосьці з Чачэрска расказаў мне, як сям'я ледзь не задушыла дзядзьку, назначанага старастам па заданні партызан. Аднойчы вырашыў хоць запісаць на памяць гэту сцэну. Сеў запісваць, спрабуючы ўявіць усё ў дробязях, дэталях (як прыйшоў ён у дом, як паведамляе, як спрабуе ўтаіць ад сям'і, якую ён вельмі любіць, як яны рэагаваць будуць, і калі ў іх розныя характары — як паразнаму будуць успрымаць)... Сеў у сем вечара, прасядзеў да сямі раніцы. Добра думалася, добра пісалася, словы

знаходзіліся. Праспаў гадзіны тры, і зноў. І так — тры дні, больш дакладна, трое сутак, і начарна камедыя была гатова.

— Значыць, няхай жыве аўтазабарона на тэму?

— Так. Пісьменніцкая забарона сабе. Пакуль не вынасіў. Іншых забарон ведаць не ведаю і не прызнаю. Іншая справа — усялякія тармазы: рэдактарскія, ведамасныя. Але тут ужо размова аб стойкасці і мужнасці пісьменніка... І — аб яго ўпэўненасці ў тым, што ўзнятая ім праблема важная для грамадства. А што датычыцца сатыры, то я ўжо неаднаразова гаварыў і гаварыць не перастану: сёння ў нас, сатырыках, прама-такі эканамічная, гаспадарчая неабходнасць. Мы патрэбны, як патрэбна новая тэхніка, як новыя адкрыцці вучоных, як маральны дзяржкантроль. І мастацтва наша, звернутае да чалавека, якое ўздзейнічае на чалавека і на вывучэнні яго заснаванае, можа і павінна ўваходзіць у сённяшні наш дзень як дзейсная сіла.

## НАШИ ЗАБОТЫ

Сегодня главная проблема современности — это проблема предотвращения войны. Главная потому, что если не удастся ее решить, то все остальные просто перестанут существовать — вместе с человечеством, их породившим. Поэтому трудно переоценить значение миролюбивой политики, проводимой нашей партией.

Не может не волновать та сложнейшая ситуация, в которую попало сейчас человечество. Никогда еще, за всю его историю, не было столько непроизводительных затрат, и материальных и интеллектуальных, как сегодня. В капиталистических странах 11 процентов рабочих заняты в военной промышленности. Ведь это страшно подумать — одиннадцать человек из каждых ста работает на войну, для того, чтобы вновь и с еще большей, намного большей силой, чем тридцать пять лет назад, разразилась катастрофа.

Особая ответственность за то, чтобы не повторились ужасы минувшего, ложится на искусство, как на силу

идеологическую, обращенную непосредственно к эмоциям, способную овладеть умами и сердцами людей. И прежде всего на нас, на старшее поколение, прошедшее войну, на людей, способных воспринять страдания других как собственные, как боль от гибели своих друзей и близких, от осколков, застрявших в теле с той поры.

В результате многолетних раздумий об этом родилась пьеса. Ее герой — простой пастух с какой-то особой, крестьянской, я бы сказал, святой ясностью и простотой мышления. Диапазон его забот — вся планета, такая маленькая, по словам космонавтов, взглянувших на нее со стороны, и такая большая для тех, кто на ней пашет, кто растит на ней хлеб. Пастух, человек самой мирной на свете профессии, размышляет о проблеме, столь же древней, как и сам мир,— о проблеме войны...

Разумеется, наивно рассчитывать, что одна пьеса может что-то изменить. За все время существования человечества было создано необозримое множество произведений искусства — и гениальных и похуже. И ни одно из них сей мир еще не переделало. Однако все искусство в целом может — и должно, обязано! — способствовать воцарению в нем соответствующей атмосферы дружбы и взаимопонимания, при которой даже мысль о возможности войны будет казаться дикой. Особенно важна такая атмосфера сейчас, когда народы мира садятся, наконец, за круглый стол, чтобы договориться не только о безопасности, но и о сотрудничестве — как это произошло не так давно в Хельсинки.

Сегодня, в канун XXV съезда, особенно необходимо оглянуться на истекшие пять лет, посмотреть, чем жила наша страна эти годы, годы великих перемен, когда наша промышленность, сельское хозяйство поднялись на качественно новую ступень развития. Перемены, естественно, затрагивают и сознание людей. А это требует от искусства, от театра поисков совершенно нового образа положительного героя — нашего современника.

Меня, как драматурга, особенно интересует жизнь сегодняшней советской деревни, проблемы, ее волнующие. В частности — проблема миграции сельской молодежи в город. На мой взгляд, это вопрос не только экономический, но и нравственный. До последнего времени его, к сожалению, либо стыдливо обходили, либо рассматривали с точки зрения безоговорочного осуждения уходящей в город молодежи.

Сейчас в нашем сельском хозяйстве происходит процесс, пожалуй, не менее важный, чем, скажем, коллективизация 30-х годов, хотя внешне протекающий не столь остро, без выстрелов из кулацких обрезов — напротив, встреченный всеобщим энтузиазмом. Имеется в виду индустриализация, интенсификация сельского хозяйства, широкое оснащение села современной техникой, резкое повышение производительности труда, создание комплексных производственных объединений, специализация — словом, то, что называется научно-технической революцией.

Маленькие, из нескольких дворов состоящие деревеньки изживают себя во всех смыслах — и в производственном и в бытовом. Сегодня они — анахронизм. И их становится все меньше, а скоро не будет совсем. И молодежь уходит из них не обязательно в большие деревни, но и в город. Во вполне обозримом будущем в колхозах предвидятся (а где-то есть уже и сейчас) и центры бытового обслуживания, и восьмичасовой рабочий день, и летние отпуска, и прочие социальные и культурные блага. Но и лишь хорошими бытовыми условиями нынешнюю молодежь не удержишь. Мало ей этого. Совсем небезразлично молодому человеку, где и чем заниматься — на современном мощном предприятии или в примитивной мастерской. А разве не имеет значения так называемый «фон» — проспекты, бульвары, кафе? А досуг — театры, библиотеки, Дворцы культуры? А жажда общения, знакомства, дружбы со своими сверстниками — ведь в городе их гораздо больше?..

И тем не менее трудности с рабочей силой на селе сейчас ощущаются главным образом там, где руководители живут вчерашним днем, недооценивают значение и возможности НТР. Хозяйства, ориентированные на завтрашний день, на технический и культурный прогресс, позволяют той же молодежи значительно шире использовать свои силы и возможности, утвердить себя, получить специальность, сформировать творческую личность. Если же колхоз не в состоянии обеспечить обозримые перспективы своим людям, то нет ничего противоестественного в том, что кто-то захочет сменить место работы.

А с этической точки зрения — не очень-то красиво мешать молодым людям устраивать свою судьбу. Представьте себе, что Ломоносова в свое время задержали бы в Холмогорах либо Достоевского у нас, в Полесье. Сколько бы потеряли от этого русская наука и литература! А Есенин?

А Твардовский? Да мало ли кто еще?.. Наша социалистическая система и предполагает и нуждается в свободном, гармоническом развитии каждой личности.

Казалось бы, все эти вопросы — индустриализация сельского хозяйства, миграция населения — не так уж впрямую касаются искусства, непосредственно театра. Но это именно те компоненты, которые составляют сегодня жизнь нашего общества, влияют на развитие характеров людей, из которых это общество состоит. А что же является главнейшей задачей искусства, как не показ современного человека, его жизни, вопросов и проблем, его волнующих?

В последние годы интерес к процессам, происходящим в нашей промышленности, способствовал возрождению так называемых «производственных» пьес. Герои этих пьес — Чешков, Лагутин и другие — при всей спорности, некоторой обедненности, схематизме их характеров все же могут считаться хотя бы заявкой на поиск театром образа современного человека, недаром они пользуются такой популярностью. Однако подобные же процессы, происходящие и в сельском хозяйстве, гораздо слабее отражаются в современной драматургии. Еще не появился такой мощный образ, как, например, Трубников из нагибинского «Председателя». Да, это была крупная личность, но нельзя забывать, что сложился этот герой в другое время, в совершенно других условиях. Следовательно, сегодня требуются иные Трубниковы. Ведь хорошо известно, что бытие определяет сознание. Те же Трубников, Чапаев, Маресьев, Мелехов — какие они разные! Но все они — герои своего времени.

Отсутствие значительных пьес о современной деревне нельзя объяснить только пассивностью наших драматургов. Вспомним слова В. И. Ленина о том, что тот, кто хочет отразить явление в его развитии, неизбежно должен либо забежать вперед, либо отстать. Середины нет. Кстати, большинство книг, скажем, о той же коллективизации, написанных непосредственно в 30-е годы, достаточно прочно забыты. Значительные произведения об этом периоде жизни страны создавались позже. Думается, то же самое происходит и сейчас. Однако все это не значит, конечно, что нужно сидеть сложа руки. Наоборот, именно здесь перед работниками искусств, современниками великих событий, стоят особенно сложные задачи, и разрешить их — наша прямая обязанность.

Надо заметить, что еще нередко драматурги увлекаются темами второстепенными, мелкими. Однако театр в целом за последнее время весьма разнообразил свои поиски, щедро пополнил арсенал выразительных средств. Положим, шаблоны, штампы были, есть и, к сожалению, всегда будут, и не всяким поискам нового сопутствует успех. Но отрадно уже само существование таких поисков, свидетельствующих о том, что древнее искусство театра и сегодня живо и действенно.

Очень вырос сейчас уровень актерского мастерства. К сожалению, с режиссурой дело обстоит сложнее. Есть, конечно, большие мастера, чьи работы составляют славу советского театра. Но слишком велик разрыв, слишком значительны перепады уровней работы этих мастеров и так называемых «средних» режиссеров. Это все равно как если бы один спринтер бежал стометровку за 10 секунд, а другой — за полтора часа. Видимо, надо в корне менять всю систему подготовки молодых режиссеров. А пока и в режиссерском цехе стоит, видимо, смелее обращаться к доброму почину наставничества. Данная проблема требует особой заботы, ибо положение с режиссурой является, на мой взгляд, главным тормозом в развитии театра, а следовательно и в духовном его воздействии на зрителя — того самого зрителя, для которого театр и существует.

А зритель этот вырос неизмеримо. Несмотря на развитие радио, телевидения, кино, интерес его к театру огромен. И не только в Москве, но и на периферии. Всеобщий интерес к нашему искусству открывает перед театром широкие перспективы для решения самых разнообразных художественных задач.

## МАНАЛОГ ПРА КРАПІВУ

Нялёгкая справа сказаць новае, цікавае слова пра такога вядомага юбіляра, як Кандрат Кандратавіч Крапіва, ды яшчэ перад такой дасведчанай і адукаванай аўдыторыяй, дзе ўсім і ўсё пра яго вядома: дзе і калі ён нарадзіўся, дзе і ў каго вучыўся, з кім і за што змагаўся, ад каго адбіваўся, дзе і што робіць, што напісаў і нават што напіша, што сказаў ён і што пра яго сказалі — усё вядома.

Яшчэ са школьнай парты кожны з нас ведае і помніць Кандрата Крапіву, бо за яго творы хто пяцёрку хапаў, хто чацвёрку, а каторы мо і другагоднікам пасядзеў.

Яшчэ дзяды нашы ведалі і любілі Крапіву, і часта падахвочвалі нас, падшыванцаў, каб мы «вычыталі з газеты байку ці вершык з падкавыркай Крапівы». Бацькі нашы часта карысталіся крапівінскай «усушкай ды ўтрускай» і другімі трапнымі і калючымі выразамі і не толькі на сходах, але і ў быце. Нашы дзеці з любоўю вывучаюць Крапіву, унукі і праўнукі будуць доўга любіць і шанаваць яго.

Вось і мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, рабочых і калгаснікаў разам з кіраўнікамі рэспублікі прыйшлі сюды на сустрэчу з Кандратам Кандратавічам, каб разам і адзінадушна выказаць яму асабіста сваю шчырую любоў і глыбокую павагу, тым больш што і прычына ёсць — сёння яму споўнілася роўна восемдзесят гадоў і пятнаццаць дзён.

Жартаўнік-дзед. Перавыканаў свой першы васьмідзесяцігадовы юбілей.

Чым жа гэты чалавек, наш дзед Кандрат, заслужыў усеагульную сімпатыю і павагу самых розных людзей: маладых і лысых, вучоных і акцёраў, рабочых і пісьменнікаў, калгаснікаў і настаўнікаў, як кажуць — фізікаў і лірыкаў? Такая шырокая папулярнасць, цікавасць і добрыя пачуцці да Кандрата Кандратавіча тлумачацца тым, што ён сам — чалавек незвычайнага таленту, фігура шматгранная, ён у розных галінах нашай нацыянальнай культуры зрабіў вялікі і важкі ўклад.

У драматургіі ён — патрыярх. Авалодаўшы самым складаным жанрам літаратуры, ён працерабіў і пратаптаў сцежку нам, маладзейшым, на саюзную сцэну. З яго лёгкай рукі беларуская камедыя ў пашане ўсюды.

У мовазнаўстве — неаспрэчны аўтарытэт, першая скрыпка. У байках — ён і Эзопа можа за бараду патрымаць. У прозе ён цудоўны мастак-майстар. Яго кароткія апавяданні і раман «Мядзведзічы» карысная духоўная пажыва для чытача. Часам і пісьменнікі пасуцца там.

У тэорыі літаратуры, асабліва тэорыі драмы, сатыры ён настолькі грунтоўны і бездакорны, глыбокі і праніклівы, што яго выказванні сарака- ці трыццацігадовай даўнасці гучаць вельмі свежа.

Акрамя літаратуры Кандрат Крапіва вядзе вялікую работу на пасадзе віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР і як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

І галоўнае — чым бы ён ні займаўся, куды б ён ні прыклаў сваю «длань» — усюды адчуваецца хватка чалавека з актыўным зарадам, хватка камуніста, настойлівага, напорыстага, неспакойнага, нераўнадушнага, прынцыповага, ваяўнічага і часам суровага.

Кандрат Кандратавіч! Вы мусіце ўсё гэта слухаць пра сябе, а я мушу гаварыць. І нічога не зробіш, бо калі не ўспомню які-небудзь Ваш уклад, то Вы, можа, і змоўчыце. Але ж у зале сядзяць знатакі: мовазнаўцы, літаратуразнаўцы, гісторыкі, акадэмікі, тэатраведы, яны пільныя і раўнівыя, не даруюць мне прамашкі, асабліва кандыдаты і дактары. Яны вымуць душу без пары і скажуць, што так і было. І да таго ж ва ўсім, што я пералічыў, вы самі вінаваты — неслі цяжар абавязкаў, нясіце цяпер і цяжар славы. Юбілей ёсць юбілей. Крышачку пачакайце, я потым і пра другіх што-небудзь скажу.

Сённяшні юбіляр — шматгранны, так сказаць, творчы многастаночнік. Крапіва пачынаўся ўсё-такі з сатырыка. І пачатак яго ў рэвалюцыі. Тады ён зарадзіўся. Вялікі Кастрычнік, бальшавікі разбудзілі творчыя сілы народа і паклікалі, павялі ў новыя далі, у новае жыццё.

Да рабочых і сялян, якія прагналі цара і эксплуататараў і самі сталі поўнымі гаспадарамі сваёй краіны, прыйшло і адпаведнае светаадчуванне — гаспадарскае. Адчуванне ўласнай годнасці і ўласнай адказнасці за ўладу, за рэвалюцыю, за будучыню сваю і сваіх дзяцей, за гаспадарку і культуру, за навуку, за шчасце і здароўе грамадзян.

Гэтае светаадчуванне захапіла і маладога сельскага інтэлігента, учарашняга мужыка, Кандрата Атраховіча, і ён рынуўся ў бурлівае жыццё, у рэвалюцыю, у грамадзянскую вайну, а потым і ў канкрэтную работу па аднаўленні і развіцці гаспадаркі і культуры. Клопаты яго былі надзённыя, канкрэтныя: будуйце лазні! — заклікаў ён адных. «Ты не лайся, дзядзя, пры савецкай уладзе!» — ківаў пальцам другому, разам з Цітам заводзіў новы быт. Ён з сялянскай грунтоўнасцю ладзіў парадак у сваім доме, пільным вокам аглядаў будыніну і па-гаспадарску выяўляў — ці не цячэ страха, ці не падвявае з падполля, ці не цягне скразняк праз шчыліны ў акне або ў падаконні.

У гэтым і быў глыбокі сэнс яго сатырычных вершаў, фельетонаў, баек і апавяданняў.

Такі гаспадарскі, дамашні падыход да жыцця свайго народа, сваёй рэспублікі характэрны для ўсяе творчасці Крапівы, і найбольш выявіўся гэты пафас у яго самых

вострых сатырычных п'есах і байках, як боль, як глыбокая зацікаўленасць, гарачае жаданне палепшыць, паправіць хібы жыцця.

Каціліся гады — бурлівыя і кіпучыя. Наспявалі вялікія перамены. Партыя пачынала рэканструкцыю і намячала грандыёзныя пераўтварэнні, якія трэба было асэнсаваць.

Аднаго светаадчування было мала — мерка не тая. Неабходна было новае светаразуменне. І Крапіва пайшоў вучыцца.

Марксісцка-ленінская філасофія і палітычная эканомія, па яго ўласным прызнанні, раскрыла перад ім новыя гарызонты, узняла яго на новую вышыню разумення ўсяго значэння паслякастрычніцкіх падзей. Авалодаўшы гэтымі навукамі, Крапіва як бы падвёў моцны падмурак пад сваё веданне жыцця, чалавечых характараў і людскіх узаемаадносін. Ён развіў здольнасць да шырокага абагульнення фактаў і з'яў, да глыбокага разумення падзей, да яснага ўсведамлення задач і перспектыў.

На аснове ўсяго гэтага ў Крапівы выкрышталізаваўся пэўны ідэал чалавека, ідэал чалавечых адносін, камуністычная канцэпцыя такіх маральных катэгорый, як справядлівасць, гуманнасць, сэнс жыцця.

Вялікая папулярнасць твораў Крапівы, поспех яго баек і асабліва п'ес тлумачыцца тым, што яго ідэалы суладны з ідэаламі народа.

Еднасць ідэалаў творцы з ідэаламі народа — галоўная святая запаведзь пісьменніка, аснова асноў творчага поспеху. Народ і яго ідэалы, партыя і яе ідэалы — вось правільны і надзейны арыенцір у творчасці. Адзінка становіцца амаль нулём, калі за ёй не стаяць нулі.

Кандрат Крапіва заўсёды чуйны да народа. Таму ён і народны. Па праву. Па закону. Па ўказу. Наш урад зафіксіраваў факт гэтай ідэйнай еднасці.

Народу патрэбны ўсе жанры: оды і маршы, песні і эпапеі, пяшчотная лірыка і грамадзянская публіцыстыка. Уславіць, «воспеть», узрадавацца, падзякаваць добрым словам, выказаць захапленне, зачараванне, узняцца на вышыню мар — зусім натуральная патрэба сённяшняга творцы, якая вынікае з тых дароў жыцця, маральнага хараства нашага чалавека і незлічоных россыпаў яго добрых учынкаў і подзвігаў.

Аднак гэтак жа натуральна бывае прыходзіць патрэба абурыцца, калі сустракаешся з фактам або з'явай, якая

Андрэй Макаёнак у ГПТВ-127 горада Барысава.
1976 год.



пярэчыць тым ідэалам, аб якіх я толькі што гаварыў.

І калі аўтар-сатырык высачыў у жыцці шкодную з'яву, факт ці тыповы характар, сустрэўся, напрыклад, з яркай праявай эгаізму, а эгаізм — самая каварная маральная хвароба, ад яе пачынаюцца ўсе разнавіднасці зла — і сатырык выводзіць на сцэну бацыланасіцеля гэтай хваробы, выкрывае негатыўную сутнасць з'явы ці характару, выклікае ў гледача ці чытача пачуццё абурэння ды яшчэ карае гэта негатыўнае дружным калектыўным смехам, то гэтым самым аўтар-сатырык робіць вялікую стваральную справу — ён стварае пэўную маральную атмасферу ў нашым грамадстве, атмасферу, дзе няўтульна чуюць сябе двухногія бактэрыі, дзе вальней дыхаецца добрым людзям, атмасферу нецярпімасці да адмоўнага ў чалавечай натуры, атмасферу справядлівасці. атмасферу волі і праўды, у якой фарміруецца асоба, «личность», фарміруецца савецкі чалавек — працаўнік, чулы, спагадлівы, добры, шчыры, удзячны, смелы, праўдзівы, чысты, сардэчны, патрыёт-інтэрнацыяналіст, разумны, прыгожы, абаяльны — новы тып чалавека-калектывіста. Калектывізм — здаровая, перспектыўная процілегласць эгаізму.

Стварэнне маральнай атмасферы для развіцця гарманічнай асобы камуністычнага грамадства — пачэсная, адказная задача літаратуры, мастацтва і ў прыватнасці сатыры.

І каб хто мог узважыць, змерыць, падлічыць, што зрабіў у гэтым сэнсе Крапіва! Колькі тысяч вечароў ярка, вобразна, весела прапаведаваў ён свае ідэалы, сімпатыі і антыпатыі ў такіх вось тэатральных залах, у кіно, на ўроках, на лекцыях, на экзаменах, якія масы — стотысячныя, мільённыя непасрэдна слухалі яго мудрасць, адчулі на сабе яго фарміруючую руку. Колькі артыстаў удзячны яму за яркія ролі! Колькі кандыдатаў і дактароў вырасла на яго творчай ніве! Кожны з нас гатоў усклікнуць:

— Ды ён жа проста герой! Сапраўдны герой!

І сапраўды — колькі гарлахвацкіх ён зваліў, паклаў на лапаткі! Колькі туляг ён падняў, страсянуў і паставіў на ногі?

Колькі выявіў і высмеяў дыпламаваных бараноў.

Колькі жаб пераехала яго сатырычнае савецкае кола?!

І заўсёды ў творах Крапівы спадарожнічаюць гнеў і смех. Гнеў і смех!

Таварышы! Самае складанае ў творчасці камедыёграфа — гэта пераплавіць гнеў, абурэнне ў калектыўны смех.

Хто напісаў хоць адну сатырычную камедыю, той гэта ведае. Але ж няма большай радасці, як радасць драматурга, які, седзячы дзе-небудзь за заналескай ці ў ціхім кутку, назірае за залам, дзе рагочуць людзі, надзяляючы яго погляды і ідэалы, смяюцца з таго, хто нялюбы табе і ім.

У тэатры ўсё можна падвергнуць сумненню. Могуць быць штучныя страсці, штучныя слёзы, ненатуральная ўвага, ненатуральная ветлівасць, але смех, калектыўны смех бывае толькі натуральны. Смех — вялікая сіла, вострая ідэалагічная зброя. І яе варта цаніць, берагчы і змагаць рэгулярна ласкавым, добрым словам, а не маслам з кетавай ікрой.

Рыхтуючыся да вечара, я яшчэ раз перачытаў п'есу Кандрата Крапівы «Мілы чалавек». Перачытаў і задумаўся. Божухна! Каб напісаць гэтую смешную, вострую і вельмі сур'ёзную камедыю — колькі ж дзён і начэй кіпеў гневам драматург, якім раз'юшаным і злосным быў ён, які зарад грамадзянскага абурэння гарэў у ім унутры, пакуль выспеў вясёлы, смешны сюжэт гэтай п'есы?! А Крапіва меў права на гнеў, на абурэнне як салдат чатырох войнаў, як абаронца савецкай радзімы, як бацька, сын якога загінуў на фронце.

Якое ж вострае вока, глыбокае пранікненне ў сутнасць філасофіі Жлукты як антысацыяльнай з'явы, калі гэты тып аказваецца і сёння прапісаны ў нашым асяроддзі. У вайну ён арганізоўваў «бронь», аборты, выпіўкі і жратву, а сёння... Каб не псаваць настрой вам, я не буду пералічваць яго дробных дзялішак. Непрыемны ўжо сам факт: жыве курылка! Дзейнічае. І не хоча трапіць на сцэну. Не хоча, і ўсё. І пакуль што яму ўдаецца гэта.

Крапіва на аснове свайго нялёгкага вопыту і вопыту савецкай літаратуры дасканала распрацаваў, грунтоўна і доказна абаснаваў тэарэтычныя палажэнні аб сатыры ва ўмовах сацыялістычнага грамадства. І таму, хто хоча працаваць у жанры сатыры, не толькі карысна, а проста неабходна ведаць гэтыя палажэнні і быць удзячным Кандрату Кандратавічу за аргументы ў карысць сатыры супраць тых, хто на сатыру паглядае скоса ў выніку сваёй абмежаванасці.

А таму, хто па службовым абавязку паміма сваёй волі вымушаны мець справу з сатырай, варта было б таксама засвоіць парады Крапівы. Не лішне было б хоць раз арганізаваць калектыўную чытку артыкулаў Крапівы аб са-

тыры, аб канфлікце ў апараце Міністэрства культуры рэспублікі. Напачатку хоць бы для павярхоўнага знаёмства.

Артыкулам гэтым ужо адным па сорак, другім па трыццаць год, аднак, як ні дзіўна, цана ім узрасла. Чаму? Тут варта падумаць...

Таварышы! Здаецца, наспявае канфлікт. Але трэба помніць, што ўсяму сваё месца і свой час. І юбілейны вечар нібыта не лепшы час для канфліктаў. Але, які ж гэта юбілей сатырыка ды без сатыры? І месца як быццам тое. Гэта ж тэатр. Тут сцэна. І звычайна тут разгараюцца вострыя канфлікты, бушуюць страсці і гучыць натуральны смех. Так што мы не парушаем традыцый гэтага дома. Тым больш парада вывучаць творчасць Крапівы — парада правільная. А? Што? Не? Калі сам Крапіва ў свой час пайшоў павышаць веды ў трыццаць гадоў, то некаторым гэта не позна і ў 50...

Каб правільна зразумець і ацаніць тую ці іншую п'есу, неабходна карыстацца крытэрыямі Крапівы, якія ён проста і ясна, глыбока аргументавана з пазіцый марксісцка-ленінскай метадалогіі выказваў у сваіх артыкулах аб драме і камедыі. У свой час у нашай літаратуры важнай папяй хадзіла так званая тэорыя бесканфліктнасці, якая прынесла нямала шкоды і тэатральнаму мастацтву. Выгналі яе. Паслалі туды, куды і Макар цялят не ганяў. Прыклаў да гэтага руку і Кандрат Крапіва.

І вот з бюракратычнай глухамані нехта прынёс ёй на змену і паставіў на нашым драматургічным агародзе новае пудзіла — асацыяцыю. І некаторыя баяцца яе, нібы дашкаляты бабы-ягі.

А што такое асацыяцыя? Гэта ж нясмелы намёк на канфлікт, толькі папамінак. Калі баяцца толькі намёку, то як жа быць з сапраўдным канфліктам, жыццёвым, вострым? Можа, зноў вярнуцца да бесканфліктнасці?

Асацыяцыі будзяць думку. А мастацтва бяздумнае — каму яно трэба?

Уявіце сабе байку без асацыяцый. Недарма ж кажуць: «Кошку б'юць — нявестцы намёкі даюць».

Давайце возьмем для прыкладу адну байку нашага юбіляра, напісаную з паўсотні гадоў назад, а дакладней — у 1928 годзе. Прасачыце, якая ў яе дзіўная асаблівасць — жывучасць, здольнасць выклікаць у розныя перыяды жыцця — адменныя асацыяцыі.

Вось тая байка.

## ДЭКРЭТ

— Здароў, Максім!
Забыўся, брат, на нас зусім.
Расказвай, што чуваць.
— Браточак, не магу!
— Ты мо сюды адпачываць?
— Ды не, бягу!
Я жду бяду з усіх бакоў.
— А што з табою? Можа, не сакрэт?
— Ды ў цэнтры (чуў мо) выдалі дэкрэт —
на мяса здаць усіх быкоў,
якім мінула дзесяць год.
— Пастой, прысядзь, ды вытры пот...
Дык ты ж чаго падмазаў пяты?
— А мне ўжо, бачыш, дваццаць пяты,
дык страх такі напаў, не ведаю, дзе дзецца.
— Не разумею я... То ты ж не бык, здаецца,
і не ўцякаць табе я вельмі буду раіць.
— Яно-то так, але ж — гады...
Каб не нажыць якой бяды.
Дэкрэты як у нас часамі разбіраюць?
Не разбяруцца, зловяць — чык.
Тады й даводзь, што ты не бык.

У гады калектывізацыі гэта байка выклікала, як вы самі разумееце, пэўныя асацыяцыі. І можна было дагадацца — хто мог уцякаць ад таго дэкрэта і каго яна высмейвала.

У 1937 годзе «Дэкрэт» выклікаў іншыя асацыяцыі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны, асабліва на акупіраванай тэрыторыі, гэтая байка ўзбуджала ўжо новыя асацыяцыі. У 1949 годзе, калі вышуквалі касмапалітаў, асацыяцыі таксама былі.

Вось так адна і тая ж байка ў розны час будзіла чалавечую думку, выяўляючы шырокі філасофскі сэнс аўтарскай задумы.

Ці вось вам яшчэ байка. Юбіляр тут ужо не вінаваты — байка майго ўласнага саматужнага вырабу.

Жыў-быў добры чалавек. Адзінокі. Быў у яго верны пёс — надзейны вартаўнік. Страж. Нікога не пускаў у хату без каманды гаспадара. І вось прыйшла бяда. Захварэў чалавек. Прытомнасць страціў. Сабака выў, ледзь не плакаў. Прыйшоў друг гаспадара. Але пёс не пусціў яго ў хату. Пайшоў друг гаспадара і прывёў доктара. І доктара пёс не пусціў. Што было потым, неясна. Але мараль ужо відаць. Можна быць верным. Але каб быць карысным, трэба быць яшчэ і разумным.

Наш глядач... ды вось хоць бы ўзяць сённяшнюю за-

лу — народ разумны, адукаваны, інтэлектуал. Яго на пустышку не заманіш, яму падай матэрыял па роздум, ён разбярэцца. І вывады зробіць правільныя. Ды тут кожнага другога, ну, калі строга выбіраць, то кожнага трэцяга можна смела браць на працу ў апарат Міністэрства культуры. Але ж не першага стрэчнага.

Зноў заносіць мяне на канфлікт. Ну, ды гэта ўжо прафесійная хвароба. Ад яе цяжка збавіцца. Так можна захапіцца аб'ектамі для сатыры і забыцца пра юбіляра. Даруйце, Кандрат Кандратавіч. Вам пра гэта сумна слухаць. Старая і даўно вядомая Вам песня.

Мой маналог яўна мае крэн у бок сатыры. Нічога дзіўнага. Каму што руніць. Але Кандрата Крапіву ведаюць не толькі як выдатнага сатырыка. Яго творчасць — п'есы, раманы, апавяданні, байкі і вершы — яркае, вобразнае і поўнае адлюстраванне жыцця нашага народа. Па яго творах сапраўды можна вывучаць гісторыю — факты праўдзівыя, праблемы сапраўдныя, канфлікты сацыяльна значымыя, характары тыповыя, яркія, абставіны, у якіх яны выяўляюцца, жыццёвыя — і героіка-рамантычныя («Партызаны»), і драматычныя («Проба агнём», «Людзі і д'яблы», «З народам»), і камічныя, з добрым, мяккім гумарам («Пяюць жаваранкі»). Ну вядома ж, як вянец,— сатыра: «Хто смяецца апошнім» і «Мілы чалавек». І нарэшце — мудрая, глыбока чалавечая, з філасофскім асэнсаваннем нашага часу фантастычная камедыя — «Брама неўміручасці», у якой ставіцца вельмі важная праблема — праблема ацэнкі маральных вартасцей чалавека, яго грамадская каштоўнасць, яго права на будучыню. Сёння вы ўбачыце гэты спектакль. Перад вамі пройдзе галерэя розных тыпаў, прасвечаных мастацкім рэнтгенам Крапівы перад тым, як рашыць: пусціць ці не пусціць таго ці іншага ў заўтрашні дзень. А пытанне гэта не пустое...

Дарагі наш юбіляр! Дарагі Кандрат Кандратавіч! Мы ўдзячны Вам за Вашу мудрасць, за навуку, за асабісты прыклад грамадзянскай мужнасці, за ўзор дысцыплінаванасці і працавітасці, прынцыповасці і патрабавальнасці. Канечне, у Вас ужо не першая маладосць, і таму мы віншуем Вас з юбілеем, шчыра Вам жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, добрага настрою, і паколькі, самі бачыце, спраў у нас многа, а таленту і вопыту Вам не пазычаць, дык закасвайце рукавы, паплюйце на далоні і — за справу.

# СМЕХ В НАСТУПЛЕНИИ

*Інтэрв'ю газеце «Социалистическая индустрия»*

— Андрей Егорович, ваши пьесы показывают многие театры страны, охотно ставят за рубежом. В чем секрет такой популярности?

— Автору на такой вопрос отвечать трудно. Это, как говорится, компетенция критиков и искусствоведов. Лучше скажу вот о чем.

Необходимо ли мое творчество людям? С этой мыслью настоящий художник и спать ложится, и просыпается. Задача искусства — создавать определенный нравственный климат, способствующий формированию нового человека. Выполнить эту задачу можно, лишь поднимая проблемы не надуманные, а жизненные, пусть трудные, пусть болезненные, но волнующие всех людей, независимо от того, кто они по профессии — машиностроители, геологи, железнодорожники, труженики села, ученые... Возьмите «Человека со стороны» И. Дворецкого, «Заседание парткома» А. Гельмана, «Сталеваров» Г. Бокарева. О чем эти пьесы? Только ли о производственных проблемах? Нет и еще раз нет. Их главная тема — тема труда в его социально-нравственных аспектах, труда, который стал для людей кардинальным делом их жизни. И потому за ходом заседания парткома строительного треста с волнением следят не только строители, события в мартеновском цехе затрагивают не только сталеваров...

Труд — категория не только экономическая, но и нравственная. Показать его не через гул станка в цехе или трактора в поле, а через сложные взаимоотношения людей, выявляющие место каждого в общем строю,— вот к чему, на мой взгляд, должен стремиться художник. И неважно, где происходит действие — на заводе, в колхозе, больнице, школе... Важно, чтобы оно взволновало человека, пробудило в нем потребность в работе мысли и души.

— Большинство ваших произведений — комедии. Своим союзником вы сделали смех...

— В человеческой жизни происходит постоянное накопление «плюсовых» и «минусовых» зарядов. И самый лучший способ разрядки — улыбка. Прислушайтесь, как фронтовики рассказывают о войне. Вместе с героическим каждый вспоминает комическое. В этом удивительном умении не утрачивать чувство юмора в самых тяжелых об-

стоятельствах, посмеяться над самим собой — огромная нравственная сила народа. Человек, склонный к шутке,— здоровый и крепкий человек... Но смех не только врачует. Смех и казнит. Он нужен человеку как оценка явлений и событий, как форма осуждения того, что нам мешает, как острое и действенное оружие. Есть выражение: «Смех в наступлении». Это одна из основных заповедей драматурга-сатирика. Когда в зрительном зале звучит дружный многоголосый смех — это подтверждение того, что автор попал в «яблочко».

— Какая из комедий вам особенно дорога?

— Душой я еще со своей последней пьесой — «Святая простота». Много сердца вложено и в «Затюканного апостола». Эта комедия, как слоеный пирог: есть в ней и бытовой конфликт, и определенная философская концепция. Эта «многослойность» не от того, что я пытался потрафить вкусам разных зрителей — в искусстве такой компромисс недопустим. В жизни ведь так и бывает — одно переплетается с другим.

— Творческая жизнь драматурга — это длительный диалог со зрителем. И, как во всяком диалоге, важно, чтобы понимали не только тебя, но чтобы и ты понимал собеседника. А для этого его надо знать...

— Непременно, иначе не будет контакта. Я получаю от зрителей много писем. Пишут рабочие, колхозники, инженеры, ученые, студенты... Советуют, предлагают, критикуют... Эти советы — хорошая пища для раздумий. И как драматург, и как главный редактор журнала «Неман», я часто бываю на предприятиях, в учреждениях, высших учебных заведениях, школах. Случаются и неофициальные встречи. Однажды подхожу к Московскому театру сатиры. Спрашиваю у двоих жаждущих попасть на спектакль ребят, что это за апостол, да еще затюканный. Молодые люди охотно и толково объясняют, что к чему, а я продолжаю делать вид, что ничего не понимаю. Хотелось знать, что привело парней сюда — просто желание сходить на модный спектакль модного театра или нечто другое, более серьезное. В общем, перестарался: подошли актеры и «рассекретили» меня... Кончился наш разговор уже в зрительном зале. Оба парня работают на одном из московских заводов, заочно учатся. Умны, начитаны. В театры ходят не «моды ради»... Словом, порадовался я за парней, их жадности к жизни, стремлению сделать ее полной и интересной.

— Коль речь зашла о молодежи, такой вопрос, Андрей Егорович. Возглавляемый вами журнал взял шефство над профессионально-техническими училищами республики. Чем это вызвано?

— Современный советский рабочий — человек с широким кругозором, богатым внутренним миром. Ему присуще чувство коллективизма, он непримирим к недостаткам. Воспитать эти черты в подрастающем поколении — есть ли задача более ответственная? Вот почему проблемам, связанным с улучшением работы профессионально-технических училищ, мы уделяем самое пристальное внимание. Часто бываем в гостях у будущих токарей, строителей, полиграфистов... Буквально через номер публикуем материалы, рассказывающие об опыте работы лучших мастеров, наставников молодежи, следим за тем, как выпускники начинают свой трудовой путь, как их встречают в коллективах, чем помогают... И кто знает, в будущем, возможно, появится пьеса, местом действия которой станет профессионально-техническое училище...

— А в ближайшее время с какой вашей новой пьесой мы сможем познакомиться?

— На этот вопрос у меня есть стереотипный ответ о курице, у которой хватило ума кудахтать лишь после того, как яйцо снесено... Пока я еще «не расстался» с последним своим детищем — «Святой простотой».

Если же говорить о будущем, хочется рассказать о людях, которые оставили след в моей жизни, которые сделали меня (плохим ли, хорошим) сегодняшним...

## В ГОСТЯХ У ЯКОВА ЧАКИРА

Хотя наши встречи с людьми Молдавии были недолгими, мы успели проникнуться их заботами, войти в круг их повседневных дел, прикипели к ним душой, потому что человек, у которого дело со словом не расходится и дел больше, чем слов, всегда вызывает уважение.

Мы приехали в Унгенский район. Нам помогал устраиваться в доме для гостей очень спокойный, сдержанный человек. Как оказалось, это был Герой Социалистического Труда, директор совхоза «Прут» Яков Миронович Чакир, человек в Молдавии хорошо известный. Хозяйство, которым руководит Чакир, дает виноград, яблоки и гру-

ши, выращенные в пальметных садах, есть тут и ореховые рощи. Мы как раз попали на сбор орехов и яблок. В яблоневом саду между рядами деревьев трактор тянул за собой платформу с ящиками, которые быстро заполнялись плодами. Уборка механизированная. В этом совхозе вообще широко применяется новейшая техника, используются современные достижения науки.

У руководителей, конечно, немало хлопот хозяйственных, немало организационных задач, но главная их забота — человек. Они решают не только экономические проблемы, но и социальные и делают это умело, с заглядом в завтрашний день. В совхозе «Прут» все малыши ходят бесплатно в детские сады. Здесь строят дома матери и ребенка, дома, где можно отдохнуть и получить медицинскую помощь, педагогическую консультацию, совет по ведению домашнего хозяйства и т. д. Эта забота о семье, о женщине в условиях села необычайно важна. Или другой пример. Совхоз за счет своих внеплановых накоплений построил великолепную больницу. Он не только установил пенсии для престарелых работников, но и берет на себя в случае необходимости обеспечение их продуктами. Совхоз посылает за свой счет молодежь в техникумы, в институты, готовит таким путем специалистов со средним и высшим образованием — опять продуманность, опять загляд в будущее, и снова на первом месте — человек. Здесь с первых своих шагов, с младенчества и до глубокой старости человек ощущает заботу о себе, и в этом суть нашего советского образа жизни.

## СМЯЯЦЦА САПРАЎДЫ НЕ ГРЭХ

*Інтэрв'ю БелТА*

...У пакоі ціха. На стале ляжаць старонкі, спісаныя буйным размашыстым почыркам. І чытае Андрэй Ягоравіч Макаёнак іх так, што міжволі трапляеш у тэатр аднаго акцёра. Рухавы, з хітрынкай у вачах, ён «іграе» ўсе ролі — мужчынскія і жаночыя, станоўчыя і адмоўныя. І тое, што выйшла з-пад пяра драматурга,— па-макаёнкаўску вострае, вясёлае, глыбокае па думцы, філасофскім асэнсаванні жыцця,— захапляе поўнасцю. Гэты чалавек, які заўсёды ведае, над кім смяяцца і з кім, мае шчодры

талент гумарыста, адточаны багатым жыццёвым вопытам. Сведчанне таму — камедыі «Выбачайце, калі ласка!», «Лявоніха на арбіце», «Зацюканы апостал», «Трыбунал», «Таблетку пад язык», якія з поспехам ідуць у тэатрах краіны.

— Андрэй Ягоравіч, гэта ваша асабістае правіла — набываць спачатку ў вобліку свайго героя, а потым ужо данесці яго перажыванні да падмосткаў?

— Можа, і бяда гэта (для здароўя, пэўна, нічога добрага). А можа, і шчасце. Але калі пішу камедыю (я ж нічога іншага пісаць не ўмею), усе астатнія справы адыходзяць на задні план і як быццам не іспуюць. Бо што б ні гаварылі Лявоніха або дзед Цыбулька, а словы ўклаў ім у вусны я. У тую хвіліну забываешся і не думаеш, што ты драматург, а ўжо жывеш тым, што адбываецца на старонках, спісаных уласнай рукой.

Вось да Цярэшкі Калабкa ў «Трыбунале» ўваходзіць у дом фашысцкі афіцэр. Што той павінен сказаць, гэта значыць я, будучы на яго месцы? Падыходжу да сцяны, на ёй нічога, а мне ўяўляецца ўжо звычайная вясковая хата, на сценах — фатаграфіі ў простых рамках. На адной з іх — вясёлыя, смешныя твары дзяцей Калабкa. «Гэта што, усе твае дзеці?» — пытаюся ўголас не то па-руску, не то па-нямецку. Ужо ведаю, што адкажа мне Цярэшка, але абрываю сябе на паўслове, адчуваю: дыялог ёсць. Іду да стала — пісаць, пісаць, пісаць...

— А як пішацца, ці лёгка?

— Па-рознаму бывае. Калі тэма добра знаёмая, п'еса нараджаецца хутчэй. Хоць «Трыбунал» быў для мяне новым жанрам, а напісаў яго начарна (толькі не падумайце, як лёгка драматургам жывецца) за тры дні. Відаць, таму, што задуму выношваў доўга, сам з сабой спрачаўся, як гэта аб вайне і раптам камедыя? Але чым больш сустракаўся з людзьмі бывалымі, якія смерці ў вочы глядзелі, тым больш пераконваўся: аб вайне ўспамінаюцца і вясёлыя эпізоды. Гумар жа заўсёды цэніцца на вагу золата нават у самых трагічных сітуацыях.

А вось «Зацюканы апостал» быў для мяне самога нечаканасцю. Хацелася роздуму над тым, што робіцца на свеце, дабрацца да душы гледача. Таму над ім працаваў сама больш...

— А як глядзіць шырокавядомы драматург сёння на таго пачаткоўца, які жыў некалі ў глыбінцы і складаў аднаактоўкі?

— Ён удзячны яму за адкрыццё найбагацейшага свету — тэатра. Працаваць я пачаў, як толькі пасля вайны зноў стаў на ногі. Удзельнічаў у Феадасійска-керчанскім дэсанце, і міна, што разарвалася побач, «рассыпала» асколкі пад ногі. Нарабіла дзірак больш дзесятка. Адправілі на Вялікую зямлю, падлячылі ў шпіталі і спісалі зусім.

У хуткім часе пачаў працаваць сакратаром Гродзенскага гаркома камсамола. Час цяжкі, а тут яшчэ ў касцёлах песнапенне — удоў ды сірот zавабліваюць у свае сеткі служкі боскія... Што я моладзі прапанаваць мог? Ні кніг, ні нот, ні п'ес — усё вайна спаліла. Дык што ж, сядзець рукі склаўшы? Я рызыкнуў паспрабаваць, напісаў аднаактовую п'есу. А назваў, на ўсякі выпадак, сімвалічна: «Добра, што добра канчаецца». Паставілі мы яе. А калі аб'явілі аб рэспубліканскім конкурсе, сябры параілі: «Было не было, адпраў яе ў канверце». Паслаў ды, прызнацца, аб тым і забыўся. Ужо ў Магілёве працаваў, калі атрымаў тэлеграму: «Прыязджайце атрыманнем прэміі». Людзі дасведчаныя настойліва прасілі: «Пішы яшчэ». Паслухаўся. І зноў п'есу адзначылі. Вырашыў, што да гэтай справы трэба паставіцца сур'ёзна.

Спачатку перачытаў усіх, як мне здаецца, драматургаў. Скончыў партыйную школу. З'явілася жаданне напісаць што-небудзь вострае, злабадзённае аб жыцці вёскі. Працаваў упарта, і нарадзілася камедыя «Выбачайце, калі ласка!». Лёс яе спачатку складваўся нявесела, але галоўны рэдактар «Театра» Мікалай Пагодзін убачыў падтэкст, закладзены ў ёй. Паверыў у яго ідэю, апублікаваў, праўда, пад іншай назвай «Камяні ў печані».

Камедыю гэту паставілі каля двухсот тэатраў. Розныя рэжысёры, акцёры. Але сустрэчы з такімі карыфеямі сцэны, як Любоў Дабржанская, Пётр Канстанцінаў, Глеб Глебаў, Барыс Платонаў, якія любому эпізоду давалі яркае і доўгае жыццё, многае для мяне адкрылі і заручылі з тэатрам навечна.

— А акрамя яго ёсць яшчэ захапленні?

— У першую чаргу ёсць сур'ёзная справа, якая патрабуе ўвагі і часу. Абавязкі дэпутата Вярхоўнага Савета рэспублікі, якія ўзбагачаюць пастаяннымі сустрэчамі з людзьмі, і рэдагаванне часопіса «Нёман». Але бываюць і вольныя гадзіны, калі з задавальненнем аддаюся рыбалцы, малюю, хаджу па лесе або займаюся разьбой па дрэве.

— Андрэй Ягоравіч, вы назаўсёды захаваеце вернасць

камедыі ці хочацца паспрабаваць сябе і ў іншым жанры?

— Мне здаецца, непераадольных бар'ераў тут не існуе: час нічога не сцірае і не закрэслівае ў памяці, а толькі назапашвае ўражанні. І гэта тая глеба, на якой як бы групуецца пісьменніцкае ўяўленне. Чакаюць сваёй гадзіны і вясёлыя сітуацыі, якія не ўвайшлі ў «пракрустава ложа» драматургіі, і маналогі — унутраныя, смешныя, сумныя, накінутыя ў запас. Хачу расказаць, як нараджаюцца камедыі. Ды ці мала што ляжа ў радкі з перажытага? Той, хто творыць насталіна, ведае, колькі гэта каштуе!

## ВМЕСТЕ С СОВРЕМЕННИКОМ

Завидна судьба романов и повестей белорусского писателя Ивана Шамякина. С каждым годом растет читательский интерес к его произведениям, ширится популярность не только в Белоруссии, и в республиках нашей Родины, и в дружественных социалистических странах.

В связи с выдвижением на соискание Государственной премии СССР горячо и живо обсуждаются романы «Снежные зимы» и «Атланты и кариатиды» на страницах журналов и газет, на многочисленных читательских конференциях. В чем же секрет этой популярности и живого, неподдельного читательского интереса к творчеству И. Шамякина? Писатель обладает завидным даром в увлекательном сюжете глубоко и проникновенно рассказывать о человеческих судьбах, о радости и горестях своих современников, раскрыть душевное богатство земляков-белорусов в самых различных житейских обстоятельствах, показать яркие жизненные характеры, выписанные многогранно, рельефно, красочно. Творчество И. Шамякина невозможно представить вне горячих, неотложных забот и проблем своего времени. В романе «Снежные зимы» он познакомил нас с героем неординарным, своеобразным. Иван Антонюк, бывший ответственный работник, отправленный на пенсию за упорное отстаивание своих взглядов и убеждений, за то, что не поддался гипнозу бездумного повиновения в те времена, когда повсеместно на полях насаждалась кукуруза и административно отрицалась полезность многолетних трав. Нет, это не было проявлением строптивости или упрямства. Антонюк —

человек цельной натуры с твердым, закаленным характером. Отражая проблему сегодняшнего дня, Шамякин в своих романах часто делает экскурсы в прошлое для того, чтобы полнее открыть процесс формирования, шлифовки характера героя, обнаружить истоки той или иной его черты, рассмотреть внутренние пружины активной деятельности личности, те пружины, которые жизнь оставляет ему навсегда и которые определяют динамику характера. Эпизоды партизанской борьбы на оккупированной родной земле проявляют глубину патриотизма Антонюка, всю полноту его собственной ответственности за судьбу Родины в трудную годину, особенность его поступков, самостоятельность в решении сложных задач в тяжелой обстановке. Там ковался Антонюк-борец, борец убежденный, смелый, последовательный.

Шамякин щедро делится своими размышлениями, справедливо и искренне, с мудрым спокойствием и сдержанностью, хотя за всем этим ощущается его глубокая взволнованность проблемами человеческих взаимоотношений. И прежде всего нравственными.

Второй роман, выдвинутый на соискание премии, развивает тему вширь, находя новые черты характера нашего современника. Роман «Атланты и кариатиды» — о людях, строящих город. В центре повествования образ Максима Карнача, озорного, острого, даже колючего, но благородного и обаятельного человека и талантливого архитектора. Не все в нем идеально. Но главный стержень этого образа — забота о человеке и его будущем. Ведь все, что сегодня строится: улицы, дома, площади, парки, заводы, Дворцы культуры, общежития, институты — все строится для человека, для его блага, строится на века. А то, что на века, не терпит суеты. Часто еще встречаются деятели, которые в погоне за экономичностью, темпами, рекордами и прочими временными «деловыми выгодами» игнорируют интересы будущего, не умеют и не желают смотреть вперед. Архитектор Карнач вступает в конфликт с «деловыми» людьми, защищает главное для себя и в себе — строить для человека.

Читаются вещи И. Шамякина с увлечением. Он известный мастер сюжета. А если захваченный логикой повествования читатель как бы сопоставляет, соизмеряет поступки и мысли литературного героя со своими собственными мыслями, поступками, если сверяется своя жизненная позиция с позицией героя, то можно с уверенностью

сказать: писатель успешно решает творческую задачу как духовный наставник, как воспитатель.

В многоплановости романов, разнообразии реальных, жизненных проблем, многоликости характеров не теряется главное — ясная авторская концепция жизни: общественная значимость личности определяется органичностью естественного сплава личных интересов с общественными, когда доброта, любовь к человеку — не декларация, а личные конфликты героя с равнодушием мещан, их демагогией и эгоизмом.

О нашем времени, о наших людях, их заботах и думах Шамякин умеет писать так, что читатель охотно вовлекается в действо романа, становится сопричастным к нему.

Радуясь успеху товарища, искренне поддерживаю выдвижение Ивана Шамякина на соискание Государственной премии СССР.

## ИВАН ШАМЯКИН И ЕГО ПОВЕСТИ

Творчество народного писателя Белоруссии Ивана Петровича Шамякина уже давно знакомо читателям «Роман-газеты» по опубликованным здесь романам «Криницы», «Сердце на ладони», «Снежные зимы», «Атланты и кариатиды» и другим произведениям.

Неизменный читательский интерес к своему творчеству писатель вызывает отличным знанием реальной действительности, глубоким проникновением в характеры современников, смелым анализом насущных проблем нашей жизни, умением правдиво и честно рассказать о тех событиях и явлениях, которые волнуют нашу общественность, притом рассказать в увлекательной, остросюжетной форме.

Читать Шамякина легко. Писатель он нескучный. Человек бывалый, и ему есть что рассказать. Талант у Шамякина светлый, добрый, человечный, особенно сильно эти качества его таланта проявляются тогда, когда он повествует о трудной женской судьбе в трагических военных обстоятельствах. Женщина и война — тема предлагаемых читателю повестей «Торговка и поэт» и «Брачная ночь». Героини его повестей — каждая со своей неповто-

римой индивидуальностью — на первый взгляд кажутся даже полярно противоположными. Но святость совершенных подвигов роднит их.

В повести «Торговка и поэт» автор прослеживает развитие характера своей героини Ольги, базарной торговки, заурядной мещанки, бездуховного существа, равнодушного к чужим бедам и болям, замкнувшегося в скорлупе своего мелкого, примитивного благополучия. Но война раскалывает эту скорлупу. В ее дом попадает молодой человек совсем иных нравственных устоев, идейных устремлений. Алесь — поэт, натура духовно богатая, активно ищущая свое место бойца в условиях оккупации. Под его влиянием мироощущение у Ольги постепенно меняется, происходит психологическая перестройка этого сложного и противоречивого характера. Любовь к Алесю является для Ольги и приобщением к его интересам, устремлениям, к его борьбе. В ее душе пробуждаются, прорастают дремавшие семена патриотизма и гражданского долга, проявляется высокая нравственность, чувство справедливости, горячее желание помогать подпольщикам в борьбе с оккупантами.

Подвиг и смерть венчают ее трагическую судьбу и роднят с героинями второй повести — цельными, ясно сознающими свою миссию в тяжелую для Родины годину.

В повести «Брачная ночь» главные героини, Валя и Маша,— совсем юные девушки с прозрачно-чистыми, хрустально-звонкими душами. Их возраст — пора первой любви, пора осознания своей зрелости. На свои хрупкие плечи они взвалили тяжелую ношу трудной борьбы в подполье и в партизанской разведке.

Повесть эта интересна не только драматической остротой сюжетных положений, но и яркостью цельных характеров.

Эмоциональная память выхватывает из прошлого события и факты, которые в свое время потрясли воображение художника. И теперь, спустя много лет, живет в душе благоговейное отношение к героическим поступкам людей и негасимая потребность рассказать, поведать с любовью и горечью не только о славных событиях незабываемого прошлого, но и о своих многолетних размышлениях. И в этом проявляется не только гражданский долг, но и гуманистическая сущность советского писателя — современника, свидетеля и участника всенародной войны против фашизма.

## «...ПАКУЛЬ ГУМАРУ ХОПІЦЬ!»

*Інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва»*

— Андрэй Ягоравіч, якія пачуцці выклікаў у вас Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні вам высокага звання народнага пісьменніка Беларусі? Нястрымнай радасці? Ціхага задавальнення?

— І радасць была, і задавальненне. Але ўсё — ціхае і стрыманае. Я і сам цяпер — ціхі і стрыманы, не тое, што раней...

— І няма такога адчування, што вы «па вышыні», ці, як кажуць, «на кані»?

— Не. Бо запомніў адзін урок яшчэ з маленства: «Не возносись».

— Калі не сакрэт, то раскажыце пра гэты ўрок.

— Ды які тут сакрэт? Я ўжо абнародаваў яго аднойчы. У кожнага чалавека ёсць нейкая дэталь ці эпізод, з якога ён пачынае сябе помніць.

Дык вось, здарылася гэта, калі мне мінуў чацвёрты ці пяты год. Мой дзядзька пасадзіў мяне на каня. Эмацыянальная памяць захавала гэтае самаадчуванне: верхам на кані! Самастойна! Праўда — аберуч за грыву. На кані я стаў вышэй за дзядзьку, вышэй плота, вышэй саламянай страхі, нават вышэй канапель паабапал сцежкі ў гумно. Дзядзька вядзе каня на повадзе, а я... «вознесся», адным словам. І раптам (адкуль яе чорт наслаў) з канапель на сцежку выскачыла рабая свіння. Конь з перапуду ўзвіўся на дыбы. (Коні тады палахлівыя былі.) І я з гэткай вышыні чмякнуўся вобзем. А калі ачомаўся,— каля мяне галасіла маці, нехта паліваў мяне з шапкі вадой з лужыны... Ні каня, ні вышыні. Канаплі, як лес, высокія...

З таго часу і па сёння запомніў: як бы ёмка ні адчуваў сябе на кані, як бы ўчэпіста ні трымаўся за грыву — не забывай, што ў любую хвіліну можа выскачыць з канапель рабая свіння і перабегчы дарогу, а палахлівы конь можа ўзвіцца на дыбы, і зноў можна чмякнуцца вобзем. бо, ухапіўшыся за грыву, не трэба думаць, што трымаеш бога за бараду. З каня я злез. За рабочым сталом самая ўстойлівая пазіцыя.

— Іван Шамякін, ваш даўні сябра і таксама народны пісьменнік Беларусі, з пераканаппем сцвярджае, што з Макаёнка мог бы атрымацца «неардынарны акцёр» ды і

жывапісец не абы-які выйшаў бы. Можа, скажаце некалькі слоў аб гэтых сваіх захапленнях?

— Мой сябра па дабраце душэўнай і шчодрасці натуры хацеў бы надзяліць мяне і іншымі талентамі, дзякуй яму. Але, відаць, я больш любіў акцёраў і тэатр, чым у сабе акцёра. Я ад душы хацеў дагадзіць ім, калі пісаў свае п'есы,— стараўся ярчэй выпісваць характары. А захапленне малюнкам ды разьбой па дрэве прывучала да цярплівасці, выпрацоўвала назіральнасць. Апрача ўсяго іншага, гэта дысцыплінуе памяць, памагае ёй у патрэбны момант адшукаць неабходную дэталь.

Мне і цяпер часта карціць змайстраваць нешта і рэальнае, і знаёмае, і хітрае. А плашкі нарыхтаваны даўно. І я яшчэ над імі папрацую: для сябе, для спакою, для ціхай радасці.

— Душа ляжала (ды і зараз, кажаце, карціць!) да многага, і ўсё ж выбралі драматургію. Хіба ж вы не ведалі, што хлеб драматурга лёгкім здаецца толькі недасведчанаму?

— А я, калі палез у драматургію, і быў недасведчаным. Калі ж зразумеў, які нялёгкі драматургічны хлеб, то адступаць было і позна, і сорамна. Узяўся за гуж — не кажы, што нядуж. Я перакананы, што ў драматургіі можа дабіцца рэальнага поспеху толькі той, для каго яна стане справай усяго жыцця. Ёсць, вядома, нямала прыкладаў таго, калі пэўны пісьменнік з аднолькавым поспехам мог тварыць у некалькіх літаратурных жанрах. І ўсё ж... І ўсё ж я паўтараю: кавалерыйскім наскокам драматургію не «заваюеш». Сам я вось ужо аж чвэрць стагоддзя пішу п'есы, і чым далей, тым, здаецца, цяжэй пісаць, бо ў драматургіі трэба заўсёды адкрываць новае і для сябе і для гледача. А перш за ўсё — адкрываць цікавыя характары, тыпы.

— А жаданне кінуць драматургію не з'яўлялася? Таму ж недасведчанаму ўяўляецца, што А. Макаёнак лёгка крочыць па тэатрах, зрываючы ружы ды яшчэ нешта... А можа, наш гіпатэтычны недасведчанец не так ужо і памыляецца?

— Ды я не супраць, каб ён не памыляўся... Кожны нармальны чалавек без патрэбы не выбера мітрэнгу замест удачлівага, спакойнага жыцця (я не дужа веру, калі гавораць: «Гэты пісьменнік не пераносіў стан спакою, яму, як паветра, патрэбна была барацьба»). Барацьба дзеля барацьбы? Не разумею. Іншая справа, што жыццё на-

ша такое — дынамічнае, вірлівае, супярэчлівае,— і яно вымушае быць актыўным, за нешта або супраць нечага змагацца і г. д.

Ці хацелася кінуць пісаць п'есы? Хіба пад настрой. Як вядома, з камедыяй заўсёды клопатаў аж занадта. Асабліва калі ў ёй — хоць элемент сатыры. Цікава, што, пакуль пішаш, адчуваеш сябе мускулістым, дужым, гэткім рыцарам справядлівасці, ваякам. Пачынаецца шлях п'есы на сцэну, і тут часта не ведаеш, ці ты б'еш, ці цябе лупцуюць. Але ж, калі п'еса вылузваецца на сцэну, і ў зале — калектыўны рогат сотняў людзей, якія становяцца тваімі саюзнікамі, ідэйнымі аднадумцамі, сваімі, роднымі, вясёлымі, то ў той час у жылы ўліваецца цудадзейная сіла, а душа напаўняецца такой удзячнай радасцю, што, здаецца, прыгарнуў бы і моцна абняў усіх, хто ходзіць у тэатр. Тады забываецца і тое, як спатыкалася пяро на гладкай паперы, і бяссонныя ночы, і пакутлівыя сумненні, і... Усё «акупляецца» творчай удачай.

У мяне ёсць фатаграфія тэатральнай залы, запоўненай калгаснікамі, якія глядзелі спектакль па камедыі «Выбачайце, калі ласка!». Фатограф схапіў момант, калі ў зале выбухнуў смех. Дык вось, калі часам на душы пачынаюць скрэбці кошкі, я бяру ў рукі гэтую фотакартку. Праз паўгадзіны вяртаецца гумар, нібы пазычаны. Ну як жа кінеш гэтую клятую камедыяграфію? А якая прафесія — лёгкая? Буду ўжо трымацца за сваю верай і праўдай — аж пакуль... гумару хопіць!

— Кажуць, біяграфія пісьменніка — у яго творах. Як адбілася ваша асабістае ў п'есах: толькі ўласнай пазіцыяй ці ў самую дзею калі-нікалі ўпляталіся факты вашай біяграфіі?

— Я не схільны разумець літаральна даволі пашыраны выраз: «Біяграфія кожнага пісьменніка — у ягоных творах». Біяграфічнае ў мастацтве адбіваецца вельмі апасродкавана. І зусім неабавязкова, каб рэаліі пісьменніцкага жыцця гатовымі калізіямі ці эпізодамі пераносіліся ў творы. Жыццё пісьменніка, як і кожнага смяротнага,— гэта перш за ўсё сустрэчы з людзьмі, якія пакідаюць у памяці глыбокі след. Адны сустрэчы ўспамінаюцца з удзячнасцю за навуку, за дабрату, за шчодрасць, за чалавечнасць, другія пакідаюць зарубку іншага характару, але таксама — у навуку, дзякуючы якой сталееш, разумееш, што ў жыцці чалавеку могуць спадарожнічаць не толькі дабро, але і зло, крыўда, падман, каварства, жор-

сткасць, душэўная глухата і іншыя заганы. Усё гэта ўрэшце складае жыццёвы багаж, які так ці інакш скарыстоўваецца ў творчай лабараторыі пісьменніка. У гэтым сэнсе ўся творчасць пісьменніка і ёсць частка яго біяграфіі, частка таму, што не ўсё бачанае і перажытае варта мастацкай «гальванізтыкі», увасаблення ў творах — ці з-за сваёй дробязнасці, ці з-за банальнасці. Жыццёвы вопыт асабліва важны для драматурга. Крыўдна, што ў драматургіі часта можна сустрэцца з сачыніцельствам чыстай вады, калі аўтару не хапае жыццёвага вопыту, назіранняў за людскімі паводзінамі, характарамі, прычыннасцю ўчынкаў і г. д. І тады аўтар вымушаны прыбягаць да прыёмаў літаратараў-фантастаў, хоць і падрабляецца пад «чысцейшую» жыццёвую праўду. Ну, а ў выніку выходзіць звычайная мастацкая хлусня.

— Мастацкая?

— І мастацкая, раз твор атрымліваецца немастацкім. Уздзеянне такіх твораў на гледача прама прапарцыянальнае праўдзе, заключанай у іх,— чым менш, тым менш... Дзіўна, што такія «развясёлыя» творы лёгка і беспера-шкодна трапляюць на сцэну.

— Андрэй Ягоравіч, мусіць, калі б вы не папрацавалі неўзабаве пасля вайны ў розных раённых установах, то і сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» не атрымалася б?

— Безумоўна. А ўрэшце, я не выключаю магчымасці стварэння высокапраўдзівых п'ес аб жыцці пэўнай сацыяльнай групы і «непрадстаўнікамі» гэтай групы. У такім выпадку не трэба забываць аб агульнанародных інтарэсах. Ну, і быць зноў жа... жыццёва вопытным, сацыяльна ўзброеным.

— Вашы адносіны да Каліберава? У камедыі — ясна. Вы яго развянчалі. Але ж Каліберaў вывеў вас у людзі, у вялікую драматургію. То ці ўдзячны вы яму хоць крышачку? Цікава, ці быў канкрэтны прататып у Сцяпана Васільевіча Каліберава?

— Часам бывае, што сустрэнеш у жыцці чалавека, так сказаць, гатовага тыпа для камедыі. Але бывае гэта рэдка. Рэальнае існаванне такога чалавека значна аблягчае работу над п'есай. Часцей бывае так, што адзін сцэнічны вобраз убірае ў сябе рысы некалькіх прататыпаў. Так здарылася і з Каліберавым у «Выбачайце, калі ласка!». Прататыпаў было двое: аднаго звалі Сцяпанам Васільевічам, а другі меў прозвішча Каліберaў. Я прыклаў да про-

звішча аднаго імя і імя па бацьку другога і... Абодва пратататыны былі падобныя ў здатнасці да краснабайства, дэмагогіі, у імкненні прарвацца да славы, у кар'eрызме. Праўда, і адрозненні нейкія мелі. Адзін быў прасталінейны і напорысты, удачлівы да пары да часу, а другі — ціха і ніцавата, па-машэнніцку лез у папяровыя перадавікі і ўсё прыглядаўся, прымерваўся — на каго зваліць віну ў выпадку выкрыцця яго махінацый.

Ці ўдзячны я Калібераву і яго прататыпам? Хай будуць яны мне ўдзячны. Яны хацелі славы, і я іх праславіў! А калі сур'ёзна, то ні пра якую ўдзячнасць гаворкі не можа быць. У жыцці Каліберавы — носьбіты вялікага сацыяльнага зла, небяспечныя надзвычайна. Ды і вывелі мяне, як вы кажаце, у людзі не яны, а гледачы, якія прынялі маю пазіцыю, мой гумар і сатырычную насмешку над гэтымі тыпамі. Вось гледачам я ўдзячны. За дружны рогат.

— Не раз даводзілася мне чуць, як розныя людзі, з розных мясцін пазнавалі сябе ў Цярэшку Калабку. Раскажыце, калі ласка, і пра іншыя выпадкі такіх «пазнаванняў». Магчыма, прызнаў сябе хто-небудзь з прататыпаў адмоўных персанажаў?

— Так, падобныя выпадкі здараліся. Я іх не калекцыяніраваю, бо лічу гэта не зусім сур'ёзным заняткам. Канечне ж, павінны пазнаваць, інакш навошта пісаць? Пазнавалі сябе і ў адмоўных персанажах. Кажуць, адзін высокапастаўлены чыноўнік, пазнаўшы сябе ў Глуздакове з «Лявоніхі на арбіце», доўга касавурыўся ў мой бок.

— Каліберавы розных калібраў вельмі ж не шануюць сатырыкаў. Гісторыя літаратуры ведае шмат выпадкаў, калі сатырыкам здорава перападала ад іх. Скажыце па сакрэце, можа, і вас спрабавалі «гладзіць» за залішнюю задзірлівасць?

— Але ж справядлівасць заўсёды брала верх!

— Ці бывала так, што глядач цёпла прымаў вашу п'есу, а вам яна па нейкіх прычынах не падабалася (праўда, кажуць, што сваё хоць і каравае, ды кучаравае!)? Ці не хацелася вам вярнуцца да якой-небудзь п'есы, каб нанава яе перапісаць?

— Перапісаць? Не. А падправіць — справа іншая. Я кожную п'есу час ад часу падпраўляю. Кучараўлю!

— Андрэй Ягоравіч, выраз «ні дня без радка» вядомы кожнаму пісьменніку, але не кожны можа пахваліц-

ца, што яму ўдаецца прытрымлівацца гэтага прынцыпу. А як вы працуеце: імпульсіўна ці сістэматычна?

— Імпульсіўна (калі вам падабаецца гэтае слова). Я крыху зайздрошчу таму ж І. Шамякіну, які можа скарыстоўваць для творчасці кожную вольную хвілінку: умудраецца пісаць нават у перапынках паміж двума пасяджэннямі. А мне неабходна настроіцца, і я саджуся за пісьмовы стол толькі тады, калі ў дэталях бачу сітуацыю, калі кожны нюанс паводзінаў персанажа для мяне да галюцынацыі бачны і зразумелы. Затое калі ўжо я пачынаю пісаць, то пішу, як правіла, вельмі хутка. Так, напрыклад, «Трыбунал» напісаў — у чарнавым, вядома, варыянце — даволі хутка. Праўда, да гэтага давялося нямала надумаць, павагацца, пасумнявацца...

— Як пачалося ваша супрацоўніцтва з тэатрам імя Янкі Купалы?

— Як і ў кожнага драматурга. У 1951 годзе я напісаў драму «На досвітку» і прынёс яе ў тэатр. Тут я сустрэўся з вельмі таленавітым рэжысёрам і добрым чалавекам К. Саннікавым, творчае супрацоўніцтва з якім дало мне надта многа. Ён умеў працаваць з аўтарамі, мог беспамылкова вызначыць і схільнасці, і здольнасці іх. Асабіста мне, тады яшчэ зялёнаму пачаткоўцу, К. Саннікаў адкрыў многія прафесійныя сакрэты сцэны.

— Дык вас у тэатры адразу ж абласкалі?

— Каб жа так. Тэатр на галоўным рэжысёры не канчаецца. Ёсць яшчэ акцёры, ды кожны — індывідуальнасць! Ёсць у купалаўцаў адзін дастаткова значны акцёр, якому ўвесь час не падабаліся мае п'есы. Трэба было паслухаць, што за абвінавачванні супроць мяне ён адшукваў, якімі грахамі надзяляў. Праўда, яго калегі не дужа надзялялі падобныя нападкі. Як не ўспомніць добрым словам Барыса Платонава, чалавека наколькі таленавітага, настолькі ж сумленнага. Менавіта яго аўтарытэтнае слова вельмі часта служыла мне рэальнай падтрымкай. І наогул, мне здорава пашанцавала з тэатрам. Дзякуючы яму мне пашчасціла супрацоўнічаць з такімі карыфеямі сцэны, як Глебаў, Платонаў, Дзядюшка. Малодшым акцёрам варта было б павучыцца ў іх уменню ствараць сцэнічныя вобразы, ляпіць характары. Цяпер часта бачыш, як малады выканаўца старанна іграе... сітуацыю — дае мадэль уласных паводзін у пэўнай мізансцэне. Платонаў і Глебаў (асабліва яны!) доўга, настойліва шукалі непаўторныя характэрнасці абранаму імі персанажу. А як яны

Занадта доўгі ўступ. Сябе я разумею — я кахаю. Мяне трывожыць іншае — як ставіцца яна. Я баюся не за сябе. Трэба ўзважыць усеназіранні за ёй за апошнія дні.

І так.

Я зрабіў ёй прапанову месяц назад. Тэрмін для роздуму дастатковы, улічваючы, што яна дзяўчына з галавой і разумова даволі развіта. Пасля амаль месячнага перапынку першая сустрэча мяне крыху занепакоіла. Прыехаўшы ў Мінск, яна не пазваніла мне. Калі ж я прыйшоў да яе ў інстытут, яна сустрэла без цеплыні. Стрыманасць яе ўлічваю, аднак мне здалося, што тут больш чым стрыманасць. Магчыма, яна абыякава да мяне? А калі ўзважыць тыя абставіны, у якіх яна была першыя дні? Прыехала. Кватэры няма. Знайсці не так лёгка. У інстытуце беспарадак, прынялі не зусім па-людску. Гэта, безумоўна, магло адбіцца на яе настроі. Але чаму яна не пазваніла мне? Хай бы параілася. Можа, баялася турбаваць? (Яна так сказала.) А можа, дзявочая сарамлівасць не дазволіла? Магчыма.

Вечарам таго ж дня:

Я нагадаў ёй пра нявырашанае пытанне. Канчатковы адказ паабяцала даць праз два дні. І вось серада — 5 ліпеня. Я чакаў гэтага дня з нецярплівасцю. Сустрэўся. Тэмы размоў калейдаскапічна мяняліся. Спачатку я не рашаўся спытаць яе, чакаў — а вось яна сама пачне. Але дзе там. Я зразумеў, што яна не пачне, і зусім апраўдана. Аднак адчувалася, што яна разумее мяне — я чакаю нечага. Тое ж самае і з майго боку. Бачу — трэба пытанне ставіць напрамік. Так і зрабіў.

Хаця ў голасе, у тоне, у нязграбнасці фраз адчувалася нясмеласць, робасць, няўпэўненасць і нават трывога, я рашыўся так, як, мабыць, рашаецца чалавек на нешта вельмі рызыкоўнае — «или грудь в крестах, или голова в кустах». Яна адказала не адразу. Вельмі доўга (мне здалося з год) яна раздумвала. Я заўважыў, што хоць яна і стараецца трымацца, але міма яе волі праяўлялася нейкая нервовасць, хваляванне, нерашучасць, ваганне. Яна некалькі разоў намервалася нешта сказаць, але гэтае слова застравала недзе ў горле. Мяне гэта вельмі непакоіла. Яе ўзрушанасць перадалася мне, і я стаў заўважаць у сабе нервозныя дрыжыкі. Чаму яна вагаецца? Сумняваецца ў маіх якасцях чалавека? Гэта яшчэ не так страшна. Ці сумняваецца ў сваіх пачуццях да мяне? Гэта, безумоўна, аргумент для адмоўнага адказу. Зусім сур'ёзны, і су-

праць яго нічога не скажаш, хаця для мяне гэта было б страшэннай непрыемнасцю.

Нарэшце Лена сказала: «Я согласна». І хаця я спадзяваўся на гэты адказ, чакаў яго, жадаў яго, але... Ён для мяне быў навіной. Радаснай навіной. Я нават крыху разгубіўся. Але якая гэта радасць!! Я шчаслівы! Аб гэтым я ёй і сказаў. Але што мне яна адказала:

— А для мяне не радасць.

— Што гэта азначае?

## 1945

# ТРОЕ

Іх было трое. Трое старых закадычных сяброў, калі можна назваць старымі пятнаццацігадовых падлеткаў. Жылі яны суседзямі на адной ускраіне вуліц невялікага гарадка на Дняпры. Вучыліся ў адной школе, разам пераходзілі з класа ў клас, «балелі» футболам і, вядома, здаралася так, што, ганяючы па вуліцы мяч, знячэўку выбівалі шыбы ў вокнах. Дзяцінства кожнага з трох было аднолькавае, як аднолькавыя былі ў іх інтарэсы, гульні, любімыя кнігі і любімыя героі. Летам любілі купацца ў Дняпры і асабліва — ныраць з высокіх дняпроўскіх круч. Любілі рыбаліць, і часта бывала, яны таямніча знікалі з дому на досвітку. А то, запасшыся харчамі, прападалі на два-тры дні ў прыдняпроўскіх лазняках, начуючы каля агню ці ў пахучых стагах. Надоўга застаюцца ў памяці гэтыя цудоўныя ночы ля кастра, і зорнае неба, і ціхі таямнічы плеск дняпроўскіх хваль, і руплівае варкатанне лягушак у лугавых калдобінах, і пігіканне спалоханых кнігавак, і крыкі асцярожных драчоў.

Узімку ж любілі лыжныя прагулкі па тых мясцінах, дзе даводзілася начаваць летам. І хоць замецены снегам луг, агалены сівернымі халоднымі вятрамі кустарнік з наледзянелым голлем і закаваны моцным лёдам Днепр не ўяўлялі асаблівага хараства, але гэтыя ж мясціны паўставалі ў вачах сяброў у летняй красе, з зеленню, пахамі, птушыным крыкам і цвірканнем скачкоў, і хлопцы дамаўляліся наступным летам абавязкова наведацца сюды. Асабліва ж любілі катацца на лыжах з высачэнных дня-

проўскіх берагоў. І тут яны як бы спаборнічалі між сабой у смеласці, выбіралі спускі як мага круцей, дзе язда была больш падобнай на палёт ці на скачок. Завадзілам заўсёды быў Сцяпан, але і другіх двух нельга было папракнуць у баязлівасці ці няўмельстве. Вучыліся яны таксама аднолькава, не так каб вельмі вызначаліся сярод іншых, але і бацькоў у школу не даводзілася выклікаць. Здаралася, што і тройкі зрэдку наведвалі іх сшыткі, калі крыху больш, чым трэба, прагульвалі. Так яны вучыліся і сябравалі, і дружба іх нічым не азмрачалася: ні крыўдамі, ні сваркамі. Вядома, былі і спрэчкі, не без гэтага і сярод добрых сяброў, ці мала каму здаралася аступіцца, але спрэчкі заўсёды завяршаліся мірным пагадненнем.

Так яны скончылі па сем класаў. Пасля сямігодкі іх дарогі крыху разышліся. Сцёпка рашыў сам (так ён гаварыў і так яму здавалася) стаць машыністам на паравозе. А выбраў ён гэту прафесію невыпадкова. Бацька яго, стары машыніст, аднойчы пасля сканчэння Сцёпкам сямігодкі, параіўшыся з маткай, сказаў:

— Ну, Сцяпан, табе ўсё роўна няма чаго рабіць, давай паедзем са мной на паравозе, замест прагулкі. Не лішне праветрыцца пасля школы.

І Сцяпан паехаў. Даводзілася яму ездзіць з бацькам і раней, але тыя разы неяк так здаралася, што бацька быў увесь час заняты, і яму некалі было звяртаць увагу на сына. У гэты ж раз паравоз быццам з асаблівай павагай аднёсся да пасажыра і не турбаваў залішне машыніста, быў вельмі паслухмяным, і бацька, задаволены гэтым, быў крыху ўзрушаным, нібы пасля чаркі, больш ласкавым і ўважлівым да сына.

Калі цягнік выйшаў са станцыі і, набраўшы хуткасць, злёгку папыхваючы, стаў падмінаць пад сябе бясконцыя рэйкі, бацька расказаў, як ён у 1923 годзе ездзіў у Маскву, каб паступіць у школу машыністаў.

— Та-ак, брат, тады машыністам стаць не так лёгка было. У самую Маскву трэба было ехаць. Не тое, што цяпер. А я думаў так — калі машыністам не стану, то і жыць не трэба.

Бацька выглянуў за акно, і вецер растрапаў крыху пасівеўшыя яго валасы. Не паварочваючыся, ён беспамылкова намацаў рычаг і даў два кароткіх і, здавалася, сярдзітых гудкі. Цягнік, не сцішаючы ходу, імчаўся міма невялікага раз'езда, не звяртаючы ўвагі на чалавека ў чырвонай шапцы, які трымаў у руках жоўты сцяжок.

Бацька павярнуўся і, прысланіўшыся плячамі да акна, працягваў:

— А перад гэтым я пяць гадоў працаваў памочнікам машыніста. Быў такі — Карп Гаўрылавіч. Ох і здаравіла-чалавек. Ён сам бы мог шэсцьдзесят вагонаў цягнуць. Аднойчы мяне так шастануў, што гадзіны дзве адлежваўся ў тэндэры,— і, крыху памаўчаўшы, дабавіў: — А мой бацька яму пуд сала зацягнуў, каб толькі ўзяў памочнікам.

— А за што ж ён вас? — Сцяпан не адважваўся сказаць бацьку слова «біў» — гучэла гэта неяк недарэчна.

— За неакуратнасць. Павярнуўся неяк нязграбна і перакуліў яго фляжку з гарэлкай, а без гарэлкі ён хварэў.

Паспешна выстукваючы на стыках рэльсаў сваю бясконцую металічную песню, поезд імчаўся між палёў, дробных кустарнікаў і сасновых бароў, адкуль гэта песня звярталася назад гуллівым рэхам. І хутка мяняючыяся пейзажы, і гэты нястрымны імклівы рух з вецярком, і раздолле харастваа заносілі ў душу навізну, радасць і жаданне імчацца так некуды ў нябачаную даль.

Сцяпан любаваўся.

— Што, хораша? — спытаў бацька. Сцяпан прамаўчаў.

— Вось я ўжо езджу тут дваццаць гадоў і кожны раз не налюбуюся. Бачыш вось той гарадок? — бацька паказаў на прызрачныя чырванаватыя будыніны, віднеўшыяся за хмызняком каля ракі.— На маіх вачах вырас. Кожны год што-небудзь новае вырастае тут.

Бацька і сын стаялі побач і наглядалі за прасторам, які вялізным кругам паварочваўся наўкола цягніка.

Бацькаў памочнік — малады хлапчына, прычыніў дзверцы топкі, выцер рукі аб пакулле і, выглянуўшы ў акно з другога боку, сказаў, як бы пытаючы:

— Пад'язджаем ужо, Сцяпан Сцяпанавіч?

Бацька ўсміхнуўся чамусьці і адказаў:

— Нут-ка, шумні, Васіль. Хай сустракаюць.

Васіль, як відаць, чакаў гэтага і, не даязджаючы да семафора, прывітальна падняўшы руку, пацягнуў за рычаг гудка. Паравоз, збаўляючы ход, загуў працяжна, урачыста, сакавіта, з адчуваннем уласнай сілы. Цягнік падыходзіў да станцыі. На пероне замітусіліся, заспяшаліся, зарухаліся людзі, нібы ўзрадаваліся даўно жаданаму госцю. Паравоз спыніўся, выпусціў лішкі пары і часта-часта зачмыхаў, нібы засопшыся бягун-велікан.

З вагонаў высыпаў натоўп з чамаданамі, куфэркамі, партфелямі, карзінкамі, мяшкамі, з радаснымі крыкамі, смехам, пацалункамі. Беспарадкавая бегатня, мітусня нагадвала ўстрывожаны мурашнік. Вялізныя дзверы вакзала ўсмакталі ў сябе значную частку гэтага рухавага натоўпу, і на пероне стала свабодней.

Праз некалькі хвілін паравоз запыхкаў усё часцей і часцей, чмыхнуў парай, затым развітальна гукнуў і, павольна паварочваючы вялізнымі коламі, рушыў з месца, зноўку ў пуць-дарогу. На пероне зарухаліся, запавялліліся, замахалі рукамі, хустачкамі, і ўсё гэта нагадвала святочнае, радаснае. З рэпрадуктара над вакзалам наўздагон цягніку несліся вясёлыя гукі бадзёрага маршу.

Гэта паездка і вырашыла далейшы лёс Сцяпана. Дні два ні бацька яму нічога не гаварыў, ні ён бацьку. Нарэшце Сцяпан аб'явіў:

— Сабірай, бацька, мяне ў школу машыністаў.

Сцяпан Сцяпанавіч на гэта задаволена ўсміхнуўся і, абняўшы сына за плечы, сур'ёзна сказаў:

— Ну, малайчына, сынок, парадаваў. Я, вядома, спадзяваўся на цябе.

Сябры Сцёпкі выбралі сабе іншыя жыццёвыя шляхі: Юрка паступіў у педвучылішча, а Косця — у водны тэхнікум.

Праз год у час канікулаў яны сустрэліся, родныя адзін другому. Дружба прадаўжалася па-ранейшаму, толькі ў паводзінах, паставах з'явіліся новыя рысы — рысы дарослацці і ўласнай вартасці. На гэты раз ім не суджана было разлучыцца. Прыйшла вайна.

Прыйшлі немцы, і горад стаіўся, замоўк, прыціх, нібы справіў хаўтуры і чакаў яшчэ нечага больш жудаснага. На вуліцах ні песень, ні смеху, як бывала, ні працоўнага ажыўлення. А калі і праходзіў дзе чалавек, то ішоў панурым, уцягнуўшы галаву ў плечы, быццам чакаючы ўдару з-за вугла. Нават дзеці, якія заўсёды напаўнялі вуліцу сваім гоманам, крыкамі, гульнямі, некуды зніклі. Сумота і нейкі цяжар прыдавілі, прыціснулі горад да сырых берагоў Дняпра, і здавалася, вось-вось з яго грудзей вырвецца пакутлівы стогн, жалоба ці праразлівы і грозны кліч. Па горадзе шасталі немцы на матацыклах альбо на аўтамашынах, уздымаючы за сабой клубы пылу. Па вечарах з боку бальніцы, якую яны ператварылі ў казарму, чуліся п'яныя крыкі, непрыемныя чужыя песні і стрэлы па вокнах бліжэйшых дамоў. Людзі там не спалі

і, праклінаючы распаясаўшыхся бандзюкоў, хаваліся на ноч у падвалах. Ночы былі жудасныя. Людзі лажыліся спаць і не ведалі — сустрэнуць яны раніцу ці не.

Так ішлі дні, марудныя, цьмяныя, сумотныя. Хлопцы не ведалі да чаго прыкласці рукі, за што ўзяцца. Дома не хацелася нічога рабіць — ні папраўляць, ні майстраваць. Пайсці — не было куды. Спрабавалі гуляць у шашкі, але без ахвоты і інтарэсу,— хутка надакучыла.

Ішлі тыдні яшчэ больш надакучлівыя, нудныя. Кожны дзень паўзлі чуткі, бязрадасныя, жудасныя. Там — немцы наступалі; доўга ўжо не чутно ні гарматнага гулу, ні выбухаў — фронт адкаціўся недзе далёка. Тут штодня: забралі, арыштавалі, расстралялі, проста забілі, аграбілі, спалілі. З'явіліся нейкія з белымі павязкамі на рукавах, з нахабнымі і п'янымі тварамі. Яны шнýралі па дварах разам з немцамі, хапалі што пад руку трапіць, шкуралі людзей, пагражалі зброяй, а то і білі моцна, да крыві.

Ішлі месяцы: сырыя, дажджлівыя, затым — сцюдзёныя, ветраныя, снежныя, марозныя і, нарэшце,— галодныя. Хлопцы хадзілі на базар, выменьвалі адзенне, дамашнія рэчы на хлеб, бульбу, прыслухоўваліся, прыглядаліся. Зноў паўзлі чуткі: пад Масквой немцам далі, затым — у наваколлі ўзрываліся масты, ляцелі пад адхон эшалоны, знаходзілі трупы забітых немцаў, гарэлі зрэдку склады, знікалі паліцэйскія. Гэта ўжо было весялей. Але поўнага задавальнення не прыносіла. Пачуўшы такую навіну, хлопцы ўхмыляліся, хітравата падміргвалі адзін другому, шапталіся, затым хмурнелі, уздыхалі.

Але ўсяму прыходзіць канец. Прыйшоў канец і іхняму бессэнсоўнаму, бесперспектыўнаму празябанню ў руплівым чаканні нечага невядомага. У пачатку студзеня сорак другога года хлопцы вымушаны былі ўбачыць такое, што пакінула глыбокі шрам на памяці, такі рубец на сэрцы, які ніколі не зажыве, ніколі не забудзецца і будзе вечна сачыцца кроўю.

Раніцою, калі маці заканчвала тапіць печку, а Сцёпка толькі распачаў падшываць лямцам валёнак, у хату ўскочылі двое паліцаяў.

— Сабірайся і выходзь на вуліцу! — яшчэ з парога крыкнуў адзін з іх, нізенькі, каржакаваты, лупаючы пукатымі вачамі з чырвонымі павекамі. Маці азірнулася і, нічога не разумеючы, стаяла каля печы, трымала ў ру-

ках ганчурку і не знаходзіла месца куды б яе кінуць. Сцёпка застыў з іголкаю напагатове.

— Ну, чаго вылупіліся, ці глухія?

Другі паліцай узяў карэц, зачарпаў з вядра вады, напіўся і, іранічна хмылячыся на сябра, падтаўхнуў:

— Ну, хутчэй!

— Дык жа куды? За што? — устрывожана спытала маці.

— Там убачыш. На гарадской плошчы вам сёння канцэрт будуць паказваць,— і засмяяўся тоненька, яхідна.

Маці, нібы адказ гэты быў сур'ёзны, сказала:

— Дык жа як жа мне? Я ж яшчэ печку не выпаліла.

— Гэта мы ўраз...— паліцай, які толькі што напіўся вады, узяў вядро і, не раздумваючы, чухнуў усю ваду ў печку. Гэта надало рашучасці першаму. Ён вылаяўся і закрычаў па-бабску праразліва:

— Доўга я буду важдацца з вамі? Апранайцеся, а то голымі вытаўхаю ў каршэнь!

Маці моўчкі накінула на галаву хустку, не завязала яе, апранула старую бацькаву ватоўку.

— Ну, а ты?

Сцёпка адарваў лямец, прышыты некалькімі ніткамі, і лёгка сунуў нагу ў валёнак.

Першай выйшла маці. Паліцай зладзейскім вокам акінуў хату і нездаволена сплюнуў. Сцёпка зачыніў дзверы.

Выйшлі на вуліцу. Дзень выдаўся ясны, марозны, пад нагамі рыпеў белы бліскучы сняжок. Па вуліцы людзі ішлі дробнымі групкамі, неахвотна, панура пазіралі на выламаныя вокны магазінаў, на цёмныя сумрачныя выямы ў памяшканні былой школы, белыя сцены якой былі абсмалены, і чорныя плямы над вокнамі нагадвалі нядаўнія пажары. На вокрыкі і лаянку паліцаяў і немцаў не звярталі ўвагі, як бывае дарослы чалавек праходзіць міма дварняка, які захлёбваецца з падваротні брэхам, а на яго нават позіраў шкадуюць. Паліцэйскія і немцы ішлі па баках вуліцы і сачылі, каб людзі не хаваліся ў двары.

На гарадскую плошчу Сцяпан прыйшоў разам з Юркам і Косцем. Там ужо стаяў натоўп, абкружаны салдатамі. Людзі прадчувалі нешта нядобрае. Сцяпан спачатку не заўважыў збудаваную сярод плошчы шыбеніцу з нарыхтаванымі на ёй дзвюма петлямі. А ўбачыўшы гэта, ён уздрыгануўся, некалькі разоў азірнуўся ў розныя бакі, быццам шукаў падтрымкі, апоры.

У хуткім часе прыехала аўтамашына. З невялікага ку-

зава, падганяемыя штуршкамі прыкладаў, саскочылі двое з завязанымі ззаду рукамі. Іх адвялі і паставілі пад віселььняй. Ззаду натоўп пацясніўся, пашчыльнеў, Сцёпка стаў прабірацца наперад. Калі ён пралазіў міма высокага сутулаватага чалавека, той затрымаў яго, узяўшы за плячо, і няласкава сказаў:

— Куды ты лезеш, хлопча? Не трэба табе на гэта глядзець.

Другі хтосьці сказаў:

— Хай глядзіць і памятае.

Сцяпан шмарганууў плячом, але далей не пайшоў. Недалёка ад Сцяпана, крыху правей, сярод пярэдніх стаяла старэнькая жанчына ў шэрым паношаным паліто. На плячах у яе адчуваўся цяжар год, і яна ад гэтага грузу крыху сагнулася. Белая, сівенькая галава яе была непакрытай. Нешта знаёмае здалося Сцяпану ў гэтай жанчыне. Напружваў памяць, успамінаў — дзе ж ён яе бачыў. Калі яна павярнулася налева (гаварыла нешта стаяўшай побач жанчыне), то Сцёпка са здзіўленнем пазнаў сваю настаўніцу — выкладчыцу рускай мовы і літаратуры — Тацяну Маркаўну. Пазнаў яе не столькі па твары, колькі па пенснэ з танюсенькім залатым ланцужком за вухам. «Як яна змянілася, пахудзела... і зусім сівенькай ужо стала»,— з жалем падумаў Сцяпан.

Двое салдат уссадзілі на машыну афіцэра. Залезшы ў кузаў, ён змахнуў прыліпшы да шыняля снег, некалькі разоў прытопнуў, аббіваючы яго з ног. Звярталі на сябе ўвагу ярка начышчаныя боты. Абвёўшы натоўп хуткім позіркам, ён пачаў гаварыць, расцягваючы словы ледзь зразумелай скаверканай рускай мовы.

— Ваенны палявы суд германскі армія прыгаварыў іх,— афіцэр тыцнуў пальцам назад,— на смерць. Гэта бальшавікі і камуністы, якія...

Далей Сцяпан не дачуў. Высокі сутулаваты чалавек, які стаяў ззаду, закашляўся. Кашаль быў такі моцны, што, здаецца, выварочваў вантробы. Чалавек, захлёбваючыся, хапаў халоднае паветра, а ад гэтага кашаль не цішэў, а ўзмацняўся. Сцяпан чуў, як у яго грудзях хрыпіць і булькае. Ён агляну́ўся, паглядзеў у твар чалавеку і здзівіўся яго худобе — бледны, шчокі ўпалыя, пад вачамі сінія-сінія кругі, на вачах слёзы ад кашлю. «Хворы,— падумаў Сцяпан,— відаць, прастудзіўся»,— і перавёў позірк на тых, што стаялі пад віселььняй.

Адзін з іх крыху вышэй сярэдняга росту, з высокім ло-

бам, чорнымі зблытанымі валасамі і энергічным, даўно нябрытым тварам. Ён смела аглядаў натоўп, быццам шукаў знаёмых. Затрымліваўся на тварах людзей, уважліва вывучаў, правяраў іх годнасць. На ім была брудная з рыжаватымі плямамі нацельная сарочка, расхрыстаная на грудзях, ватнія сцёганыя штаны і армейскія чаравікі без шнуркоў і, як відаць, без шкарпэтак. Стаяў ён роўна, спакойна, расставіўшы ногі, і нікольні не адчувалася па яго выглядзе, што яму засталося жыць усяго некалькі хвілін. Здавалася, што і мароз яго не кранаў.

Другі — ніжэйшы, зусім малады — юнак гадоў семнаццаці-васемнаццаці, белавалосы, хударлявы, стройны. Сцяпан толькі цяпер пазнаў у гэтым юнаку Шурку Зарубіча — аднашкольніка. (У мінулым годзе, калі Сцёпка вучыўся ў сёмым класе, Шурка канчаў дзесяты.) Апрануты ён быў у нацельную сарочку, чорныя простыя штаны і чаравікі таксама без шнуркоў. Ён стаяў, апусціўшы галаву, і як бы разглядаў свае чаравікі.

Старэйшы, быццам улавіўшы погляд Сцяпана, нахіліўся да Шуркі і нешта шапнуў. Юнак падняў галаву, выпраміўся і накіраваў свой погляд над галовамі людзей некуды ўдаль і ўвысь. Гэты погляд яўна падкрэсліваў знявагу да смерці. Сцяпан доўга не мог адарваць ад яго вачэй. Раптам немец схапіў Шурку і паспешна стаў піхаць яго на столік, што стаяў пад вяроўкай. Юнак не супраціўляўся. Кат хуценька, спяшаючыся, накінуў на шыю пятлю і выбіў столік. Юнак выцягнуўся, сударажна падняў ногі і апусціў. На шчацэ льдзінкаю бліснула адзінокая сляза. Сударга перадалася Сцяпану, яго скаланула, у вачах пацямнела, галава закружылася, у грудзях штосьці абарвалася і закалола, пад горла падкаціўся гарачы ком, стала цяжка дыхаць. На лбе выступіў пот, а ў вушах зазвінела, нібы пасля нечаканага ўдару.

Афіцэр крычаў:

— Германскі армія ідзе на ўвесь свет! Яна знішчыць камуністаў як адзін.

Таварыш павешанага крыкнуў на ўвесь голас:

— Брэшаш! Нам на змену сотні, тысячы прыйдуць!

Салдат, які стаяў ззаду, з размаху ўдарыў яго па галаве прыкладам, і палонны зваліўся. Кат падхапіў і павалок яго на стол. На снезе застаўся крывавы лапік.

Павесілі паўжывога.

— Ві ўсе дольжэн ісці работаць, дапамагаць нам. Дома

сядзець — дэзертыр. Работаць, каб мала думаць і болей есці хлеб,— закончыў афіцэр і саскочыў з машыны.

— Падавіўся б ты сваім хлебам,— пачуў Сцёпка над сабою шэпт, а затым кашаль.

Афіцэр павярнуўся, прыгледзеўся да натоўпу і накіраваўся сюды. Сцяпан спалохана падумаў, што немец пачуў шэпт. Не, ён заўважыў як Тацяна Маркаўна выцірала хустачкай слёзы пад пенснэ. Ён падышоў да яе і, схіліўшы на бок галаву, спытаў:

— А чаму ў вас слёзы? Ветру, здаецца, няма?

Старая настаўніца падняла галаву, выпрамілася якраз так, як той юнак пад вісельняй, і з такой нянавісцю паглядзела немцу ў вочы, што той адхіснуўся, пахмурнеў. Сказала надзвычай спакойна:

— Звяр'ё вы, каты, а не людзі.

Афіцэр размахнуўся і ўдарыў па твары настаўніцу, кволую, слабенькую, пасівеўшую ад старасці і клопатаў. Тацяна Маркаўна паваліласл ў снег, і немец некалькі разоў стукнуў яе ботам. Сцёпка памкнуўся наперад, але кастлявая рука балюча сціснула плячо.

— Ты што? — сыкнуў на яго чалавек з кашлем.

Страшна падумаць, што сталася б з гэтым вылюдкам, калі б за ім не стаялі салдаты з аўтаматамі напагатове.

— Разыйдзісь! Разыйдзісь, русішэ швайн! — крычаў афіцэр.

Вечарам Косця і Юрка былі ў Сцяпана. Лямпы не палілі. Яны доўга моўчкі сядзелі, уздыхалі, думалі. Сцяпан устаў і закурыў. Ён ужо курыў дома адкрыта — маці дазволіла. Заўважыўшы неяк, калі ён тайком закурваў, маці сказала:

— А не хавайся, сынок, куры. Бацькі няма, то хоць ты... — яна выцерла фартухом слязу,— хай мужчынам у хаце пахне.

— Вось і кончыліся нашы канікулы.

Хлопцы зноў уздыхнулі і прамаўчалі.

— Ну, што ж вы маўчыце, што думаеце?

— Ат, думай не думай, а справы нашы кепскія.

— А я думаю, што трэба работу шукаць. Нечага без справы сядзець,— Сцяпан прысеў ля акна. Косця ўсхапіўся, нібы ўджалены.

— На немцаў работаць? Павыдыхаюць яны раней, чым я на іх работаць стану.— Сцяпан усміхнуўся, але яго ўсмешкі ніхто не заўважыў: у хаце было ўжо цёмна. Ён

дадаў: — А работу такі прыйдзецца шукаць. Ды такую, за якую немцы добра плацяць,— і, зрабіўшы кароткую паўзу, растлумачыў: — За якую вешаюць нашага брата. Шуркі Зарубіча работу шукаць трэба.

— Так бы і казаў,— Косця супакоіўся.

Назаўтра адвячоркам да Сцяпана прыйшоў Юрка і моўчкі паклаў перад ім лісток паперы, на якім акуратным каліграфічным почыркам быў напісаны невялічкі вершык. Паглядзі, маўляў. Сцяпан прачытаў.

Ідзём на змену вам, героі,
Злажыўшыя галовы.
Плацілі вы сваёй крывёю,
Каб бачыць шчасце знова.
Ад вас мы гадам помсціць будзем;
Адвага ў сэрцы б'ецца.
І помсты вораг не забудзе —
Ракою кроў пральецца.
Ваш пост у баявым раду
Пустым не застанецца,
Шчэ сотні, тысячы прыйдуць,
Заняць каб ваша месца.

— Няўжо сам напісаў? — здзівіўся Сцяпан.

Юрка моўчкі кіўнуў галавою.

— Добра напісаў. Надрукаваць бы можна.

— А я думаю, што можна і ад рукі напісаць, а потым расклеіць па горадзе.

Сцяпан аж падскочыў.

— Юрка! У цябе ж залатая галава. А я дурань і не дадумаўся б.— Сцёпка стукнуў сябе далонню па лбе, а потым зусім сур'ёзна дадаў: — Абавязкова трэба зрабіць, хай ведаюць, што ўсіх ім не перавешаць. Калі расказалі аб сваім намеры Косцю, той аж свіснуў ад задавальнення, у вачах яго загарэліся агеньчыкі.

— Я ўяўляю сабе, як забегаюць паліцаі і фрыцы, калі ўбачаць нашу работу! — Косця зарагатаў на ўвесь голас, задзірыста, так, што і хлопцы не стрывалі. У той жа вечар яны павырывалі са старых сшыткаў чыстыя лісты і, шчыльна завесіўшы вокны, сталі перапісваць вершык Юркі. Атрымалася каля трыццаці экземпляраў.

Загаловак прыдумаў Сцяпан: «Заменім герояў». Доўга раздумвалі — як жа падпісаць яго, бо без подпісу ім здавалася работа не скончанай. Нарэшце быў знойдзен і подпіс. Прапанаваў Юрка — падпісаць трыма вялікімі літарамі С. К. Ю., што павінна было азначаць: Сцяпан, Косця і Юрка.

— Не, не гэта азначаць,— тут жа перабіў Косця,— гэта будзе азначаць: саюз камуністычных юнакоў,— для немцаў страшней.

На тым і згадзіліся.

Назаўтра, з самага ранку хлопцы пайшлі выконваць самую адказную, рызыкоўную частку задуманага плана. Абавязкі былі размеркаваны так: Юрка наглядаў за вуліцай і падаваў знак пачынаць ці папярэджваў аб небяспецы. Косця намазваў слуп ці плот клеем, які ён сам насіў у бляшанцы ў кішэні, а Сцяпан прыклейваў лісткі.

Справа была скончана хутка і без асаблівых прыгод. Гадзін у адзінаццаць быў прыклеены апошні лісток каля базару. Скончыўшы справу, хлопцы пайшлі. Не, не дадому. Вельмі ж ужо цікава было панаглядаць, як будзе дзейнічаць на людзей вершык. Якое ж расчараванне, якая крыўда напоўніла іх душы, калі яны прайшлі міма тых мясцін, дзе віселі іх лісткі, і ні каля аднаго нікога не ўбачылі! Людзі праходзілі раўнадушна, не звяртаючы аніякай увагі на тыя маленькія шматкі паперы. Праца іх і рызыка аказвалася марнай, недарэчнай, нікому не патрэбнай. Хлопцы прыйшлі дадому павесіўшы насы.

Асабліва балюча перажываў гэту крыўду Юрка: гэта ж яго верш, яго ідэя аказалася нікчэмнай. Яго крыўдзіла не як аўтара верша, а як чалавека, які ўсе свае шчырыя пачуцці, усё тое, што да болю кіпела ў сэрцы, паспрабаваў выказаць людзям, а яны аднесліся да гэтага так зняважліва-раўнадушна. Звычайна юнацкая натура асабліва ўспрымальная да гэтага, і абыякавасць людзей, калі яна паўтараецца некалькі разоў, сур'ёзна ўплывае на фарміраванне характеру, псуе яго, робіць замкнёным.

— Дзяцінства, і ўсё,— з'едліва кпіў ён з сябе.— Дзіцячая забава, і ўсё, а хацеў яшчэ, каб гэта перавярнула горад дагары нагамі. «Гэта будзе выбухам, які ўзварушыць усё наўкола»,— іранізаваў ён.— Тут трэба агнём пісаць, а не вадзяным чарнілам. А то захацеў здзівіць свет гэтымі абрыўкамі паперы.

Прыйшоў дадому і нават не стаў абедаць. Ляжаў на канапе і думаў. У галаву зноў і зноў прыходзілі з'едлівыя, колкія меркаванні. Затым памалу напрамак думак змяніўся. Хацелася выказаць вершам упэўненасць, што ўсё-ткі

Прыйдуць з усходу буры буйныя
з агнём і полымем, з маланкамі,
змятуць, сатруць пачвару брудную
з зямлі радзімай...

У апошні радок не прыходзіла рыфма. Ён доўга і без поспеху падбіраў словы.

У сенцах нешта загрукацела, затым бразнула клямка, і ў хату ўскочыла сястра Юркі — Ліля; узрушаная, бледная, спалоханая, яна спынілася сярод пакоя і часта-часта дыхала. Маці збянтэжана спытала:

— Ліля, што з табой?

Ліля набрала паветра поўныя грудзі, потым выдыхнула і амаль шэптам прагаварыла:

— Ой, мама, у горадзе што творыцца!.. Немцы і паліцаі азвярэлі, забіраюць, арыштоўваюць і тут на вуліцы вобыскі робяць.— І яшчэ цішэй дадала: — Па ўсім горадзе нехта лістоўкі расклеіў, ад рукі напісаныя.

Юрка віхрам усхапіўся з канапы і, як быў распранутым, выскачыў на вуліцу. Ён не ведаў, куды спачатку бегчы: туды ці да хлопцаў. Забег да Сцяпана, але таго не было дома. Адтуль ён пабег да бліжэйшага месца, дзе яны прыклейвалі лістоўку. Выскачыўшы на вугал вуліцы, ён заўважыў, як адзін паліцай саскрэбваў нажом са слупа лістоўку. Двое другіх рабілі вобыск у хныкаўшых перад імі дзвюх дзяўчат. Яны былі распрануты, паліто тут жа ляжалі на снезе, а паліцаі бессаромна абмацвалі дзяўчат. Юрка адступіў крыху назад і з-за вугла стаў наглядаць далей. Адзін з паліцаяў зняў у дзяўчынкі з рукі гадзіннік і схаваў у кішэню. Калі тая плаксіва стала прасіць вярнуць гадзіннік, паліцай пхнуў нагой ляжаўшае паліто і, вылаяўшыся мацерна, прыкрыкнуў:

— Забірай барахло і правальвай, пакуль не позна!

Адна з дзяўчынак падхапіла паліто і пабегла, на хаду апранаючыся. Другая — у якой толькі што адабралі гадзіннік — падняла паліто і, цягнучы яго па снезе, павольна пайшла ў бок Юркі. Першая дзяўчынка адбеглася крыху далей, затым павярнулася і паказала паліцаям язык. Гэта рассмяшыла Юрку. Раптам яго пацягнулі ззаду за сарочку. Юрка аглянўўся. Перад ім стаяў Косця — задаволены, хітры.

— Чаго стаіш тут разявіўшы рот? Бяжым да Сцяпана! — і ўжо па бягу прашаптаў па вуха: — Ну, брат, і нарабілі мы!

Прыбеглі да Сцяпана і ўсе трое, узрушаныя, радасныя, бадзёрыя, абняліся і, прытанцоўваючы, заспявалі:

Ах ты, Юрачка,
што не жэнішся...

Так пачалося іх падполле.

* * *

На чацвёртую лістоўку ў іх ужо не было паперы. Сцяпан рашыў пайсці ў нядзелю на базар і выменяць на бацькаву сарочку дзесятак сшыткаў. Доўга блукаў па базары — сшытка не відно было. Нарэшце ён заўважыў у натоўпе чалавека ў форме чыгуначніка, які пахлопваў па руцэ цэлым пачкам сшыткаў. Сцяпан некалькі разоў абышоў кругом чалавека, прыглядаючыся і не наважваючыся падысці, каб старгавацца. Нарэшце асмеліўся. Падышоў і нясмела спытаў:

— Прадаеце?

— Прадаю.

— Колькі вы просіце?

— За ўсе ці за штуку?

— За ўсе.

— Калі за ўсе, то са скідкай. Тут паўтара дзесятка. Ты чым будзеш плаціць, маркамі ці рублямі?

— Не, я хачу выменяць на сарочку.— Сцяпан выцягнуў з-пад палы сарочку.

Чыгуначнік нават не паглядзеў на сарочку, а сказаў:

— Калі на сарочку, то табе, браток, трэба здачу даваць, а ў мяне ні капейкі. Можа, ты сшыткаў болей возьмеш?

Сцяпан, не задумваючыся, адказаў:

— Калі ёсць, давайце.

— Тады, браток, трэба зайсці да маёй хаты. Я тут недалёка жыву, вунь каля пераезда,— чыгуначнік павярнуўся і ўжо на хаду паказваў пальцам: — Вунь там, тут зусім недалёчка.

Сцяпан завагаўся.

— Не, да хаты я не пайду.

— А чаго ты баішся?

— А чаго мне баяцца?

— Ну вось... Сшыткі, браток, зараз не так лёгка знайсці. Калі трэба, то пойдзем.

Сцяпан рушыў следам. Калі выйшлі з натоўпу, чыгуначнік спытаў:

— Ці не Сцяпанаў ты сын?

Сцяпан здзіўлена зірнуў на чыгуначніка, хацеў зманіць, але, убачыўшы добразычлівы пагляд чыгуначніка, сказаў праўду:

— Ага.

— Я-ткі бачу, што па абліччы падобны. Ты што, вучышся дзе?

Сцяпан разгубіўся.

— Не, не вучуся,— але хутка спахапіўся,— думаю паступіць.

Сцяпан не заўважыў, як у чыгуначніка на імгненне паявілася і знікла хітраватая ўсмешка.

Дома чыгуначнік даламжыў яшчэ з дзесятак сшыткаў, а сарочку, нават не разварочваючы, адклаў убок, толькі сказаў:

— Сарочка, бачу, добрая. Якраз мне прыгадзіцца. На свята адзець. Хутка пасха.

Пры выхадзе чыгуначнік падзякаваў і прапанаваў:

— Калі яшчэ трэба будуць сшыткі, то ты заходзь проста да мяне, на базар не хадзі. У мяне яны заўсёды будуць.

Сцяпан падзякаваў і пайшоў дахаты, задаволены ўдачай.

Ён нічога не падазраваў.

* * *

Цэлы дзень хлопцы пацелі над тэкстам новай лістоўкі. Літаратурна-публіцыстычны запас іх паступова вычэрпваўся. То яны збіваліся на паўтарэнне фраз, што былі ўжо ў першых лістоўках, то выходзіла так сярдзіта, што для поўнай яснасці не хапала толькі лаянкі. А хацелася, каб было і культурна, і коратка, і змястоўна. Нарэшце тэкст быў напісаны. Асноўнай думкай лістоўкі было сцвярджэнне і ўпэўненасць у тым, што армія акупантаў, якая складаецца з бандзюкоў, зладзеяў і рабаўнікоў, якія проста на вуліцы распранаюць жанчын, каб забраць сабе паліто ці гадзіннік, разуваюць старых на марозе, забіваюць дзяцей,— такая армія не можа разлічваць на перамогу. Канчалася яна заклікам ісці ў лясы да партызан, заклікам да помсты.

Расклейваць даводзілася з большай асцярожнасцю і меншай колькасцю экземпляраў. Працавалі ў суботу пад вечар, калі хадзіць па горадзе яшчэ не забаранялася, а наступіўшы паўзмрок у выпадку небяспекі даваў магчымасць своечасова ўцячы. Хлопцы расклейвалі лістоўкі, напісаныя на свежай, добрай паперы, і не ведалі таго, што заўтра іх работа ўжо не будзе тайнай, не ведалі таго, што кожны лісток у тых сшытках меў асобую ледзь прыкмет-

ную, для таго, хто цікавіўся, адзнаку: тыя сшыткі прадаваліся на базары невыпадкова.

Лістоўкі, якія тройчы паяўляліся на платах, слупах, дзвярах пад'ездаў, узрушылі звычайных жыхароў горада, але і расшавялілі нямецкую камендатуру, а праз яе і паліцыю. Віноўнікаў настойліва шукалі і паліцаі, і гестапа праз сваіх агентаў. Але не толькі гестапа шукала гэтых смельчакоў.

Назаўтра зранку маці пайшла на базар ці ў царкву (куды хадзіла час ад часу), і Сцяпан вымушаны быў застацца ў доме адзін. Ён выйшаў на двор, стаялі ўжо цёплыя красавіцкія дні, і пачаў майстраваць ручку для рыдлёўкі. Неўзабаве ўжо трэба было засяваць агарод. Заняты работай, Сцяпан і не заўважыў, як адчынілася калітка і на двор зайшоў чалавек. Ён некалькі хвілін моўчкі наглядаў за юнаком і нарэшце кашлянуў, каб даць знаць аб сваім прыходзе. Сцяпан спалохана азірнуўся. Перад ім стаяў той самы чыгуначнік, які прадаў яму сшыткі.

Сэрца, прадчуваючы нешта, трывожна закалацілася.

— Здарова, гаспадар! — з ноткай іроніі прывітаўся чыгуначнік. Сцяпан нерашуча адказаў на прывітанне.

— Мо пойдзем у хату?

— Там нікога няма.

— А мне ніхто і не трэба. Да цябе справа ёсць.

Зайшлі ў хату. Госць падазрона акінуў вокам пакой і, не чакаючы запрашэння, сеў каля стала, захінуўшы перад тым запавеску на акне.

— Ну, як вучоба?

— Я яшчэ не вучуся.

— А навошта ж ты купляў сшыткі?

— Спатрэбяцца,— адказаў Сцяпан спакойна і абыякава, але сэрца палахліва сцялася.— Ну, калі справа якая ёсць, то гаварыце, бо мне некалі,— у Сцяпана быў такі наіўны і праўдзівы выгляд, што чыгуначнік ухмыльнуўся ў вусы.

— А я аб справе і гавару,— госць зрабіў паўзу і, паківаўшы галавой, пранізваючы Сцяпана калючым позіркам, прагаварыў: — Дрэнны, браток, з цябе падпольшчык, калі так лёгка цябе знайсці.

У Сцяпана на імгненне вочы зрабіліся вялізнымі, шырокімі, але зараз жа звузіліся, сашчурыліся.

— Ты не палохайся, я свой. Зайшоў перадаць табе паклон ад бацькі.

Сцяпан разгубіўся, не ведаў, верыць яму ці не.

— Ён зараз там, бронецягнік водзіць. Нядаўна адтуль чалавек прыйшоў.

Сцяпану хацелася ад радасці кінуцца да гэтага чалавека, падзякаваць яму, пацiснуць руку, нават пацалаваць, але асцярожнасць шаптала на вуха: «Не вер яму, не вер. Не паддавайся на хітрыкі». І Сцяпан не падзякаваў, не кінуўся з радасцю да чалавека, а стаяў моўчкі, ніжэй патупіўшы галаву. І толькі раз ён паласануў госця такім злосным і разам з тым дапытлівым позіркам, што здавалася, нібы ён хацеў разрэзаць гэтага чалавека папалам, каб заглянуць яму ў нутро, даведацца — хто ён: ці можна яму верыць, добры гэты чалавек ці гэта проста агідны шпік?

Госць зразумеў думкі юнака.

— Не верыш?.. Ну, гэта ўжо справа твая. Толькі з лістоўкамі пакуль што пачакайце. Можаце праваліцца,— падняўся з крэсла і працягнуў руку, моцную, жылістую з уеўшыміся ў скуру за доўгія гады работы на чыгунцы чорнымі пылінкамі.— Ну, бывай, мне некалі,— і, моцна пацiснуўшы руку, ён выцягнуў з кішэні пакунак, загорнуты ў паперу.— А сарочку вазьмі назад, памяняеш на хлеб.

Гэта апошняе дзеянне чыгуначніка зламіла насцярожанасць і недавер'е Сцяпана. Паверыў. І ўжо на выхадзе сказаў расчулена, шчыра:

— Дзякуй вам, вялікі дзякуй.

— Няма за што. Калі што будзе цікавіць, то ты дарогу да мяне ведаеш. Толькі глядзі — аб тым, што я да цябе заходзіў, нікому, нават сябрам. Чуеш? — гэта было сказана строга. І ўжо адчыняючы дзверы, дадаў:

— А сшыткамі пацікаўся, яны цябе выдалі. Я ведаў, што ў вас хутка скончыцца папера, вось я і прадаў вам гэтыя сшыткі.

І пайшоў.

Сцяпан куляю падбег да паліцы, узяў увесь пак сшыткаў і пачаў уважліва разглядаць іх. Доўга нічога не заўважаў. Потым у вочы кінулася тое, што кожны аркуш у сшытку быў крыху падрэзаны зверху і знізу. Ад гэтага адкрыцця па ўсім целе разлілася гарачыня. Так, сшыткі паказалі дарогу. «Толькі каму?» — апасліва думаў Сцяпан. Трывогі і страху чамусьці не было, верылася, што па гэтай дарозе прыйшоў свой чалавек. Так яно і было.

Праз тыдзень, гэта было ўжо незадоўга перад Першым маем, Сцяпан наведаўся да чыгуначніка і, пасля таго, як расказаў яму пра ўсё (імён сяброў на ўсякі выпадак не сказаў), атрымаў інструкцыю на будучае. Ад яго ён за

пазухай нёс пачак сапраўдных лістовак, зробленых у друкарні.

У той жа вечар ён паведаміў хлопцам, што ім наладжана сувязь з падпольнай партыйнай арганізацыяй. Дзе, як і з кім — не сказаў, а калі хлопцы намерыліся дапытацца, ён коратка адрэзаў:

— Не пытайце, не маю права расказваць, кан-спі-рацыя,— апошняе слова ён сказаў мнагазначна, з расстаноўкай.

Хлопцы не настойвалі. У іх вачах Сцяпан вырас. Ён такі і сапраўды пасля гэтых дзвюх сустрэч з чыгуначнікам, пра якія цэлы тыдзень нікому не гаварыў, носячы ў тайне свае надзеі і свае апасенні, намнога пасталеў, пасур'ёзнеў.

Так гэта тройка прымкнула да арганізаванага падполля, так яны знайшлі сабе кіраўнікоў, старэйшых таварышаў-камуністаў.

* * *

Май і чэрвень прайшлі без асаблівых здарэнняў, калі не лічыць, што якраз у ноч на Першае мая нехта ўзарваў вадакачку на станцыі і, апрача іх, яшчэ хтосьці расклеіў лістоўкі з першамайскім загадам таварыша Сталіна.

Асабістае жыццё хлопцаў плыло па-ранейшаму. Праўда, за вясну яны схуднелі, выцягнуліся. Асабліва Юрка. Ён паблядне́ў, пад вачыма паявіліся сіняватыя кругі, скулы завастрыліся, а калі на рэчцы распранаўся, то відно было, як пад нацягнутай скурай рухаліся рэбры. Найбольш кепскае становішча з харчамі было ў яго сям'і. Уласнага агарода не мелі, і з першых дзён акупацыі ім прыходзілася выменьваць харчы на адзенне. З горам папалам зіму неяк пражылі, а вясною часцяком прыходзілася жыць упрогаладзь. Працаваць да немцаў ні маці, ні тым больш Юрка не думалі ісці. Ды і заработкі-то былі такія, што на іх не пражывеш, а сумленне страціш.

Косця і Сцяпан спрабавалі тое-сёе прыносіць ім. Маці Юркі разы са два ўзяла было прынесенае, перад тым упэўніўшыся, што прынеслі з ведама бацькоў, а на трэці раз падзякавала і катэгарычна адмовілася, папярэдзіўшы, што калі ў другі раз яны паўтораць свае прынашэнні, то яна назаўсёды пакрыўдзіцца на хлопцаў.

— Цяпер кожнаму цяжка пражыць і ад сябе адрываць нельга. Каб больш гэтага не было,— цвёрда сказала яна.

Тады Сцяпан і Косця сталі па чарзе часцей зазываць Юрку да сябе і хоць той саромеўся, аднекваўся ад абеду ці вячэры, яго ўсё-ткі прымушалі перакусіць.

І Сцяпан і Косця таксама не так багата жылі, але ўласны агарод у гэтую ліхую хвіліну быў значнай падтрымкай. Летам хлопцы часцяком хадзілі ў рыбу з вудкамі. Лавілі ў адну пасудзіну і пры дзеляжы стараліся большую частку ўлову выдзеліць Юрку, а то зусім зносілі ўсю рыбу яму дадому.

Аднойчы, пасля няўдалага лову, Косця кінуў на бераг вудачку, сплюнуў і, пляснуўшы вобзем шапку, стаў распранацца.

— Я ім зараз пакажу, чарцям, дзе ракі зімуюць. Пахаваліся ў норы і хоць бы хны, а тут глытай слінкі.

Ён шчубоўкнуўся з берага ў ваду і даў нырца. Доўга яго не было відаць, кругі ўжо амаль разышліся. Нарэшце з вады паказалася галава, і, не паспеўшы як след вынырнуць, ён узрушана і таямніча крыкнуў:

— Хлопцы, глядзі,— і выставіў з вады ствол рускай трохлінейнай вінтоўкі.

Сцяпан і Юрка мігам з'ехалі з абрыва к вадзе, і усе трое, учапіўшыся ў вінтоўку, пацягнулі яе да бліжэйшага куста.

— Вось гэта ўлоў! — У Сцяпана загарэліся вочы. Перад імі ляжала спраўная, амаль зусім не паржавелая вінтоўка, толькі крыху запэцканая ілам. Як яна трапіла сюды? Якая яе гісторыя? Мо хто кінуў яе ў Дняпро, збаяўшыся ворагаў? А мо загінуў тут у гэтых хвалях, сцякаючы крывёю, пахаваўшы і яе разам з сабою? Аб гэтым ведала толькі яна сама — гэта маўклівая сведка ўпартых і цяжкіх баёў сорак першага года. І суджана ж было ёй зноў з'явіцца на свет. Які ж лёс чакае яе далей? Хто мог сказаць аб гэтым? Ніхто. Толькі трапіла яна ў смелыя рукі адважных хлапцоў з рызыковымі галовамі і гарачымі сэрцамі. Косця з мокрымі зблытанымі валасамі, з кроплямі нявысахшай вады на голым целе, прысеўшы па кукішкі, з захапленнем глядзеў як Сцяпан, стаўшы на адно калена, спрабаваў адчыніць затвор вінтоўкі. Спачатку затвор не паддаваўся, потым глуха скрыгануў іржаўчынай, павярнуўся, туга падаўся назад і неахвотна бразнуў металам. Усе трое нахіліліся, разглядаючы нутро вінтоўкі. У магазіннай каробцы віднеўся патрон з зеленаватымі лапінамі на гільзе. Сцяпан крысом сарочкі выцер прыліплы да шчыліны іл, паспрабаваў ачысціць кінцом заржаў-

леныя мясціны, потым, зачыніўшы затвор, перавярнуў вінтоўку, разгледзеў яе з усіх бакоў і сказаў:

— Не, вінтоўка яшчэ добрая. Страляць будзе.

Юрка, які сядзеў побач з Косцем, моўчкі ўзяў у Сцяпана вінтоўку і, ашчарэпіўшы ствол худымі кастлявымі рукамі, гушкануў яе, нібы ўзважваючы, і, як бы гледзячы некуды ў далячынь, задуменна прагаварыў:

— Хоць аднаго немца, ды заб'ю з гэтай вінтоўкі. Уласнымі рукамі! Не я буду! Хай ведаюць.

Але яму не давялося забіць немца з гэтай вінтоўкі. Жыццё прадыктавала зусім іншае. У той жа вечар, калі Сцяпан пайшоў да чыгуначніка, хлопцы атрымалі зусім другое заданне, больш важнае, больш сур'ёзнае.

У горадзе была буйная машынна-трактарная майстэрня, якая да вайны абслугоўвала некалькі сумежных раёнаў па рамонце трактароў, аўтамашын, камбайнаў і іншых сельскагаспадарчых машын. Гэту майстэрню немцыператварылі ў базу па рамонце танкаў і аўтамашын, падбітых нашымі войскамі на фронце. Тэрыторыю майстэрні немцы абгарадзілі высокім дашчатым плотам так, што нельга было бачыць, што там робіцца. Але тыя, каго асабліва цікавіла, чым жа займаюцца акупанты за гэтай агароджай, праведалі, што майстэрня ператварылася ў ваенны аб'ект, адкуль ішло папаўненне сіл варожай арміі. Было таксама вядома, што рамантуюць машыны самі немцы, а абслугоўваць нямецкіх салдат, занятых рамонтам, прымусілі ваеннапалонных, якія там, за агароджай, і жылі. Мясцовых рабочых не выкарыстоўвалі, а значыць, і прабрацца туды было амаль немагчыма. А прабрацца туды трэба было абавязкова. Прабрацца і разбурыць кацельны цэх, тым самым не даць магчымасці ворагу аднаўляць сваю тэхніку, якая была выведзена са строю цаной вялікай крыві.

Праз Сцяпана хлопцам было даручана знайсці праход на тэрыторыю майстэрні ці завязаць сувязь з ваеннапалоннымі. А як вырашыць усё астатняе — пакажа жыццё і канкрэтныя ўмовы.

Гэта ўжо было сапраўднае баявое заданне, не простае расклейванне лістовак. Сцяпан перадаў сябрам апошнія парады чыгуначніка даслоўна.

— Ну, глядзі, Сцяпан. Гэта вельмі важная справа, і трэба абавязкова зрабіць. Гэта заданне фронту. Будзьце сапраўднымі камсамольцамі. Перадай прывітанне сябрам і напомні, што яны камсамольцы.

За выкананне гэтага задання хлопцы ўзяліся з усёй

энергіяй юнакоў, якія да гэтага часу, як ім здавалася, нічога не рабілі ў дапамогу тым, хто няспынна змагаўся з ворагам.

Майстэрня была не ў самым горадзе, а наводшыбе, на беразе Дняпра.

Назаўтра Сцяпан, Косця і Юрка цэлы дзень круціліся каля яе платоў. На варотах стаялі два немцы-вартавыя. Больш аховы нідзе не было. Трэба было заглянуць туды, за плот. Косця прарэзаў нажом дзірку ў адным месцы плота, а потым усе трое па чарзе разглядалі, стараючыся запамятаць усё бачанае. Тое, што яны ўбачылі, не ўзрадавала. За дашчатым плотам на некаторай адлегласці быў другі плот — двайная густая сетка з калючага дроту. Па калідоры між плота і калючым дротам прахаджваліся немцы-вартавыя. Увесь двор майстэрні быў загружаны танкамі, цягачамі, трактарамі і аўтамашынамі розных марак.

Прарэзалі дзірку ў другім месцы, з боку Дняпра,— вынікі былі аднолькавыя. Хлопцаў гэта засмуціла. Яны адышліся далей ад плота, каб абдумаць, што рабіць далей. Цяжка было што-небудзь прыдумаць. Сцяпан сядзеў па-турэцку — ногі ў клетку, аблакаціўшыся на калена, і, падпёршы рукой падбародак, думаў з сур'ёзным выглядам, нібы рашаў, як бывала ў школе, цяжкую задачу па алгебры. Юрка наглядаў, як Косця, гуляючы нажом, зрабіў ім некалькі маніпуляцый. Але гэты несур'ёзны занятак адцягваў увагу ад мэты. Косця са злосцю некалькі разоў усадзіў нож у зямлю. Нож уваходзіў лёгка па самую рукаятку. Лёза вычышчалася аб суглінак, ззяла на сонцы зайчыкамі. Апошні раз ён з усёй сілы ўсадзіў нож і выкалупнуў камяк зямлі. Гэта навяло Юрку на думку.

— Ідэя! — крыкнуў ён, хлопнуўшы сябе па лбе.

Сябры чакальна ўставіліся ў яго вочы.

— Ідэя,— паўтарыў Юрка.— Трэба зрабіць падкоп, ноччу,— і ён вылажыў свой план: адзін будзе наглядаць у шчыліну за вартавым, а двое другіх па чарзе будуць арудаваць рыдлёўкай. Сцяпан недаверліва кіўнуў галавой.

— Добра. Адзін плот мы так возьмем. А дрот? Там, брат, ужо не так лёгка — вартавыя заўважаць.

— План ненадзейны,— згадзіўся і Косця.

Доўга сядзелі, але прыдумаць нічога не змаглі. Сонца, плавячы блакіт неба, хілілася ўжо да захаду, пакідаючы за сабой рэдкія і празрыстыя пасмы хмарак у паднябессі. Недзе свідраваў паветра адзінокі жаўранак і потым, як

падпечаны, падаў дзесьці паблізу ў траву. Лёгкі вецярок ледзь-ледзь калыхаў сцяблінкі мятліцы, гуляў з адзінокім кусцікам цімафееўкі, галоўкі якой панынаківаліся, нібы камусьці падтаквалі, згаджаючыся.

— Ведаеце што, хлопцы? — прапанаваў Сцяпан.— Пойдзем пакупаемся, можа, на свежую галаву хутчэй прыдумаем.

Яны падняліся і, абняўшыся, рушылі да берага. Распрануліся. Косця з разгону, як заўсёды, нырнуў. Сцяпан, пераадольваючы супраціўленне вады, разграбаючы яе рукамі, смела ўвайшоў з галавою ў раку. Потым вынырнуў, страсянуў мокрымі валасамі і, мерна ўзмахваючы рукамі, паплыў да супроцьлеглага берага. Юрка асцярожна ўвайшоў у ваду, змачыў рукі, расцёр пад пахамі, плёснуў прыгаршчамі на грудзі і толькі тады паплыў. Пасля берагавой спякоты вада сціскала, скоўвала цела, прымушала напружвацца мышцы. Сцяпан хацеў пераплысці на другі бераг Дняпра, але, прымерыўшыся, палічыў, што бераг яшчэ далёка, паленаваўся і павярнуў назад. Плыў прыгожымі сажонкамі, апусціўшы твар у ваду, і толькі ў такт пад правую руку паварочваў галаву набок, каб набраць паветра. Пакуль плёхаўся туды і назад, плынь аднесла яго ніжэй таго месца, дзе распраналіся, і ён вылез на бераг якраз супроць майстэрні з дашчатым плотам на высокім абрыве. Ён паглядзеў уверх, прабег вачыма па плоце злева направа, як бы прыкідваючы адлегласць, і раптам пагляд яго спыніўся на канцы шырачэзнай трубы, якая тырчэла з абрыву паўметровым жэрлам значна ніжэй плота. З канца трубы невялічкім раўчуком цурчэла брудная вада. Ён азірнуўся на пустынны бераг, сэрца затрапятала.

— Здаецца, знайшоў,— падумаў ён і пабег да хлопцаў, якія таксама ўжо вылезлі на бераг.

Дзён праз пяць у тым месцы, адкуль Сцёпка заўважыў канец вадасцёкавай трубы, ноччу да берага прычаліла лодка. З лодкі выйшлі чацвёра. Адзін з іх быў значна вышэй за іншых з павольнымі ўпэўненымі рухамі дарослага чалавека. Ён лёгка ўсцягнуў лодку на бераг, выняў з яе два цяжкіх пакункі, туга перавязаных тэлефонным шнурам, паставіў іх каля ног і паклікаў да сябе астатніх. Тыя наблізіліся і сталі цеснай кучкай. Высокі гаварыў шэптам.

Стаяла мёртвая цішыня. Толькі недзе далёка на тым беразе квакалі лягушкі, ды зрэдку чуўся ўсплеск шчупака, які выйшаў на начное паляванне. У гладкай паверхні Дняпра, як у люстры, адлюстроўваліся тысячы трапяткіх

зорак. А ўглыбіні віднелася тоненькая серабрыстая стружка патапулага маладзіка. Над ракой падымаўся лёгкі празрысты туман; цягнула цеплынёй. Усё навокал было напоўнена мірным спакоем. Недзе ў вышыні за плотам, мусіць, у горадзе кукарэкнуў певень і адразу замоўк, нібы спалохаўшыся свайго прастуджанага, надтрэснутага голасу.

— Глядзіце не згубіце запалак. Ды будзьце асцярожны, не спяшайцеся. Запаліце шнур і, калі пераканаецеся, што ён загарэўся добра, мігам назад. Зразумелі? Ну, пайшлі. Высокі хлопнуў далонню па плячы аднаго, другога, і ўсе чацвёра пакарабкаліся ўверх па абрыве.

Першым палез Сцёпка. Следам за ім у трубе схаваўся Юрка.

Косця і высокі сядзелі на кукішках ля трубы і, прытаіўшы дыханне, прыслухоўваліся да цішыні. Шолахі ў трубе паступова цішэлі і нарэшце зусім зніклі. Затым з'явіліся новыя гукі: спачатку няроўна з перабоямі, а потым раўней і аднастайней зацурчэў з трубы ручаёк, жалобка і манатонна. Замлелі ногі.

Высокі ўстаў, спусціўся ўніз, падрыхтаваў вёслы і спіхнуў лодку на ваду, але так, каб яе не знясло цячэннем.

У трубе была непраглядная цемра. І хоць труба была параўнаўча шырокай, але паўзці ў ёй было нязручна, тым больш што перашкаджаў цяжкі пакунак з узрыўчаткай, які ўвесь час прыходзілася перасоўваць перад сабой. Рукі і ногі коўзаліся па слізі, якая нарасла за многія гады. Ад агіды па целе прабягалі дрыжыкі.

Часта даводзілася спыняцца, каб адпачыць, і тады Юрка натыкаўся на Сцёпкавы ногі. Цемра таміла вочы, хацелася разглядзець хоць што наперадзе, але як бы ні напружваў зрок, нічога не было відаць, нават уласных рук.

Калі ў першыя хвіліны, як толькі Сцяпан залез у гэту цемрадзь, на душы адчувалася трывога і нават страх, то цяпер гэта пачуццё знікла, нібы сцерлася марудным ходам часу ў гэтай цемры, брыдкай слізззю і стомай. Сцяпану здалося, што ён ужо знаходзіцца тут гадзіны дзве. Ён спыніўся адпачыць і рашыў закурыць. Дастаў партсігар, выцягнуў губамі папяроску і чыркнуў запалку. Прыкурыў і на некалькі секунд пасвяціў наперадзе сябе. Труба цёмнай дзіркай уходзіла, здавалася, у бясконцасць. Перад носам палахліва прапоўз нейкі жук, хаваючыся ў ціну. Па целе

прабеглі дрыжыкі, нібы ад электрычнага току. Запалка патухла.

Папаўзлі далей. Сцяпану здавалася, што сёння труба стала намнога даўжэй, чым у той раз, калі яны разам з Юркам лазілі, каб разведаць, куды яна вядзе. Той раз іх падганяла цікавасць, і таму час ішоў значна шпарчэй. Зараз жа ім хацелася хутчэй дабрацца да мэты, і таму шлях здаваўся страшэнна доўгім. Апрача таго, зараз трэба было соваць перад сабой кілаграмаў восем узрыўчаткі. А гэта патрабавала сіл і часу.

Нарэшце труба скончылася. Хлопцы дасягнулі калодзежа, адкуль і пачыналася труба. Цяпер заставалася падняцца наверх, якраз у кацельную. Замест металічнай крышкі над калодзежам ляжалі два аполкі.

У кацельнай нікога не было. Майстэрня працавала толькі днём. Ноччу ж тут было пустынна. Як відаць, усе спалі, за выключэннем вартавых, што хадзілі па двары ля калючага дроту.

Хлопцы вобмацкам выбралі месца найбольш зручнае і, як ім здавалася, найбольш важнае, адразу ж пачалі прыладжваць туды ўзрыўчатку. Калі справа была закончана: шнур размотаны, адзін канец яго з узрывацелем трывала замацаваны ў адтуліне ва ўзрыўчатцы, а другі канец агалёны так, каб можна было запаліць, Сцяпан загадаў Юрку адпраўляцца назад.

— Справа скончана. Я падпалю і таксама назад. Ідзі.

Юрка паслухмяна знік у калодзежы. Да самага апошняга часу Сцяпан быў у стане нейкай раўнавагі, трывожнага спакою. Але, калі засталося толькі падпаліць шнур, гэта раўнавага і спакой зніклі, у грудзях ёкнула і затрапяталася. Думкі ліхаманкава пераскоквалі з аднаго на другое. Сцяпан не разумеў, чаму ўзрушанасць так нястрымана захліснула ўсю яго істоту. Ці то ад усведамлення, што заданне будзе выканана, ці то ад прадчування страшэннага выбуху, які неўзабаве скалане ўвесь горад. Недзе ў глыбіні душы нарастала пачуццё радасці, помслівага задавальнення. Хай ворагі адчуюць, што не быць ім гаспадарамі чужой зямлі. Ва ўсякім разе Сцяпану хацелася, каб гул гэтага выбуху пачулі тыя людзі, якія зараз на фронце ляжалі ў акопах ці адбівалі варожыя атакі, каб зразумелі яны, што і тут не даюць спакою ворагу, і тут яго б'юць, і тут з ім змагаюцца.

Сцяпан чыркнуў запалкай і падпаліў бікфордаў шнур. Ён чыхнуў і зашыпеў, выдуваючы струменьчык полымя.

ликий мастер, художник. Он очень тонко схватил особенности, типические черточки современной ему жизни. Он уловил характеры, образы, сумел связать в единое целое, в сюжет то, что рассосалось по всей России. По всей великой России были рассыпаны люди: и хорошие и плохие — чеховские люди, и он, чтобы ярко показать Россию своего времени, сводил их в один дом, в одну семью, сталкивал их между собой, а всех вместе — с жизнью, которая шла мимо них, иногда против них...

Люди эти «чего-то» хотели, к «чему-то» стремились, чувствовали новое, ждали его, но были слепы, как котята, они не знали, что такое «что-то», где оно, куда идти, ждали нового и боялись его. Люди обреченные, осужденные, и им новое несло гибель.

Удачно схваченное время, которое несло, подготовляло новое, напоминает рассвет, когда еще солнце не взошло, а ночь кончается, и в этих сумерках очень трудно различить предметы, различить что-либо вообще.

И вот эти люди, не знающие ни цели, ни своего места, барахтаются в этих сумерках и доживают свои последние дни, как снег весной. Не только старый, зимний снег, но и молодой, только еще вчера выпавший, свежий, чистый, белый. Он растает и станет слезой.

В наш век все не то, и люди и обстановка. Наш век динамичен, быстр. Люди сознают цели, люди не чувствуют того, что угнетало, парализовывало, омрачало. Люди раскованны, для них ясны цели, видны широкие горизонты, потому, что сумерки кончились и определенно наступил день. День долгий, ясный. Бывают бури, грозы, ветры, но все это видно, понятно.

А, следовательно, они уже не похожи на слепых котят.

Изменяется содержание жизни, событий, целей. Не поиски и ожидания, а борьба.

Значит, иные образы, иные характеры, иные люди, люди, освещенные дневным светом, и не силуэты на фоне предрассветного неба. Характеры определенные, черты яркие, тени заметные, не скраденные сумерками. Иное содержание требует иной формы, иной обстановки и иного пафоса. Какого?

А это уже надо искать, видеть, находить. Нужно быть талантом и уловить так, как уловил Чехов свое время.

## Переэмнасць жыцця

Сын: Яшчэ многа, многа не зроблена. Нельга марнаваць часу. Пачнём... Хаця не... *(Задумаўся.)* Не пачнём, а прадоўжым... Жыццё не стаіць на месцы.

.....*(ашаломлены, сеў)*: Вы ведаеце? Што вы сказалі? Вы прабачце мне, я прыгадаю вашага бацьку. Ён якраз перад смерцю сказаў такую ж фразу: «Яшчэ многа, многа не зроблена. Нельга марнаваць часу... Пачнём, хаця не... не пачнём, а прадоўжым. Пачыналі перада мной...»

Сын: У гэтым і заключаецца бяссмерце народа. Тое, чаго не паспелі закончыць бацькі, закончаць іх дзеці... Ну, прадоўжым.

## Потомок Пришибеева

1. В зависимости от изменения условий, изменяются наследственные признаки.

2. Вот и Пришибеев... новый стал...

3. Нарисовать образ — потомок, новый вид от брака Пришибеева и Беликова (человек в футляре) в новых (наших условиях).

4. Сухой критик, репертком и т. д. Который никогда не смеется, никогда не озаряется, а обо всем судит с хладнокровным равнодушием (лягушачья кровь).

Боится всего нового, как Беликов, и громит все, что кажется «а вдруг», как Пришибеев. Скучная, серая и злая натура.

## Для аднаактоўкі пра мір

Стары рабочы, француз-сацыяліст падтрымлівае палітыку ўрада. Працуе на заводзе і выступае супраць забастоўкі, накіраванай супраць выпуску ўзбраенняў. Ён хоча дапамагчы сваёй працай сыну, які ваюе ў В'етнаме. Піша яму аб гэтым пісьмо. Але атрымлівае паведамленне, што сын забіты. Ён зразумеў, што, падтрымліваючы ўрад, дапамог памерці сыну.

— Ну як у вас у калгасе працуюць?
— Працуюць...
— Я ведаю, што працуюць, але ж, відаць, не ўсе аднолькава?
— Што ж вы хочаце. Вазьміце лес, ён таксама роўны не бывае.

— Цяпер усе хітрымі сталі. Вазьмі курыцу. Як яе не спутай, а яна клюе, клюе і выблытаецца, хоць дзесяць вузлоў будзе.

Андрэй Кручкоў. Расстрэльвалі яго, але ён кінуў у твар забойцам адзежыну, збег і арганізаваў баявы атрад.

Сама маленькая, а рыдыкюль — паўметра на паўметра. Непрыгожа, затое модна і... смешна.

— У нас свабода веравызнання. Ты молішся аднаму богу, а я другому. Ты прэміям, а я гарэлцы. Каму якая справа да гэтага?
— Так. Для такіх ерэтыкоў, як ты, не шкодзіла б зноў увесці інквізіцыю.

Ходзіць вакол, як кот каля гарачай кашы.

— Што гэта за працэсія ідзе?
— Не бачыш, хаўтуры.
— А каго там хаваюць?
— М. Паслядовіч і М. Горцаў «Кветку Цянь-Шаня» хаваюць. (Можна і «Атлантычны пакт»).

Не спявак валодаў голасам, а голас валодаў спеваком.

Звонко и отчаянно, надрывно-высоким голосом заржала лошадь, как бы прося пощады или сострадания.

Когда он подошел ближе, то оказалось, что это красивое лицо было до неприличия забрызгано веснушками. Хотелось вынуть из кармана платок и сказать: «Ну что вы, ей-богу. Возьмите и вытрите. Нехорошо ведь».

Он недоговаривал слов, как будто ему не хватало воздуха. Говорил торопясь, точно на нем была тяжесть.

Познать бесконечно малое также трудно, как бесконечно большое. Насколько мы проникнем в тайну атома, настолько же проникнем и в тайну вселенной в целом.

## ЦЕНИТЕЛИ ИСКУССТВА

*У афиши*

Техничка: А хорошая эта, как ее... «Хлеб наш насущный»?

Слушатель партшколы: Я смотрел. Ничего. Можно смотреть. Правда, некоторые артисты плоховато играют, но зато идейная штука. Это из периода колхозной жизни.

Техничка: Ну коли идейная то... (*И подумала*: «Надо у профорга спросить, что это за «идейная».)

Посетителю чайной понравилась официантка, но он не осмеливается сказать ей об этом. Просит жалобную книгу и пишет туда: «Вы мне нравитесь». Сунул ей книгу, натянул шапку и ушел.

«Будзеш так рабіць — у турму запішуць!»

«Выдумаюць яшчэ якую-небудзь вайну. Ім што».

«Гэта самае я другім растлумачыць магу, ведаю, як расказвалі, а вось сам не разумею». Так сказаў І. Вераб'ёў аб супярэчнасці грамадскай і прыватнай працы.

Эй ты, старая валёнка, сыдзі з дарогі, не перашкаджай! Старая валёнка — ды яшчэ летам. Нікому не патрэбная.

Больш чым дзіўна! Або гэта сімптом нейкай хваробы нервовай сістэмы, або прадчуванне чагосьці нядобрага, страшнага? Нібы вось-вось яно адбудзецца ці ўжо недзе адбываецца. 7.35—7.45 вечара 15 красавіка. Калі прадчуванне — праверу.

Вось стан такі: незвычайныя дрыжыкі ў нагах, нават падгінаюцца... Аслабленне мышцаў і паценне... Нібы кіс-

лата якая разлілася па целе, і асабліва адчуваецца яна ў мышцах ног, рук, у грудзях.

Паслала чужую фатаграфію, каб атрымаць ад яго атэстат з фронту.

«Хоць цікавая пастаноўка ў тэатры, але я глядзець не магу — спаць буду. А вось калі побач будзе сядзець цікавы мужчына, то хоць і палкамі кідай — не выганіш». Ася.

Зусім састругаўся чалавек.

## ПАЧАТАК ДА «КУЗЬМЫ»

— І трэба ж было яму ісці туды? Успомніш — душа баліць,— ён зрабіў паўзу, і відаць было, што чалавек душой перажывае нейкую непапраўную памылку, смяртэльную памылку, якую зрабіў вельмі блізкі і дарагі чалавек, якога ўжо не вернеш, а ўсё-такі ніяк нельга прымірыцца з думкай, што чалавека таго ўжо няма. Уздыхнуўшы цяжка, ён зноў пачаў апавядаць: — Вось ужо колькі год, як гэта здарылася, а мне ўсё не хочацца верыць таму, што яго няма — не можа гэтага быць, не такі ён чалавек быў. Ну як жа паверыць, калі самыя цяжкія часіны ён перажыў. Ды яшчэ як перажыў — зайздросціць трэба, а ўжо тады, калі ўсе небяспекі мінулі, ён павінен быў загінуць. Не павінен быў! Вось чаму не верыцца. Не верыцца яшчэ і таму, што я не бачыў уласнымі вачамі ні яго гібелі, ні трупа. А... А не бачыў, то нельга згадзіцца з думкаю аб яго смерці. Тым больш што мне даводзілася бачыць, як ён выходзіў проста з безвыходнага становішча...

Пайду пахуліганю,— вырашыў Вераб'ёў, якога нечым дапяклі. І пайшоў. На вуліцы, праходзячы міма дзяўчыны, ён ушчыкнуў яе за бок, чакаючы, што яна зараз жа абзаве яго дрэнным словам. А яна ўсміхнулася і даверліва-ласкавым тонам спытала:

— А скуль вы мяне ведаеце?

Гэтае нечаканае пытанне, зададзенае дабрадушным тонам, дарэшты прагнала яго кепскі настрой.

Вераб'ёў да выкладчыка:

— Кажуць, што Шнеерсон так прымаў экзамены ва

універсітэце: праўду яму гавораць ці няпраўду, ён сядзіць, слухае, маўчыць і не пярэчыць, а потым бярэ ручку і ставіць адзнаку. Дык хоць вы ўжо, калі мы будзем гаварыць што-небудзь не так, то скрывіцеся як-небудзь, каб бачыць, што я не туды гну.

Хая, студэнтка, прыехала на канікулы. На кухні бабуля ляпае каструлямі, патэльняй, нажамі. Потым пытае:

— Хая, ты, здаецца, любіла гарэлае?

## ДЛЯ «КРОКОДИЛА»

Делец: имел коня. По балансу числилась «лошадь». Она подохла, а он еще спустя два месяца выписывал фураж и даже предъявил счет на 200 рублей «за случку кобылы». И счет был оплачен «Лесдревхимсоюзом».

Они вышли на улицу. Солнце уже закатилось. Кучевые облака, сгруппировавшиеся над горизонтом на западе, скровянились, а небо стало не голубым, а червонно-фиолетовым. Еле слышно шелестел листьями пожелтевший клен. Тихо вечерело.

## У СТАЛОЎЦЫ

— Ты што сёння на першае браў?

— Як заўсёды — суп аўсяны.

— Ты глядзі, браток, не злоўжывай гэтымі супамі, а то хвост вырасце. Прыйдзеш на лекцыю і будзеш адмахвацца ад мух.

Селянін не хацеў перасяляцца з хутара ў вёску (яму адвялі не дужа добры ўчастак). Але яго прымусілі, прыціснулі, разарылі, і ён пасля няшчасця ў сям'і (памерлі жонка, дачка) стаў сапраўдным бандытам.

Думкі, якія выражаны былі вялікімі, задоўга раней з'явіліся ў самых звычайных людзей. Аўтарытэт асобы многа значыць.

Прайшоў дождж<br>ык. Стала свежа і лёгка. Нават верабей зачырыкаў бойка, сакавіта, звонка, нібы горла ён прапаласкаў гэтым дажджом. З лістоў звешваліся буйныя кроплі. Яны скочваліся і цяжка падалі на зямлю. Здавалася, што не гэтыя кроплі мерна стукацелі, а зелень, трава гучалі так.

— А скажы, ад чаго людзі старэюць?

— Як ад чаго? — сказаў хлапчук так, нібы гэта кожнаму даўно вядома і, канечне, яму таксама.— Ад таго, што гадоў многа.

— Не-е,— запярэчыла дзяўчынка,— не ад гадоў, а ад сонца.

Хлапчук, не зразумеўшы яе, падняў ледзь прыкметныя яшчэ броўкі, наморшчыў лоб.

— Як гэта, ад сонца?

— А вось так... Калі сонца ярка-ярка свеціць, дык людзі моршчацца, а тады маршчынкі і застаюцца, і людзі старэюць.— І дадала: — Людзі старэюць летам.

## СКВІТАЛІСЯ

Ля піўнога ларка паэт жучыць прадаўшчыцу:
— Паменей пены і вады.
На чытацкай канферэнцыі прадаўшчыца паэту:
— Вады паменей, меней пены.

Напісаць апавяданне аб тым, як у бамбёжку загінула маці (у падвале), а дзіця двух год памерла ля маці ад голаду.

Ён гаворыць так, як галодны есць. Галодны не перажоўвае і глытае цалкам кавалкі, так і ён не абдумвае і не стараецца правільна вымаўляць словы.

Кароткае апавяданне для «Вожыка» аб тым, як пісьменнік пазнаёміўся з вельмі прыгожай дзяўчынай, закахаўся ў яе, але тая не верыць яму толькі таму, што ў яго творах ніколі не гаварылася пра каханне. Не верыць, што ён — чэрствы чалавек — можа па-сапраўднаму пакахаць.

У Саюзе пісьменнікаў БССР.
1977 год.



А калі так? Бог — тройка, зямля — карэта, мы (чалавецтва) — седакі-пасажыры. Бог імчыць чалавецтва стрымгалоў, як і куды яму захочацца. І ўсё таму, што няма ў нас лейцаў, не закілзалі яго. І не зможам, бо бог — гэта абагуленыя жаданні, а выканаць іх усім і для ўсіх немагчыма: жаданні аднаго супярэчаць другому. Так, бог — гэта ўвасабленне чалавечых жаданняў і спадзяванняў. Яго няма як істоты, а ёсць паняццe. Вера — мера жаданняў.

У няведанні — спакой, у веданні — расчараванне. Набываючы мудрасць, усведамляеш бяссэнсіцу жыцця, яго нікчэмнасці, непамыснасці. Якое яго прызначэнне... І ўсё ж жывеш і ўсё ж хочацца пазнаць усё. Немагчыма? Хочацца немагчымага.

Талстой, верагодна, хацеў пературэсці ўсё вучэнне аб Хрысце і стаць, такім чынам, заснавальнікам новай — ісціннай веры. Стаць новым Хрыстом.

## 1949

## ДЛЯ П'ЕСЫ

Новы старшыня — прысланы з горада.
Рашыў ламаць старыя парадкі.
Працоўная дысцыпліна. Не хацелі ісці на работу. Займаліся сядзібай і гандлем. А к канцу просяцца на работу, аднак... Самая горшая работа для іх.

Драматычны анекдот: спачатку адмаўляўся, а цяпер просіцца, ды не дазваляюць.

Старшыня разлічыўся са старымі даўгамі. Расставіў людзей па месцах (можа, нават вярнуў таго-сяго на старое месца, адкуль той пайшоў пакрыўджаны).

На даўгі пусціў частку крэдыту. За што атрымаў вымову.

У аснову сюжэта ўзяць Арлоўскага і Серабранскага, свержанскага старшыню.

1. Сітуацыя з братам.
2. Пад суд за бульбу насенную.

3. Арыштаваны вярнуўся. Замах на старшыню.

4. Сын арыштаванага і дачка 2-й жонкі Арлоўскага.

5. Рахункавод: Колькі ты палучаеш? За 60 калгаснікаў? 1200 рублёў у месяц, а калгаснік 20 рублёў.

6. Заваяваў павагу сына арыштаванага. Паслаў на электрастанцыю...

7. У арыштаванага памерла дачка. Перад смерцю пыталася ў брата: — А праўда, што бацька злодзей? (Пасля гэтага замах.)

8. Той, хто не хадзіў на работу: «Я свой мінімум на сенакосе вырабатаю... Заадно і сена зараблю на 10 працэнтаў».

9. Пісьменнік. «Станоўчае і адмоўнае». «Новае са старым». «Заўтра Камунізм». «Перажыткі капіталізму». «Самая шчаслівая...» «Кансерватар і наватар», і г. д.

10. Жонка (1-я) старшыні. Сама кінула яго. Жывучы ў горадзе, зблыталася. Напісала пісьмо, што аліментаў у яго не патрабуе. Пісьмо... Што з ім, з пісьмом?

11. А можа, у яго дзяцей не было? А можа, з ім у горадзе жыў брат яго? Вучыўся? І прыехаў... і расказаў??? На жонку? А? А можа, другі яе муж філосаф? А? А ён сябра пісьменніка.

Звесці пісьменніка і філосафа! Як смешна яны могуць балбатаць, абагульняць у асяроддзі калгаснікаў і ў канкрэтнай абстаноўцы. Сатыра на адукаваных балбатуноў, дармаедаў... «Указуя перстом» на аб'ект — чалавека, яны «абагульняюць», філасофствуюць. Як над падвопытным кролікам. Чалавек-калгаснік думае, што тыя звар'яцелі.

В колхозах района всех лошадей и жеребят — 2700 хвостов, а райпотребсоюз привез на свою базу 5000 кнутов.

Беременная жена добивается от мужа обещания:
— Если рожу дочку — купишь в подарок пианино.
— А если тройню, то духовой оркестр,— обещает муж.

Папа вышел из-за своего стола. Он решил на минутку отвлечься от работы. Взял детскую заводную игрушку «танцующий пингвин», накрутил пружинку и опустил на пол. Пингвин покачивается, пританцовывает, а папа весело насвистывает ему в такт «Левониху».

Тем временем трехлетняя дочка взобралась на стул и с серьезным видом «работает» красным карандашом над папиной рукописью.

Когда большие политики, государственные мужи вникают в мелочи: чем кормить корову и где и сколько сеять кукурузы, то рядовой колхозник начинает задумываться о большой политике.

Или когда большие политики беспокоятся о мелочах, то рядовой колхозник начинает беспокоиться о большой политике.

«Я честен, когда свободен, а свободен тогда, когда я материально независим, обеспечен».

Придумав бога, люди вынуждены были выдумать и дьявола. Иначе — идея бога теряла всякий смысл. Создать культ Сталина и обойтись без Берия — немыслимо.

Передо мной лежит ее фотография. Очень хороший снимок. Глядя на него, чувствуешь ее присутствие здесь в комнате. Правда, не рядом с собой, а напротив. Кажется, будто перед тобой не снимок, а настоящая она сидит и смотрит на тебя своими черными выразительными умными и грустными глазами, глазами молодой, но уже не раз обманутой женщины, отчего взгляд у нее недоверчивый, серьезный, вопросительный и вместе с тем укоряющий. И потому, глядя на этот снимок, ощущаешь на себе холодок и чувствуешь себя виноватым перед ней. Да, виноватым, но об этом после.

Из черного, темного фона фотографии, как из темноты осенней ночи, рельефно, выпукло выделяется освещенное ее красивое лицо, совершенно открытые полные плечи. Из глубокого декольтированного платья, отороченного черной меховой каемкой, видна ложбинка между грудей. Туловище повернуто в полуоборот, будто подставляет одно плечо, круглое, упругое, для поцелуя. Черное платье сливается в одно с черным фоном вокруг открытых плеч личика. Волосы расчесаны на прямой пробор. Над гладким округлым лбом виток маленькой пряди волос.

Головка чуть наклонена набок, взгляд из-под лба едва заметно подернут грустью. Черные, чуть поблескивающие глаза, окаймленные и сверху и снизу ресницами, в упор, испытующе рассматривают тебя, пытаясь разгадать, добрая ли или плохая у тебя душа. И, кажется, ей так хочется, чтобы душа у тебя оказалась доброй. И от этого мне становится неприятно. Я чувствую, что у меня душа поганая, и я ее обманул. И мне совестно. Мне совестно пото-

му, что я ошибся в ней. Она оказалась куда лучше, чем я о ней думал. А я думал о ней плохое, грязное.

Мне совестно потому, что она ошиблась во мне. Она и уехала с убеждением, что я очень хороший человек с доброй душой и чистым сердцем. Мне совестно потому, что я не такой. Очень хороший снимок. В глазах ее невыносимый упрек.

Мы расстались с ней давно, и, признаюсь, я был доволен тем, что она уезжает. Не потому, что я ее разлюбил. Я ее вообще не любил, хотя бывать вместе с ней было приятно. Я испытывал удовольствие, бродя с ней по лесу или же купаясь вдвоем на реке. Я наслаждался, любуясь формами ее стройного тела. Да, она была красива! Она была и не глупа. Она умела красиво говорить, даже вдохновенно. Она была чувствительна к красивому, доброму, ласковому. И ко всему этому душа ее была очень восприимчива, и мне кажется, это только потому, что она очень мало видела и испытывала настоящей человеческой доброты, настоящей человеческой ласки. И в этом я, кажется, не ошибся. Я это понял с первых дней моего знакомства и почему-то думал, что люди справедливо не уделяли ей ни ласки, ни доброты.

И, может быть, потому, что у ней не было, ни чувствовалось той искорки девичьей невинности, которая так интригует нас, мужчин, которая способна зажечь в нас большое чувство. Любви не было. Может быть даже и потому, что у меня такая черствая натура, неспособная к любви.

Нет, не черствая, а извращенная натура.

## БЯССОННІЦА

Такое рэдка здараецца, але ж, як бачыце, здараецца часам...

Часцей за ўсё ад бяссонніцы пакутуюць людзі старога ўзросту. А яго ж гэтая бяда напаткала тады, калі яму ледзь пераваліла за чатыры дзесяткі год, калі ён уступіў у так званы росквіт творчых сіл і магчымасцей. Як і ўсякая хвароба, бяссонніца таксама выклікаецца нейкай прычынай. Праўда, ён не чуў, як да яго забраліся бацылы ці мікробы, але пачаў адчуваць сябе няважна, сімптомы хваробы праяўляліся ўсё часцей і часцей. Спачатку сніліся кашмарныя сны: блытаныя зводкі, якія вярнула вобласць

разам са строгім папярэджаннем, а аднойчы яму здалося ў сне, быццам ён не ведае, у якім годзе ён жыве — ці то ў 1929, ці то ў 1969. І нават калі прачнуўся, то доўгі час не мог прыйсці ў сябе і заставаўся ў недаўменні, пакуль не разбудзіў жонку і тая не сказала, што жыве ён у 1949 годзе. Неўзабаве кашмарныя сны скончыліся, і пачалася паласа бяссонніцы. Спачатку ён нават і не падазраваў, што гэта бяссонніца. Падкралася яна неяк ціхай сапай, знячэўку. Ён не спаў і думаў, аналізаваў, чаму яго раён штогод спускаецца ніжэй і ніжэй і набліжаецца да апошняга месца, у той час, як усе работы, усе кампаніі выконваюцца ў тыя тэрміны, як і ў мінулыя гады. Разам з тым, як раён у абласных зводках апускаўся ўсё ніжэй і ніжэй, прапарцыянальна падаў і яго аўтарытэт. Бо ён нейкае дачыненне да гэтага руху ўніз меў. Калі раён параўнаць з лодкай, то месца ў гэтай лодцы, якое займае Васіль Мікалаевіч Каліберaў, будзе карма, тут ён і рулюе. Так што думаць было аб чым. Думаў ён ноч, аналізаваў другую, а затым і трэцюю, і чацвёртую, а там як па нітачцы — кожную ноч не спіць, варочаецца з боку на бок, уздыхае, часам мармыча нешта сам сабе пад нос. З тыдзень, а мо і больш жонка цярпела ўсе гэтыя штуршкі пад бок, але нарэшце не стрывала і сказала:

— Сам не спіш, то хоць мне дай адпачыць. Круцішся ты нешта, нібы ўюн на скавaрадзе.

— Будзеш круціцца, калі работа на лад не йдзе,— вінавата апраўдваўся Васіль Мікалаевіч.

— Спі, ды і ўсё. Усё роўна ніхто не паверыць, што ты з-за работы начамі не спіш.

— Праўду ты кажаш, не паверыць,— уздыхнуў цяжка пакутнік пасля спачування жонкі.

— То ўзяў бы лепш ды якія-небудзь пасяджэнні прыдумаў, ці там нарады якія, або па тэлефоне ноччу тарабаніў бы. Ты ж усё роўна не спіш. І людзі б думалі, што чалавек сапраўды не спіць начамі з-за работы, і мне спакайней было б.

Жонка сказала гэта такім звычайным тонам, быццам тут і сапраўды нічога незвычайнага не было, і адвярнулася да сцяны.

— Эх, ты, прастата! — Васіль Мікалаевіч аж падскочыў з ложка.— Гэта ж геніяльна! Ну, вядома, геніяльнае, як заўсёды, зусім простае па задуме.

І з тых пор лодка, якой кіраваў Каліберaў, нібы трапіла ў вір,— закруцілася, завярцелася...

# НА СЕНАКОСЕ

Абкошваючы кусты, Платон зазяваўся і так загнаў касу ў купіну з пяньком, што ледзь выцягнуў яе назад. Уторкнуўшы кассё ў зямлю, ён пашкроб патыліцу і доўга дзівіўся на дзюбачку касы, нібы чакаў ад яе скаргу ці папрок, і, не дачакаўшыся, сплюнуў і вылаяўся.

— Так і на паўдня нам не хопіць,— буркнуў ён і, выціраючы рукавом пот на лбе, глянуў з-пад рукі на луг, расквечаны стракатымі дзявочымі кофтачкамі і касынкамі, запоўнены самымі разнастайнымі гукамі: пачынаючы ад раўнамернага стракатання касілкі, нябачнай адсюль з-за кустоў, бадзёрага смеху дзяўчат, якія зрэдку далятаў сюды, і канчаючы цвірканнем, шчоўканнем, піскам шматплемяннога насельніцтва насякомых, што так густа распладзіліся ў высокай траве заліўнога лугу. Доўга б, відаць, любаваўся Платон хараством бязмежнай зелені, каб яго не аклікнуў напарнік — Аўхім Ігнатовіч.

— Платон Сцяпанавіч! Дзе ты схаваў біклагу з вадой? Паміраю ад смагі.

Платон Сцяпанавіч таксама адчуў нейкае няпэўнае жаданне: ці то піць, ці то курыць. Ён нехаця павярнуўся і, соўгаючы нагамі толькі што скошаную траву, павольна паплёўся да куста, дзе была схавана біклага. Па целе разам з потам расплывалася млявасць, здавалася, нават косці растапіліся ад спёкі, як воск, і сталі мяккімі, гнуткімі.

— Ну, брат, і пячэ! Пот з цябе капае, нібы з таго сала на ражне,— з хрыпатцой у голасе зазначыў напарніку Платон і палез у куст па біклагу. Прапусціўшы некалькі глыткоў вады, асвяжыўшы прыемным халадком сваё нутро, Платон задаволена крэкнуў і перадаў біклагу Аўхіму, які паспеў ужо прылегчы пад кустом.

— Пагодка ўсталявалася нішто сабе, якраз пад сенакос,— Аўхім неяк нязграбна ўзяў пасудзіну, і вада выплеснулася на сарочку і штаны. Платон прысеў побач, выняў з кішэні капшук (хоць седзячы было вельмі няёмка, але ўставаць паляніўся) і, не спяшаючыся, скруціў цыгарку. Аўхім хацеў было скінуць сарочку і павесіць на куст, каб прасохла, але таксама паляніўся ўставаць і прымасціўся так, што галава была ў цяньку, а мокрую на жываце сарочку выставіў на сонца — хай сушыць.

— Адвык я, брат, ад фізічнай працы. Гадоў, глядзі, пяць, як за касу не браўся. Дзесятак разоў махнеш і гатоў, стаміўся,— Аўхім уздыхнуў, невядома чаму. Ці то ад таго,

што хутка томіцца, ці таму, што лёс павярнуўся да яго не тым бокам, прымусіўшы ізноў брацца за фізічную працу.

— І я таксама,— і Платон уздыхнуў, цюцелька ў цюцельку так, як і Аўхім.

Яны абодва аказаліся ў зусім аднолькавым становішчы пасля таго, як чатыры калгасы аб'ядналіся ў адзін. Платон Сцяпанавіч да гэтага працаваў рахункаводам, а Аўхім жа — кладаўшчыком, а ў гаспадарцы новых маштабаў такіх пасад ім не даверылі, вось чаму неяк неспадзявана ім давялося нехаця ўзяцца за косы.

## 1950

Ну і дзівак гэты Антоніо — ён заўсёды хоча есці. І раніцою, калі ўстае з пасцелі, і вечарам, калі кладзецца спаць. Не губляецца ў яго апетыт ні ў пахмурныя восеньскія дні, калі неба засцілаецца шэрымі хмарамі, падобнымі на нявыкручаную анучу, якою толькі што вымылі падлогу, ні вясною, калі блакітнае неба плавіцца на сонцы і пырскае па зелені лугоў стракатымі кветкамі, і ад свежага, як тое шампанскае, паветра, што бруіцца з гор у даліны, можна быць не толькі сытым, а і п'яным. Антоніо сапраўды — такі дзівак. Ён нават не заўважае гэтых цудоўных дароў прыроды, якімі так шчодра надзелены ваколіцы Неапаля, і, любуючыся якімі, можна забыць нават аб тым, што ты жывеш на зямлі — так усё падобна на нябеснае, райскае. Яшчэ больш дзіўна тое, што ў ім нейкім цудам спалучаюцца дзве якасці, якія, здавалася б, ніяк не могуць ужыцца ў цеснай душы аднаго чалавека. З аднаго боку, ён так майстэрскі іграе на скрыпцы, як толькі можа іграць чалавек з самай узнёслай паэтычнай натурай, здольнай бачыць, разумець і адчуваць. І нават ствараць сапраўднае хараство, якое прыводзіць нават да замілавання чэрствага чалавека. І з другога боку, ён можа разглядаць самыя разнастайныя рэчы з пункту гледжання — прыгодна гэта для яго ці не. Часта можна бачыць, як ён крочыць па дарозе ад сяла да сяла ў пошуках невядома чаго — ці то выпадковай работы, ці то выпадковага пачастунку за ўдалую ігру на скрыпцы. Ідзе ён іншы раз і пільна ўглядаецца ў

прыдарожную зелень, заўважыць сакавітую расліну, нахіліцца, выскубе і пачынае жаваць, глядзіш, і непрыкметна скарачаецца адлегласць да наступнага сяла.

## 1952

Вечар. Гарадскі парк. Па алеях праходзіць моладзь групамі, парамі. А дзе моладзь, там весела. Недзе непадалёку з рэпрадуктара чуваць музыка. На сцэну выходзяць Таня з Зояй і садзяцца на лаўцы. Характэрнае для гэтай карціны — бадзёрасць. Фон сцэн, дзе ўдзельнічае Таня, таксама абавязкова бадзёры.

Таня: Многія нашы дзесяцікласнікі паздавалі экзамены ў інстытуты і папрыязджалі.

Зоя: Ага, я і забыла сказаць табе. Твой паклоннік, Косця, таксама прыехаў. Нядаўна сустрэла, ішоў з вакзала.

Таня: Ну, што ён?

Зоя: Ад радасці на сёмым небе. Як жа — мхатавец!

Таня: Значыць, вытрымаў конкурс?

Зоя: Гаворыць, што і сам не спадзяваўся. На адно месца было па дваццаць чалавек.

Таня: А я спадзявалася.

Зоя: Што ён паступіць?

Таня: Інакш і быць не магло. Ён з пятага класа толькі аб гэтым і марыць. Ён і ў сне сніць толькі Станіслаўскага і Качалава. А калі чалавек здолен так палюбіць што-небудзь, то ён абавязкова павінен дабіцца свайго.

Зоя: Але ж ён і цябе любіць, значыць, таксама даб'ецца?

Таня: Кінь ты пра пустое гаварыць. *(Устаюць, выходзяць.)*

З рэпрадуктара гучыць песня «Хороша страна Болгария, а Россия лучше всех...». Некаторы час сцэна пустая. Затым па алейцы злева направа праходзіць група вучняў рамеснага вучылішча.

Першы: А мой брат паступіў у Маскоўскі машынабудаўнічы інстытут.

Другі: Значыць, інжынерам будзе.

Першы: Вядома, не слесарам.

Трэці: Затое ты будзеш слесарам.

Другі: Хто што любіць.

Першы: Слесары таксама трэба. Як без інжынераў, так і без слесараў завод не можа працаваць.

Другі: Слесар — гэта рабочы. А рабочы — гэта галоўка, кулак.

Трэці: Ты хоць бы што-небудзь сваё сказаў, а то заўсёды паўтараеш словы бацькі.

Другі: Мой бацька слесар сёмага разраду, і я з ім згодзен.

Выходзяць. З правага боку з'яўляюцца Вася і Сцёпа — будучыя студэнты.

Вася: А інстытут, брат, абсталяваны што трэба. Не лабараторыі, а сапраўдныя цэхі. Самая навейшая апаратура.

Сцёпа: А заняткі калі пачынаюцца?

Вася: З пятнаццатага верасня.

Сцёпа: Значыць, яшчэ цэлы месяц разам гуляем.

Вася: Ба-а! Каго я бачу! Не пазнаю!

Уваходзіць яшчэ юнак гадоў 18-ці Аляксандр Горлаў.

Горлаў: Не пазнаеш? Магу адрэкамендавацца — курсант Ленінградскага ордэна Суворава і Чырвонага Сцяга ваенна-інжынернага вучылішча Аляксандр Горлаў.

Вася: Вось гэта голас. Па палёце птушку відаць — будучы слаўны генерал.

Горлаў: Бяры дальні прыцэл — маршал.

Вася: Я сумняваюся, ці будзеш ты генералам нават.

Горлаў: Чаму?

Вася: Не паспееш даслужыцца... Пакуль ты дабярэшся да генерала, адпадзе неабходнасць у іх. Сацыялізм пераможа ва ўсім свеце, і ты станеш нікому не патрэбнай рэліквіяй.

Горлаў: Але гэтай будучай рэліквіі яшчэ прыйдзецца канчаць, правесці «...бой наш апошні і рашаючы бой...».

Вася: З гэтым згодзен, але і ты згадзіся — кароткатэрміновую прафесію ты сабе выбраў. Верыш гэтаму?

Горлаў: Згодзен. Веру. І не толькі веру, а і вельмі жадаю, каб яна была сапраўды кароткатэрміновай. А калі прыйдзецца, дык я і сам, брат, усе сілы прыкладу, каб скараціць гэты тэрмін. Ну, а як твае справы?

Вася: Мае справы — як заўсёды.

Горлаў: Значыць, паступіў?

Сцёпа: Ён збіраецца для, як ты казаў, апошняга бою атамныя бомбы майстраваць.

Вася *(сур'ёзна)*: Не! Не рабіць бомбы, а разраджаць

іх. Так, так! Разраджаць гэту бомбу я буду, і ўсю сілу, якая хаваецца ў ёй, я прымушу круціць турбіны электрастанцый, маторы заводаў, калгасныя млыны. Я яе запрагу ў паравозы, параходы, самалёты. У сілу бомбы я не веру, а вось у гэту сілу веру. Такая сіла нам патрэбна.

Сцёпа *(яму ў тон)*: Гэта і ёсць тая сіла, якая зробіць сапраўдную рэвалюцыю ў тэхніцы.

Вася: Безумоўна.

Горлаў: Ладна. Усё яшчэ наперадзе. Пажывём — убачым.

Вася: Папраўка — у наш век трэба гаварыць: «Пажывём, самі зробім і самі пабачым, а не проста: пажывём, панаглядаем».

Доктар: Добры вечар, Міхайлаўна!

Міхайлаўна: Добры, добры, доктар.

Доктар: Дышам свежанькім паветрам?

Міхайлаўна: Дышам, а чаго ж не дыхаць. Цяпер справа мая такая.

Доктар: А як жа здароўечка ваша?

Міхайлаўна: І здароўечка, як кажуць, слава богу. А калі б што якое і здарылася то, маю знаёмага добрага доктара.

Доктар: Не дай бог да дактароў звяртацца.

Міхайлаўна: Калі гэтак гаворыць доктар, то гэта ўжо арыгінальна.

Доктар: Самае прыемнае, што мне прыходзіцца чуць ад людзей, дык гэта калі мне гавораць аб добрым здароўі. І асабліва добра аб гэтым умеюць гаварыць выздаравеўшыя.

Міхайлаўна: Прысядзьце, доктар.

Доктар: Дзякую. *(Прысаджваецца.)*. А дзе ж ваш юрыст, пракурор?

Міхайлаўна: Няма яшчэ. Працуе, відаць.

Доктар: Абвінавачвае...

Міхайлаўна: Адных абвінавачвае, затое другіх абараняе.

Доктар: Ды яно так... Добры сын! Гарачая галава, але разумная.

Міхайлаўна: Маці гэта вельмі прыемна чуць, асабліва ад разумнага чалавека.

Доктар: «Кукушка хвалит петуха за то, что хвалит он кукушку». *(Смяюцца.)* Люблю я з ім спрачацца.

Міхайлаўна: Спрачацца?

Доктар: Дакладней сказаць — спрачаючыся, згаджацца.

Міхайлаўна: Пераконвае ён?

Доктар: Хоць маладзейшы, а лагічней. Ну, я пайду.

Міхайлаўна: Заходзьце, доктар. Вечарам ён дома будзе. Паспрачаецеся, і мне будзе весялей. Заходзьце.

Доктар: Дзякую. Шкада, што я не маю сыноў. Дзяўчаты — гэта не тое... Несур'ёзны яны народ.

Міхайлаўна: Значыць, сам вінаваты, што сыноў не маеш.

Доктар: Выходзіць, што так. Ну, да пабачэння. *(Выходзіць.)*

Міхайлаўна: Вядома, прыемна мець мужчыну ў хаце... А доктар крыху нагадвае жанчыну, праўда, не дрэнную, ды... Во Аляксей мой — сапраўды мужчына будзе. Старасці на радасць.

Убягае Зоя.

Зоя *(гаворыць спяшаючыся)*: Добры вечар, Вера Міхайлаўна! Таня дома?

Міхайлаўна: Не, няма Тані.

Зоя: Няма? А мне яна так трэба, так трэба. Дзе ж яна, не ведаеце?

Міхайлаўна: Якая ж гэта экстранная справа ў вас?

Зоя: Вельмі экстранная.

Міхайлаўна: Зноў якія-небудзь танцулькі?

Зоя: Для нашага ўзросту і танцулькі — патрэбная справа.

Міхайлаўна: У вашым узросце і больш сур'ёзнае ў галаве мець не лішне.

Зоя: Не буду вам пярэчыць, Вера Міхайлаўна, бо часу няма. Толькі вельмі папрашу, як прыйдзе Таня, няхай зараз жа да мяне бяжыць. Добра?

Міхайлаўна: Добра, добра. *(Зоя пабегла.)* Колькі ветру! І дзяўчына, здаецца, ладная. Вечна некуды спяшаецца, а спытай: куды — і сама не ведае. Бяжыць, бяжыць некуды, а вочы завязаны. І не хоча спыніцца, развязаць ды паглядзець: куды ж бяжыш. *(Круціць галавою.)*

* * *

З суседняга пакоя чутны п'яныя галасы, песні, музыка, затым крыкі «горка».

Маці: Хадзем, сваценка, хадзем паглядзім, як нашы будуць цалавацца. Не думала, што я дажыву да такой радасці.

Міхайлаўна: Пойдзем, пойдзем.

Маці: Гляджу я на гэтых маладых, а душа ад радасці на кавалачкі разрываецца. Яй-богу, завідна становіцца. Шчасце ім — не тое што нам. Не так, як нам... *(Выцірае слёзы, цалуе свацццю, і яны выходзяць туды, дзе, надрываючыся, крычаць: «Горка! Горка!»)*

Некалькі хвілін сцэна пустая, затым з пакоя выходзіць Косця, усхваляваны, плача.

Косця *(у голасе роспач, боль сэрца)*: Эх, Таня, Таня! Што ты нарабіла...

Дзялец: Та-ак, браце, а кватэра ў цябе неважнецкая.

Павел: Нічога не папішаш. Калі лепшай няма, прыходзіцца і з гэтай мірыцца.

Дзялец: Мірыцца, кажаш? *(Аглядае пакой, абстаноўку.)* Што не магу, то не магу. Не магу я, дарагі мой, мірыцца з дрэнным, непрыемным. Не для таго ж мы ваявалі.

Павел: Можна б было лепшую мець...

Дзялец *(перабівае)*: Можна мець і лепшую, і патрэбна мець. *(Зноў аглядае пакой.)* А ўсё-ткі багатая ў цябе абстаноўка. Добрую кватэру абставіць хапіла б. *(Разглядае гадзіннікі, а іх многа: на стале будзільнік, на сцяне вісіць аж трое, і ўсе прыгожыя, фігурныя.)* Табе, браце, можна адкрываць гадзіннікавы магазін. *(У гэты час у вялікім гадзінніку адкрываецца дзверка, адтуль выскоквае зязюля і кукуе сем разоў. Зязюля хаваецца, і дзверка зачлопваецца.)*

Дзялец *(зачаравана)*: О-о! Вось гэта рэч!!

Павел: Заграністная. Люблю я арыгінальныя рэчы. Гэта на памяць аб Берліне. Калі вяртаўся з Германіі, спецыяльна купіў.

Дзялец: І гэтыя таксама германскія?

Павел: Не. Гэты з Венгрыі, а гэты аўстрыйскі.

Дзялец: Арыгінальны музей айчыннай вайны. *(Смяюцца.)* А па праўдзе кажучы, у нас такіх штучак не ўмеюць рабіць. Вось табе і заграніца!

Павел: Можа, і ўмеюць, ды не робяць.

Дзялец: Мець свой домік і ў доміку такую абстаноўку, дык можна шыкарна жыць.

Павел: Я даўно ўжо мару. *(Заходзіць Таня і ставіць на стол закуску.)*

Дзялец: І жонка ў цябе прыемная.

Павел задаволена ўхмыляецца.

А ведаеш, Павел, што я думаю? Табе можна лёгка свой домік пабудаваць.

Павел: Сродкаў не хопіць. Хіба вось гэта прадаць?.. Шкада расставацца... Рэліквіі...

Дзялец: Нічога і прадаваць не трэба і сродкаў хопіць. Сродкі ў цябе ёсць. *(Хітра.)* Іх толькі ўмела выкарыстаць трэба.

Павел: Чэсна кажу, брат, няма. Скуль яны? Ды нават і не гэта галоўнае. Цяпер людзей, рабочую сілу не так лёгка знайсці. На дзяржаўныя будоўлі людзей не хапае, не тое што сабе.

Дзялец: Эх, ты!.. Кіраўнік, а галава не зусім добра варыць. Ану паслухай, што я табе параю. Толькі галаву трэба мець. Зразумеў?

Павел: Ну-ну. На камбінацыі ты здольны.

Дзялец: Як хочаш называй, камбінацыяй ці знаходлівасцю, а падумаць варта. Цагляны домік пакояў на шэсць можна мець. Ты ж дырэктар райпрамкамбіната. Ты прыступаеш да будоўлі электрастанцыі. Так?

Павел: Ну?

Дзялец: Вось і ну. *(Заходзіць Таня, прыносіць яшчэ закуску і чаркі. Дастае паўлітэрка.)*

Павел: Ну-ну, далей.

Дзялец *(ківае галавой у бок Тані, моў, пры ёй не хоча гаварыць)*: Не спяшайся, скажу.

Павел *(устае, падыходзіць да Тані і лагодна просіць)*: Танюша! Ты ідзі там на кухні спраўляйся. Нам трэба пагаманіць. Важная справа.

Таня моўчкі выходзіць.

Павел: Пры маёй жонцы можна і сакрэты гаварыць.

Дзялец: Яна ж не толькі твая жонка, але і пракурора сястра.

Павел: Тым лепш.

Дзялец: Э, не, дрэнна ты яго ведаеш.

Павел: Логіка патрабуе, каб мы крыху перакусілі. *(Налівае па чарцы.)*

Дзялец: Калі логіка патрабуе, то адмаўляцца нельга. *(Выпіваюць.)*

Павел: Ну, ну, дык якую камбінацыю ты прапануеш?

Дзялец: Вельмі простую. Наш райпрамкамбінат пачынае будаваць электрастанцыю. І прарабам туды, здаецца, цябе прызначылі...

Павел: Ну мяне, а далей што?

Дзялец: А для гэтай справы, здасцца, адпускаюць і сродкі і будаўнічыя матэрыялы. *(З хітрай усмешкай паглядае на Паўла.)*

Павел: Так, далей.

Дзялец: А далей, калі ласка, будуй сабе домік.

Павел: Але ж гэта...

Дзялец: Тэ-тэ-тэ! Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Трэба ж разумна рабіць, каб ніякі чорт не падкапаўся.

Павел: Але ж тут занадта відавочна.

Дзялец: А трэба рабіць так, каб было зусім не відавочна. Ты ж інжынер, і вучыць цябе не трэба. Ты — прараб. Ты закладваеш падмурак, а там грунт пясчаны...

Павел: Грунт там цвёрды.

Дзялец: А ты акт складзі, што пясчаны грунт. Значыць — земляных работ болей, падмурак патрэбен глыбейшы, шырэйшы. Атрымаецца розніца, якой якраз хопіць на падмурак пад свой домік.

Павел: Баюся, што мой домік гэты акажацца на пясчаным грунце.

Дзялец: Калі добра паварыць гэтым кацялком, то якраз акажацца на трывалым грунце. *(Паўза.)* Я прыхільнік гігіены і люблю бачыць пасуду чыстай.

Павел налівае, выпіваюць.

А такая непрыкметная асоба, як я, бухгалтарышка, дапамагу ўжо табе скласці ведамасці, справаздачы, а то і акт такі-сякі падпішу. Вось мы і ўтрамбуем твой пясчаны грунт. *(Павел думае.)*

Павел: Уласна паперы, калі пакрывіць душой, то зрабіць можна.

Дзялец: Не-е! Гэта трэба рабіць не крывячы душой, з чыстым сэрцам. Я табе дапамагу, а ты мне сёе-тое.

Павел: Не лёгкая гэта справа.

Дзялец: Нічога тут нялёгкага няма. За будматэрыяламі затрымкі не будзе. Перагародкі ў электрастанцыі на паўцаглінкі танней зрабіць, а табе цэлая сцяна ў домік. А там цвічок, сцяклінка, чарапічка, вось табе і домік.

Павел: Рызыкоўна ўсё-ткі.

Дзялец: Ты ж чуў рускую пагаворку: «риск благородное дело». *(Паказвае рукой на цеснату пакоя.)* Ну што гэта за кватэра? А за якіх-небудзь 2—3 месяцы можна мець добры домік і, галоўнае, уласны.

Павел: Па праўдзе сказаць, над тваёй прапановай варта падумаць. Ну, што ж, вып'ем яшчэ па маленькай.

Дзялец (ціха падпявае):

По рюмочке, по маленькой,
чем поят лошадей.

Выпіваюць.

Дзялец: Прыёмнік працуе? (Прыглядаецца.) Нядрэнная штучка. Мінскі?

Павел: Мінскі. Можа, жадаеш паслухаць Лондан?

Дзялец: А цікава. Кажуць, цікавыя рэчы перадаюць з Лондана.

Павел уключае прыёмнік, настройвае. З прыёмніка чуецца мужчынскі голас з яўным англійскім акцэнтам.

1-шы голас: «Полисмен, закусив от злости губу, отошел от нас. Он не мог нас арестовать, хоть мы его и оскорбили. Нас защищал демократический закон английского государства. Но мы этим не удовлетворились. Мы еще раз хотели убедиться, насколько защищают свободных граждан законы английского государства. Мы подошли к памятнику знаменитого английского премьер-министра. Мой друг Джон Пачесон залазит на статую и одевает на голову этому премьер-министру... что вы думаете?.. Ночной горшок. Но вот нас замечает полисмен, который стоял поблизости, покуривая гаванскую сигару. Он подходит к нам. Ну сейчас он, видимо, арестует моего друга.

Голас палісмена: Эй, ты, что там делаешь?

2-гі голас: Не видишь, что ли? Венчаю голову досточтенного премьера ночным горшком.

Голас палісмена: А ну, слазь оттуда!

2-гі голас: Не слезу.

Голас палісмена: Слазь, иначе стащу за ногу!

2-гі голас: Не имеешь права применять силу. Нет такого закона.

1-шы голас: Одев горшок, Джон Пачесон слазит со статуи.

Голас палісмена: Эх вы! Взрослый человек, а занимаетесь такими пакостями!

2-гі голас: А ты арестуй меня за это.

Голас палісмена: Следовало бы, но нет оснований. За такие мелочи закона нет арестовывать.

1-шы голас: На этом мы убедились, что в Англии трудно добиться ареста. Несмотря на все старания моего друга Джона Пачесона, его не арестовали.

Жаночы голас: Вы слушали нашу передачу на тему: «Какие трудности встречает англичанин, если он захочет, чтобы его арестовали». На этом нашу вторую передачу на

русском языке мы заканчиваем. Нашу следующую передачу слушайте...»

Павел выключае прыёмнік.

Свякруха: Чаго ж ты сядзіш? Чаго нос павесіла? Мужа пасадзілі! Ён жа муж табе, а не хто-небудзь. Для цябе ж ён стараўся, а не для каго-небудзь. Ідзі прасі звяругу таго, брата свайго, няхай паглядзіць, што ты маткай скора станеш, мо пашкадуе. Гэта ж чорт ведае, як скасабочыліся людзі. Думала, радня будзе, пракурор усё-ткі свой чалавек. А ён сустрэў, нібы першы раз у жыцці бачыць мяне. Дык гэта радня?!

Таня сядзіць моўчкі. У яе зараз нешта творыцца ў душы такое вялікае, значнае, што ўсё акружаючае выдаецца за дробязь, нават проста недарэчнасць.

## У ПРАКУРОРА

Пракурор: Ну што, сястрыца? Прыйшла прасіць за мужа? Вызваліць? Ну як жа, брат пракурор — павінен па-свойску дапамагчы.

Таня: Чаго ты на мяне накінуўся? Можа, мне сапраўды трэба дапамагчы? Я ж прыйшла не да пракурора, а да брата... Па параду...

Пракурор *(злосна)*: Не! Ты прыйшла да пракурора, а не да брата. І ні на якую дапамогу хай не спадзяецца. Раз нягоднік, хай па заслугах і атрымае. Ты ведаеш, што мне рабочыя сказалі? Калі даражыш памяццю бацькі, то рабі так, як зрабіў бы бацька. А ён быў вельмі справядлівы чалавек. Крывіць душой не трэба. Зразумела? У мяне гэта і дагэтуль у вушах звініць. І не прасі, і не хадзі.

Таня: Чаго ты мяне так не любіш? Я ж сястра твая? Я і не збіралася прасіць у цябе літасці яму. Ты будзь чэсным. Але чаму ты не хочаш бачыць, што на мяне такое гора звалілася? *(Заплакала і выйшла.)*

Пракурор *(вельмі здзіўлена)*: Таня! Таня... *(А яна пайшла ўжо.)*

Мова персанажа, яго фразеалогія мяняецца ў залежнасці ад таго, з кім гэты персанаж кантактуе. Напрыклад: Чычыкаў і Манілаў, Чычыкаў і Каробачка, Чычыкаў і дамы, Чычыкаў і Наздроў.

Наведвальнік: Вы мне прынеслі чай, а ў шклянцы муха...

Афіцыянтка: Няўжо вы думаеце, што муха так ужо многа вашага чаю вып'е?

Вострае выступленне нагадвае газіраваную ваду.

— Мне жонка дыхнуць не дае. Дзе ўжо тут вып'еш?

— А ў мяне наадварот. Як толькі да чаркі прыкладзешся, яна: «Ану дыхні!»

К. М. Саннікаў пахваліўся ў вагоне новымі чаравікамі, якія купіў у Адэсе. А калі ён заснуў, Платонаў схаваў адзін чаравік. Прачнуўшыся, Саннікаў не знайшоў чаравік і пытае ў Платонава.

— А я яго выкінуў у акно. Не хваліся перад намі пакупкамі. Мы свае грошы пусцілі на каньяк, а ты чаравікі набываеш.

Саннікаў пабедаваў з мінуту, а потым выкінуў у акно астатні чаравік. Тады Платонаў дастаў схаваны чаравік і падаў яго Саннікаву.

— Тады выкінь і гэты.

І выкінуў.

Сам у брудзе, а на другіх крычыць: «Не пэцкайся!»

Адрэзаў халявы і прадаў, каб купіць паўлітэрка. Пахваляецца:

— І вудка ест, і боты ест.

Старшыня калгаса піша запіску брыгадзіру: «Прышлі мне нанач восем дзевак і бохан хлеба».

Парадным салдацкім крокам перайшоў вуліцу певень.

П'яны, рыдаючы, хваліў: «Напісаў ты здорава! Бог! Выдатна! Геніяльна!» А назаўтра, праспаўшыся, слёзна прасіў прабачэння: «Даруйце, я ўчора глупства гаварыў...»

Трагікамічная фігура серадняка ў час калектывізацыі. Каня пакінуў сабе, а хамут «абагуліў». Яго, вядома, у калгас не прынялі. Ён раіцца з суседзямі. Кулак раіць — не аддавай. Бядняк, наадварот,— аддай. А серадняк уголас плача.

— Цвярозым і разумным быць няцяжка. А вось паспрабуй быць п'яным і разумным! А-а? Што?

Старэйшы брат, грузчык, любіў малодшага, настаўніка, што, аднак, не перашкаджала яму глядзець на яго, як на дзіця. За яго кволасць. Малодшы таксама любіў старэйшага за яго сілу, здароўе і непасрэднасць, але таксама глядзеў на яго, як на дзіця. За неразуменне многага ў жыцці.

## ПАРОДЫЯ

Не ведаю — ці то ў сне здалося, а мо і наяву было. Ды як бы ні было, а раскажу, што маю. Здаецца, я ў тэатр заходзіў і быццам п'есу там глядзеў. Якую п'есу, брат, не памятаю добра назвы, ды і змест не затрымаўся ў галаве.

Народу шмат было. Значыць, ахвотнікаў, аматараў, каб паглядзець цікавае на сцэне, было нямала. Тым больш і час такі настаў — вайны няма. І вельмі ўжо хацелася пабачыць і на сцэне тое, што часам у жыцці бывае, або што будзе і чаго чакаць. Хацелася пабачыць, як па-свойму выявалі драматургі. І так, людзей там шмат было. Накіраваны быў на сцэну погляд іх. На тварах свяцілася чаканне. Нарэшце паднялася заслона, і дзея пачалася. На сцэне людзі бегалі і шчыра штосьці гаварылі. Ды доўга, доўга. А ў зале... Не, туды пасля мы паглядзім вачамі аўтара. Ды дзе ж ён?.. Ага, знайшоўся. За сцэнай часам тым аўтар і рэжысёр сачылі пільна за ходам п'есы і каб акторы па злосці ці яшчэ як не блыталі таго, што пісана пяром. Яны ў руках трымалі п'есу, вадзілі пальцамі ад радка да радка і самі сабе чыталі, пільнуючы за сцэнай.

«З'яўляецца Машэка. У руках трымае капарэйку, просіць: «Я піць, я піць жадаю!»

Ганулька дастае вядро касторкі і сілаю ўлівае ў рот яму. Той вылакаў і аблізнуўся. Ганулька па-змяінаму

шыпіць: «Вось памірай цяпер, Машэка! За згубу князя дарагога мая адплата».

Машэка ўжо сабраўся паміраць. Памёр, ды ўспомніў, што трэба было б перад смерцю што сказаць. Ён чухае патыліцу.

Машэка *(лянiва)*: Дык, значыцца, памру? Гэта атрута?

Ганулька: Так, я дала яе. І цэлае вядро да дна яе ты выпіў. Няма табе ратунку. Ты ад маёй рукі загінеш і на маіх вачах! Адпомсціла табе за ўсіх!

Машэка: За што? *(Здагадваецца.)* А-а, успомніў.

Ганна *(сварліва)*: За што? Ты думаеш, у лесе буду жыць? Пасля палаца? Сярод звяроў драпежных, сярод людзей не лепшых ад звяроў? А хваробы! Ты думаў, паслухмянай буду, нявольніцай пакорнай? А трасцы не хацеў? Ты думаў верным ценем буду я тваім і цалаваць сляды ад тваіх ног? А скулля!

Машэка *(здзіўлена)*: Я гэтага ніколі не хацеў.

Ганначка *(злосна)*: Маўчы, дурны Машэка! Бо зараз чапялой як трэсну ці чым-небудзь яшчэ. *(Аглядваецца кругом, нібы шукае трахнуць чым.)* Мне гэтага жыцця не трэба! Чуеш?

Машэка *(расчаравана)*: І я цябе любіў? *(У залу.)* Не, браткі, лепш памерці, чым жыць з такою бабаю-ягой. *(Глядзіць на гадзіннік, потым убок.)* Ды і пара ўжо камедыю канчаць. Адзінаццаць з паловаю гадзін, пара ўжо спаць. *(Пазяхае і памірае.)*

Ганулька бачыць, што смерць Машэкі не зрабіла ніякага ўражання на гледачоў, думае, што яны не здагадваюцца аб тым, што Машэка ўжо мёртвы. Яна адступае ад цела Машэкі, не адводзячы ад яго вачэй, паказвае на яго пальцам і крычыць, стараючыся ўпэўніць гледачоў.

Ганулька: Ён мёртвы! Далібог, ён мёртвы! Не ўстане болей ён! *(Тут гледачы рыдаць павінны* — рэмарка аўтара.)

І раптам рэжысёр і аўтар бачаць, што акторы робяць так, як пісана, як аўтар хоча, а гледачы... О, жах які! Адны ўжо спяць, другія пазяхаюць і часта дзёўбаюць насамі. (Каб не збрахаць, і я ў тым ліку.) А некаторыя (хоць мала іх было, але ж былі) дык тыя неяк хітра ўхмыляліся. Ухмылка гаварыла: «Я, брат, не прастачок, абы-якой халтурай не абдурыш. Давай, давай, калі самоў няма, і ракі будуць рыбамі». І гэтакі глядач у зале заставаўся да канца — білет жа не дарма дастаўся. І вось ад

гэткай сцэны аўтар у здзіўленні, а рэжысёр збянтэжаны. Вось іх дыялог:

Рэжысёр: А... А... А гледачы храпуць... сапуць... і... пазяхаюць... Нягоднікі! І не падумаюць у ладкі плёскаць. Дык нашы, значыцца, дарэмныя патугі?

Аўтар: Нічога! Ты не падай духам. Калі яны таго... тым горш для іх. Па-першае, паколькі не хочуць выканаць элементарных маіх патрабаванняў, не змогуць поўнасцю адчуць гэты шэдэўр *(паказвае на п'есу)*. І па-другое, тым лепей для мяне — не будуць бачыць недахопаў гэтага шэдэўра *(зноў паказвае на п'есу)*, а ладкі?.. Хоць зараз апусці заслону, і ты пачуеш гром апладысментаў. Што і трэба даказаць.

* * *

Назаўтра я ўжо чытаў у газетах а-ў-тарытэтных рэцэнзію даўгую, цёплую — аж пар з яе валіў — ці то ад жару, ці мо ад вільгаці.

Пытанне: Адкуль жа рэцэнзент глядзеў? Ці з боку гледачоў, ці мо за сцэнай дзе сядзеў? А можа, і зусім не бачыў ды добрая фантазія дапамагла?

Вось і ўсё! Не памятаю добра: ці мне прыснілася ўсё гэта, ці мо на сцэне бачыў, а мо чытаў...

На праўду штосьці не падобна, але і не зусім няпраўда. Хоць трохі, але ёсць! Ёсць?

## 1955

Предположим, что драматург написал пьесу, в экспозиции которой была бы изображена сегодняшняя жизнь колхозников «Рассвета». Легко себе представить такой упрек в адрес автора со стороны какого-нибудь старого и опытного актера:

— Лакировочка, братец, блеск. Зарезаешь правду-матку, без ножа режешь.

А ведь колхоз «Рассвет» — не вымысел, а реальная действительность.

И наоборот, к сожалению, легко представить упрек в адрес автора, написавшего пьесу, в экспозиции которой

был бы изображен сегодняшний день отсталого колхоза, соседа «Рассвета».

— Это же не типично для нашего времени! Когда героический советский народ строит коммунизм, воздвигает невиданные доселе грандиозные гидростанции и высотные дома, когда советский человек переделывает природу и семимильными шагами продвигает вперед технический прогресс, когда колхозный полевод Мальцев выступает с научными докладами перед академиками, разве можно, разве допустимо, разве к лицу советскому литератору сосредотачивать свое внимание на недостатках? Выпячивание наших недостатков — опасное дело!

На такой упрек можно ответить словами «Правды». «Коммунистическая партия призывает покончить с вредными и опасными для нашего дела настроениями самодовольства, проявлениями парадности и благополучия, смело и решительно вскрывать и устранять недостатки в работе, шире развертывать критику и самокритику» («Правда» от 3.X.54 г., передовая).

Конечно, замечать в жизни только недостатки — не менее опасно и вредно, чем упиваться успехами. Честно и мужественно вскрывать недостатки в нашей работе, разоблачать носителей буржуазных пережитков — не означает уменьшать наши силы и чернить наше общество. Наоборот! На упрек людей, слишком бережно и осторожно относящихся к недостаткам в нашей действительности, можно ответить словами Маяковского:

Мы всех зовем,
чтобы в лоб,
а не пятясь
Критика
дрянь
косила,—
И это
лучшее из доказательств
Нашей
чистоты и силы.

Мы, коммунисты, стоя, поем наш партийный гимн:

«Мы наш, мы новый мир построим,—
Кто был ничем, тот станет всем».

Пафос утверждения нового мира в нашей жизни и в наших пьесах должен сочетаться с пафосом отрицания и искоренения наследства старого мира.

скому правительству убедительные мотивы концентрации советских войск близко от германских границ в такое трудное для Германии время, когда она ведет тяжелую войну с английским империализмом.

Сталин: Вы читаете газеты?

Посол: Да.

Сталин: Не наши и не свои, а английские, французские.

Посол *(сообразил)*: Но это пишут наши враги. Мы воюем с ними.

Сталин: Эти «наши» враги не всегда лгут. Они трубят на весь мир об огромной концентрации германских войск в непосредственной близости от советских границ. Совершенно естественно, что мы подтянули несколько дивизий к нашим западным границам в целях предосторожности. Тем более что мы читаем не только западную прессу, но и известную вам «Майн Кампф».

Посол: Господин Сталин! Есть более поздний документ,— наш договор о дружбе и ненападении. Мы хотим... О, как было бы хорошо для нашего генерального штаба, если бы Черчилль и его компания искренне поверили в это, что мы готовимся к войне с вами. И мы стараемся убедить их в этом.

## 1976

Загадчык аддзела культуры ЦК КПБ М., разглядваючы габелен М. Савіцкага (для ЦК), сказаў: «Я зараз скажу глупства, але вы падумайце!»

Фраза веку.

Малыя нацыі? Малыя народы? Айтматаў, Карым, Думбадзе, Друцэ, Авіжус, Межэлайціс... Паняцці адносныя. Шамякін — дзесяць мільёнаў беларусаў...

Той жа М. Савіцкі атрымліваў праработачныя працэдуры ў кабінеце сакратара ЦК КПБ Шауры. Выступіў адзін распінальнік, другі, трэці, чацвёрты... Абвінавачванні сыпаліся вельмі шчодра. «Зрыў, падкоп, дыверсія...» На адно недаўменнае пытанне Шауры адказаў сам мастак:

— Яны дакладна ўстанавілі, што я ідэалагічны дывер-

сант, парашутыст, але не могуць знайсці парашут. Яны клічуць вас на дапамогу — знайдзіце ім мой парашут.

Как часто непоправимый вред в процессе нравственного воспитания наносит так называемая «парфюмерия». В наше время широкой коммуникабельности общения, информированности, образования все мы хорошо знаем облик наших современников, знаем их достоинства и изъяны, знаем потому, что они наши соседи, друзья, сослуживцы, попутчики, партнеры, соратники, противники и т. д. Как часто мы припудриваем, припомаживаем, подкрахмаливаем, навешиваем вуальки, фиговые листки! Мы-то знаем, откуда дети берутся, и уверены, что дети этого еще не знают и знать не должны. И обманываем их, валим на аиста, капусту. А дети-то знают не меньше нашего. И про Египет, и Китай, и про Анголу, и Кубу... Про помощь и неблагодарность, верность и предательство...

Не надоел ли нам эзоповский язык в своем доме, в своей же семье?! Со своими?!

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР К. КРАПІВЫ

Добры вечар, дарагія таварышы! Добры вечар!

І ў зале паўнютка, і бельэтаж бітком набіты, а балкон аж прагнуўся. Можна і пачынаць вечар. Але перад пачаткам давайце паспачуваем тым, каму не пашанцавала, хто застаўся на вуліцы перад тэатрам; там бядуюць і ахкаюць, вінавацяць адно аднаго, шкадуючы, што спазніліся. Як бачыце, ім не хапіла месца ў гэтым старажытным памяшканні — утульным, слаўным, але занадта цесным для Акадэмічнага тэатра. Як жа тут змясціць усіх жадаючых? Збудавалі ж яго больш як сто гадоў таму назад і, на жаль, не з рызіны... не з гумы.

А ці зналі, а ці ведалі тыя архітэктары... тыя, даўнейшыя (цяперашнія то ведаюць), што сёння сюды збярэцца столькі прыхільнікаў, аматараў літаратуры і тэатральнага мастацтва, што сёння прываліць столькі народу на творчы вечар народнага пісьменніка Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета рэспублікі, віцэ-прэзідэнта нашай Акадэміі навук Кандрата Кандратавіча Кра-

нівы, якога з поўным правам мы можам назваць гордасцю нашай нацыі.

Павітаем жа яго! Ён сярод нас. Запрашаем сюды і яго малодшых калег і прыяцеляў: Максіма Танка, Івана Шамякіна, Пімена Панчанку і Фёдара Іванавіча Фёдарава.

Усіх нас сабрала сюды шчырае пачуццё глыбокай павагі і сардэчнай прыхільнасці да яго творчасці, да яго самога, як выдатнага пісьменніка, прынцыповага грамадзяніна, працавітага вучонага і цікавага чалавека.

А чалавек ён сапраўды цікавы і багаты. Для яго ўся наша краіна — яго родная хата, усе людзі нашы — яму браты, сёстры, сыны і ўнукі. У гэтым вялікім родным доме ён — руплівы гаспадар.

Кандрату Кандратавічу ўжо за 80 год, а ён нястомна працуе на ніве культуры і навукі і шчыра радуецца ўсім здабыткам свайго народа і кожнага з нас.

Я назваў яго ганаровыя тытулы і службовую пасаду. А ён жа і пасля службы, калі ўсе законна адпачываюць: дрэмлюць ці прымаюць кроплі, каб не перасохла ў горле, а мо і яшчэ чым-небудзь займаюцца, Кандрат Крапіва вечарамі і начамі нясе нядрэмную службу сатырыка, нялёгкую, суровую службу па ахове камуністычнай маралі, ахове нашага ладу, застаецца на варце нашых ідэалаў.

Вось так, працуючы ў дзве змены, ён чуткім вухам і гаспадарлівым вокам пільна сочыць: які ў нашай хатачцы парадак ідзець... Хто і як працуе, хто пра што дбае. А ці лайдачыць хто? Ці не б'е лынды ў час вялікай будоўлі, ці не карыстаецца хто чужой працай (я не толькі пра цытаты кажу), а ці не валачэ хто ў сваю нару крадзенае, ці не транжырыць хто наша дабро? Ці не прыкрывае хто сваімі лахманамі (з каракулю ці норкі) язвы перажыткаў мінулага? Ці не рабалепнічае хто перад кім? Ці не засланяе сонца, ці не лезе хто з нямытым рылам у наш агарод? І г. д., і г. д.

Клопату ў яго хапае і да ўсяго яму справа.

У сваёй творчасці Кандрат Крапіва намаляваў вялікую галерэю рэалістычных партрэтаў сапраўдных герояў нашай савецкай эпохі і ярка, не шкадуючы гумару, іроніі і сарказму, выпісаў цэлую плойму агідных, але жыццёва-праўдзівых тыпаў, носьбітаў тых маральных заган і плям, ад якіх мы так марудна ачышчаемся. Вельмі марудна, хоць ахвотна дэкларуем сваю гатоўнасць пазбавіць ад іх наша грамадства недкладна... заўтра.

Таленавітай рукой Крапіва ўвекавечыў адных і другіх.

Адных ён абяссмерціў, уславіў, а другіх... хоць і пасмяяўся пад імі, але прызнаў неўміручымі пакуль што, жывучымі прыстасаванцамі, як вірусы азіяцкага грыпу... Хітрая ў іх генетычная аснова.

Стоп!.. Каб за краснабайства не трапіць пад пяро якога-небудзь староняга сатырыка, я не стану больш займаць час сваімі каментарыямі. Дый гісторыя вучыць, што шматслоўны хутчэй рызыкуе што-небудзь няпутнае ляпнуць. А за гэта і не з такой сцэны праганялі. А таму я зараз перадам слова самому аўтару, які, як вы даўно заўважылі, сам найлепшы каментатар падзей і з'яў нашай эпохі, каментатар аб'ектыўны, востры, дасціпны, вясёлы.

Такім чынам, слова аўтару!

*(Але тут з'яўляюцца акцёры.)*

— Што такое? Што там такое? Чакайце! Хто вы? Адкуль вы? І хто вас гоніць? А-а, Кандрат Кандратавіч! Гэта вашы персанажы. Яны хочуць перахапіць ініцыятыву.

*(Дыялогі па матывах твораў К. Крапівы.)*

— Ты куды?

— Не ты, а вы!

— Ты ж адзін...

— Адзін? Цябе, відаць, лічыць не навучылі. *(Здзекліва.)* «Адзін!» Не адзін, а першы.

— А ты куды спяшаешся?

— Да славы, братка, да славы. У неўміручасць. Ты не рыбак? Не? А то ведаў бы: пад крапівой і рыба не тухне.

— Грамадзянін! Вы куды?

— Я! *(Папраўляе.)* Таварыш я, таварыш. Я — у кандыдаты, а адтуль у дактары. У навуку я. Пакуль там пустых месц многа (палец да лба). Можна правароніць, а можна і папхнуць таго-сяго. У цеснаце — не ў крыўдзе.

— А вы хто? Вы чаму тут?

— А вам што? Вы ж мой аўтар. Вы, можа, з міністэрства культуры? Ёсць указанне мяне выкрасліць? Што ж, я магу вярнуцца і туды, дзе ўсе. І мне спакайней, а вам тым больш.

— Ніхто вас не выкрэслівае! Ідзіце за аўтарам.

— А вы чаго сюды талакой?

— А мы — «каб весела было».

Пасля прыпевак:

— Кастрычніцкая рэвалюцыя абудзіла наш народ і прынесла новыя песні, новыя імкненні, новы быт і новыя ідэалы. За іх змагаліся ў віхуры кастрычніцкіх дзён, у агнявыя гады грамадзянскай вайны на франтах — чырвонаармейцы, а ў варожых тылах — партызаны і падпольшчыкі.

*(Урывак са спектакля «Партызаны».)*

У 1939 годзе гэты спектакль з неверагодным, небывала бурным поспехам ішоў у заходніх абласцях Беларусі. Гэта была дэманстрацыя шчырай радасці нашых братоў пасля ўз'яднання ў адзінай сям'і. Але к нашым граніцам, на нашу зямлю паўзла чорная фашысцкая навала. Кандрат Крапіва — удзельнік трох войнаў — сустракаў яе ў баявой гатоўнасці і як салдат, і як пісьменнік.

— Пра Кандрата Крапіву ў гады ваеннага ліхалецця мае слова сказаць народны паэт Беларусі Пімен Панчанка.

*(Уверцюра перад «Мілым чалавекам».)*

— А вы? Выбачайце, нешта не пазнаю... Вы...

— Чарскі... Я — Чарскі... Ну... ну, прыгадайце.

— Чарскі? Чарскі. А-а, Ча-арскі! А-а, мі-і-лы! Мі-ілы чалавек! Мілы чалавек! Як доўга вас чакалі на гэтай сцэне! Колькі год! А вы ў форме!

— Лепей позна, чым ніколі,— сказаў аднойчы певень і саскочыў з паркана.

— Кандрат Кандратавіч здабыў сабе славу, як паэт, байкапісец, драматург. Але ж ён не цураўся і такога працаёмкага жанру, як проза. Яго апавяданні, фельетоны, раман «Мядзведзічы»... Ды што я і прозу на сябе бяру, калі тут сядзіць прызнаны самы папулярны раманіст, яму і слова. Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін.

— А што скажуць пра Кандрата Крапіву вучоныя? Ён жа для іх так стараўся. Яшчэ сорак гадоў назад ён смела рынуўся ў бойку з нахабнымі невукамі, ілжэвучонымі, дэмагогамі, інтрыганамі, каб расчысціць ад іх плацдарм для сапраўды таленавітых вучоных, здольных пашырыць і паглыбляць навуку. Што думаюць вучоныя пра нашага Крапіву, лепей за мяне скажа Фёдар Іванавіч Фёдараў — акадэмік АН БССР, доктар фізіка-матэматыч-

ных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР. Калі ласка, Фёдар Іванавіч.

— Бачыце, які ўплыў на вучоных мае Кандрат Кандратавіч?

I адкуль жа у Кандрата
розных талентаў багата?
Пэўна, бацька вінават,
бо і ён жа быў Кандрат.

— А цяпер паглядзіце ўрывак са спектакля «Хто смяецца апошнім», які купалаўцы віртуозна іграюць ужо амаль сорак год.

А цяпер кароткае слова пра Крапіву бярэ кіраўнік нашага Саюза пісьменнікаў, Старшыня праўлення — народны паэт Беларусі Максім Танк.

Слова Кандрату Кандратавічу.

*Голоса: Что случилось? Ленин подал в отставку!*

Троцкий: Он просто зарвался, ваш Ленин. Он интригует, он шантажирует нас. Подумаешь — подал в отставку! Ну и пусть! Он думает, что пролетарская революция держится только на нем. Он не видит, не понимает, что революция выдвинула столько героев, столько самоотверженных борцов, раскрепостила, освободила разум истинных трибунов, руководителей, атаманов, воевод революции. Она обезоружит и новых вождей, если это понадобится революции. Вы вспомните Парижскую коммуну. Она не щадила тех вождей, которые ставили себя над революцией. Она не пощадит и Ленина, если он вот так будет шантажировать боевой штаб революции!

*Вошедший и до сих пор молчавший матрос вдруг подходит к Троцкому.*

Матрос: А ну, заткнись, краснобай!

Троцкий: Кто этот товарищ?

Матрос: Ты что болтаешь о Ленине?

Троцкий: Вы к кому? Вам куда нужно?

Матрос: Мне в Совнарком. А вот ты куда... гнешь, контра?

Троцкий *(охране)*: Арестуйте этого анархиста.

Матрос: Я — анархист? Я — коммунист. *(Строго, но спокойно.)* Ты — кто? А ну — документы!

Троцкий: Я — Троцкий.

Матрос: Врешь! Сволочь! Документы.

Троцкий *(смеется)*: Вот, пожалуйста. А ваши?

*Взаимно проверяют документы.*

Матрос: Как же так вы, товарищ Троцкий?

Троцкий: Нет! Как же так Ленин? Которого вы вдруг взяли под защиту? Ведь это он предает революцию, если будет настаивать не Брестском мире. Немцам предаст... Если примет условия Германского командования. Вы понимаете, вы можете предвидеть, как сложится судьба революции, если мы уступим немцам все эти районы, которые сейчас снабжают революционную страну продовольствием? Нет? А я предвижу. Нам грозит голод! Мор! Гибель!

Матрос: Но у нас нет пока армии. И если не заключить мир — германская армия простым маршем пройдет по России, оккупирует ее, сотрет все завоевания революционных мас, и все. И восторжествует контрреволюция, а там реставрация монархии под эгидой Кайзера. Вот это смерть революции.

Троцкий: Верно, дорогой, верно. Вот потому-то и бросаю я вызов, лозунг революции — ни мира, ни войны! Пусть мировая общественность видит, пусть мировой пролетариат и угнетенные массы всех стран видят: мы не хотели войны. Эксплуататоры нам навязали ее, нас раздавили. Это их надежду раздавили. Это мобилизует их в будущем на энергичную солидарность. Это в следующей революции послужит уроком другим революционным партиям.

Матрос: Нет, товарищ Троцкий! Нам нет возможности ждать следующей революции. Нам это надо. Необходимо завершить и завершить победой. Как мне пройти к Ленину?

Троцкий: Все-таки к Ленину?

Матрос: И за Лениным.

## ПАМЯТКА ДЛЯ ГУТАРКІ З САКРАТАРОМ ЦК КПБ

1. Пра п'есу «Спытай сябе сам». Гісторыя. Луцэнка і Машэраў. Шамякін. Дапрацоўка. Папрашу прачытаць.

2. Заказы на п'есу. Канкрэтна — каму. Хто? Бажко?

Міхневіч? Або — хто робіць палітыку? Хто ведае праблемы? Хто рашае праблемы?

Якія праблемы бачу я? Як за іх узяцца? Хто падтрымае?

Стаміўся!!!

Комплекснае выхаванне. Быццё вызначае. Матэрыяльнае першасна, а свядомасць — другасна. Хто прыдумаў???

Двайныя цэны. Сельгастэхніка і станцыя абслугоўвання. Сельгастэхніка і калгасная майстэрня. У рэстаранах абеды па сталовых цэнах. Каньяк у магазіне і рэстаране. Каляровы лом на гарадскіх звалках і на сяле. У аптэках — асобыя рэцэпты.

Гандаль — размеркаванне. Сталы заказаў. Што гэта? Не прозвішчы, а нумары. З-пад прылаўка. Кантроль немагчымы, а ўмовы для карупцыі, махлярства, подкупу — выключныя. Успомніць пратаколы мудрацоў.

Бюракратызм. Старшыня Кастрычніцкага РВК, пракурор Дабкін. Галоўурач і Харошка. Ганусевіч, у жонкі туберкулёз.

Дысідэнты. Слова? Хто яны? «История...» Салаўёва. Чаму мы баімся назваць? Чаму не прывядзём статыстычных дадзеных? Каб заткнуць рот заходнім прапаведнікам, «абаронцам правоў». Вызначыць працэнт: у сферы вытворчасці, з вышэйшай адукацыяй, у медыцыне, у навуцы, у мастацтве, кіно, тэлебачанні, у пракуратуры, адвакатуры, прымацаваных да сталоў заказаў, у дамах адпачынку, санаторыях, персанальных пенсіянераў...

Колькі іх прыслужвала катам. У рэпрэсіях. Пра прэміі. Шамякін або балет? Пра Ганусевіча. Прасіць. Пра Раеўскага.

Нарэшце пра сябе. Пенсія. Як быць?

Пра «Нёман».

...Вяртаючыся да імён памагатых у часы рэпрэсій... Памагатыя ці каты? Гірш Ягода — нарком унутраных спраў. Берман — начальнік будаўніцтва Беламорканала, Коган — начальнік будаўніцтва канала Масква — Волга; Фінкельштэйн, Біксон, Серпухоўскі і інш.— начальнікі буйнейшых канцлагераў.

Так не начинают дискуссионных статей. Особенно когда начинается серьезный спор о комедии. Вот ведь заранее знаю — обидится человек, автор зазывной статьи, и не просто автор, а заведующий отделом искусств «Литературной газеты». У него ведь не совсем конкретно сказано: «Там, где выживает драма, задыхается комедия... Но не слишком ли резок этот приговор?» Допустим, что не слишком. Допустим, что он справедливый даже. Не приговор, а оговор. Но! Где это «там»? Не совсем ясно! Туманно! Где — конкретно? В комнате, где телевизор смотрят? В театральном зале? Не-ет, дорогой мой друг. В театре зритель пошел такой культурный, такой нежный и добрый, что он даже при слабейшем намеке на юмор всячески поддерживает смехом — смелее, дескать! Не робей, парень! Мы свои! Давай по-семейному! Не обидимся! Примерно так...

Второй параграф. О смеховых ситуациях.

«Здесь есть о чем поспорить. Во всяком случае, не будем взваливать все грехи на плечи комедиографов. Смех живет сегодня в изменившемся мире, на его восприятии сказываются десятки сложных факторов — от социальных и демографических до неизмеримых индивидуальных».

Конечно, спасибо за облегчение, на наши плечи часть грехов не взвалено. Как-то свободнее вздохнулось: меньше груз. А куда девались эти недогруженные на нас грехи? А? Куда их списали? Учет, он везде нужен.

Потом: «Смех живет сегодня в изменившемся мире...» Смех ведь не живет. Он сверкнет по лицам, как молния, да громыхнет по ушам... Смотря какой громовержец причастен к смеху. Все равно по ушам.

«На его восприятии сказываются десятки факторов»... Назовите их. Например: должность, положение, друг, которого высмеивать нельзя, враг, которому нельзя давать повод для злорадства. Учителя нельзя потому, что нужен авторитет перед нашими же детьми, офицера тоже — он ведь поведет нас в бой, если понадобится защищать Родину; врач нуждается в нашем доверии, продавца нельзя потому, что и без этого на такую работу неохотно идет молодежь, государственного служащего, например, председателя горсовета, нельзя, ибо он вроде бы олицетворяет всю советскую власть. (Я до сих пор не понимаю — поче-

му всю. Один и всю? Один за всех? Как французский Людовик — «Государство — это я».)

Запрет на юмор для профессий и должностей — вот это фактор. Неписанный запрет. Не узаконенный, а традиционный. Табу! Вот нельзя у нас есть жаб — и все. Не принято. Другие пусть едят, жрут, а у нас это неприлично.

Вот двоюродного моего брата — колхозника — его можно. Да он и не обидится, если, к примеру, его изобразить, будто он ест китайскими палочками трепангов или еще какое блюдо азиатской кухни. Да он и сам посмеется с этого изображения. А попробуй другого кого вставить в комедию с этими китайскими палочками? Ого!

Вот вам и «Время не стало «хуже», стало иным»... Как это «время стало иным»? Сутки стали короче? Секунды быстрее? Хм... Сапоги всмятку? «Хуже»? Про носки так можно сказать: хлопчатобумажные — лучше, а нейлоновые — хуже. Про обувь: отечественные хуже, импортные иногда лучше.

«Смех — это физическое содрогание человеческого тела от удовольствия, получаемого, когда о ком-либо другом сказано нечто неожиданно правдивое и остроумное»,— написал мне лично один рецензент, похваляясь, что «после спектакля он вышел бодрым, здоровым и отмобилизованным для состязания с бюрократами. Смех придает смелости в этом деле».

Довольно занятная формулировочка. Если не спорить о стиле, а только о смысле.

Можно принять «содрогание тела».

Можно принять «смех придает смелость в этом деле».

Но вот как быть с «когда о ком-либо другом сказано нечто неожиданно правдивое и остроумное». А? Гвоздевой вопрос! О другом! Не про меня! Не про нас! Вот вам и «содрогание». Кому оно нужно? Ведь «кто-либо другой» это все мы. Все! Вокруг! В том числе и я сам — «кто-либо другой» — для соседа и справа и слева.

— Ну, как мы повезем такую комедию напоказ в гастролях на Украину? Что там подумают? Подумают: неужели белорусы такие охламоны. Ведь персонажи ваши смешны! — сказано мне это было много лет назад. И спектакль не повезли на Украину.

Не показаться смешным перед людьми — желание похвальное! И это говорит в пользу комедии. Знать, она действенна! Знать, с ней считаются! Со смехом считаются! Вот ведь как!

## МОНОЛОГ ВЛЮБЛЕННОГО

Ну за что я ее люблю? Я не знаю, за что. Люблю, и все... Нет, нет. Я знаю, за что. Господи! Какая же она красивая. Все, все, все в ней так красиво, что... Вот смотришь на нее, нет, рассматриваешь и любуешься, и восхищаешься. Господи! До чего же все в ней совершенно: и глаза, и ушко, и нос, и губы... Какие губки! Просто странно — как это другие проходят, не видят, не чувствуют. А я открыл. А встанет, пройдет... Нет, просто повернется... или отбросит со лба прядку волос... А улыбнется — ну будто солнышко весеннее пасхальное — на душе теплота, ясность. Что бы она ни говорила... Я не слушаю — что, о чем... Просто приятно слушать ее голос — серебристое журчание. Не голос, а ручеек. Просто... вот... Когда она рядом, нет не рядом, а перед тобой, то кажется, что она в тебе, во мне... Она заполняет всего, и хочется так бережно ступать, чтобы ей было хорошо, удобно. Умная ли... Не знаю, да я об этом не думаю. Не знаю, да и знать мне не надо. Я не хочу ее проверять, анализировать, исследовать, оценивать, сравнивать. Она несравненная. Она такая! Любимая, желанная. Светлая. Ясная. Ее даже не ласкать, а только дотронуться до нее — и то счастье. Быть с ней всю вечность, всю жизнь, даже молчать, даже... Вот она спать будет, а я бы только дыхание ее слушал. Как песню, как тихую музыку, как тишину луга, реки. Да, да! Вот именно. За что ее люблю? А за что любишь реку? Лес? Поле? Луг? Жаворонка? Пламя в костре? Звездную ночь?

Ведь над рекой можно сидеть неподвижно часами, смотреть на ее плынь, любоваться изменчивостью ее течения. А ведь там только вода, волночки, берега, лоза, где-то лес, цикады, в воде — белые облака, и все. А любить! До страдания хорошо в сердце. Вот над рекой сидишь — тишина, покой, а сердце щемит. Радостно так, приятно так, до слезы хорошо, до комочка в горле. Так и с ней. Или сидишь у костра, смотришь в пламя. Часами... А что там? Жизнь? Нет. Горение. Но теплота, но пламя. Пла-амя-а... Греет. Все меняется там. Все ново. И любуешься... Даже не знаешь чем, а любуешься.

Вот так и с ней. Но у нее ведь знаешь, чем любуешься. Природой!

Совершенство природы. Вот она и есть природа. Как река, поле, лес, луг, тишина. Как звездная ночь, как ветер, солнце, дождь, все, все в ней. Ах, как же я ее люблю!

Во дворе, на дровянике трепыхалась в мусоре недорезанная курица.

Трехлетний ребенок смотрел на нее большими непонимающими глазами. Он не знал, что тут смерть, что тут боль, что это страшно. Намного позже придет к нему страх в образе этой курицы. Память не сохранит ему виновника — кто это сделал. Кроме трепыхающейся в мусоре курицы он ничего не запомнит. Все остальное он уже забыл.

Это сделала его мать...

Смотри! Остерегайся! Увидит, разозлится и начнет употреблять народные выражения на всю катушку.

Как же играть комедию? Во-первых, комедию можно только играть. В жизни комедий не бывает. Встречаются только комедийные ситуации, эпизоды, случаи, которые автор собирает или сочиняет, а потом подтасовывает и выкладывает своеобразный пасьянс — подобие жизни — стройный, логичный, более-менее завершенный, в зависимости от таланта.

Во-вторых, актер (и актриса тоже) не должен забывать, что восприятие, оценка и ориентация в дебрях фактов жизни персонажем, изображаемым в комедии (да и в драме), первичны, новы, свежи, неожиданны. Актер в процессе репетиций все познает, все знает наперед, что с ним случается, что его ожидает. Он привыкает к фактам. А в спектакле это знание должно быть глубоко спрятано. Первичность восприятия — основа перевоплощения, переживания.

Комедийные персонажи живут по тем же законам психологии, что и все люди. Однако их восприятие жизни, оценка поведения партнеров, выражение собственных чувств преувеличенные, завышенные, предельные, контрастные.

Самое глубокое огорчение — из-за мелочи: при удивлении — челюсть отвисает до пупа; при ожидании — предел нетерпения; при молитве — обязательно разбить лоб об пол; обида воспринимается до истерики; обнимая любимую — задушить до обморока; от радости — завизжать по-собачьи; смеяться — до коликов в боку; если любить, то до издевки, до насмешки; можно смеяться до плача, до слез, до рыдания. Если желать, то несбыточного; врать

и — верить, что тебе верят. Если вино пить, то из ведра и до дна; если спирт запивать — подай другой стакан спирта — пусть почихает.

Снимать шубу с дамы — стесняясь, будто под шубой она (а вдруг) голенькая; одернуть и урезонить хулигана — из всех осмелилась древняя старушка, и т. д., и в том же роде.

В-третьих, разрабатывая характер, образ, отбирать и накапливать определенные детали, которые бы углубляли, а не «расширяли» и сам образ, характер и идею, тенденцию, смысл пьесы. В данном случае нужны поиски новых деталей для характеристики людей, рвущихся к высокой должности, к власти над людьми. А эту должность приходится выпрашивать у такого-то конкретного типа.

Ищи детали: льстивости, подхалимажа, заискивания, угодничества, самоуничижения ради возвеличения «его» (облизывает упавшую вилку «хозяина», вытирает собственной полой стул ему, чистит ботинки собственной шапкой и т. д. и т. п.).

А в результате расцветает гонор, чванство, зазнайство, фанфаронство, хамство, грубость, самомнение.

Взаимообусловленность этих характеров составит главный мотив спектакля, причинную связь, нерасторжимость двух противоположных категорий, их единство. В этом философия культа, любого культа: бога, царя, фараона, тирана, узурпатора, цезаря и им подобных.

В-четвертых, мысли, рождающиеся тут, при этих обстоятельствах, и поиск слов для точного выражения мыслей, для верного достижения своей цели должны быть особенной заботой актера. Не читать заготовленное автором, но мучительно рождать слова, подбирать их, взвешивать их, как бы выбирая из кучи камней — нужный по форме и по весу.

И слова находить, оттенять главные, несущие суть мысли. И не мямлить их, не высыпать на пол перед партнером, а швырять их в лицо или подавать на блюдечке. И чтоб это были слова! Сочные! Наполненные! Весомые! Удобные и для швыряния, и для подношения на блюдечке, как яйца — тухлые или пасхальные, и не как легкая скорлупа. Иероглифы тут не помогут. К каждому главному слову есть свое, глубинное отношение, через которое раскрывается суть мысли, просьбы, обвинения, защиты. Что хочешь сделать этим словом? Нанести рану? Или заговить ее? Убить или воскресить? Опорочить или оправдать?

Взволновать или успокоить? Возвеличить или унизить? Подбодрить или насмеяться?

Слово должно нести бремя прямого значения и отношения персонажа к этому значению: глубокое уважение или иронию, отрицание или утверждение и т. д. Тут простор для актерского поиска, его таланта, его способности углубить характер, уточнить, сделать его запоминающимся. Новизна, оригинальность деталей, свежесть подсмотренного в жизни и узнаваемость их, отбор, достоверность, правдивость их перенесения на сцену — вот хлопотная забота актера.

В-пятых, отбор деталей.

В жизни, как в лесу,— скопище всякой твари, и мошек, и букашек, и зверюшек, и пташек, и цветов, и ягод, и гнили, и падали, и колючек, и пушинок.

Для варенья собираем ягоды, для кваса — березовый или кленовый сок. Для закуски грибы. Для супов и щей они тоже годятся. Травы для заварки чая и т. д.

Нельзя для варенья собирать и ягоду, и гриб, и березовый сок.

Так и для образа. Кто он? Подхалим? Льстец, карьерист, угодник, очковтиратель? Все это одно другое дополняет. Но если добавлять сюда еще и то, что он будто бы пьяница и танцор, бабник и наркоман, баптист и модник, меломан и неряшливый, скупой и хромой — что это дает? Эклектику.

Нужен набор целеустремлений! Для чего? Для какой идеи? Чтобы провезти тяжелый, громоздкий груз по каналу — надо углубить канал. Тогда провезем груз, когда углубим. Не расширим канал, а углубим. В широком канале вода прибавляется, но пароход сядет на мель, и груз не провезем.

Для этой цели важна глубина. Для того же, чтобы посадить на мель — надо расширить. Но это уже не провоз груза, а диверсия.

Строптивость, упрямство, озлобленность, цинизм, жестокость, измена — вот предмет творческого размышления писателям, живописцам. А мы иногда требуем от них отразить количество опор высоковольтных линий, поголовье скота, кто же будет сеять разумное, доброе, вечное! Попов мы освободили от этих забот, а кому мы передали их эти заботы? Всем? А известно ведь: у семи нянек дитя без носа.

А море в дикой злобе бросало на берег холодные воды. Вал за валом. Гордо взмывая кверху пенистыми гребнями, вал за валом стремительно неслись на берег, как бы стремясь захлестнуть всю землю холодной стальной водой, но всякий вал, как бы испугавшись, увидя бескрайнюю необъятную ширь земли, постыдно отступал, уползал, оставляя на мокром песке свой пенистый гребень. И так без конца море посылает на берег вал за валом, и так бесконечно воюет море с землей, штурмуя берег валами, а они, бессильные, всползают и уползают, оставляя на песке злобную пену, перекатывая мелкую гальку.

Да-а... А земля есть земля. Вал за валом... Вал за валом... А на человека горе... Вал за валом, вал за валом... И он отбивал... отбивал... Вал за валом, вал за валом.

## 1978

# ТЭЗІСЫ ВЫСТУПЛЕННЯ

1. Канфлікты, якія вычытаны ў газеце, не адлюстроўваюць пачуццяў канкрэтных людзей з жыцця. Адсюль у п'есах ад іх — другаснае, паслабленае хваляванне, ненатуральнае дыханне. Няма вастрыні ва ўзаемаадносінах, а часам канфлікт паслабляецца бязглуздасцю спрэчкі. Спрэчка — яўна бессэнсоўная, няма пазіцый, аргументаў у канфліктуючых. А чаму? Ад няведання жыцця. У жыцці вялікія канфлікты аргументаваны, абумоўлены, а іншы раз і «тэарэтычна-навукова» падмацаваны. Усё гэта прыводзіць да верхаглядства.

2. Крытыка — няма суаднесенасці падзей, характараў, канфліктаў, асэнсоўваемых у п'есе з жыццёвым канфліктам, характарам, падзеяй.

Адсюль — тое ж — верхаглядства.

3. Мы заклікаем пісьменнікаў вывучаць жыццё. А што гэта азначае? Трэба абзаводзіцца знаёмымі, заводзіць чалавечую дружбу з людзьмі ў калгасе, на заводзе, у судзе, у школе, у ўстановах і быць сапраўды другам — зацікаўленым, душэўным, адзыўчывым, надзейным, гатовым дапамагчы чалавеку ў вырашэнні яго праблем. Каб яго клопаты сталі тваімі клопатамі, каб яго бяссонныя ночы ўзру-

шылі і цябе і паклікалі цябе памагчы чалавеку. Ну, а калі ў друга радасць — раздзялі па дваіх — будзе дзве радасці. Раздзялі гора на дваіх — будзе паўгора. Даўняя народная мудрасць.

А вывучэнне жыцця набегам, турысцкім вокам, павярхоўнай экскурсіяй не прывядзе драматурга да глыбіннага пазнання жыцця, да глыбіннага раскрыцця прычыннасці канфліктаў, да поўнага разумення душы, псіхалогіі сучасніка, яго характару.

5. Аб «падзейнай» драматургіі, якая пагардліва ставіцца да характараў. Маўляў: важна, што адбылося і як, а не з кім.

6. Актыўныператваральнік жыцця — аб'ект назірання і прадмет для мастацтва. Пасіўны тып — у перыяд бурлівага кіпучага жыцця — таксама прадмет літаратуры. Прадмет для даследавання. Як? Чаму? Што ён такое? Ён — крайнасць? Ён — выключэнне? Ён — вынік пануючых нормаў маралі? Ён — тыповы прадстаўнік грамадства? Хто ён?

## О ПЬЕСЕ А. ПЕТРАШКЕВИЧА

Читателям серии «Сегодня на сцене» имя белорусского драматурга Александра Петрашкевича уже знакомо по пьесам «Откуда грех», «Тревога» и «Злыдень». На сценах профессиональных театров ставится и его новая пьеса «Украли кодекс», предлагаемая читателю.

Уже известны читателям и такие достоверные подробности, как высшее юридическое образование автора, его степень кандидата исторических наук, его работа в среде энциклопедистов в БелСЭ, ректорство в институте культуры, а теперь и того больше — заведывание отделом культуры в ЦК КП Белоруссии. Только за все это он уже достоин уважения. Но ведь у Петрашкевича есть и еще качества, которые особенно симпатичны мне — его приверженность к сатирическому жанру, великолепное знание разговорного народного языка, острое чувство народного юмора, творческое озорство и понимание жизни своего современника. Эти качества, как известно, высоко ценятся и знатнейшими, ученейшими академиками. Есть уверенность, что со временем наш автор встанет в их ряды. Они потеснятся. Доказательством этому пророчеству служат не толь-

ко его прежние творческие приобретения, названия которых уже перечислены вначале, о которых можно сказать, пользуясь спортивной терминологией,— это было творческой разминкой. Истинные достижения впереди. Вот, к примеру, его новая пьеса об ученейшем муже, славном сыне белорусского народа, первопечатнике Скорине.

Эта пьеса — «Написанное остается» — является серьезным новым творческим достижением автора. Приятно радует она не только проникновением в глубь веков, но и в глубины человеческой психологии его героев и их философских взглядов.

Древний средневековой материал переосмыслен, повернут современному читателю интересными гранями, изложен иногда спокойно и рассудительно, а иногда озорно, с юмором, с улыбкой, с иронией. История часто дает повод для иронии. Непохожесть тех событий на сегодняшние иногда очень смешны, а иногда грустны.

Петрашкевич утверждает себя и в новом качестве — исторического писателя. Тоже — нелегкая стезя, но достойная уважения. В этом деле пожелаем ему острого пера и гладкой бумаги.

## 1979

Малітва: «Сонца, паветра і вада нам карысней. Ад усіх хвароб нам карысней: паветра, сонца і вада».

— Гэтыя трухлявыя зусім з глузду з'ехалі. Што за малітва? Старэчы маразм, чокнутыя...

— Адкусі язык і выплюнь.

— А ты пакрыўдзіўся? *(Шчыра.)* Няўжо я пакрыўдзіў? Ну тады вазьмі... Набяры дрэні ў рот і паплюй мне ў...

— Пачакай. Гэта ты будзеш так рабіць: і набіраць сабе ў рот, і пляваць сабе таксама — сам ужо ведаеш куды.

Як гэта людзі не адшукалі раней гэту самую мудрую ісціну. Гэта ж у біблію трэба ўпісаць: сонца, паветра і вада — нам карысней. Ні золата, ні брыльянты, ні акцыі, ні залатыя пагоны, ні арабская нафта — усё гэта мішура. А вось за звычайную ваду і звычайнае паветра можна сабраць з усяго свету ўсё золата, серабро, жэмчуг, брыльянты і нават усе кароны, усе тытулы, усю ўладу. Усё! Усё!

Можна богам стаць. Ды што там бог? Самога бога можна трымаць за бараду і прымусіць яго падпарадкоўвацца.

— Трэба запасціся: вадой, хлебам. Рознай правізіяй.
— Навошта? Засухі ж не прадбачыцца.
— Ты ведаеш, як з'явіўся самы багаты чалавек у свеце?
— Не, не ведаю.
— Гэта было даўно. Калі яшчэ палявалі на маманта. Дык вось пасля доўгай галадоўкі племя дзікуноў неяк адолела маманта. На кастры смажылі, парылі, жралі да адвалу, да ванітаў і ўлегліся спаць. І толькі адзін не заснуў. Яго турбавала думка, не даваў заснуць страх перад наступным голадам. Ён ведаў, што заўтра прачнуцца яго супляменнікі, даядуць рэшткі маманта, а потым зноў наступіць вялікі пост. Племя ж аслабла, маманты сталі сустракацца радзей. Ну і...

Ён устаў са свайго прымітыўнага ложа, узяў каменную сякеру, адсек вялізны — як панесці — кавалак мяса і пайшоў у лес. Там ён загарнуў мяса ў шкуру і апусціў яго ў гарачую крыніцу — тады людзі сяліліся або, дакладней, пражывалі паблізу гарачых крыніц. Апусціў на глыбіню. Схаваў, замаскіраваў. І пайшоў.

Ён заснуў. Яму снілася...

Нікому ні да гэтага, ні пасля не снілася такое багацце. Калі прыйшоў голад, ён стаў правадыром племені. Яму прынеслі лепшы лук, лепшую каменную сякеру, прывялі лепшую жанчыну. Ён атрымаў усё, што хацеў. Ён загадваў, і яму падпарадкоўваліся. Як богу. Ён быў самы багаты чалавек. Ён заўсёды пасля палявання, калі ўсе наядаліся і засыналі, уставаў ціхенька, адсякаў вялікі кавалак і хаваў. У запас. Ён не ведаў, што гарачая крыніца — кансервант. Ён хаваў у гарачую ваду таму, што яго супляменнікі, вядома, голую руку не сунуць у гарачую крыніцу. Гарачая крыніца мела ў іх вачах боскую сілу. Яе баяліся. А ён не пабаяўся. Гэта было найвялікшае адкрыццё.

Аптэкар. Ты расказваў пра маманта, пра першага багатага дзікуна.

Ісак. Ну і што?

Аптэкар. Гэта цяпер таксама можна рабіць. Вельмі проста нават можна. Я раней таксама так рабіў. Калі на прысках быў на Алясцы. О-о! Надта багаты я стаў. Правільна, голад мне дапамагаў. О-о, голад гэта вяя-лікі, моцны памочнік. *(Даць яго расказ, споведзь.)*

## С БЛОХОЙ ИЛИ С ДРАКОНОМ?

Прежде всего, хочется, чтобы о сатире всегда люди говорили всерьез и чутко. Такой это жанр. Можно говорить с шутками, прибаутками, юмором, но всегда всерьез, заинтересованно.

Вот в письме говорится, что хорошие сатирические произведения встречаются редко. И список собственных имен сатириков, указанных в письме, о-о-очень короткий. А может, в этом вина не только наших читателей, но и прессы, критиков? Наша литература имеет гораздо больше сатириков, чем обычно указывается в обзорах. А может, тиражи их книг невелики или обложки не броские, а чересчур скромные?

В создании сатиры принимает участие не только автор, не только редактор, но, прежде всего, и сама жизнь. Она всегда будет давать разнообразный, разномасштабный и колоритный материал, так как никогда не наступит беспроблемный период жизни, особенно в морально-нравственном аспекте. Отношение сатирика к жизненным проблемам чувствительнее, острее, чем, скажем, у иных и прочих. Сатирики более агрессивно, если можно так сказать, настроены против негативных явлений. Ну, например, какой-нибудь рядовой руководитель обнаруживает, что его подчиненный уже совершил безнравственный поступок. Он объявляет ему выговор и с гневом успокаивается. А вот сатирику этого недостаточно, он не успокаивается, считает, что явление от этого выговора не исчезает. Писатель-сатирик в художественной форме обрушивает свое смехоносное оружие и на этот факт, и на «возбудителя», первопричину аморалки, гремит во все колокола на всю ивановскую о создании требуемой нравственной атмосферы нетерпимости и о своей смелости. Под всеобщий хохот.

«Серятина», как сказано в письме, часто появляется оттого, вероятно, что писатель выбирает факты и оговаривает не для собственного удовольствия, что они-де «отдельно взятые», редкие, такие, за которые его никто не упрекает и не обидится. Ну как же такая трусливая, робкая сатира не «посереет»? Например, можно высмеять мальчика или дядю, которые трусливо боятся перепрыгнуть через ручей, но общая значимость этого «поступка» почти нулевая.

А вот когда у сатирика обнаруживается такой порок, как трусость, то тут уж, друзья, читателю не до смеха.

У него на виду у всех слеза навертывается на глазах, а ночью он страдает от бессонницы.

Теперь представим некое заведение, которое выполняет определенную функцию. Например, оно должно обогревать город. И сидит там лопоухий руководитель. Вы, вероятно, встречали такого? Благодаря его нерадивости, не вовремя доставлен уголь для топок, перед зимой не утеплены трубы или не отремонтированы котлы. Подчиненные видят, что лопоухость руководителя ведет к плохим последствиям, но боятся его высмеять. Об этом можно написать фельетон, басню или сатирическую новеллу, но лопоухости мы не исправим, так как, может быть, это деловое качество у человека с детства. В сатире тогда нуждается не он, а тот, кто поставил его и терпит на этой должности, потому, что именно «тот» — еще более лопоухий. Высмеять — это значит одержать победу. Есть такие факты в жизни, которые активно вызывают возмущение. Именно это чувство переплавить в юмор, иронию, сарказм, насмешку. В чем и заключен секрет сатирического искусства.

Добро должно побеждать смехом. Смехом мы прибавляем силы слабому. Осмеяние — это наказание большее, чем 15 суток за какой-то хулиганский поступок. А есть ведь и такие безнравственные — полухулиганские поступки, за которые нельзя наказать административно. Тогда разъяренный писатель садится за стол, чтобы наказать зло художественным словом, которого тот самый полухулиган никогда в жизни не прочитает. Ему не до того.

Что же касается добрых и недобрых времен для сатиры, то я бы не сказал, что, например, сейчас трудно живется комедии, если она выживает до сцены. Но для сатиры всегда были трудные времена, начиная еще от Аристофана, который не всегда был доволен древней демократией. Трудные времена бывают не только у сатирика. Вот случай. Прибегает однажды к человеку перепуганный сосед и сообщает:

— На твою бабу волк напал.

— Ну, что ж? — отвечает человек.— Пущай теперь сам и боронится, если напал.

Рассказывают, будто нечто похожее сказали и одному сатирику, когда он напал на одного крупного бюрократа. Да оно и верно: тут уж кто кого. Тут проявятся и риск, и храбрость, и способность одолеть трудности.

Сатира конца 70-х годов, конечно, отличается от сатиры 10—20-летней давности. Сатира наших дней стала много-

слойней, сложней, тоньше. И это, прежде всего, связано с возросшей культурой народа. Если раньше висели плакаты «Не плюй на пол», «Не ходи по газонам», то сейчас уже другие лозунги — уважай человека, потому что он тебе друг, товарищ и брат. И насчет — «не плюй!» тут уж извини — подвинься!

Многие плакатные истины стали нормой жизни. Даже бюрократ, который извечно поступает формально правильно, а по существу издевается над человеком, теперь уже делает это вежливей, культурней, деликатней, кость ему в горло! Рыбья! За ужином.

Салтыков-Щедрин создавал своих любимых персонажей с органчиками на плечах. Вместо голов. Современные же сатирики с одной стороны смелее мыслить стали, самостоятельнее: органчики заменили компьютерами. (Правда, бракованными.) Но, с другой стороны, существует определенная настороженность к их произведениям, несущим в себе критику негативных сторон жизни, хоть всем известно, что для сатирика ведь это основное меню, так сказать — пища его. Мне нравятся те писатели-сатирики, которые создали яркие, любопытные характеры, глубоко исследуя поступки нынешних людей. Их герои действуют в ненадуманных ситуациях и, сталкиваясь в решении жизненно важных для общества проблем, обнаруживают в себе неодолимую тягу к премиям, почетным званиям, пренебрегая своим именем, жаждут славы, известности. А в ком не живет этот червь? Вот в себе, читатель, ты не обнаруживаешь его? Ждешь, пока другие тебе укажут?

Я всегда с уважением отношусь к творчеству К. Крапивы и Остапа Вишни, М. Зощенко и С. Олейника, кроме указанных в письме авторитетов.

Неожиданно, с удивительной прямотой и откровенностью вошел в литературу Вампилов, с болью за нашу нравственность, с чуткостью к нашему духовному миру. Мы все, почти все, нежно любим сатирика Аркадия Райкина. А? Во — артист!!! И народный, а с именем. Смотришь его на сцене — пуп трещит от смеха. Не шучу. Я восхищаюсь комедийным и сатирическим потенциалом Театра сатиры. О-о, если бы пустить в дело его скрытые резервы! Этот коллектив мог бы выпускать свою продукцию со Знаком качества в счет 12-й пятилетки. Сатирическая продукция складов не требует, но от продолжительного хранения в кабачке портится.

Сатирический жанр — это редкий дар, сложный и тру-

доемкий. Наше поколение потрясено войной, которая дала такой эмоционально наполненный, привлекающий внимание материал. И основной задачей писателя была задача отразить героический и трагический пафос войны. Хотя с другой стороны — написаны «Бравый солдат Швейк» о первой мировой войне, а наш «Василий Теркин» как на этом свете, так и на том — о Великой Отечественной войне!!! Вот хозяйская натура была! Во все вникал! А до чего смекалист! До чего же приятный соотечественник и современник!!!

Какое бы течение прозы и поэзии мы ни взяли (лирическое, романтическое, героическое) — у всех наплаву мно-о-го нравственных категорий, которые исследует и сатира. Например, чуткость и черствость, порядочность, честность и лживость, добро и зло, искренность и ханжество, заботливость, деликатность и бездушие, вежливость и хамство, благородство и низость и т. д. Эти понятия человечество обнаружило давно, и все люди, на всех уровнях, начиная от фараона, его жреца и до раба — испытывали их действия на своей шкуре. Сатирики исследуют эти категории в современнике, полагая, что эти нравственные категории в той или иной мере и нынче присутствуют в каждом человеке. Одни качества хочется закрепить, а от других отмыть человеческую душу. Вот это на мой взгляд и является предметом сатиры. Так было давно. Так будет и впредь. «Доколь в подлунном мире жив будет хоть один» сатирик.

Сатирические стереотипы всегда не соответствовали времени. А теряют свое воздействие на зрителя не они, а авторская широта интересов, глубина видения, высота позиции, общественная значимость его идеалов, значимость предметов его восхищения или возмущения.

С кем воюешь? С блохой или с драконом?

## 1980

Банальнасць лезе тады, калі аўтар аблягчае сваю задачу, не лезе ў глыбіню чалавечай псіхалогіі, не раскрывае прычыннасць канфліктаў. Сачыняць банальныя, прымітыўныя гісторыі — усё роўна што плесці лапці. Але ж лапці даўно выйшлі з моды. Выйшлі, бо недаўгавечныя яны

і не на ўсякае надвор'е. Трэба шыць боты. Ужо ж праславіцца шаўцом лепей, чым лапцюжнікам.

Тэатральны эцюд пры паступленні ў ВГИК. Мыш перашкаджае чытаць. Выцягнуў гумку з трусоў. Зрабіў рагатку. Замест стралы — ручка з пяром. Забіў. Падняў, як на кап'і...

— І ўсё? Няма фіналу. Эфектнага канца...

І тады я кінуў гэту мыш таму члену журы, якому не хапала эфектнага канца.

Шамякіну я прымерваю вусы, хахол запарожца. І... Смешна. І іншым прымерваю — іншы характар. Выхілкі, манеры.

Пошук характарнасці — у нечаканым «прыжыўленні» рысаў, якія ўласцівы зусім іншаму чалавеку, тыпу.

А Г. нічога не ўцяміў, прагледзеўшы адзін раз спектакль «Таблетку пад язык». Палянскі ўбачыў сутнасць і паспрабаваў пярэчыць, але не называючы прадмета спрэчкі.

## ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Прыміце ад мяне самую шчырую, самую сардэчную падзяку за вашу ўвагу да мяне, за тое, што прыйшлі сёння ў гэтую залу, на гэты юбілейны вечар.

Я глыбока ўдзячны ЦК нашай партыі, нашаму ўраду, Вярхоўнаму Савету за ўзнагароджанне мяне ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Гэта высокая ацэнка маёй працы. Для мяне гэта вялікі гонар. Я буду заўсёды помніць і берагаць ідэалы Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Я сардэчна дзякую за цёплыя словы віншавання: і першаму, хто павітаў мяне з узнагародай, і ўсім, хто слаў тэлеграмы, паштоўкі і пісьмы, шчыра дзякую маім сябрам, якія сёння тут выступалі і выказвалі свае добрыя пачуцці чыталі па пісаным. (Як і я.)

Дарагія сябры мае! Юбілей, аказваецца,— ношка нялёгкая. Сёння нечакана і непрывычна для мяне звалілася такая лавіна ласкавых, прыгожых, добрых, прачулых, салодкіх слоў, што я з непрывычкі трохі разгубіўся.

Я не паспеў яшчэ як след абмазгаваць гэтую сітуацыю з пахвальнымі словамі, высокімі ацэнкамі і добрымі пажаданнямі. Даўно заўважана, што ад празмернай хвалы ча-

лавек п'янее і тупее. Аднак жа я ўлавіў адну несправядлівасць.

Калі я што-небудзь вартае і зрабіў, то не толькі сам. Прызнаюся: у мяне былі сааўтары.

І сааўтары гэтыя — вы! З вашых крыніц я чэрпаў гумар. Карыстаўся вашым маральным кліматам, кіраваўся вашымі маральнымі прынцыпамі, ад вас пераняў павагу да чалавека, да яго годнасці, пераймаў вашу дабрату, вашу чуласць, справядлівасць, вашу спагаду.

І ў час работы ў мяне заўсёды быў добры памочнік, чэсны, праўдзівы, патрабавальны, прынцыповы дарадчык — гэта вы, нашы гледачы, чытачы, савецкія людзі. Яны былі маімі сааўтарамі, і таму, каб быць чэсным, лічу, што трэба па-справядлівасці падзяліцца ўсімі пахваламі з вамі. Бо калі я браўся за пяро, то вашы маральныя прынцыпы былі той падсветкай для вобразаў і характараў у п'есах, без якой немагчыма напісаць колькі-небудзь варты твор. А ўсё, што напісаў я,— па сутнасці вяртаў вам ваша. Хіба толькі ўпакоўка была мая, з гумаркам, вясёлая. Форму падбіраў сам.

Дзякую вам за дружны смех, які падтрымліваў мяне, пацвярджаў, што думаем мы аднолькава. А для пісьменніка вельмі важна ведаць, што ў яго багата аднадумцаў.

І яшчэ скажу: ваяўнічасці, непрымірымасці, прынцыповасці я вучыўся ў партыйных органаў. Цвёрды характар, настойлівасць і волю гартавалі яны.

Нешта пацягнула мяне на прамову. А ёсць жа правіла: лепей сказаць мала, чым нагаварыць лішняга. Тым больш што пасля перапынку мае дружбакі артысты пакажуць некалькі ўрыўкаў са спектакляў па маіх п'есах. Там вы пачуеце і мае словы, і мае думкі.

Дарагія мае, родныя мае!

Вам я ўрачыста абяцаю: колькі будзе маіх сіл, буду рабіць, пісаць так, каб не сорамна было з вамі сустракацца. Я пастараюся ўважліва слухаць вашы думкі, вашы мары, вашы надзеі. Абяцаю вам быць праўдзівым.

## НА ТВОРЧЫМ ВЕЧАРЫ

1. Падзякаваць усім:
хто прыйшоў, хто прыехаў, хто сядзеў, глядзеў і слухаў, хто гаварыў — пра мяне, за мяне і на мяне.

Падзякаваць маім сябрам:
артыстам, пісьменнікам, рэжысёрам.

II. Тэатральнае мастацтва — мастацтва калектыўнае, і таму — шмат сааўтараў.

Драматург без артыста, артыст без п'есы, рэжысёр без п'есы (без п'есы і без артыстаў). Калектыўнае паляванне на мамантаў, відаць, артысты прыдумалі.

Я лічу сааўтарамі сённяшняга вечара артыстаў, якія паказалі ўрыўкі са спектакляў.

Я даўно палюбіў Матусевіча Іосіфа Андрэевіча.

Ведаю з 1954 года. Зямны, праўдзівы, даставерны, добры, мяккі і смешны. Свой, жывы, блізкі. Госць — таму аб ім першым.

А Макарава? Ва ўсіх спектаклях іграе Лявоніху — без падстрахоўкі, без дубляжу.

А Аўсяннікаў? Аднадумца, надзейны, верны таварыш. Цяпер «нарасхват»: карыстаецца попытам у маладых і сярэдняга ўзросту жанчын-рэжысёраў кіно, радыё, тэлебачання.

Я не буду пералічваць усіх.

Я ўдзячны і Л. Рахленку, і П. Дубашынскаму, і Ул. Кудрэвічу, і моладзі...

На артыстаў мне шанцавала.

Платонаў, Глебаў, Дзядзюшка, Малчанаў, Ржэцкая...

У Маскве: Папанаў, Менглет, Міронаў, Плучак, Дабржанская, Папоў А. Д.

У Кіеве — Мілютэнка.

У Харкаве — Сярдзюк.

Пацерціся каля такіх людзей — розуму набрацца!

Рэжысёры — Саннікаў, Папоў, Плучак, Гнат Юра.

Я ўдзячны гледачу.

Ён — з вострым пачуццём гумару, разумны, добры, разумее многае з паўслова. Ён адзыўчывы, здагадлівы — цэніць не толькі слова, а і тое, што між слоў.

Для такога гледача прыемна і ахвотна працуецца!

Часам гледачы пытаюцца — цяжка ці не пісаць камедыі. Нялёгка, але трэба.

Шкадую, што ў праграму вечара не ўключана мая лепшая п'еса — сам вінаваты!

Я ўдзячны сябрам-пісьменнікам... Як без іх, калі трэба памагчы, нараіцца... падтрымаць, паспачуваць, паўздыхаць.

Пра Шамякіна — працавітасць. У яго трэба вучыцца...

Дзякую! За ўсё: і за дасціпныя жарты, і за спагаду, за кепікі і за мяккую іронію.

Сатырык павінен умець усё ўспрымаць спакойна — нават пахвалу і добрае слова.

А ў мой адрас сёння было сказана нямала ласкавых, цёплых і салодкіх слоў... Як на юбілеі ці...

Мікола Ткачоў сказаў, што ў вайну Алесь Кучар пасвіў гусей камандуючага Яроменкі.

— Дедушка! А что это там, на стене, где дом строится, что это серенькое такое?

— А смотри сама, и если шевелится — значит, голубь. А если не шевелится — значит, строитель.

Один рабочий сказал:

— Да я бы этим бракоделам при повторных случаях брака обязательно клеймо ставил и увольнял бы. Пусть поищет новое место. А на новом месте зарплата на червонец меньше. По закону. Клеймо — червонец в месяц теряешь.

— А клеймо где? На лбу?

— Зачем на лбу? Можно в трудовой книжке. А можно, ёлки-моталки, и на ягодице. Приходит такой в отдел кадров, а ему там: «Снимай штаны, покажь ягодицу».

Одно клеймо — на один червонец зарплата ниже, два клейма — на два червонца ставка урезана. А уговорами иного бессовестного не проймешь. А вот червонец — это за год оборачивается в сто двадцать рублей, за два — двести сорок. Очень понятный аргумент. А как же?

## Для пьесы

В начале:

Взялся передвигать ( ставить себе) громоздкий письменный стол и... надорвался, нажил себе килу. (Не по силам были масштабы стола.) А кила — на всю жизнь.

В конце:

Пенсионер, инфарктник. Передвигал громоздкий шкаф, чтоб закрыть дверь, отгородиться от внуков, и... надорвался. Инфаркт, и... умер.

«Закрывая амбразуру грудью»,— закрывал вход или выход молодым.

# З КІРМАШУ

## Уступ

Перад пачаткам спектакля мы рашылі не скрываць ад вас пісьма ад аўтара. На нашу думку, яно адрасавана не толькі тэатру, але і вам. «Дарагія таварышы! Хай Вас не турбуе, што ў спектаклі засталіся толькі пралог і эпілог, а самой камедыі не будзе. Не ў ёй соль. Важна тое — з чаго пачалося і чым скончылася. А нюансы — дзе было, калі было, як развіваліся падзеі — усе гэтыя падрабязнасці глядач можа дафантазіраваць. Аднак вельмі хочацца, каб ён, наш масавы глядач, кожны паасобку, задумаўся над пэўнымі пытаннямі. Каб ён абавязкова спытаў самога сябе. І не столькі аб тым, што ён убачыў на сцэне, колькі аб сваім жыцці. Уласным. І кім бы ён ні быў. Я маю на ўвазе не толькі яго пасаду ці званне, але і яго краіну, яго нацыю, яго ўзрост, яго жыццёвы вопыт, яго поле дзейнасці. У якой бы ён краіне ні жыў, ці ў які час, і якая б маральная атмасфера яго ні акружала, пастаўце перад гледачом задачу, хоць гэта і прагучыць «шляхетна», не тонка, не па законах «мастацтва». Мы выканаем сваю задачу, калі глядач спытае сябе сам:

— Што ты зрабіў сёння?.. і г. д.

## I
## МИНИАТЮРА ДЛЯ «ФИТИЛЯ»

В квартире обилие приемников, проигрывателей, магнитофонов, стеллажей, заполненных в два ряда книгами. За журнальным столиком ученики режутся в карты.

Входит солидный папа, озабоченный бедами мира, интеллигентный и потому серьезный. Ребята переполошились. Насытившись длинной паузой, папа сказал:

— Стыдно! Стыдно убивать время на такие глупости. Неужели не можете найти себе более рациональное занятие, увлечение, хобби, наконец. Безобразие! Дикость,— и отнял у них карты. И пошел в свой кабинет.

На столе: начатый доклад о воспитании детей «Пример родителя». На нем авторучка; рядом масса раскрытых и недочитанных журналов. Что-то даже из самиздата. Отложив в сторону карты, папа выбирает, что же дочитать? И... А пусть подскажет пасьянс. И начал раскладывать и

такие и этакие пасьянсы. Увлекся. Вспотел. Разделся. Опять за карты, через замочную скважину сочится дым. Курит, и так до утра.

Утром встал усталый, изможденный, злой.

Подошел к зеркалу и повторил монолог, с которым он обращался к детям. Приходит на работу. Секретарь-машинистка готова печатать доклад.

— Доклада не будет. Ясно и так.

В коридоре на доске объявлений на афише о докладе наклеена по диагонали последняя фраза папы.

## II
## МІНІЯЦЮРА ДЛЯ МУЛЬТФІЛЬМА

Баба Ева і дзед Тамаш сабіраюцца на кірмаш. Дзед запрагае кабылу. Бабка ахарошваецца. Усе гатовы. Дзед маладцавата падсаджвае бабку на воз. Пае-е-ехалі на кірмаш...

Што павезлі прадаваць, лёгка адгадаць:
Дзве курачкі, петушка ў клетцы.
І смятаны паўгаршка — у капольцы,

якая стаіць між ног у бабы Евы.

Праязджаюць міма высакавольтнай лініі, на якой сушацца пялёнкі і штаны...

Баба села прадаваць...

А дзед пайшоў мазі ўзяць (для калёс). Доўга шукаў. Яму падказалі: «Ідзі ў аптэку». Там ён, пасля доўгіх спрэчак, купіў два вялізных цюбікі з вазелінам.

Прыйшоў да бабы. У яе хоча купіць пеўніка нейкі малы барчук. Баба Ева падміргвае-падбухторвае. Мама не хоча патураць свайму дуралею:

— Навошта табе пеўнік?

— Я буду царом Салтанам, а пеўніка я пасаджу па шпіль. Хай кукарэкае, калі ворагі нападуць. А курачкі? Яны будуць нясці мне яйкі, як снарады. І я імі буду адбівацца ад праціўніка.

Падышоў дзед і хваліць малога:

— Малайчына, хлапец! Генералам, відаць, будзе. Ваяваць хоча. Патрыё-ё-ёт!

Мама згадзілася купіць пеўня і курачку.

Распрадалі ўсе тавары, пайшлі выпіць чорнай гары... У сучаснае кафэ. Праз дзверы ўпхаміліся абое разам.

Дзед кажа: «Паўбутэльку — хо-хо-хо...»

Баба ж: «Цэлую бутэльку — о-га-го».

Наеліся, напіліся ўраспрог: ледзь пралезлі па адным у дзверы. Дзеду захацелася зайсці ў туалет. Баба ледзь прапіхнула яго ў мужчынскі аддзел і доўга чакала, ляскаючы пугай па галянішчы. Нарэшце з'яўляецца дзед. Ён там патанчэў удвайне. Дзед з бабаю прайшлі міма даўжэзных вітрын, на якіх парадна выстраіліся бутэлькі він, гарэлак, каньякоў, піва і шампанскага.

Пайшлі да воза. Дзед аніяк не ўзлезе на калёсы. Баба Ева падхапіла яго на плячо — наперавес: галава звісае ззаду, а попа наперадзе. Такім чынам яна пасадзіла яго ў калёсы. Прытуліўшыся да пеўнікавай клеткі, ён сядзіць панам. Баба і ногі яму падправіла і руку ў бок яму: ну чысты пан.

Дзед сеў за пана,
а баба за фурмана...

Пае-е-ехалі. З кірмашу. З песняй. Абганяюць прыватніка: нясе пад пахай свайго «Запарожца».

Пакуль бабка не драмала,
то кабылка трапятала...

А паўз дарогу па кустарніку бег воўк. Ён пазіраў на воз і апетытна аблізваўся. Ён прадчуваў удачу. Дзед спіць, задраўшы бараду к месячыку. Баба таксама — клявала, клявала носам дый заснула.

Кабылка спынілася на развілцы дарог. Указацелі перавернуты ў адваротным кірунку. Куды ехаць? Вось пытанне. З кустоў шаснуў бандыт-воўк. Кабылка ацяміцца не паспела: воўк яе за вуздэчку. А каб кабылка не заржала, ён зацягнуў ёй рот «маланкай». Правяраючы, ці не прачнуўся дзед і баба, воўк выпраг кабылу, адвёў яе ўбок, прывязаў да дуба і... Расшпіліў кабылячую «маланку» на спіне ад вушэй да хваста і раздзеў кабылу дагала.

— Ясна! З'еў яе. А са скуры з «маланкай» зрабіў базарную сумку — самую модную.

Дзед і баба спяць, і сніцца ім нешта салодкае.

Воўк падышоў да воза і паказытаў хвастом пад носам дзеда. Пасмяяўся.

— Гы-гы-гы. І паўбутэльку не дапіў.

Потым зірнуў на бабу. У той расшпілена кофтачка. Воўк аж вушы прыклаў. Вось паскуднік! Палез бабе за пазуху. А бабка Ева хоць і ў гадах, але ж праз сон ухмыляецца ад прыемнасці, што нехта яшчэ пакваліўся на яе пазуху. Яна нават праз сон памагла расшпіліць яшчэ

адзін гузік: каб вальней было. Воўк разумеў бабку. Пагладзіў яе і, выняўшы з-за пазухі кашалёк, лізнуў бабку ў губы. Воўк злез з калёс і накіраваўся ў лес. Адкуль ні вазьміся певень! Той самы! Бабульчын. Ды са шпілем пад хвастом. Нема закукарэкаў! Аж страшна стала. Прачнуўся дзед. Прачнулася бабка. Убачылі гаротнага пеўніка і жахнуліся. Дзед выцягнуў шпіль з-пад хваста і кінуў.

— Хто цябе так? Дзе той гад?

Пеўнік праз слёзы ўсміхнуўся і паказаў на... недапітую бутэльку гарэліцы.

## 1981

## АПОРНЫЯ ПУНКТЫ ДЛЯ ВЫСТУПЛЕННЯ НА ПРЭЗІДЫУМЕ СП БССР

1. У нас дома п'есы ляжаць, а ставяць у Маскве, у Кіеве і г. д. Патрабавальнасць — справа добрая, але чаму марнуюцца п'есы Аляксея Дударава, Алега Наважылава, Уладзіміра Іскрыка, Галіны Каржанеўскай, Георгія Марчука?

2. Няфёд: «Театры не хотят слушать правды».

3. Крытыка. Падтрымка маладых акцёраў, рэжысёраў. Не цыдулькі, а артыкулы ў часопіс.

4. Рэпертуарныя планы складаць трэба разам.

5. Рэжысура. Вакансіі. Узровень. Свабода — добра, але далі ім волю — ставяць, што хочуць. Кучар: «Рэжысёр можа і самага выдатнага драматурга не паставіць». Апраўданне чаго? А акцёр? Пісьменнік?

Рэжысёр — мастак у дзяржаўным тэатры. І не адзін. Тры. А калі глядач не бяжыць з тэатра, а стаіць у чарзе на п'есу, якую «мастак» адхіліў? Тады як?

А паставілі тое, чаго не хоча глядзець ніхто — «Апошняе спатканне».

6. Глядач ля тэлевізара. Абывательская філасофія.

## НЕ АБЫСЦІ І НЕ АБ'ЕХАЦЬ...

— І-і-і, галубка мая, рыбка мая. Ты думаеш, што да чалавека, каторы ў бядзе, людзей цягне спагада? Не-е. Вот, ты думаеш, што да цябе прыходзяць... Што прыходзяць, каб паспачуваць? Не думай, думай так... Памагчы? Не-е... Цікаўнасць іх цягне... каб зблізку паглядзець і бяду і... як ты з бядою тою... Як яна цябе гне ды корчыць. Зблізку паглядзець, не пачуць, што другія будуць расказваць, а на свае вочы і зблізку. Ну, а калі прыйдзе каторая да цябе, дык жа, нагледзеўшыся, трэба нешта, ну завядзёнка такая, а не таму, што ёй трэба... Вот і сыпле словы спагады, спачування, жалю, болю... Я ведаю. Ведаю гэта. Па сабе ведаю. Вот і я прыйшла да цябе... Але я не так, як другія. Вот і мне цікава, як ты бяду сваю нясеш. І мне... цікава... як і другім — а як жа дачка твая застрэлілася? І як ты цяпер?.. Такое ж не часта бывае і не ў кожным сяле. Вот у нашым сяле ў цябе ў першай за мой доўгі век. І мне цікава, і ў мяне душа трапечацца — як жа ты?.. І як жа гэта яна? Няўжо яна перад тым і знаку табе ніякага не дала?.. Вот і прыходзяць другія... А ты не кожнаму вылівай душу. Я-та знаю, рыбка мая, я-та за свой век надзівілася з людзей... Вот і ў мяне... Я ж адзінаццаць сыноў пахавала. Колькі парадзіла, столькі і пахавала. Як першага хавала, а ён у мяне быў другі, дык думала сама легчы ў магілу. А людзі дзівіліся, цягнулі мяне ад ямкі. А потым Грышку схавала. Таксама ўбівалася. А людзі дзівіліся.

А потым вайна. Немцы трох сыноў — як таполі — вывелі і перад людзьмі расстралялі. А мяне пакінулі на дзіва людзям. Каб, значыцца, дзівіліся на маё гора... Плакала. Ой, як плакала!.. Свету белага не бачыла праз слёзы. А потым няшчасце. Трэба ж — за вайну выжылі, а пасля вайны падарваліся на сваім жа гародзе. Пограб хацелі паправіць, а там была міна. Падклаў нехта. Паліцаі, відаць... Дзесятага — Міцю — пазалетась хавала. Людзі ўжо і не дзівіліся. Прывыклі. А летась Сцяпана. Ну, гэты адпакутаваў. Ад старых ран памёр. Не плакала. І людзі дзівіліся. Чаму не плачу? Ён жа апошні.

Вот і я прыйшла к табе. А як жа ты са сваёю бядою спраўляешся? Вот пагаворым, пабядуем дый жыць будзем. А дзе ж ты дзенешся? І яшчэ дзеці ёсць у цябе. Хоць і дарослыя, а — дзеці. І жыць трэба. У мяне вунь — нікога не асталося, і то — жыву. На дзіва людзям жыву. І век мне дастаўся — які доўгі.

## З МІНУЛАГА... З ДАЎНЯГА...

На высокім памосце стаіць труна, а ў ёй ляжыць замардаваны на панскім падвор'і юны хлапец.

Вакол сядзяць, стаяць у смутку і жалобе, схіліўшы галовы, старыя і маладыя, дарослыя і малыя. Хтосьці ціха плача — жанчына ці дзяўчына. Толькі сівы дзед з барадою па пояс стаіць, нібы з неба сышоўшы. Не паварухнецца.

Каля труны бацька памерлага юнака. Ён то прыцішыцца, то прыгледзіцца да сына, то зноў запрычытае, звяртаючыся да бога, да сына, да людзей.

А п а н а с. Ну як жа ты, сынок? Пакінуў нас... Ці перажыве маці... Адзіны ж ты ў нас... Божа! Ну за што ты нас так пакараў? За што ж ты паслаў нам такога пана? Мы ж яму рабілі, мы ж яму сеялі і жалі, мы ж яму і ягадкі збіралі... Мы ж яго паілі і кармілі. І яго, і скацінку яго — і каровак, і цялятак, і ягнятак гадавалі. А ён... за траву, за кветкі, за жмуток красак засек насмерць бізуном. Загубіў дзіця. Ён жа не сабе — дзяўчынцы. Няўжо табе шкада той травіцы? А душы юнай не пашкадаваў. Ну, сарваў ён кветку, ну, стаптаў кусцік травы. Ды я ж табе з лугу бярэма прынясу. Вярні мне толькі дзіця маё... Не верне ўжо. Божа! Як дапусціў ты такое зверства? Замардавалі. Засеклі... Бізунамі. Скрывянілі. І на цэлы дзень на сонцы пёкся, бедны. Мухі, авадні, сляпні елі... Заелі... Ад смагі памёр. І мяне побач прывязалі, каб па маіх вачах паміраў. Божа! За што ж ты мне такое ўчыніў? Чаму ж ты пана не караеш? Будзь справядлівым — пакарай яго. Ну не хочаш сам, маімі рукамі пакарай. Божа, я волю тваю выканаю... Пашлі мяне, божа, дазволь мне, божа.

С т а р ы. Ідзі. Пакарай. Дазваляю.

А п а н а с. Я ніколі не грашыў перад табой, божа. Я ўсё зраблю па тваёй волі... Я з панам па-панску... Не па-мужыцку. Людцы добрыя! Пахавайце сынка майго. Я не змагу закапаць яго ў зямлю. Сястрычкі жаласлівыя! І вас прашу — дагледзьце маці яго... Не пакіньце яе ў такім горы. А я пайду... Такая воля бога...

— І чаму цябе, такога дурня, прызначылі да мяне?
— Разумных да разумных, а мяне — да вас.

Калі б навуку гісторыю выклікалі ў суд, як сведку, то можна з упэўненасцю сказаць, што вінаваты будзе апраўданы, а невінаваты асуджаны на катаргу.

## Рэцэнзія

*на рукапіс кнігі «Уладзіслаў Галубок. Творы». Прадмова, укладанне, падрыхтоўка тэкстаў — С. С. Лаўшука. «Мастацкая літаратура». 1982*

Я з вялікай зацікаўленасцю знаёміўся з гэтым аб'ёмістым — нечакана аб'ёмістым! — рукапісам. Чытаў і думаў: як многа ў нас ад тых Іванаў, якія не памятаюць свайго радства. Чытаў і здзіўляўся: чаму да гэтага часу такі несумненна каштоўны матэрыял заставаўся невядомы шырокаму чытачу? Нават я, прафесійны літаратар — драматург, з сорамам павінен прызнаць, что не ўяўляў усяго зробленага маім славутым папярэднікам. Ведаў, што У. Галубок напісаў шмат п'ес. Аднак быў пераканаты, што амаль усе яны загінулі яшчэ ў даваенны час. Ды не загінулі, не прапалі! Прапала хіба што наша зацікаўленасць гісторыяй роднага мастацтва, лёсамі тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай літаратуры... А пасля будзем глыбакадумна разважаць, чаму марудна растуць маладыя драматургі. Адкуль можа быць той рост, калі порасль мае абсалютна не заглыбленыя ў нацыянальнай традыцыі карэнні?!

Я з вялікай зацікаўленасцю чытаў рукапіс «Твораў» яшчэ і таму, што мяне гадоў дваццаць назад асобай У. Галубка проста такі заінтрыгаваў мой добры сябра, народны артыст СССР Уладзімір Дзядзюшка. Трэба было бачыць акцёра ў той час, калі ён успамінаў пра свайго настаўніка. На ім было не простае захапленне — набожнасць. Чалавек надзвычай эмацыянальны, Ул. Дзядзюшка не адразу нават мог выразіць у словах свае пачуцці. Мінут пяць ён звычайна вар'іраваў толькі адну «кучаравую» фразу: «Андрэй, ведаеш... гэта быў чалавек... ну, гэта быў такі чалавек... ну... ё... маё...» І ўжо потым, не менш, дарэчы, эма-

цыянальна, але дастаткова складна расказваў пра ўласныя дачыненні, узаемаадносіны з У. Галубком.

Але і гэта — прыказка. Вернемся да рукапісу. Каб потым не забыць, адразу ж выказваю прапанову змяніць кампазіцыю кнігі: у пачатку яе варта змясціць п'есы і апавяданні. Гэта нічога, што У. Галубок пачынаў свой творчы шлях з вершаў і апавяданняў. Мы яго найбольш цэнім і ведаем як драматурга і арганізатара тэатральнай справы, таму лагічней, каб ужо сам пачатак кнігі адлюстраваў бы асноўнае ў яго творчасці. Сам жа прынцып размеркавання твораў, паслядоўнасць іх падачы ў жанравым разрэзе не выклікае ніякіх пярэчанняў: наколькі я зразумеў, усе яны размешчаны ў строга храналагічным парадку.

Асабліва ўважліва я знаёміўся, вядома ж, з раздзелам кнігі, у якім змешчаны п'есы. Справа ў тым, што збольшага мне былі вядомы толькі тры творы У. Галубка — «Ганка», «Пісаравы імяніны», «Суд». Пра астатнія ж п'есы я не меў ніякага ўяўлення. А ўрэшце і тут патрэбна ўдакладненне. Я з задавальненнем пераканаўся, што ў параўнанні з кнігай «П'есы», выдадзенай выдавецтвам «Беларусь» у 1968 годзе, у «Творах» даецца больш поўная рэдакцыя ранняй камедыі У. Галубка «Пісаравы імяніны»: замест аднаго акта — тры. Паколькі ў першапачатковым выглядзе камедыя складалася з трох актаў, то ўзнаўленне апушчаных двух актаў бачыцца цалкам неабходным. Не скажу, што яны вызначаюцца бездакорным мастацкім узроўнем. Па сённяшніх мерках, мы маглі б заўважыць нямала недахопаў самага рознага плана. Аднак гэта быў бы негістарычны падыход: п'еса створана яшчэ ў дакастрычніцкі час, калі беларускія тэатральна-сцэнічныя традыцыі толькі-толькі складваліся. З другога боку, я далёкі ад думкі, што, апраўдваючы адсутнасцю традыцый, варта перавыдаваць усё без разбору. Не і не! Што ж датычыцца да камедыі «Пісаравы імяніны», то для яе не трэба шукаць дадатковых апраўданняў,— яна здольна пастаяць за сябе сама (у саюзе са сцэнай). Я маю на ўвазе факты, для нашай гаворкі надзвычай паказальныя: жыве камедыя, ставяць яе на самадзейнай сцэне і сёння! І гэта ў той час, калі многія сучасныя п'есы не цікавяць нікога. Просценькі сюжэт, не бог ведае якія праблемы, а глядзіцца. І глядзіцца таму, што для гэтага сюжэта дакранулася рука майстра, які выдатна адчуваў прыроду народнага светаўспрымання, народнай этыкі. Менавіта таму калізіі «Пісаравы імяніны» не здаюцца банальнымі пры ўсёй іх фальклорнай агульна-

вядомасці — яны ўспрымаюцца толькі набліжанымі да чытацка-глядацкага вопыту, сцэнічна пазнаваемымі.

Добрае ўражанне пакідаюць амаль усе п'есы, змешчаныя ў кнізе. Адна напісана крыху лепш, другая — горш. Але відавочна, несумненна слабых твораў у ёй няма. Праверка сцэнай дала свае плённыя вынікі. І тут узнікае адна думка: вось бы прасачыць творчы працэс у драматургічнай лабараторыі У. Галубка! Больш удзячнай тэмы і прыдумаць цяжка. Такое даследаванне магло б прынесці проста неацэнную карысць любому драматургу. Сталаму, здаецца, не меншую, чым пачаткоўцу. Для чаго пішам, каму адрасуем?.. А Галубок, па ўсім відаць, беспамылкова знаходзіў дарогу да сэрцаў гледачоў, мог прапанаваць яму такія сцэнічныя дыялогі, якія бралі за жывое, прымушалі суперажываць.

Адзнакай сапраўднага таленту — тут спрачайся ці не спрачайся — заўсёды з'яўлялася яго далучанасць да радасцей і бедаў часу, да канкрэтных сацыяльных праблем. Пісьменнік павінен быць мастацкім летапісцам сваёй эпохі. Для драматурга гэта адносіцца ў першую чаргу! Калі я перачытваў галубкоўскія «Апошняе спатканне», «Бязвінная кроў», то не надта вагаўся або сумняваўся наконт часу іх напісання, мэты стварэння. Для мяне, як ліпеньскім поўднем, было ясна, што думкі і задумы драматурга жывіліся атмасферай рэвалюцыйнай ломкі грамадскіх устояў. І гэта пры ўсім пры тым, што знешняя атрыбутыка часу ў творах амаль адсутнічае. Затое ў іх ёсць дух часу, атрыбутыка ўнутраная, характэрная.

Пазнейшыя па часе напісання п'есы зноў жа не былі адарваны ад надзённых сацыяльных праблем. З добрым пачуццём гумару, а месцамі проста бліскуча, з'едліва раскрывае У. Галубок сутнасць нэпманаўскай «ліхаманкі» ў камедыі «Ветрагоны». У ёй есць некалькі камедыйных тыпаў, якія выпісаны на ўзроўні купалаўскай «Паўлінкі». І слова ў камедыі дастаткова ёмістае. Некаторыя рэплікі гучаць на зайздрасць хлёстка, афарыстычна. Не, «Ветрагоны» не шэдэўр, слабых мясцін у творы не менш, чым моцных, аднак п'еса павінна зацікавіць не толькі звычайнага чытача, але і прафесійных літаратараў. А ў народных тэатрах яе можна з добрымі надзеямі ставіць: у наш час, здаецца, зноў раскашуюцца ветрагоны і зноў пуставатыя Фросі вылазяць на кірмаш Гіменея, прывабліваючы залатымі пярсцёнкамі на кожным пальцы.

Няма патрэбы спыняцца па кожнай п'есе У. Галубка.

Паўтару сказанае вышэй: усе яны варты ўвагі. Узяць хоць бы тыя «Плытагоны». П'еса будзе публікавацца ўпершыню, але ў свой час яна прайшла добрую праверку сцэнай. І сённяшняму гледачу будзе цікава пазнаёміцца, чым жыла сцэна беларускіх тэатраў першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя. Я ўжо не гавару пра гістарычную драму «Пан Сурынта». На такіх п'есах можна вучыць тэатральную моладзь — пачынаючых рэжысёраў, сцэнографаў, акцёраў і г. д. Буйны сацыяльна-падзейны фон, вострыя да меладраматычнасці сітуацыі, рэльефна выпісаныя характары — усё гэта дае добры разгон для творчай фантазіі. Для студыйнай работы. Тут ёсць магчымасці выпрабаваць свае сілы акцёру любой ступені адоранасці. Спектакль па гэтай п'есе можна зрабіць шматфарбным, дынамічным, відовішчным...

Калі пра п'есы У. Галубка час ад часу яшчэ і ўспамінаюць, то пра апавяданні яго ведаюць, мусіць, вельмі нямногія. А між тым у творчай скарбонцы пісьменніка іх аказалася вельмі многа — каля сарака! Звыш трыццаці з іх напісаны ў дарэвалюцыйны час. І зноў жа, мне не трэба было заглядваць у датавальную картычку. Апавяданні самі сябе характарызуюць: тэматыка, будова сюжэта, а таксама стылістыка іх беспамылкова арыентуюць у храналогіі напісання. Ну хіба ж зблытаеш водар нашаніўскай творчай атмасферы, якой патыхае ад апавяданняў «Марымонавы сабакі», «Як Сымон у воласці выкруціўся», «Навальніца», «Бор»?.. Усе апавяданні маюць няхітрую сюжэтную будову, некаторыя стылізаваны пад народна-фальклорныя гутаркі. Іншымі словамі, яны характарызуюць стан празаічнай практыкі пачатку XX стагоддзя, а таксама характарызуюць тагачаснага чытача. Чытач жа гэты, хоць і меў меншую ў параўнанні з сучасным адукацыю, валодаў дастаткова шырокім дыяпазонам духоўных запатрабаванняў. Не, не такі ўжо і просты, як здаецца на першы погляд, ідэйна-тэматычны змест апавяданняў У. Галубка. Уважлівы чытач здолее разгледзець за нескладанай сюжэтнай канвой іх глыбінны, вельмі народны, беларускі змест.

Вершы У. Галубка не надта мне спадабаліся. І гэта адбылося, мусіць, таму, што індывідуальнасць мастака ў іх праявілася слабей, чым у іншых жанрах. Тым не менш друкаваць іх варта.

А вось артыкулы пісьменніка амаль усе прачытваюцца з вялікай цікавасцю. Лішні раз пераконваешся, што ў драматурга на стале ва ўсе часы вельмі і вельмі нялёгкі хлеб.

**Вывады і прапановы:**

Вывад адзін. Кніга твораў Уладзіслава Галубка павінна абавязкова ўбачыць свет.

Прапанова звярстаць яе наступным чынам:

Уступ. П'есы. Апавяданні. Вершы. Артыкулы.

Да гэтых артыкулаў можна было б дадаць яшчэ некалькі:

1. Дзяржаўная вандроўная трупа, зложаная У. Галубком
2. На вышыню сацыялістычнага мастацтва
3. Театр, рожденный Октябрем
4. В сугробах Полесья
5. Калгасны тэатр будзе створаны і некаторыя іншыя.

Артыкул «За аўладанне бальшавізмам» прапаноўваю зняць. Ён увогуле змястоўны, аднак без належнага каментарыя чытачу, асабліва маладому, будзе цяжка зразумець аб'ектыўныя прычыны абвінавачванняў у адрас В. Сташэўскага і г. д.

Цікава пісьмо да Я. Дылы. Можна было б змясціць і яго, а таксама некалькі інтэрв'ю.

Адным словам, пазнаёміўшыся з рукапісам твораў У. Галубка, лічу, што вызначаць аб'ём выдання ў 25 др. арк. вельмі і вельмі несур'ёзна. Не на Галубку патрэбна эканоміць паперу. Ёсць у нас на кім эканоміць. Супроць гэтага не стануць пярэчыць і тыя, хто складаў тэматычны план выданняў у «Мастацкай літаратуры» на 1982 год.

## «РАЗБОЙНІКІ»

Мазуцін — старшыня калгаса, чэсны рэаліст.

Шурупаў — яго намеснік, галоўны інжынер, чэсны ідэаліст, але ўступчывы перад рэаліямі жыцця.

Болцікаў — яго малодшы брат, чэсны разбойнік.

Ключароў — галоўны бухгалтар, проста чэсны. Зроду. Чэсны ідэаліст. Непадкупны рабесп'ер.

Зубілін (Заглушка) — райсельгастэхніка. А што такое чэсны?

. . . . . . . . . . . . — атаман разбойнікаў з лятучкі.

. . . . . . . . . . . . — ветэран працы, свінаркай і даяркай была.

Каця — яе дачка, зменшчыца.

Дана — сястра, падманутая і пакінутая.

Шпонка — муж, інвалід. Ціхі, мірны.

Закаблучны — галоўны заатэхнік, хам, меціць на пост галоўнакамандуючага.

. . . . — сакратар райкома.

Вінтоў — прафсаюзны бос. Соладкагалосая птушка юнацтва.

. . . . — прадстаўнік дзяржкамсельгастэхнікі. Прывёз пераходны сцяг.

Шкалікаў — трактарыст-камбайнер.

## Акт першы

1. а) Бухгалтар прынёс на подпіс паперы. Старшыня збіраецца ў зарубежную паездку ў Балгарыю. Падпісвае ў спешцы. Звоніць у раён: што з сабою браць? «Штофы? А яшчэ? «Зуброўку»... Значкі? Якія значкі? Ну-у... Што мы — дзеці?.. Мар'я! Мар'я!»

б) Прыходзіць даярка. Хоча адпрасіцца — рукі баляць. На сваё месца — дачку хоча ўладзіць. Яна не прайшла конкурс — не паступіла. А ў мяне — рукі... А яна — дурніца... Я мора малака надаіла, а здароўе... Заробкі... Ат... Навошта тыя заробкі, калі рукі...

в) Вяртаецца старшыня:

— Чаго прыйшла?

— Прасіць прыйшла.

— Чаму не ў кантору, а дадому? Парадку не ведаеш?

— Дык там жа вас не спаймаць, усё занятыя — ці ў полі, ці ў раёне, ці ў сельгастэхніцы. А цяпер во — за мяжу.

— А што такое?

— Ды вызваліць сваю пасаду хачу.

— Як гэта вызваліць?

— Ды во — рукі... А на маё месца дачка.

— Ну, не гарыць. Потым. Прыеду, потым разбяромся. Ідзі!

І яна пайшла... Пакрыўджаная... Прыніжаная...

Бухгалтар: Пайду і я...

Старшыня: А ты куды?

Бухгалтар: Ды... дома — не паложана. У кантору пайду. Там буду Вас чакаць. А то — прыпёрся ў палац...

Старшыня: Ну, добра, добра. Капрызныя якія сталі...

Бухгалтар: А табе трэба было глянуць на яе рукі! Хоць бы глянуць...

Старшыня: Ну, ладна, давай паперы. А то часу мала.

1. Бухгалтар адмаўляецца падпісаць даручэнне дзяржбанку аб аплаце райсельгастэхніцы за рамонт машын.

«Не патурайце жулікам і паразітам. Вы ствараеце ўмовы для мафіі гангстэраў. Зладзейскі дакумент не падпішу!!»

«У цябе паперкі, а ў мяне на руках гаспадарка. Я ў кабале, у поўнай залежнасці ад іх. Не лезь на ражон! Ты хочаш пасварыць мяне з імі? Табе трэба чэснасць, а мне трэба, каб не загінуў ураджай, каб не прапаў марна труд усяго калектыву. Я цябе цярплю за чэснасць. А ты мяне за паваротлівасць і вынаходлівасць. Без цябе б не стаў рабіць таго, што раблю. Ну, ладна, ідзі! Перад ад'ездам дам інструктаж намесніку-інжынеру».

2. Першая запаведзь: убраць ураджай! Тэхніка — усяму галава! Табе выпрабаванне: быць ці не быць старшынёй. Не паддайся бухгалтару — ён пацук папяровы... Чэсны пацук. Я з ім на нажах. Ён можа пасварыць нас з сельгастэхнікай, а то і больш — звергнуць з п'едэстала. Не сварыся з сельгастэхнікай. З заатэхнікам ладзь. Ён сваю справу ведае. Яму і ўлада поўная! Скаціну шкадуе.

За рубеж з дэлегацыяй...

«Не спяшайся. Я не заатэхнік».

«Ведаю. Даўно заўважаю. А чаму?»

Маці просіць завезці бацьку ў амбулаторыю і дзякуй не сказала. Культура!!!

— А людзей?

— Галоўны заатэхнік: кадры мае — мая справа і мой клопат!

3. Атаман з лятучкі. Прывезлі запчасткі. Просяць падпісаць паперку. «Работу выканалі, работу прынялі».

Малодшы брат інжынера заваліў уступны экзамен і прыехаў на перавыхаванне ў сяло.

Атаман: Бяру! Навучу! Будзе спец!

А потым малодшы: Ты падвёў мяне! Я ў іх вачах — здраднік, даносчык!

Старэйшы: А яны і ўзялі цябе, каб мець цябе як заложніка ці адваката.

4. Дачка просіцца па ферму — даяркай. Мамчына навука больш надзейная. (Праваліла з трэскам уступныя экзамены — навекі заракласе пастунаць куды-небудзь.)

Хай маці раздоіць дзесятак першацёлак, тады возьмем.

Сябры па нявшчасці — сустрэліся. А яна пабывала і на

заводзе: грукат, шум, гул — адурэла і вярнулася. Дваюрадная сястра — каецца, што ў горад паехала.

(Галоўны заатэхнік — канкурэнт (пам.). Ён з просьбай неравесці са свінарні на раздой.)

5. Провады старшыні ў загранпаездку з дэлегацыяй сельгастэхнікі. Начальнік райсельгастэхнікі абяцае даць усё, што трэба.

Прыехаў праводзіць і сакратар райкома.

— Не разводзь рукамі, а дай!

— Я ж і развёў рукамі: в чем вопрос!!

— А суседава тэхніка стаіць.

— Дэфіцыт... На запчасткі, брат, трацінца трэба. І мне, і табе. Вось калі-небудзь вазьму цябе з сабой на базу міжабласную. Там, брат, жрупы! І вясёлы народ.

6. Бухгалтар пагражае інжынеру за падпісаныя паперы: «работу выканаў, работу прыняў».

## Акт другі

1. Двое маладых. Не перспектыўны ты.

Маці гоніць Кацю дадому. Хопіць і таго, што адна ўжо засталася.

Абое рабое.

— А то праўда, што сястрычка твая, таго? Кажуць, што яна...

— Ага. І я такая. Табе ж, пэўна, і гэта сказалі? А чаго ж? Век такі. І зарабіў па пысе! Дурань. Палез.

2. У Каці дома наспявае выбух.

— Я яму дам! Я яму скажу! Маўчала, а цяпер...

Ласкавай была. Каб цябе вылечыць, а плётка пайшла, што на перадок слабая. А? Гэта прыемна слухаць?

Каця абараняе тых. Я хачу, як ты — можа, і больш — гераіняй хачу. Раздаі, памажы мне. Я ж лянівая.

Муж: Ты спакойна. Ласкай трэба. Не скандаль. Горш будзе.

Жонка: Мне горш не будзе, як з табой. Цераз іх ты — інвалід. Машыну палез даставаць з-пад лёду.

— А я не верыў. Не верыў жа?

— А рукі мае бачыш? А? Я не магу ўжо. Бачыш вузлаватыя пальцы. Раздаіць? Гэта не ізюм.

3. Канфлікт інжынера з бухгалтарам.

— Ты зноў падпісаў? Ты хаўруснік, злачынца, саўдзельнік. Калі стане вядома райкому.

Ты ж сакратар партыйнай арганізацыі, каго вы вы-

рошчваеце? Паразітаў? Эксплуататараў? Мафію? Грабежнікаў.

— А ты хочаш пасварыць мяне з сельгастэхнікай?

— Затое тэхніка не стаіць!

— Пасеялі ў час! Убралі ў час!

— За чый кошт? Плаці са сваёй кішэні, кашалька. А то добрыя за кошт яе! Глянь, якія ў яе рукі! («Падагрэў» бабу. Яна лютай стала.)

— Дзе гэта шкура, дзе?? Дзе ён?

4. Схватка Кацінай маці з заатэхнікам.

Навука інжынеру — як настаяць за сябе, за праўду.

Бухгалтар: Чуў? А? Гэта народ. А ты чые інтарэсы абараняеш?

5. Схватка з атаманам і начальнікам райсельгастэхнікі. Інжынер бунтуе!

— Райком пашукае. Знойдзе.

У атамана ёсць.

— Ну і пастой! Няма ў мяне запчастак. Апошняя была, во — павезлі суседу твайму.

— Дзівак! ЦК не можа знайсці, а то — райком. Хай пашукае. Дзяльцы! Па ўсёй краіне шукаюць.

— Ёсць у цябе? Бач — развёў рукамі. Значыць — няма.

## Акт трэці

1. Ну, будзе скандал! Едзе старшыня.

Скандал з райсельгастэхнікай!

Старшыня мірыцца з начальнікам РСХТ.

— Паскардзіліся райкому?

— Хто? Калі? Не можа быць!!!

— Падумаць! Павінны пераходны сцяг уручыць, а тут падножка. Падножку, калі я іду на трыбуну.

2. Сакратар райкома і інжынер. «Як у вас з сельгастэхнікай? Ёсць крыўды?»

— Была, ды... Прыехаў старшыня і ўсё паладзіў...

— За чый кошт?

— Для народа — за народны.

Сакратар і даярка.

Развязаць вузлы з ёй і дачкой.

3. Сакратар, бухгалтар, інжынер.

## Акт чацвёрты

1. Сакратар і райсельгастэхніка. Як быць?

2. Сакратар і прадстаўнік РСХТ.

**3. Уручэнне. Пастанова. Туш.**

4. Выступленні: старшыні.

Просіцца бухгалтар.

Маналог бухгалтара.

Перад кім у даўгу.

— Ёсць пастанова.

— Ёсць пастанова. Усё праверана.

— Уступ. Адкрыццё. Дзе прафком? У прэзідыуме маўклівыя даяркі, свінаркі з натруджанымі рукамі на каленях. Сядзяць, як перад фатографам.

А старшыня дае слова інжынеру. Ён звязаны з РСХТ, а бухгалтар звязаны...

— даўгамі звязаны.

— У даўгу перад калгаснікамі, у даўгу перад дзяржавай, у даўгу перад РСХТ.

## АБ П'ЕСЕ ЯНКІ КУПАЛЫ «ТУТЭЙШЫЯ»

Неўзабаве будзе адзначацца 100-гадовы юбілей вялікага песняра беларускага народа Янкі Купалы як у нашай краіне, так і многіх краінах свету.

Паэтычная творчасць Янкі Купалы — вялікі ўклад у скарбніцу не толькі нацыянальнай культуры, але і агульначалавечай.

Мы шануем кожны радок, даражым кожным словам вялікага савецкага паэта.

Напэўна ж, рыхтуючыся да юбілею, мы пастараемся як мага поўна выдаць усё тое, што выйшла з-пад пяра Янкі Купалы.

Агульнавядомы поспех і купалаўскіх п'ес: «Паўлінка» паказана на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы больш за 1000 разоў, часта звярталіся шматлікія тэатры і выдаўцы да «Раскіданага гнязда» — суровай драмы з жыцця беларускага сялянства напярэдадні рэвалюцыйных падзей.

Меней пашанцавала п'есе «Тутэйшыя». Сатырычныя, часам драматычныя, а часам гратэскава-камічныя сцэны з жыцця мінскага мяшчанства, дробных буржуа, былых чыноўнікаў і іншых паразітычных элементаў у самы бурлівы, няўстойлівы і пераломны перыяд нашай гісторыі — першыя гады пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, у часы нямецкай і белапольскай акупацыі Беларусі.

Перапалоханыя паны, царскія служкі, чыноўнікі, абмежаванае мяшчанства, царкоўнікі, палітычна падслепаватыя так званыя інтэлігенты, іх маральная няўстойлівасць і вартая смеху мітусня і разгубленасць — вось змест і ідэйная накіраванасць гэтай п'есы.

Мастацкія вартасці «Тутэйшых», магчыма, і не такія яркія, архітэктоніка п'есы, можа, менш дасканальная, як у «Паўлінцы» ці ў «Раскіданым гняздзе», аднак у п'есе «Тутэйшыя» вельмі цікава высвечваецца пэўны закутак мяшчанскага задвор'я Мінска ў час вялікіх рэвалюцыйных падзей. Можа, і шкада, што ў п'есе слабей выяўлены пазітыўныя, гераічныя падзеі і персанажы, аднак жа ў гісторыі савецкай літаратуры мы маем прыклады, калі творы, у якіх увага аўтара сканцэнтравана на асяроддзі зусім не гераічным і не станоўчым (М. Булгакаў «Бег», «Дні Турбіных»), і тым не менш ярка раскрывалі заканамернасць, непазбежнасць і гістарычную неабходнасць рэвалюцыйнай ломкі грамадства, дзе панавалі тыя «нестаноўчыя» класы і іх абслуга.

На маю думку, з п'есай «Тутэйшыя» варта знаёміць нашых чытачоў, бо яна не толькі расказвае аб даўнім мінулым, але і паўней раскрывае творчы і ідэйны багаж Янкі Купалы.

Не трэба толькі блытаць поглядаў аўтара з выказваннямі і пазіцыяй персанажаў п'есы, бо яны, бадай, за рэдкім выключэннем «бесплатформныя», калі не лічыць «платформай» іх уласны шлунак.

# ПІСЬМЫ

## 1944

### 1. М. Р. ВАСІЛЕЎСКАЙ

*21 сакавіка, Журавічы*

Здравствуйте, дорогая и многоуважаемая
Мария Григорьевна!

Как я рад, как я Вам благодарен, что получил весть о том, что Петька жив, Петька здоров. Когда я прочитал, что Петька жив, я бегал, как ребенок, как пьяный. В такой войне и остаться целым — это чудо, это большое счастье. А он жив. Значит, я был прав, когда говорил, что не может быть, чтобы Петька не вернулся. Обязательно вернется. Так оно и есть. Я теперь жду того дня, когда я с ним встречусь. Это для меня будет большой праздник. Но дождусь. Теперь обязательно дождусь. Знаете, Мария Григорьевна, в армии через мои руки прошли тысячи людей, но такого, как Петька, друга я не встречал и не встречу. Петька единственный. Вы можете им гордиться. Значит, Вы счастливая мать, если Петька жив. И я тоже, видно, счастлив, что судьба сохранила мне лучшего друга. Я ему сегодня написал не письмо, а целую библию.

Ваня и Мотя уже пришли из партизан из-за Днепра, когда наши взяли Рогачев. И есть новость. Мотя уже успела выйти замуж за командира партизанского отряда. Человек он хороший. Так что можно поздравлять. Все, как видите, хорошо. Но очень жаль, что мне не пришлось увидеть отца.

Несчастливый он, бедняга. Вырастил таких детей, дал им образование, а самому пожить не пришлось. Загубили его эти звери-немцы. Вот это горе и затемняет всю радость. Очень и очень жалею отца. Но ничего не поделаешь. Его не вернешь. Я Вас попрошу: как только получите письмо от Петьки, сейчас же напишите мне, как он, не ранен ли?

Здоров ли? Где он и кем работает? Как он себя чувствует. Вы ответ скорее получите. Пока все. Сердечный привет Вам и Юзику от меня, мамы, Вани, Моти и Коли. У меня также есть еще маленький братик Леня, который родился в 1941 году. Хороший пацан.

С приветом *Андрей*

## 2. П. С. ВАСІЛЕЎСКАМУ

*5 красавіка, Журавічы*

Петька, дорогой, здравствуй!!!

Сегодня я бесконечно рад. За время войны это у меня второй раз. Первый — это возвращение Вани и Моти из партизан, и вот это твое письмо.

Петька! Сколько раз за три года я садился писать тебе, но, правда, не все заканчивал: руки опускались, я не знал, где ты. Из всех писем у меня сохранилось только одно, уже написанное здесь, я его, может быть, пришлю.

Петька! Ты просишь написать о себе, но почему ты о себе почти ничего не сказал? Что такое с тобой? Ты пишешь, что ты в тяжелом состоянии. Заболел? Чем?! Когда? Если ранен, тоже пиши, только, пожалуйста, подробно,— это не просьба, а приказ!

О себе? Пожалуйста.

22 июня 1941 года. Воскресенье. После дождя земля таяла от жары... В воздухе запах бани... Листья березок и шелковицы свертываются... Хочется дышать глубже, шире, на полную грудь, но воздух, насыщенный парами, не вдыхаешь, а глотаешь, зевая, как рыба на берегу. Соленый пот стекает струйками, просачивается в глаза. Тело как бы обвисает. Человек становится безвольным, не человек, а мякиш.

В этот день тревожной дрожью пронзило всех сообщение о войне.

Война!!!

На одних это подействовало, как ошеломляющий удар дубинкой. Кажется, человек сейчас поднимет руки, прикрывая лицо, защищая от этого удара. Глаза испуганно, растерянно забегали, они спрашивали, вопили. *«Братцы! За что же это??. А? Что же теперь?? Н-е-т!! Н-е-т!!* — кричала его физиономия.— *Нельзя!! Нену-у-у-жно-о!!»* Неожиданность выбила опору из-под ног, земля заколыхалась,

и он, шатаясь, побрел, поняв, что его «не нужно» ни к чему, что это уже есть. Он забился в уголок, испуганно прислушиваясь,— что же дальше?

Другие же приняли это, расставив широко ноги, улыбка от уха до уха, глаза блестят, фуражка набекрень. Он говорит: «Ха! И немцу захотелось таво... он забыл, как мы японцев и китайцев таво... финнов и поляков. Они забыли про Наполеона, забыли Чудское озеро, татарское нашествие (кажется, логика есть). Ну что ж, мы и немцам тож наподдаем... мы ему в два счета скулу перемножим и зубы вычтем. Да мы ему раз-раз и челюсть на затылок завернем». Одним словом «ура нам». Но «немногие» из подобных в ближайшее время стали хуже тех, которые с первого дня пали духом. Как быстро они были уверены в свои силы, также скоро они теряли веру в наши силы. Широко расставляющий ноги — неустойчив!

На третьих же неожиданность тоже подействовала. Они, закусив губу, думали. Да... на нашу долю тоже выпала честь испытать кое-что... искушать... Ну что ж, попробуем, для этого и выдуманы слова «родина», «война». Что победа будет за нами,— об этом и сомнения не может быть, но что победа — дорогая штука — это тоже факт! В общем, третьи понимали.

Каких больше — первых, вторых или третьих, я не буду говорить, сам знаешь. Законный вопрос: «А ты?»

А я? Я только, глядя на человека, злорадно протянул: «Ага! Вот вам! Не знали, что такое жизнь! Научитесь любить ее! Слишком уж вы ее даровой считали. Вы, людишки, горького не покушав, в сладком вкуса не понимали». И дальше, кроме активного участка войны, я был внимательным наблюдателем за человеком. И что ж такое я?

Я? Вскоре наша часть пошла шататься по лесным горным отрогам; все горные тропы вокруг Тбилиси я измерил собственными костылями. Потом пошли в Иран.

Озеро Севан. Среди скалистых отрогов, нагромождений камней — обломков гор, раскинулось большое синее озеро. Синий Севан. Хорош! Я о нем не буду писать. Приедешь, почитаешь дневник. От Севана до Иранской границы шел. С каждым шагом я, казалось, спускался в древние века. Культура доисторическая. От границы пешью до иранского города Маку, до турецкой границы, до города Хой и до Джульфы. Затем попал на Северный Кавказ, а оттуда с Туапсе на корабли — и десантом в Феодосию.

Между прочим, я к этому времени уже давно рвался

на фронт и не потому, что хотел кричать «ура» за родину. Я хотел знать, что такое война, что такое человек у смерти и, наконец, опять я.

Петька! Разве в письме обо всем этом можно написать? Слишком много. Короче! Брал Феодосию. Попал там в окружение. Паника. Я выхожу из окружения. Потом на петлицах появились кубики — я стал политруком. Затем несколько раз водил роту в наступление. Трудности десантных войск. Бои беспрерывные. Мне везло, потому что я родился в четверг. Я на этом фронте продержался до 10 апреля 1942 года (с 30 декабря 1941 года), а это — максимум. Наконец 10 апреля. Днем 9-го полк вел тяжелый наступательный бой. Немцы держались крепко — эсэсовцы. Моя рота была в резерве. Наконец и мне подошел черед. И я утром 10-го своей ротой выполнил задачу полка, дравшегося сутки безрезультатно. Но мне это был последний бой. Когда дело подходило к концу, немцы прицелились из миномета. Мне — в ногу. Трах! И мне сделали три дырки в ногах. Но им показалось, что этого мало. И еще — трах! И еще четыре дырки. Опять же в ногах. Они, верно, хитрые: знали, что самое больное место — ноги, и целяли по ногам. Две побили. Но ничего, кое-как выбрался, вынесли. Хотели было одну оттяпать медики, но у меня был хороший друг, который помог убедить врачей. Это — мой пистолет, с которым не расставался. Потом на самолете из Крыма в Краснодар, а там пошла писать губерния. Баку, Нахичевань, Тбилиси и, наконец, за ушко и на солнышко — отвоевался. Но очень удачно. Я совершенно не хромаю, хорошо бегаю, производительная способность превосходная. Одним словом — лоб.

Интересные встречи в госпитале, романы, полтора месяца отпуска в Баку... В остальном, прекрасная маркиза, все хорошо, все хорошо.

Знаешь, Петька, все же у меня за плечами кое-что есть. Есть что вспомнить. Приезжай.

Петька! Почему ты раньше не писал мне? Или не надеялся, что я цел? А я в тебе был уверен, как в солнце. Оно всегда есть, и ты тоже будешь цел.

Петька! Смотри, какое невыдержанное письмо. Это от того, что не знаю, с чего начать. Слишком много пропущено, и чему отдать предпочтение, не знаю. Встретимся, тогда поговорим о прошлом, а теперь о настоящем. Между прочим, я тоже пробую писать, но не печататься. Пока не набрался смелости послать. На днях тебе пришлю один ма-

ленький рассказик — «Смерть». Писал я его еще в Грузии, его надо было раньше послать куда-нибудь.

## 3. П. С. ВАСІЛЕЎСКАМУ

*12 красавіка, Журавічы*

Здравствуй, Петька!

Итак 2-й раз после такого длинного перерыва сажусь побеседовать с тобой.

Можешь поздравить меня с новым назначением — я уже работаю секретарем райкома комсомола. Удовольствия мало, но работы — больше чем по уши. Знаешь, Петька, я еще себя не нашел, где мое место — не знаю, и у меня получается — «плыви мой челн по воле волн»... Одним словом, по Зощенку: «Жизнь диктует свои законы, приходится подчиняться»...

По-прежнему живу без друзей и без особых устремлений: «без руля и без ветрил...» Я на распутье. Одолевает скука и бесцелье. Я, как слепой, не вижу дырку, в которую должен попасть,— в юбках запутался. И к тому же не хватает тебя. Хоть бы скорее дождаться письма от тебя. Здесь говорить не с кем. Ты знаешь,— раньше я в Журавичах не находил никого (кроме тебя), заслуживающего какого-нибудь внимания, а теперь — тем более.

Правда, Лара здесь, но она считает для себя недостойным общаться со мною — «видишь ли, мы, мол, противоположные индивидуумы, ты, мол, коммунист, твоего отца убили немцы, а мой ушел с ними. Я, мол,— обломок»,— вот ее рассуждения. Не глупо ли? Я ее разубеждал. Но основательно поговорить не удается — не выберу время. Да! Петька! Она просила, чтобы ты ей обязательно написал. Первый. «Мол, мы перед войной переписку прекратили, и мне первой писать как-то неудобно», что ж, можно извинить женский каприз.

Но очень просила твоего слова. Лара стала не та.

Петька, я писал уже тебе, что я был очень рад, когда из партизан пришли Ваня и Мотя. Но сейчас война, и радость непродолжительна. Сейчас, верно, радость на весь мир одна, а бед на каждого человека — пара. Так поэтому радость в доме гостит не долго — ей нужно посетить многих, а беда топчется по пятам, она всегда у двери.

Мотя с мужем уехала в Кисловодск, а Ваня сегодня уходит в армию. Родине нужны защитники. Приятная но-

вость. Здоровье у Вани неважное. Он, кажется, при тебе болел туберкулезом? ...Да, вот так-то оно...

Чем я сейчас занимаюсь? Продолжаю свое «образование». Знаешь, я окончил четыре курса «университета». Первый — армия, второй — фронт, третий — скитание по «гостеприимному» Кавказу, четвертый (за 2—3 месяца курс) — «как можно жить с риском», а теперь пятый и, верно, последний — женщины. Ты не подумай, что я стал бабником, нет. Я просто мимоходом. Первый объект сейчас — врач, военная. Стоит у меня на квартире. Она ничего, тройка с плюсом, если принять во внимание современную женщину... Ничего не хочется. Что делать? Гнить? Остаюсь на распутье. Плыви, мой челн, по воле волн. Куда тебя влечет волна. Жду!

*Андрей Журавицкий*

P. S.

Или сегодня день такой, что только сосать пальцы и плеваться? Тьфу! Или я вообще гниль? Ничего не хочется.

## 4. П. С. ВАСІЛЕЎСКАМУ

*25 красавіка, Журавічы*

Здравствуй, Петька!

Уже вот сколько времени я никак не соберусь написать тебе письмо. Так вот посылаю тебе вместо письма этот «приговор». Петька, не думай, что это с целью — тебя сагитировать. Интересно, какие твои замечания. Да, Петька, пребольшое спасибо за твои замечания на мою «Смерть», буквально с тобой согласен. Только, Петька, ты не прав, что думаешь, будто это мой первенец. Я и раньше пробовал браться за это, но никогда не заканчивал. Есть, например, одна пьеска из жизни партизан; она почти уже закончена, но все-таки не закончена. И я бы сказал, там кое-что есть такого, что может понравиться, но очень большой у ней недостаток — схематичность, наивная простота сюжета. Правда, от последнего она не так уж страдает. И, конечно, недостатков есть много еще, но у меня нет выдержки долго сидеть над одним. Признаюсь: я большой лодырь — люблю откладывать на завтра, а завтра ругаю — почему не сделал вчера. А помнишь, ты говорил обо мне, что я усидчивый. Я усидчивый над рисунком. И могу похвастать: с рисованием у меня куда лучше. Портреты делаю хорошо. Этому научился в Грузии, где был после демобилизации.

Жил в ауле, где ни одного русского и, следовательно, почти никакого общения с людьми, я только мазал да читал, что смог достать, и только уж когда научился азербайджанскому языку, то стал меньше засиживаться. В этом ауле почти каждому нарисовал портрет на память.

Петька! Знаешь ли? Я теперь думаю (только пока думаю) взяться за науку. Ленина и Сталина и особенно аграрный вопрос. Уж очень мне хочется знать подробно. Сделал набросок своей статьи. Приедешь, обсудим. Да, Петька, из моей библиотеки ничего не осталось — буквально ничего, но не горюй, я уже достаю понемногу. Помнишь старые способы, когда мы вместе доставали? Так вот я и теперь также. Говорят, старые, испытанные методы лучше — более опытен в них. Но сейчас я по 1—2 не беру — 2—3 десятка. Не грешно? Как думаешь? Каюсь, батюшка, грешен, но ничего: отчитываться буду на том свете, а бог милостив, все простит. Петька! Ты это знаешь, что 12 ноября мне исполняется ровным счетом 24 года? Ого! Даже самому не верится, но люди говорят, что так. И говорят, что мне уже пора пожениться. Гм... жениться, а что это такое? А? Петька?! Чижолая вещь эта штука, знаешь, я просто не нахожу (не себе места, а кому предложить рядом). Правда, на девок войны не было, но и этот народ уж очень калекий. И душой, и телом. А, признаюсь по совести, я уж насчет грешности телом не очень придираюсь, но вот беда в чем: душа — темная осенняя ночь, глухомань беловежская. Острота — осинового клина. Я не хочу сказать — везде, нет в Журавичах, но и здесь исключение есть — Лара, но и ее уже нету — в Могилеве. А я хочу полюбить (гм... во бесстыдник) и жениться. Петька, вези мне жену из Свердловска. Только, пожалуйста, перед выездом запломбируй, иначе в поезде не усмотришь, украдкой разбомбят так, что без кузова привезешь. Да, Петька, перед выездом обязательно постарайся достать «Войну и мир» и «Анну Каренину» Л. Толстого. Обязательно! Прошу, мне очень нужно. И если сумеешь — «Эстетические взгляды Чернышевского». Ты не думай, что я только учусь разбирать цвета платьев да складочками интересуюсь, а и «вучоныя словы» пробую прочитать. Петь, ну что тебе еще сказать? Вот что. Лечись поскорее — раз, и два — приезжай ко мне — мне тебя не хватает, как жены. Скорее выздоравливай. Жду!

С приветом *Андрей*

Петь! Я переписываюсь з Зиной-москвичкой. Пиши о «Грядущем мире», я посылаю даже в «Правду». Ого!

## 5. П. С. ВАСІЛЕЎСКАМУ

*8 жнiйня, Журавiчы*

Петька!

Вот тебе обещанное. Предлагаю суровой критике. И печатал сам. Один экземпляр посылаю в редакцию. Первая проба пера. Только критикуй, пожалуйста, по косточкам. Может быть, это охладит пыл. Если меня ждет удача, то попробую еще.

Искренне желаю скорого выздоровления и долгожданной встречи!!!

*Андрей*

Если есть грамматические ошибки, то скомандуй им: «Марш по местам!»

## 6. П. С. ВАСІЛЕЎСКАМУ

*1 лiстапада, Журавiчы*

Здравствуй, дорогой мой Петька!

Сегодня получил я твое долгожданное письмо. Значит, я не получал твоих писем не по твоей вине — виноват Аллах. Очень и очень жалею, что не получил твое фото. Если еще у тебя, то пришли, пожалуйста, и в письме проси (обязательно) цензуру, чтобы при проверке не утеряли.

Петька! Ты не знаешь, как я сегодня зол. Как я зол!!! В кулаках хрустят кости. Скррррипят скивицы. Ты говоришь — я счастлив. Какого черта счастлив. Я недоросль! Неук! Мякиш недолепленного хлеба. Мне надо учиться, а я не могу. Сегодня собрался было ехать в Минск, направляют на учебу в партийную школу при ЦК КП(б) Белоруссии. 1 год учебы. Но, видишь ли, мать считает, что не сумеет себя обеспечить дровами и Андрей не должен ехать. Я не говорю, что эта школа — мечта,— нет, конечно. Но, Петька, это же Минск, а не Журавичи, и, во-вторых, она, конечно, много чего даст — в этой школе программа комвуза. Работа моя мне не нравится. Оставаться в Журавичах с мужичьей тенденцией: мол, в Журавичах ты тоже начальство, а чего больше искать? Не конюхом, мол, работаешь? Мол, твой же дед награмотный мужик, а ты секретарь райкома. Чего же ты еще хочешь? Тьфу! Плохо, что я слишком мягкотел. Плюнул бы, сказал бы: «Живите, как хотите», да уехал... Так нет как-то... Хотя еще не знаю, сегодня ночь решающая. Может быть, уеду.

Плюну и уеду. Как гадко!.. Повторить бы какого-нибудь Есенина... Так это же глупо... Дураку туда и дорога! А оставаться у материной юбки не глупо? Еще глупее! Тьфу! Дурацкое положение.

Петька!! Где ты?! Хоть бы посоветовал... Как плохо быть одиноким среди толпы. Чувствуешь себя посаженным в большущую коровью лепешку. А ты начинаешь: «одареннее». Хомут с коросливой лошади, болотная кочка — вот что я такое. Хадора неграмотная. Да еще тоже, туда же...

Эх, Петька, Петька! Учиться, учиться мне надо. Азбуке. И не знаю, что делать.

Есть две притчи одного древнего грузина.

1-я. Жили вместе утка с жабой в одном болотце. Когда это болотце стало высыхать, утка и сказала жабе: «Давай в другое место перейдем,— ведь скоро негде и нечем будет питаться». Жаба ответила: «Нет, я уж останусь здесь,— это же мое родовое место. Ты как хочешь, а я никуда». Утка улетела, а жаба осталась. Через некоторое время утка решила навестить свою подругу. И что же увидела: на месте высохшего болотца лежала дохлая жаба.

2-я. Водится в Индии птица Татвали,— глотающая кости. Но прежде чем проглотить, она примеряет кость к заднице — свободно ли она проходит (мол, всяко бывает, а вдруг не переварит), и затем только глотает.

Так вот. Я не знаю, какой из них последовать? Или оставаться у своего «Родового места» с надеждой — авось болотце не высохнет, или проглотить кость не примеряя. Я же не знаю определенно — много ли эта школа даст, не буду ли каяться (хоть я не привык каяться вообще, как бы ни сделал — все к лучшему).

Вот если бы ты здесь был, посоветовались бы. Вот я сейчас, зажмуря глаза, гадаю — попадет или нет. Ехать или нет. Попадет — не ехать. Хо-хо-хо! «Интересуюсь, как это Костя будет работать?» Да! Вот так заковыка! Оставаться? А что там школа эта даст? Будут по 8 часов гонять по истории ВКП(б), и все. Да еще часа 4 что-нибудь в этом роде. А толком над собой работать некогда. И после школы забритают куда-нибудь похуже Журавич. Зав. отделом пропаганды, а то просто пропагандистом, где тоже над собой некогда будет работать. А если в городе придется? Лучше ведь? А? Как, по-твоему? Молчишь? Ну-ну! Молчи! Помолчи! Приедешь, я те дам!

Ну как, ехать или не ехать?

Ехать или не ехать?

